# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (64) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2013 г.



**Вацлаў Гебельт**, шахматны кампазітар, міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі, адзіны беларускі міжнародны суддзя ФІДЭ.

Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні



# Лідскі Летапісец



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 64 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2013 г.

## У НУМАРЫ:

*Стар 2. Мінералы з Чылі ў Крупаве.*



*Стар 4. Герб Ліды ў Чыкага.*



*Стар. 5. Кроніка Ліды.*

*Стар. 9. Лідскія юбіляры 2013 года:*
*Вера Навіцкая,*
*Вацлаў Гебельт,*
*Уладзімір Мельнікаў.*





*Стар. 14. Лідскаму музкаледжу - 40 гадоў.*



*Стар. 27. Вернасць.*

*Стар. 31. Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.*



*Стар. 36. Лідскія касцёлы.*



*Стар. 55. 100 год Лідскаму аэрадрому.*

*Стар. 73. Пра лідскага боўдзілу.*



*Стар. 75. Успаміны санітаркі.*

*Стар. 118. Мемарыялізацыя памяці паўстання 1863-64 гг.*




*Стар. 129. Паўвеку. Маладосць.*

*На першай старонцы выкладкі помнік Францішку Скарыну ў Лідзе. Здымак С. Судніка.*





Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

Пасведчанне аб рэгістрацыі
№ 907
ад 18.12.2009 г. выдадзена
Міністэрствам інфармацыі
Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

Наклад 300 асобнікаў
17,5 друк. аркушаў

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Замова № 2547
Часопіс падпісаны да друку 16.12.2013 г.
Часопіс надрукаваны 23.12.2013 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 7700 руб.
індывід. 6 мес.- 15400 руб.
Кошт у розніцу: вольны

ISSN 2218-1792






# Мінералы з Чылі дастаўлены ў музей Ігната Дамейкі ў в. Крупава Лідскага раёна

14 жніўня 2013 года на Лідчыне адбылася нечаканая і надзвычай прыемная падзея. У музей Ігната Дамейкі Крупаўскай школы Лідскага раёна была прывезена калекцыя мінералаў з Чылі. Прывёз мінералы работнік адной з шахтаў на поўначы краіны Тарас Міхайлавіч Кецмур.

І вось тут ёсць пытанне. Як павінен працаваць музей вясковай школы (загадчык Гівойна Марыя Аляксандраўна), каб нехта зусім незнаёмы захацеў везці ў яго экспанаты з другога канца планеты?

Тарас Міхайлавіч нарадзіўся ў Архангельску, ваяваў у Афганістане, удзельнічаў у ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, доўга лячыўся ў



*Тарас Міхайлавіч Кецмур у музеі Ігната Дамейкі ў Крупаве падчас перадачы мінералаў з Чылі*




*Мінералы, дастаўленыя з Чылі*



*Тарас Міхайлавіч Кецмур*

Германіі, прайходзіў рэабілітацыю ў Іспаніі, апошнія тры гады працуе ў Чылі. З Беларуссю яго лучаць сяброўскія і сваяцкія сувязі, у тым ліку сяброўства з Ігарам Лучанком. Паводле яго слоў прывезці мінералы было вельмі не проста. Шлях ляжыць цераз шмат краін, і на кожнай мытні свае абмежаванні на перавозку неапрацаваных мінералаў. Так на адной з мытняў засталася так званая "каменная ружа", але Тарас Міхайлавіч паабяцаў, што праз год аформіць усе патрэбныя дакументы і давязе ружу да Беларусі. Паабяцаў таксама паспрабаваць знайсці мінерал ***дамейкіт***, названы ў гонар вялікага беларуса і нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі.

На скрынцы з мінераламі надпіс па-іспанску, там ёсць словы і "Беларусь", і "Дамейка". Са слоў можна было зразумець, што сярод прывезеных мінералаў ёсць узоры з "Міна дэ Дамейка" (з шахты, якую назваў у гонар Дамейкі яго вучань).




***Мінералы, дастаўленыя з Чылі***

Імя Ігната Дамейкі да гэтага часу вельмі шануецца ў Чылі. Калі ты зямляк Ігната Дамейкі, перад табой адчыняюцца ў гэтай краіне многія дзверы, ты апрыёры лічышся прыстойным і высокаадукаваным чалавекам.

Музей Ігната Дамейкі ў Крупаўскай школе, бліжняй да дамейкаўскага Заполля, быў заснаваны, як невялікі куток у фае школы. Да яго заснавання прыклала руку і вялікая лідзянка доктар гебілітаваны гісторыі Ірэна Стасевіч-Ясюкова.

З часам музей развіўся і перамясціўся ў асобны будынак. У ім больш за паўтысячы экспанатаў, ёсць кнігі І. Дамейкі на розных мовах, ёсць калекцыя мінералаў, перададзеная музею Польскай акадэміяй навук з Варшавы. Музей вядзе актыўную працу, тут бываюць наведвальнікі з розных куткоў краіны і замежжа. Цяпер значнасць і вартасць музейнай экспазіцыі ў Крупаўскай школе непараўнальна вырасла. Наяўнасцю мінералаў з Чылі пахваліцца можа мала хто. Ад гэтага часу музей у Крупаве мае наўпроставую фізічную повязь з далёкай амерыканскай краінай, якая ў свой час стала домам для выгнанніка Дамейкі.



***Калекцыя мінералаў, перададзеная ў Крупава Польскай акадэміяй навук***

Перад школай да 200-годдзя з дня нараджэння Ігната Дамейкі (2002 г.) устаноўлены памятны знак (аўтар Рычард Груша), на адкрыццё якога прыязджалі сваякі І. Дамейкі.

***Станіслаў Суднік.***



***Перад памятным знакам Ігнату Дамейку ў Крупаве***

# Герб Ліды ў шатландскай царкве ў Чыкага

Царква прэсвітарыянцаў у цэнтры Чыкага, якую называюць "белая" - адна з самых багатых у горадзе. Святыня мае нават свайго менеджара, які, працуючы на поўную стаўку, дбае пра парадак у святыні. Мясцовыя вернікі маюць пераважна шатландскае паходжанне, але, як ні дзіўна, у іхняй царкве на адной з фрэсак анёл трымае Пагоню, на сценах красуюць назвы беларускіх гарадоў - Ліды і Гародні, а з вітражоў разам з евангельскімі постацямі пазірае Адам Міцкевіч.



- Будынак царквы раней належаў Польскаму нацыянальнаму касцёлу, вернікі якога аддзяліліся ад рыма-каталікоў напрыканцы XIX стагоддзя, пасварыўшыся з духавенствам, - патлумачыў даследчык гісторыі Чыкага Дэн Пагажэльскі.

У тагачасны канфлікт вернікаў са святарамі ў Чыкага мусіла ўмяшацца нават паліцыя, бо ксяндзы не маглі самастойна абараніцца ад раз'юшанага натоўпу з малаткамі ды патэльнямі. Паліцыянты мусілі выкарыстаць зброю і адкрылі агонь па натоўпе, у выніку чаго пацярпелі некалькі дзесяткаў чалавек.



*Адам Міцкевіч на вітражы*





Пасля канфлікту пакрыўджаныя на духавенства вернікі сышлі з Рымска-каталіцкага касцёла і заснавалі сваю супольнасць, якая пазней сталася часткаю Польскага нацыянальнага касцёла.

У 30-ыя гады XX стагоддзя польска-каталіцкія вернікі збудавалі новую святыню, якая пазней стала кафедраю Усіх Святых.

- Магчыма, тады было вельмі шмат шчодрых вернікаў з Гародні і Ліды, таму назвы гэтых гарадоў было вырашана ўвекавечыць на фрэсках, - мяркуе спадар Пагажэльскі.

Пагоня ж з'явілася ў святыні як гістарычны сімвал Гарадзенскай зямлі. Ахвярадаўцы з Гародні і Ліды не лічылі сябе беларусамі, падкрэсліў адмысловец, бо былі часткаю польскай супольнасці з выразным нацыяналістычным ухілам.

Адама Міцкевіча, паводле спадара Пагажэльскага, паставілі ў адзін шэраг са святымі, бо гэтак вернікі Польскага нацыянальнага касцёла хацелі ўганараваць талент выбітнага паэта.

У 1993 годзе вернікаў стала замала, каб утрымліваць гмах касцёла, таму будынак прадалі прэсвітарыянцам, якія з вялікаю пашанаю ставяцца да ўсяго, што засталося ад папярэдніх гаспадароў, у тым ліку да Пагоні.

http://news.tut.by/culture/372551.html.

Фота: www.belsat.eu

# КРОНІКА ЛІДЫ




У 2013 г. у Смаленску ў выдавецтве “Ноопресс” выйшла аповесць-уява Валера Санько **“Грэх на іх нязмыўны”**, 146 ст. Наклад 100 ас.

У кнізе ёсць раздзел пра Я. Купалу ў Лідзе.




У 2013 г. у Вільні ў выдавецтве “Petro ofsetas” выйшла **“История Лидского бровара, 1876-2012”**. 384 ст. 1000 ас. Выданне падарункавае.




У верасні ў Менску ў выдавецтве Віктара Хурсіка выйшла кніга Яўгена Анішчанкі **“Шляхта Лидского повета. Список XVIII ст.”**, 312 ст. Наклад 99 ас.




У кастрычніку 2013 года выйшла кніга Дз. Кіенкі і В. Сліўкіна **"Аэродром Лида - сто лет полетов".** Гэта шостая кніга з серыі “Крылы”.






21 лістапада 2013 г. архіепіскап Наваградскі і Лідскі Гурый высвянціў памятную дошку з барэльефам протаіерэя **Іосіфа Каяловіча** - першага настаяцеля Свята-Міхайлаўскага сабора, які больш за паўстагоддзя нёс тут паслушэнства настаяцеля аж да самай сваёй смерці ў 1919 годзе.

Аўтар барэльефа - слынны лідскі скульптар Вадзім Вераб’ёў.

21 лістапада 2013 года па дабраславенні архіепіскапа Наваградскага і Лідскага Гурыя іерэй Мікалай Ахотніцкі асвяціў макаронную фабрыку **"Ліграно"** на базе Лідскага камбіната хлебапрадуктаў.



22 лістапада 2013 года ў пасёлку **Першамайскі** Лідскага раёна архіепіскап Наваградскі і Лідскі Гурый асвяціў храм у гонар святой Матроны Маскоўскай.






У лістападзе 2013 г. у Менску ў выдавецтве “Кнігазбор” выйшла кніга лідскага паэта **Алеся Стадуба** “Дотык волі”.

У пачатку снежня 2013 г. пабачыў свет пяты выпуск **Гарадзенскага абласнога краязнаўчага календара** на 2014 год. Укладальнік прафесар **Аляксей Пяткевіч** (Гародня), рэдактар **Станіслаў Суднік** (Ліда).



12 снежня 2013 года журы і рэспандэнты Міжнароднага фестывалю-конкурсу "Выбар года" ў пяты раз уганаравалі званнем "Прадукт № 1 у Беларусі" **лідскі квас** вытворчасці ААТ "Лідскае піва".













18 снежня 2013 года лідскае марожаное **"Антошка"** прызнана пераможцам Рэспубліканскага грамадскага конкурсу "Лепшая прадукцыя года - 2013" у намінацыі "Марожанае".

21 снежня 2013 года пасля рэканструкцыі адкрыўся магазін **"Родны кут"** на пр. Перамогі.



# Лідскія юбіляры 2013 года

## Вяртанне Веры Навіцкай

### *140 гадоў з дня нараджэння*

У выдавецтве "Энас-книга" перавыдадзены пяць кніг Веры Сяргееўны Навіцкай, якая была вядомая таксама пад прозвішчамі Махцэвіч і Шыльдар - Шульднер.

**Вера Сяргееўна НАВІЦКАЯ** (187(3?)-19??), народжаная Шыльдар-Шульднер. Скончыла Ліцейную жаночую гімназію ў Санкт-Пецярбурзе ў 1890 годзе. (Ліцейная жаночая гімназія - вул. Басейная (цяпер Някрасава), д. 15А). Прозвішча па першым мужы Махцэвіч.

Магчыма, што мужа звалі Аляксандр Уладзіміравіч Махцэвіч. Ён скончыў Віленскую пяхотную вучэльню, служыў у 107-м Траецкім пяхотным палку( Вільня), з 1899-га года выйшаў у адстаўку. У 1901-1903 гадах павятовы спраўнік Рэжыцкага павятовага паліцэйскага кіравання, у 1903 - 1905 паліцмайстар горада Дзвінска. Больш няма ніякай інфармацыі пра яго.




***Брама Лідскай прыватнай жаночай гімназіі імя М.К. Навіцкай.***
*Здымак адносіцца да дарэвалюцыйных часоў. Ацэнкава да 1910-1914 гг. Расійскі дзяржаўны сцяг (трыкалор) - таму сведчанне. За паласой дрэў не гімназія, а дом Навіцкіх, у якім у іх была прыватная жаночая вучэльня.*

Магчыма імёны дзяцей ад першага шлюбу: Барыс, Наташа і Кыся (ад якога імя скарачэнне, можа быць Крысціна?). З 1905-га па 1907 год Вера Сяргееўна жыла ў Пецярбурзе, вул. Басейная, д. 17 (цяпер Някрасава). Тады жа і былі напісаны яе першыя кнігі.

Па ўсёй бачнасці жыла без мужа, бо ён ў адраснай кнізе не значыцца. Пры гэтым Вера Сяргееўна значыцца жонкай, а не ўдавой, калежскага дарадцы.

У 1906 г. у выдавецтве А.Ф. Дзеўрыена В.С. Махцэвіч выпусціла дзве кнігі: "Добра жыць на свеце! З успамінаў шчаслівай дзяўчынкі" і "Вясёлыя будні. З успамінаў гімназісткі". Кнігі атрымалі прызнанне і хутка разышліся. Гэтыя кнігі былі напісаны Верай Сяргееўнай яшчэ да другога замужжа і былі падпісаны "Вера Махцэвіч".




У жніўні 1908 года яна была прынятая на пасаду памочніцы начальніцы Лідскай жаночай прыватнай шасцікласнай прагімназіі Марыі Канстанцінаўны Навіцкай (тады гэта была Віленская губерня Расійскай імперыі). Было ёй 35 гадоў.




Вера Сяргееўна пражывала ў Лідзе з 1908 па 1915 г., магчыма, да 1918 г.

У 1908 г. у выдавецтве К.Л. Рыкера ў дзвюх частках была выдадзена хрэстаматыя для падрыхтоўчых і першых класаў сярэдніх навучальных устаноў "Куткі жыцця". "Куткі" склалі Вера Махцэвіч і Фёдар Людвігавіч Навіцкі - муж Марыі Канстанцінаўны.

У кнізе М. Дзмітрыева "Нацыянальная школа" 1913 г. маецца такая рэцэнзія на гэтую складанку: *"Кніга распадаецца на 5 частак: любоў, вера, праца, абавязак і "пярэстыя старонкі". Найболей шырокае месца адведзена першаму аддзелу - любові; тут аповеды і вершы пра любоў да Бога, да Радзімы і чалавека, з іх шмат добрых, зрэшты, імкнучыся прывесці магчыма больш матэрыялу, які развівае ў дзецях пачуццё любові, складальнікі прыкметна захапляюцца і змяш-*

*чаюць такія вершы і артыкулы, якія ці мала зразумелыя, ці зусім недаступныя дзецям падрыхтоўчага і першага класаў, напрыклад, першы верш II часткі: "Вер у вялікую сілу любові", ці "Вышэйшы подзвіг", А.С. Хамякова, "Нам жыццё дадзена, каб любіць" - Гарбунова-Пасадава, і іншыя. Няма неабходных патрыятычных вершаў, Айчыне не надаецца належнай увагі; але затое ёсць прыстойныя аповеды ў раздзелах: "праца" і "абавязак", хоць і не ўсе, і асабліва ў раздзеле "вера"; супраць апошняга раздзела нічога не маем запярэчыць. Агульнае ўражанне пра кнігу было б добрае, калі б не было паказаных галоўных недахопаў кнігі."*

26 лістапада 1908 г. ва ўзросце 43 гадоў Марыя Канстанцінаўна Навіцкая ў дзявоцтве Снітко памерла "ад разрыву сэрца".

У 1909-м годзе Вера Сяргееўна выходзіць замуж за ўдаўца, Фёдара Людвігавіча Навіцкага і бярэ яго прозвішча. З тых часоў яе прозвішча на кнігах пішацца як Вера Навіцкая (Махцэвіч), каб ніхто не забыўся. Разам з мужам яна завяршае справу, пачатую Марыяй Канстанцінаўнай: у Лідзе з'яўляецца паўнавартасная сярэдняя навучальная ўстанова. 21 чэрвеня 1910 г. Імператар Мікалай II даў дазвол на пераўтварэнне Лідскай прыватнай 7-класнай навучальнай установы ў прыватную жаночую гімназію, дарэчы, адначасова з прагімназіямі Грачанінавай у Вільні і Рэйман у Менску. З тых часоў навучальная ўстанова значыцца ў даведніках як "Лідская прыватная жаночая гімназія Ф.Л і В.С. Навіцкіх", а Вера Сяргееўна становіцца там начальніцай.

На працягу 1912-14 гг. Вера Сяргееўна пад прозвішчам Навіцкая выдала ў Санкт-Пецярбурзе і Маскве яшчэ 5 кніг для дзяўчынак: "Запаветныя куткі" (1911), "Ціхамірныя гады" (1912), "Басурманка" (1914), "Наташа Славіна" (1914) і "Галя"(1914). Дзве з іх - у вельмі самавітых выдавецтвах Вольфа і Сыціна. У гэтыя гады яна была начальніцай Лідскай жаночай прыватнай гімназіі і, ніхто не ў стане засумнявацца, што гэтыя 5 твораў напісаны ў Лідзе.

**Бібліяграфія:**

В.С. Махцевич. **Хорошо жить на свете! Из воспоминаний счастливой девочки.** - СПб.: А.Ф. Девриен, 1906 - 182с.: ил. Е.П. Самокиш-Судковской (изд. 1-е). Содерж: Хорошо жить на свете!, Кошечка-актриса.

В.С. Махцевич. **Веселые будни: Из воспоминаний гимназистки.** - СПб.: А.Ф. Девриен, 1906 - 203 с.: ил. А.Н. Зеленского (изд. 1-е).

Ф.Л. Новицкий. **Уголки жизни: Хрестоматия для приготов. и 1 кл. сред. учеб. заведений** /- СПб.: К.Л. Риккер, 1908. Сост. преп. Федор Людвигович Новицкий и Вера Сергеевна Махцевич. Ч. 1-2 Махцевич: фамилия соавтора по первому мужу. Ч. 1. - [2], IV, IV, 171 с., 1 л. ил.: ил., портр., Ч. 2. - [2], IV, 252 с., 1 л. ил.: ил., портр. Составили преподаватели Лидской мужской и женской прогимназий.

В.С. Новицкая (Махцевич). **Хорошо жить на свете!: Из воспоминаний гимназистки.** - СПб.: А.Ф. Девриен, 1910 - 182с.: ил. Е.П. Самокиш-Судковской (изд. 2-е). Содерж: Хорошо жить на свете!, Кошечка-актриса.

В.С. Новицкая (Махцевич). **Заветные уголки: Рассказы для детей**. - СПб.: А.Ф. Девриен, 1911 - 238 с.: ил. П.С. Захарова. Содерж.: Без гнезда; Кисть винограда; Отец; Дядя Саша; Чужая; Болтушка; Нина; Три пути; Верный друг; Лишний.

В.С. Новицкая (Махцевич). **Веселые будни. Из воспоминаний счастливой девочки.** - СПб.: А.Ф. Девриен, 1912 - 203 с.: ил. А.Н. Зеленского (изд. 2-е).

В.С. Новицкая. **Безмятежные годы.** - СПб.: А.Ф. Девриен, 1912 - 305 с.: цв. ил. Е.П. Самокиш-Судковской. Содерж: Безмятежные годы; Первые грезы.

В.С. Новицкая (Махцевич). **Басурманка**. - СПб.-М.: Издание Т-ва М. О. Вольф, 1914 - 263 с.: ил. Е. Лебедевой.

В.С. Новицкая. **Наташа Славина.** - М.: т-во И.Д. Сытина, 1914 - 234 с.: ил. В. Курдюмова.

В.С. Новицкая. **Галя.** - Пг.: А.Ф. Девриен, 1914 - 244 с.: ил. П.С. Захарова.

Чатыры з гэтых кніг аб'ядноўваюцца ў тэтралогію пра жыццё Марусі Старабельскай, непасрэднай і рухавай дзяўчынкі, якая падрабязна апісвае сваё жыццё. Адно з хараستваў кнігі менавіта ў нечакана падрабязным апісанні штодзённых у той час рэчаў. Муся - дзяўчынка з багатай сям'і, адзіная дачка бацькоў, якія любяць яе. Усё ў яе жыцці і сяброўства, і вучоба, і свавольствы бестурботныя і радасныя. Яна добрая дзяўчынка, але толькі ад таго, што ёй ёсць што аддаць іншым без шкоды для сябе... І толькі ў апошняй частцы серыі Муся разумее, што так, як яна, жывуць зусім не ўсе...

Серыя кніг выглядае так:

**"Добра жыць на свеце"** - Муся распавядае пра сваё жыццё да паступлення ў гімназію.

**"Вясёлыя будні"** - (падзагаловак "Дзённік гімназісткі" кажа сам за сябе) гэта аповесць пра першы год навучання Мусі ў гімназіі.

**"Ціхамірныя гады"** - перадапошні клас гімназіі. Муся, якая ані не змянілася, сваволіць, як і ў дзяцінстве

**"Першыя мроі"** - лета і выпускны клас гімназіі.

Аповесці "Добра жыць на свеце", "Ціхамірныя гады", "Першыя мроі" ілюстравала вядомая мастачка Алена



Пятроўна Самокішч-Судкоўская, прычым у кнізе "Ціхамірныя гады" і "Першыя мроі" (яны выйшлі разам у адной кнізе ) ілюстрацыі каляровыя, што вельмі цікава і вельмі хораша.




Таксама яна напісала дзве аповесці для юнацтва, дзе асноўнай тэмай з'яўляецца любоўная лінія. Абедзве яны названы па імёнах галоўных гераінь: "Галя" і "Наташа Славіна". Аповесць для дзяцей "Басурманка" (пра жыццё прыёмнай сіраты-францужанкі ў рускай сям'і), складанка аповедаў "Запаветныя куткі" і асобна выдадзенае апавяданне "Пярэсты дзень (аповед з жыцця маленькага кадэціка)". І ўдзельнічала ў складанні ўжо згаданай хрэстаматыі "Куткі жыцця".




Яшчэ Вера Сяргееўна супрацоўнічала з дзіцячым часопісам "Родник", дзе друкаваліся яе апавяданні.

Лідская жаночая гімназія дзейнічала да 1918 г. Наўрад ці Ф.Л і В.С. Навіцкія пакінулі Ліду і эвакуяваліся ў верасні 1915 г. углыб Расіі. Двухпавярховы будынак гімназіі, жылы дом, прыстойны ўчастак, вучаніцы, нямецкія карані Веры Сяргееўны павінны былі пераважыць страхі перад кайзераўскімі войскамі. Разам з тым, ніводнага дакумента ці ўспаміну, які пацвярджае эвакуацыю, не захавалася. Перагледзеў яшчэ раз усе нямецкія фатаграфіі і паштоўкі 1915-18 гг, будынак гімназіі ў поле зроку нямецкага аб'ектыва не патрапіла ні разу. Дзіўна. У 1921 г. у будынку жаночай гімназіі была адкрыта польская дзяржаўная гімназія, з чаго выцякае, што Навіцкіх у Лідзе ўжо не было. Лёсы іх не вядомыя, абодва зніклі ў віры ваенных супрацьстаянняў.







Адносіны да твораў Веры Сяргееўны Навіцкай у рэкламадаўцаў самае цёплае. У чытачоў таксама: "Ясныя, чыстыя і на першы погляд немудрагелістыя кніжкі"; "аповесць "Добра жыць на свеце" трапілася мне выпадкова ў букіністычнае, і страшна падумаць, як шмат я страціла б, калі б не купіла яе…".

На мой погляд, вельмі добрыя кніжкі для сучасных дзяўчынак малодшага і юнацкага ўзросту, асабліва для гімназістак. Падобных савецкіх дзіцячых кніжак проста не было.






***Лідская дзяржаўная гімназія імя К. Хадкевіча***

А для Ліды гэта яшчэ адна неардынарная постаць - пісьменніца, якую недзе ў Расіі перавыдаюць праз 100 гадоў.

***Паводле Валерыя Сліўкіна.***
*lida-info.*

# ВЫБІТНЫ ШАХМАТНЫ КАМПАЗІТАР

## *100 гадоў з дня нараджэння Вацлава Гебельта*



**ГЕБЕЛЬТ Вацлаў Яўгенавіч** (10 снежня 1913, в. Лабно Сувалкаўскай губ., цяпер Гарадзенскі р-н - 16 кастрычніка 1999, Ліда). З сям'і дробнага абшарніка. Атрымаў вышэйшую адукацыю, спецыялізацыя - класічная філалогія, магістр філасофіі. Працаваў дырэктарам пачатковай школы в. Лойкі тагачаснага Сапоцкінскага р-на Гарадзенскай вобл. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 27.12.1944. Асуджаны 1.4.1946 асобай нарадай пры МДБ як "нямецкі памагаты" да 5 гадоў ППЛ. Вызвалены 24.10.1949. Рэабілітаваны 10.7.1992 пракуратурай Гарадзенскай вобл. Асабістая справа Гебельта № п-14678 захоўваецца ў архіве УКДБ Гарадзенскай вобласці. Ён - самы першы майстар спорту СССР (па шахматнай кампазіцыі, 1957), самы першы чэмпіён СССР (па раздзелу двуххадовых задач, 1959 і па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве, 1969, 1971), самы першы і пакуль адзіны беларускі Міжнародны арбітр ФІДЭ па шахматнай кампазіцыі (1959), самы першы наш Міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі (1977).

Вацлаў Яўгенавіч апублікаваў каля 600 шахматных задач, 120 з якіх атрымалі прызы на конкурсах, у тым ліку 52 першыя. Чэмпіён СССР у пятым асабістым першынстве па раздзеле двуххадовых задач (1956). Чэмпіён СССР па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве ў 1969, 1971 гадах. Шэсць разоў выступаў на міжнародных спаборніцтвах у складзе зборнай каманды СССР. Лепшыя дасягненні: 2-е месца ў матчы СССР - Галандыя, 1-ае месца ў матчы Дружбы 1965 года. Пераможац першага чэмпіянату Міжнароднай шахматнай федэрацыі па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве (1975). Выступаў за зборную каманду БССР ва ўсіх 12 камандных першынствах СССР, яго задачы займалі 6 разоў першае месца і 8 разоў другое. Адзін з аўтараў кнігі "Шахматная кампазіцыя ў Беларусі", Менск, 1981.

Першая жонка памерла ў 1973 годзе, другая жонка, інвалід II групы, памерла ў кастрычніку 1997 года - працавала яна ў пральні, выдавала бялізну. Агульных дзяцей не меў. У другой жонкі быў сын ад першага шлюбу. Сёстры і браты пасля вайны жылі ў Польшчы. Сафія памерла ў Шчацініку ў 1958 годзе, Эмілія ў Шчэціне ў 1985 годзе, Антон - у Свабодзіне ў 1977 годзе, Тадэвуш - у Познані ў 1995 годзе.

У апошні год свайго жыцця В. Гебельт шмат супрацоўнічаў з Лідскім краязнаўчым музеем, пераклаў з лацінскай і з рукапіснай польскай некалькі вельмі складаных тэкстаў, у прыватнасці, прывілей гораду Лідзе на Магдэбургскае права.

***Валеры Сліўкін.***




***Незалежная суполка "Шах-плюс" накладам 100 ас. выпусціла канверт да 100-годдзя з дня нараджэння Вацлава Гебельта.***

# Збляншскія матывы Ўладзіміра Мельнікава

## *З нагоды 75-годдзя мастака*

Уладзімір Мельнікаў нарадзіўся 9-га кастрычніка 1938 года ў г. Краснагвардзейску Ленінградскай вобласці. Яго бацька Сяргей Іванавіч у той час курсант Гатчынскага авіяцыйнага вучылішча, пасля афіцэр, які храбра змагаўся на франтах Іспаніі і загінуў у 1944 годзе на Першым Беларускім фронце. Маці мастака Ніна Андрэеўна была дачкою вядомага на Віцебшчыне народнага лекара Андрэя Прышчапёнка, нарадзілася ў шматдзетнай сям'і (сем дачок) у вёсцы Заполле Полацкага раёна. Па расказах маці прадзед быў заможным землеўласнікам, утрымліваў чацвёра выязных коней. Рэшткі падмурка былой яго сядзібы захаваліся ў вёсцы Мігуліна дагэтуль.

Маляваць Валодзя пачаў рана. Спачатку дапамагаў айчым, потым наведваў студыю пры Каўнаскім мастацка-прамысловым тэхнікуме, затым паступіў у Талінскі мастацкі інстытут на вячэрняе аддзяленне па спецыяльным распараджэнні Палітаддзела Чырвонасцяжнага Балтыйскага флоту. Мельнікаў тады праходзіў службу авіямеханікам на Талінскай авіяцыйнай базе.

Пасля службы застаўся працаваць на базе вольнанаёмным, каб працягваць вучобу. Але здараецца прыкры выпадак, які крута мяняе яго лёс. Уладзіміра адлічваюць з інстытута за бойку, у якой ён не прымаў удзелу. Гэта быў цяжкі ўдар. Валодзя кідае ўсё і вяртаецца ў Полацк, каб назаўсёды выкрасліць жывапіс са свайго жыцця.

За 25 гадоў памяняў некалькі прафесій. Працаваў памочнікам майстра на Полацкім заводзе "Шкловалакно", майстрам вытворчага навучання ў Лідскім тэхнікуме, інструктарам Лідскага райвыканкама, літаратурным супрацоўнікам Лідскай газеты "Уперад". Тут, як ні дзіўна, у Мельнікава праявіўся талент журналіста і апавядальніка.



Хтосьці вельмі справядліва сказаў: лёс не падманеш. Пасля ваганняў і роздуму Мельнікаў бярэ ў рукі пэндзаль і піша свой партрэт. Цяпер трэба вярнуць страчанае. Днём ён выкладчык выяўленчага мастацтва ў СШ №14 з архітэктурна-мастацкім ухілам, а з вечара да раніцы - жывапісец. Так на працягу больш за 20 гадоў.

Неаднойчы сардэчныя прыступы кідалі на бальнічны ложак, але гэта ўжо не магло спыніць мастака. Выставы адбываюцца адна за адной. Прыходзіць вядомасць. Пра яго пішуць, паказваюць па тэлебачанні. За 22 гады майстар стварыў дзесяткі палоцен, якія прынеслі Мельнікаву папулярнасць. Яго партрэтная галерэя - унікальная з'ява ў сучасным выяўленчым мастацтве. Сярод цудоўных партрэтаў - партрэты Ніла Гілевіча, Анатоля Ярмоленкі, Уладзіміра Мулявіна, Віктара Вуячыча, Ігара Лучанка, Валянціна Таўлая, Ганны Радзько, Барыса Кіта, Канстанціна Горскага ...

За адносна невялікі адрэзак часу мастак правёў звыш 30-ці выстаў у гарадах Ліда, Гародня, Наваградак, Менск, Віцебск, Полацк. Ён прымае ўдзел ва ўсіх буйнейшых выставах, якія арганізоўвае Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь.



Над чым зараз працуе мастак? Гэта майстар пакуль трымае ў таямніцы. Рыхтуецца да персанальнай выставы, піша карціны аб Лідзе, аб яе багатым гістарычным мінулым, а таксама аб знакамітым сяле Збляны і яго дзіўна адораных людзях. Адну з карцін з серыі "Збляншскія матывы" мастак прадаставіў для нашай публікацыі.

***Уладзімір Васько.***

**На здымку:** Карціна Ўладзіміра Мельнікава "Збляншскія сяляне на Нёмане ў 18-м стагоддзі".

# Лідскі дзяржаўны музычны каледж

## *40 гадоў з дня заснавання*

УА "Лідскі дзяржаўны музычны каледж" (Лідскае музычнае вучылішча) быў заснаваны 01.09.1973 г. пастановай Савета Міністраў БССР ад 03.12.1973 г. (загад № 39 ад 26.03.1973 г. Міністэрства культуры БССР).

***"Міністэрства культуры Беларускай ССР***

***Загад***

*26 сакавіка 1973 г. г. Мінск*

*Змест: Аб адкрыцці Лідскага музычнага вучылішча.*

*У выкананне пастановы Савета Міністраў Беларускай ССР № 81 ад 12 сакавіка 1973 г. Аб адкрыцціЛідскага музычнага вучылішча"*

***загадваю:***

*1. Адкрыць з 1 верасня 1973 года ў гор. Лідзе музыкальнае вучылішча на базе вызваленых памяшканняў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 8 з утрыманнем яго на бюджэце вобласці.*

*Міністр культуры БССР Ю.М. Міхневіч."*

9 лістапада 2000 г. Упраўленнем культуры Гарадзенскай вобласці (загад № 84) Лідскае музычнае вучылішчава перайменавана ў УА "Лідскае дзяржаўнае музычнае вучылішча".

4 ліпеня 2011 г. Гарадзенскім абласным выканаўчым камітэтам (пастанова № 491) УА "Лідскае дзяржаўнае музычнае вучылішча" перайменавана ў УА "Лідскі дзяржаўны музычны каледж".

У розныя гады навучальную ўстанову узначальвалі:

1973-1977 гг. - **Кірыленка Эдуард Васільевіч**;

1977-1996 гг. - **Баяровіч Мар'ян Андрэевіч**;

1996-2011 гг. - **Сцяпанаў Канстанцін Мікалаевіч**;

з 2011 г. па цяперашні час - **Серакова Алена Віктараўна**,.

2012 г. - стварэнне сімволікі каледжа;

2013 г. - афіцыйны гімн (аўтар музыкі і тэксту сябар Саюза кампазітараў РБ - Сяргей Бугасаў).

Не гледзячы на сваю маладосць, каледж займае трывалыя пазіцыі ў сістэме музычнага адукацыі, музычнай культуры Рэспублікі Беларусь, рыхтуючы высокакваліфікаваных спецыялістаў - настаўнікаў дзіцячых музычных школ мастацтваў і дзіцячых школ мастацтваў, артыстаў аркестра, ансамбля, кіраўнікоў творчых калектываў, канцэртмайстраў.

У цяперашні час у каледжы ажыццяўляецца падрыхтоўка музычна-педагагічных кадраў па трох спецыяльнасцях:

- інструментальнае выканальніцтва (па кірунках): фартэпіяна, струнна-смычковыя інструменты, духавыя і ўдарныя інструменты, інструменты народнага аркестра;
- дырыжыраванне (па кірунках): акадэмічны хор, народны хор;
- музыказнаўства.

Каледж сёння - гэта базавая навучальная ўстанова ў краіне па падрыхтоўцы спецыялістаў галіне культуры. Многія выкладчыкі з'яўляюцца аўтарамі тыповых навучальных праграм, навучальных дапаможнікаў, дыпламантамі рэспубліканскіх выстаў навукова -метадычных матэрыялаў і перадавога педагагічнага досведу. Педагогі каледжа неаднаразова ўдзельнічалі ў рэспубліканскіх аглядах-конкурсах метадычных і творчых работ, па выніках якіх ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта, Лідскага раённага выканаўчага камітэта. У навучальнай установе склаўся магутны творчы калектыў высокакваліфікаваных спецыялістаў- аднадумцаў, які ўвабраў у сябе прафесійны досвед, мудрасць, глыбокія веды выкладчыкаў, з якіх большасць мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю (71 выкладчык, 32 канцэртмайстры).

Педагагічны склад каледжа фармаваўся з выпускнікоў Беларускай, Маскоўскай, Санкт - Пецярбургскай, Кіеўскай, Львоўскай, Астраханскай, Кішынёўскай, Петразаводскай, Адэскай кансерваторый, Растоўскага музычна-

***Дырэктары Лідскага музычнага вучылішча і каледжа***



**Кірыленка Э.В.**



**Баяровіч М.А.**



**Сцяпанаў К.М.**



**Серакова А.В.**



*Лідскі дзяржаўны музычны каледж, 2013 г.*

курсаў складаюць аснову выдатных выканальніцкіх калектываў - духавога аркестра, камернага аркестра, аркестра народных інструментаў, аркестра беларускіх народных інструментаў, камернага жаночага хору, ансамбля народнай музыкі "Вербіца". Іх выканальніцкае майстэрства прызнана шырокай слухацкай аўдыторыяй у рэспубліцы і ў краінах блізкага і далёкага замежжа.

Двое навучэнцаў УА "Лідскі дзяржаўны музычны каледж" (Трафілава В. і Маркевіч А.) сталі фіналістамі Рэспубліканскага праекта АНТ "Маладыя галасы Беларусі".

педагагічнага інстытута, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Сярод выкладчыкаў - выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, былыя навучэнцы, якія вярнуліся ў каледж у якасці выкладчыкаў (Анточык С.В., Мішкель С.С., Харашылава Т.П., Гладкі Л.А., Догілева А.І., Вялікіна А.У., Рута Л.У., Аўраменка А.Дз., Дземчанка Н.М., Батура А.А., Садоўская В.У., Масель А.Г. і г.д.).

З моманту стварэння і па сённяшні дзень у каледжы працуюць творчыя музычныя калектывы: аркестр народных інструментаў (кіраўнік Сечка А.Э. ), аркестр беларускіх народных інструментаў (кіраўнік Пушкіна Г.Б.), духавы аркестр ( кір. Масюкевіч А.Я . ), камерны аркестр ( кір. Рута Л.У.), камерны жаночы хор (кіраўнік Пясецкая Л.Ф.), народны хор і ансамбль народнай музыкі "Вербіца" (кір. Харашылава Т.П. ).

Акрамя вучэбнай і канцэртнай дзейнасці аркестравыя і харавыя калектывы паспяхова ўдзельнічаюць у Рэспубліканскіх конкурсах аркестравых і харавых калектываў устаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі Рэспублікі Беларусь, Міжнародных конкурсах, фестывалях, выязджаюць з канцэртнымі праграмамі за мяжу.

З мэтай паляпшэння падрыхтоўкі маладых спецыялістаў ў 1975 г. была адкрыта музычная школа, у цяперашні час - Школа практыкі (загадчыца Пушкіна Г.Б.) .

За 40 гадоў навучальную ўстанову скончылі каля 4 тысяч выпускнікоў. Сярод сённяшніх навучэнцаў і нядаўніх выпускнікоў ёсць таленавітыя маладыя музыкі, якія ўслаўляюць сваю навучальную ўстанову перамогамі на прэстыжных рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, з'яўляюцца стыпендыятамі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі (каля 40). Сярод іх - Сушчэня Я., Шпакоўская С., Амбражук Я., Аўчыннікаў М., Барысавец А., Пракоф'еў Р., Радзюк Я., Кукліцкая Я., Савіцкая І., Куліш В., Шкулепа М. і інш. Вучні I - IV

Выпускнікі УА ЛДМК паспяхова працуюць ва ўсіх рэгіёнах Рэспублікі Беларусь і за яе межамі, штогод паступаюць ва ўстановы вышэйшай адукацыі, дзе ўдасканальваюць тэарэтычныя веды і выканальніцкае майстэрства, з гонарам падтрымліваюць рэпутацыю сваёй альма-матэр. За гады існавання каледжа яго выпускнікі сталі студэнтамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, Гарадзенскага ГрДУ ім. Я. Купалы, а таксама вядучых вышэйшых навучальных устаноў Масквы (П. Пашкін, І. Волчык, І. Трубеева), Санкт-Пецярбурга (В. Жучэнка, Дз. Мазітава, С. Кахоцкі), Мурманска (Г. Івановіч) Германіі (Я. Ларыёнаў), Польшчы (Р. Наркун, А. Данілевіч), Кітая (П. Чымірка). За апошнія гады колькасць вучняў, якія паступаюць ва ўстановы вышэйшай адукацыі, складае 85% ад выпуску.

Лідскі дзяржаўны музычны каледж ганарыцца сваімі выпускнікамі, сярод якіх нямала кіраўнікоў рознага ўзроўню, выкладчыкаў (М. Сцяпанаў - выкладчык УА "Гарадзенскі дзяржаўны музычны каледж", В. Станевіч - выкладчык УА "Баранавіцкі дзяржаўны музычны каледж", С. Рудкевіч - старэйшы выкладчык УА БДУК і Н. Ганул - выкладчык БДАМ, кандыдат мастацтвазнаўства, А. Антановіч выкладчык БДАМ, Д. Жураўскі, М. Паўлічэнка - выкладчыкі гімназіі каледжа пры УА БДАМ), кампазітараў (сябры Саюза кампазітараў Беларусі Падгайская В., Ларыёнаў А.Д., Ролік Н. і інш.), выканаўцаў, многія з якіх працуюць у вядомых творчых прафесійных калектывах: дзяржаўным аркестры беларускіх народных інструментаў імя І.І. Жыновіча (С. Грыцук, Т. Хандогая, Т. Духоўнік), дзяржаўным фальклорным харэаграфічным ансамблі "Харошкі" (Н. Браслаўская), дзяржаўным ансамблі народнай музыкі "Свята" (Л. Кірыленка), аркестры нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета РБ (А. Мінойць, А. Антановіч, М. Шкулепа, Я. Амбражук), аркестры "Няміга" (М. Фамін),

дзяржаўным акадэмічным хоры ім. Г.І. Цітовіча (Н. Конюх), аркестры і хоры Белдзяржтэлерадыёкампаніі (Н. Данільчык, Б. Красоўскі, Дз. Скшэнскі), аркестры і хоры Музычнага тэатра, Дзяржаўным эстрадна-сімфанічным аркестры РБ пад кіраўніцтвам М. Фінберга (С. Шарапаў, М. Шкулепа), Прэзідэнцкім аркестры пад кіраўніцтвам В. Бабарыкіна (М. Шкулепа), Еўрапескім сімфанічным аркестры (А. Ахрэмка, Г. Такарчук), узорна-паказальным аркестры МУС (Е. Мішкель, І. Наклiцкі, П. Троцкі, В. Цехановіч), узорна-паказальным аркестры Узброеных сіл РБ (Ю. Субач, Д. Белахвостаў, І. Якубоўскі, С. Крывуля), ансамблі песні і танцу Беларускай вайсковай акругі (А. Зінаватны), дзяржаўным ансамблі "Песняры" (А. Жых), ансамблі "Чысты голас" (В. Пудзевіч), рок-гурце "Палац" (З. Вайцюшкевіч), "J-Морс" (М. Пенда), "Троіца" (І. Кірчук) і інш.; дырыжораў вайсковых аркестраў (А. Коньшын, І. Бірук, А. Богніс, А. Худзін).

Шмат выпускнікоў каледжа працуе артыстамі ў абласных філарманічных калектывах "Купалінка" (С. Гурэнда), "Белыя росы" (А. Карпічка). Шырока вядомы за выканальніцкае майстэрства стыпендыят Спецыяльнага фонду А. Валошын (Гарадзенская абласная філармонія).

Выпускнік каледжа Вашкевіч В. узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за дасягненні ў галіне культуры Рэспублікі Беларусь, адзначаны шматлікімі граматамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Каледж неаднаразова прымаў удзел у грамадска-культурных мерапрыемствах самага высокага ўзроўню: рэспубліканскім конкурсе выканаўцаў на народных інструментах сярод навучэнцаў устаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі імя І. Жыновіча, рэспубліканскім конкурсе вакалістаў імя Л. Александроўскай, абласным конкурсе для навучэнцаў ДМШМ і ДШМ імя К. Горскага, абласнога Савета дырэктараў устаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі, абласных выніковых нарад дырэктараў ДМШМ і ДШМ.

Лідскі дзяржаўны музычны каледж - сапраўдная творчая лабараторыя выхавання канкурэнтаздольных спецыялістаў, музыкантаў - выканаўцаў і музыказнаўцаў - будучых носьбітаў культуры.

## Камерны жаночы хор

Камерны жаночы хор Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа арганізаваны ў 1973 годзе. Да 1981 склад выканаўцаў быў змешаным, затым ён быў пераутвораны ў камерны жаночы хор. У складзе калектыву дзяўчаты 15-20 гадоў і выкладчыкі каледжа. З першых гадоў свайго існавання ён стаў самабытным творчым калектывам, які разам з навучальнымі і выхаваўчымі мерапрыемствамі праводзіць вялікую канцэртную дзейнасць у горадзе, краіне і за яе межамі. За гэтыя гады выкананы сотні твораў музычнай класікі розных стыляў і жанраў, бясцэнныя скарбы духоўнай праваслаўнай і каталіцкай музыкі, народныя песні і творы сучасных аўтараў. Творчыя дасягненні харавога калектыву адзначаны шматлікімі ўзнагародамі на міжнародных, рэспубліканскіх і абласных конкурсах. Хор з'яўляецца лаўрэатам Рэспубліканскіх конкурсаў харавых і аркестравых калектываў Беларусі 1978, 1981, 1987, 2001, 2005 гадоў. Узнагароджаны дыпломам лаўрэата VII Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Lapskie Te Deum - 2004" (Польшча), з'яўляецца ўладальнікам Гран-Пры Каляднага фестывалю праваслаўных песнапенняў "Слава ў вышынях Богу" Навагрядскай епархіі (2009 г.), лаўрэатам X Міжнароднага фестывалю "Каложскі Дабравест" (2011 г.), лаўрэатам INTERNET MUSIC COMPETI-TION 2012 г. (Бялград, Сербія), лаўрэатам XXXII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі "Гайнаўка -2013" (Беласток, Польшча), рэспубліканскіх конкурсаў. З 1992 года і па цяперашні час кіраўніком камернага хору з'яўляецца выкладчык Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа Пясецкая Л.Ф.





*Камерны жаночы хор*

## Ансамбль народнай музыкі "Вербіца"

Калектыў быў створаны ў 1987 годзе. Яго арганізатарам і сталым кіраўніком з'яўляецца Харашылава Т.П., былая выпускніца Лідскага музычнага вучылішча. Ансамбль праводзіць актыўную канцэртную дзейнасць і даўно набыў вялікую папулярнасць у горадзе і Лідскім рэгіёне. Беларускія і рускія народныя песні ў апрацоўцы кампазітараў, выкладчыкаў цыклавой камісіі сталі асновай рэпертуару хору і візітнай карткай канцэртных выступленняў. Яркія, маляўнічыя народныя спевы разам з харэаграфіяй ў суправаджэнні ансамбля народных інструментаў заўсёды прыцягваюць ўвагу слухачоў розных узростаў.



*Народны хор "Вербіца"*

У 2009 годзе народны хор "Вербіца" удзельнічаў у справаздачным канцэрце творчых калектываў і выканаўцаў Гарадзенскай вобласці, прысвечаным 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Палацы Рэспублікі (г. Менск). У 2013 годзе калектыў сумесна з муніцыпалітэтам г. Ліль падрыхтаваў канцэртныя праграмы для ўдзелу ў Днях культуры Рэспублікі Беларусь у Францыі. Народны хор "Вербіца" з'яўляецца лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу харавых і аркестравых калектываў ССНУ РБ 2001 г., Міжнароднага фестывалю "Canto sul Garda" (Рыва дэль Гарда, Італія) 2001 г., Дыпламантам абласнога конкурсу народных хораў "Над Нёманам сінім" 2006 г., Рэспубліканскага конкурсу "Зорка ўзышла над Беларуссю" 2010 г. і многіх іншых.

## Аркестр беларускіх народных інструментаў

Аркестр беларускіх народных інструментаў быў заснаваны ў 1984 годзе на базе ансамбля цымбалістаў. Мастацкім кіраўніком і дырыжорам з'ўяляліся Саўко Марыя Мікалаеўна (1984-1988 гг.), Вялікін Анатоль Леанідавіч (1988-1992 гг.), Сечка Алена Эдуардаўна (1992-2007 гг.) .

У 1993 г. калектыў становіцца лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу сярод аркестравых і харавых калектываў ССНУ, у 1995 годзе аркестру было прысвоена званне "Народны", якое на працягу многіх гадоў паспяхова пацвярджаецца.

Аркестр беларускіх народных інструментаў (1997 г., 2001 г.) адзначаны граматамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца неаднаразовым пераможцам абласных аглядаў-конкурсаў і фестываляў народнай творчасці. У 2000-ым годзе аркестр быў узнагароджаны памятным знакам "2000 год Хрысціянству".



*Аркестр беларускіх народных інструментаў*

У 2007 годзе мастацкім кіраўніком і дырыжорам становіцца Пушкіна Галіна Барысаўна. Творчае жыццё аркестра напаўняецца новымі фарбамі - стварэнне новых канцэртных праграм, аўтарскіх праектаў, сумесны канцэрт з Нацыянальным аркестрам беларускіх народных інструментаў імя І. Жыновіча пад дэвізам "Гучыць беларуская музыка".

У рамках семінара для кіраўнікоў калектываў

інструментальнага жанру дзіцячых музычных школ мастацтваў Лідскага метадычнага аб'яднання стаў удзельнікам прэзентацыі -канцэрта "Асаблівасці сучаснай інструментоўкі для аркестра беларускіх народных інструментаў".

У 2012 годзе аркестр - удзельнік Міжнароднага моладзевага музычнага фестывалю ў г. Браціслава (Славакія). За высокае выканальніцкае майстэрства быў адзначаны дыпломам I ступені , а таксама атрымаў дыплом "Залаты калектыў" за лепшыя канцэртныя касцюмы.

У 2013 годзе становіцца лаўрэатам I ступені II Фларэнційскага Міжнароднага фестывалю інструментальнай музыкі FICF -2013 (Італія).

## Аркестр народных інструментаў

Аркестр народных інструментаў - адзін з першых творчых калектываў Лідскага музычнага каледжа (1974 г.), з цікавай гісторыяй, адзначаны шматлікімі дасягненнямі.

У розныя гады на чале калектыву стаялі таленавітыя музыканты: Мякшыла Мікалай Мікалаевіч (1974-1986 гг.), Патапейка Аляксандр Мацвеевіч (1987-2007 гг.). У 1995 калектыву было прысвоена званне "народны".

Значнымі падзеямі ў жыцці аркестра стала падрыхтоўка канцэртнай праграмы пад кіраўніцтвам Патапейкі А.М. з вядучымі салістамі Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Н. Рудневай і А. Мельнікавай для закрыцця Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Александроўскай (Ліда-2000 г.), а таксама ўдзел у рэспубліканскім праекце " Музычныя вечары ў Мірскім замку" (2003).

З 2007 г. мастацкім кіраўніком і дырыжорам калектыву з'яўляецца Сечка Алена Эдуардаўна. Творчае жыццё аркестра прыкметна актывізуецца - стварэнне новых канцэртных праграм, удзел у шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах і фестывалях.

Канцэртнае жыццё вобласці немагчыма ўявіць без аркестра народных інструментаў - пастаяннага ўдзельніка ўсіх святочных праграм , прымеркаваных да дзяржаўных святаў. Салісты калектыву неаднаразова станавіліся ініцыятарамі дабрачынных канцэртных акцый ва ўстановах сацыякультурнай сферы (Лідскі прытулак кругласутачнага знаходжання для састарэлых грамадзян, УА " Радуньская школа-інтэрнат для дзяцей з псіхафізічнымі асаблівасцямі імя Котава").

Аркестр шырока вядомы за межамі Рэспублікі Беларусь, летапіс яго перамог з году ў год папаўняецца:

2011 год - лаўрэат XXV Міжнароднага фестывалю ўніверсітэцкай музыкі ў г. Бельфор (Францыя).

2012 год - лаўрэат I ступені V Міжнароднага конкурсу баяністаў - акардэаністаў " PERPETUUM MOBILE " (г. Драгобыч, Украіна);

2012 год - лаўрэат I ступені XXII Міжнароднага конкурсу інструментальнай музыкі " Citty di Lanciano " (г. Ланчыяна, Італія).

2013 год - Абсалютны чэмпіён і ўладальнік прыза "Залаты Арфей" на Сусветным чэмпіянаце па фальклору " World Folk -2013 " у г. Несебр (Балгарыя).

## Духавы аркестр

Духавы аркестр - неаднаразовы лаўрэат рэспубліканскіх і абласных конкурсаў ( 2001, 2010 гг.). Гісторыя калектыву пачынаецца з дня заснавання музычнага каледжа - (1973 г.). У розны перыяд часу аркестрам кіравалі таленавітыя музыканты: Лаўрыновіч Аляксандр Васільевіч, Назмееў Генадзь Анатольевіч, Летуноўская Валянціна Аляксандраўна, Цынскі Валянцін Пятровіч.

З 2000-га года мастацкім кіраўніком і дырыжорам духавога аркестра Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа з'яўляецца Масюкевіч Антон Янавіч.

За час свайго існавання творчы калектыў аркестра стаў нязменным удзельнікам раённых, рэгіянальных і абласных мерапрыемстваў: штогадовыя выставы-прэзентацыі "Ліда-рэгіён", рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2010", канцэртна-прапагандысцкіх акцый, ініцыяваных Лідскім райвыканкамам.

Рэпертуар калектыву складаюць класічныя творы для традыцыйнага духавога складу, а таксама музыка сучасных айчынных і замежных кампазітараў розных музычных стыляў, кірункаў і жанраў.

У 2011-ым годзе духавы аркестр музычнага каледжа ўдзельнічаў у сумесным творчым праекце з Балівварыянскай рэспублікай Венесуэлай. Гэты мола-



*Аркестр народных інструмента*



*Духавы аркестр*

дзевы праект складаўся з серыі канцэртаў у Доме дружбы народаў у г. Менска.

## Камерны аркестр

Камерны аркестр УА "Лідскі дзяржаўны музычны каледж " быў заснаваны ў 1975 годзе. Мастацкім кіраўніком быў Булгакаў Сяргей Аляксандравіч (па 1977 г.) З 1999 г. мастацкім кіраўніком і дырыжорам з'яўляецца Рута Ларыса Уладзіміраўна.

Творчае жыццё аркестра шматграннае - стварэнне новых канцэртных праграм, удзел у разнастайных аўтарскіх праектах, у тым ліку сумесны маладзевы праект з навучэнцамі Рэспубліканскай гімназііліцэя пры Беларускай дзяржаў-най акадэміі музыкі (2007 г.).

Пацвярджэннем прафе-сіяналізму і майстэрства ўдзе-льнікаў калектыву сталі дыпло-мы: IV фестывалю эстраднай і джазавай музыкі ў г. Гародні "Парад аркестраў " (2007 г. ) і ў г. Ліда (2011 г. ).

Традыцыйнае шматгадовае творчае супрацоўніцтва з жаночым камерным хорам спрыяла стварэнню цэлага шэрагу канцэртных праграм духоўнай музыкі, якія карыстаюцца папулярнасцю ў жыхароў Лідскага рэгіёну.

Значнай падзеяй у дзейнасці калектыву стала падрыхтоўка канцэртнай праграмы ў рамках Рэспубліканскага конкурсу аркестравых і харавых калектываў сярод ССНУ ў 2005 годзе, а таксама ў 2010 годзе ўдзел у абласным аглядзе - конкурсе творчых калектываў, дзе аркестр становіцца дыпламантам конкурсу.

У 2013 годзе аркестр удзельнічаў у 61 Еўрапейскім маладзёжным фестывалі інструментальнай музыкі ў г. Неерпелт (Бельгія), дзе стаў уладальнікам дыплома I ступені.



*Камерны аркестр*

## Цыклавая камісія "Харавое дырыжыраванне"

Адначасова з адкрыццём УА "Лідскі дзяржаўны музычны каледж" у 1973 была ўтворана цыклавая камісія "Харавое дырыжыраванне".

У розны час у камісіі працавалі таленавітыя выкладчыкі, выпускнікі Беларускай кансерваторыі імя Луначарскага, Адэскай кансерваторыі, Данецкага музычна-педагагічнага інстытута: Князева Н.Н., Князеў В.А., Лакшына Л.У., Лапшына Т.Д., Бубен С.П., Чанышова Л.У., Клецкі А.А, Новікава С.Ф., Жылін Ю.І., Гарачоў В.Ф, Гарачова Т.Г., Будан В.Е.

У наш час у цыклавой камісіі працуе 10 выкладчыкаў: Будай Л.І., Бугасаў С.І. (сябар Саюза кампазітараў), Бугасава Т.А., Булыга М.П., Каск В.Г., Пясецкая Л.Ф., Харашылава Т.П., Цалко А.У., Рабаконь Ю.М., Сілаева А.А.

Асноўнай задачай калектыву выкладчыкаў камісіі з'яўляецца фармаванне прафесійных ведаў і навыкаў навучэнцаў, неабходных у далейшай практычнай дзейнасці. Навучэнцы займаюцца па двух кірунках: "Акадэмічны хор" і "Народны хор". Атрыманыя выпускнікамі веды і ўменні даюць магчымасць працаваць з прафесійнымі музычнымі калектывамі, быць салістамі прафесійных хораў і вакальных ансамбляў, займацца педагагічнай дзейнасцю, выкладаць вакальна-харавыя дысцыпліны і сальфеджыа ў дзіцячых музычных школах мастацтваў, працаваць настаўнікамі музыкі ў агульнаадукацыйнай школе. Вялікая частка навучэнцаў цыклавой камісіі штогод паступае ва ўстановы вышэйшай адукацыі.




***Пясецкая Л.В.***

Былыя выпускнікі плённа працуюць у вышэйшых і сярэдніх навучальных установах і творчых калектывах Рэспублікі Беларусь: Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, Менскім дзяржаўным каледжы мастацтваў, Дзяржаўным Акадэмічным народным хоры імя Г.І. Цітовіча, Дзяржаўнай Акадэмічнай харавой капэле імя Шырмы, Дзяржаўным камерным хоры Белдзяржтэлерадыё, ансамблі "Чысты голас", рок-групе "Палац", дзяржаўным фальклорным ансамблі "Харошкі", дзяржаўным ансамблі народнай музыкі "Свята", і мн. інш. Велізарная колькасць выпускнікоў ЦК працуе на ніве адукацыі і культуры ў абласных, раённых цэнтрах, у аграгарадках, захоўваючы і развіваючы культурныя традыцыі беларускага песеннага мастацтва.




***Бугасаў С.І.***

## Цыклавая камісія "Спецыяльнае фартэпіяна"

Цыклавая камісія "Спецыяльнае фартэпіяна" існуе з дня заснавання Лідскага музычнага вучылішча.

Першапачаткова ў склад камісіі ўваходзілі: Плевін І.В., Анісімава Н.А., Труханава І.В., Скачко Л.П., Вераб'ёва Т.В.

Падчас развіцця камісія папаўнялася выпускнікамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага, Астраханскай, Горкаўскай, Растоўскай, Алма-Ацінскай кансерваторый, Краснаярскага інстытута мастацтваў. Сярод іх Акімава Т.А., Дрозд Г.Г., Цярмен Б.З., Цярмен В.В., Міхалькова А.М., Чарняк Л.Г., Чарняк С.А., Горгуль Т.А., Сушко Н.М., Кудрашова Л.Ж. У розны час старшынямі цыклавой камісіі былі: Плевін І.В., Анісімава Н.А., Труханава І.В., Цярмен Б.З., Чарняк Л.Г., Кудрашова Л.Ж., Сушко Н.М.

У наш час у яе склад уваходзяць: Горгуль Т.А. - старшыня камісіі, Акімава Т.А., Бабpоўская В.М., Міхалькова А.М., Сезень Л.А., Тарарака А.А., Максіменка Я.В., Сушко Н.М.

Асноўная мэта працы цыклавой камісіі "Спецыяльнае фартэпіяна" - выхаванне музыкі-прафесіянала, таму першараднай задачай з'яўляецца забеспячэнне якасці навучання.

За 40 гадоў працы выкладчыкамі цыклавой ка-



***Цыклавая камісія "Спецыяльнае фартэпіяна"***

місіі падрыхтавана больш за трыста прафесійных музыкаў для творчай, выканальніцкай, музычна-асветніцкай і педагагічнай дзейнасці.

Выпускнікі працягваюць сваю адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва, Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка, Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я. Купалы, краінах блізкага і далёкага замежжа.

Пра высокі прафесіяналізм выкладчыкаў цыклавой камісіі: Горгуль Т.А., Акімавай Т.А., Сушко Н.М., Кудрашовай Л.Ж., Тарарака А.А., Баброўскай В.М. сведчаць дыпломы за педагагічнае і канцэртмайстарскае майстэрства на розных выканальніцкіх конкурсах.

Наш гонар - нашы навучэнцы!

Радзюк Е. (выкладчык Сушко Н.М.), Кукліцкая Я. (выкладчык Акімава Т.А.) з'яўляюцца стыпендыятамі "Спецыяльнага фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы таленавітай моладзі".

Навучэнцы цыклавой камісіі неаднаразова станавіліся дыпламантамі Рэспубліканскага конкурсу-фэсту фартэпіяннай музыкі "Творчая моладзь - XXI стагоддзя", II Адкрытага фартэпіяннага конкурсу імя Ф. Шапэна, II Рэспубліканскага конкурсу імя Л. Марголінай, абласнога конкурсу "Новыя імёны".

Выкладчыкі цыклавой камісіі праводзяць планамерную метадычную працу ў ДМШМ Лідскага метадычнага аб'яднання. Праводзяцца семінары і навукова-метадычныя канферэнцыі па праблемах піяністычнага і творчага развіцця навучэнцаў ДМШМ.

Стала традыцыяй праводзіць конкурс імя К. Горскага ў намінацыі "Фартэпіяна", які спрыяе выяўленню таленавітай моладзі і папулярызацыі фартэпіяннай музыкі.

## Цыклавая камісія "Струнныя смычковые інструменты і камерны ансамбль"

Цыклавая камісія "Струнныя смычковыя інструменты і камерны ансамбль" заснавана ў 1973 годзе. У наш час у яе складзе выкладчыкі - Антончык С.В. - старшыня, Дзвілянскі М.Я., Гірэнка А.Л., Горгуль Т.А.,

Міхалькова А.М., Тарарака А.А., Баброўская В.М. Камісіяй падрыхтавана больш за 150 выпускнікоў, большасць з якіх працягнула сваё навучанне ва ўстановах вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь, у краінах блізкага і далёкага замежжа (Літва, Расія, Польшча, Данія, Нямеччына).



*Дзвілянскі М.Я.*

Сярод выпускнікоў лаўрэаты і дыпламанты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў: Логінава В. (2009 г., 2010 г.), Воўкава А. (2010 г.), камерны ансамбль у складзе: Чэкан П., Воўкава А., Дубай Д. (выкл. Гірэнка А.Л.), камерны ансамбль у складзе: Астравушка А., Аўчыннікаў М. (выкл. Тарарака А.А.).

Выпускнікі цыклавой камісіі ўдасканальваюць сваё прафесійнае майстэрства ў розных вядомых калектывах: сімфанічным аркестры Белдзяржфілармоніі, Нацыянальным канцэртным аркестры пад кіраўніцтвам М. Фінберга, сімфанічным аркестры Белдзяржрадыёкампаніі, аркестры Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, аркестры Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.

Сярод выпускнікоў нямала выкладчыкаў і музыкаў, якія развіваюць традыцыі беларускай выканальніцкай школы ў краінах блізкага і далёкага замежжа. Дзякуючы суладнай працы выкладчыкаў камісіі, выпускнікі атрымліваюць добрую прафесійную падрыхтоўку.

## Цыклавая камісія “Фартэпіяна і канцэртмайстарства”

Фармаванне цыклавой камісіі пачалося з першых дзён існавання навучальнай установы. Педагогамі, якія ўнеслі свой творчы і прафесійны патэнцыял у развіццё і далейшае станаўленне цыклавой камісіі, былі Макарава Н.І., Слабоднік І.М., Клягіна С.А, Будзілкава А.А., Оська (Міхалькова) А.М., Мядзведзева (Бброўская) В.М., Шаўчук (Гуцалюк) Г.Я. У розны час камісіяй кіравалі Макарава Н.І., Гаўрылава Г.Н., Клягіна С.А., Горгуль Т.А., Баброўская В.М. Усе яны ўнеслі вялікі ўклад у справу станаўлення цыклавой камісіі і ўдасканаленне яе працы. Цяпер у складзе цыклавой камісіі працуюць дзевяць высокапрафесійных педагогаў-канцэртмайстраў.



*Цыклавая камісія “Фартэпіяна і канцэртмайстарства”*

Педагогі-канцэртмайстры, сумесна з выкладчыкамі іншых цыклавых камісій, ажыццяўляюць вялікую працу па фармаванні музычнага і эстэтычнага светапогляду навучэнцаў, развіцці і ўдасканаленні іх прафесійных навыкаў.

Найвышэйшую ступень прафесіяналізму дэманструюць і канцэртмайстры каледжа. Яны з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі канцэртна-асветніцкай дзейнасці навучальнай установы, накіраванай на папулярызацыю музычнага мастацтва сярод жыхароў рэгіёна, рэспублікі і замежжа. Канцэртмайстры каледжа неаднаразова былі адзначаны дыпломамі прэстыжных выканальніцкіх конкурсаў за канцэртмайстар-скае майстэрства: Акімава Т.А., Баброўская В.М., Гуцалюк Г.Я., Кіявіцкая В.Л., Сезень Л.А.

Сфера інтарэсаў педагогаў цыклавой камісіі - гэта не толькі вузка прафесійная дзейнасць. Шырокай папулярнасцю ў Лідскім рэгіёне карыстаецца вакальнае мастацтва педагога цыклавой камісіі Кароль Н.М. Яна паспяхова выступае з сольнымі канцэртнымі праграмамі на сцэнічных пляцоўках Гарадзенскай вобласці і за межамі краіны.

## Цыклавая камісія "Духавыя і ўдарныя інструменты"

Цыклавая камісія "Духавыя і ўдарныя інструменты" была створана адначасова з адкрыццём Лідскага музычнага вучылішча ў 1973 годзе. Першапачаткова яна ўкамплектоўвалася выкладчыкамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: клас трубы - А.В. Лаўрыновіч, клас валторны - С.І. Булгакаў, клас трамбона і фагота - Л.В. Каваленка. Клас кларнета адкрываў- В.І. Цупрыняк. Пазней клас флейты ўзначаліў В.А. Летуноўскі.

У наш час на цыклавой камісіі працуюць выкладчыкі па класе:

- валторны - Л.А. Гладкі - старшыня цыклавой камісіі;
- флейты і габоя - Н.С. Ляшкова;
- кларнета - М.Р. Ткачоў, С.С. Мішкель;
- саксафона - С.С. Мішкель;
- трубы - К.М. Сцяпанаў;
- трамбона - А.Я. Масюкевіч;
- тубы - А.Г. Масель.

Падрыхтавана больш за 200 выпускнікоў, 106 з якіх паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы культуры і мастацтваў: Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, кан-серваторыі г. Санкт-Пецярбурга і г. Масквы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і

мастацтвы, у Ленінградскі інстытут культуры імя Н.К. Крупскай. Выпускнікі па класе духавых інструментаў працуюць настаўнікамі дзіцячых музычных школ мастацтваў Гарадзенскай, Берасцейскай, Менскай абласцей, выкладчыкамі музычных каледжаў г. Гародні, г. Ліды, г. Баранавічы, выкладчыкамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, у вядучых прафесійных творчых калектывах Рэспублікі Беларусь:



*Гладкі Л.А.*

- сімфанічны аркестр Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета;
- Дзяржаўны акадэмічны канцэртны аркестр;
- Дзяржаўны акадэмічны аркестр Музычнага тэатра;
- Дзяржаўны акадэмічны аркестр Белтэлерадыёкампаніі;
- Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр.

Цыклавой камісіяй падрыхтавана 34 лаўрэатаў міжнародных, рэспубліканскіх, усерасійскіх конкурсаў, 10 стыпендыятаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі: Амбражук Я. - труба; Ахрэмка А. - труба; Красоўскі Б. - валторна; Мікялевіч С. - валторна; Аўчыннікаў М. - валторна; Сцяпанаў Я. - труба; Чымірка П. - труба; Шкулепа М. - труба.

Уладальнікі Гранд-прэміі і звання лаўрэата Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі: Чабатар А., Юрэвіч М. - труба, клас выкладчыка Сцяпанава К.М.

## Цыклавая камісія “Аркестравае дырыжыраванне”

Гісторыя цыклавой камісіі пачынаецца з прыходам старшыні Мякшылы М.М. За сорак гадоў выкладчыкамі цыклавой камісіі было падрыхтавана больш за 400 спецыялістаў для ўстаноў культуры і мастацтва, кіраўнікоў-дырыжораў самадзейных аркестраў для ДМШМ, якія працягвалі сваю адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, а таксама на факультэце ваенных дырыжораў пры музычным педагагічным інстытуце імя Гнесіных (г. Масква).



*Цыклавая камісія “Аркестравае дырыжыраванне”*

Дзейнасць цыклавой камісіі "Аркестравае дырыжыраванне" цесна звязана з канцэртным жыццём Лідскага рэгіёна. З першых дзён працы цыклавой камісіі было створана некалькі аркестравых калектываў, якія шырока вядомыя за межамі Рэспублікі Беларусь. Гэта духавы аркестр, камерны аркестр, аркестр народных інструментаў і аркестр баянаў.

У наш час на цыклавой камісіі працуюць выкладчыкі-аднадумцы, у тым ліку і выпускнікі Лідскага музычнага каледжа: Рута Л.У - старшыня, Сечка А.Э., Пушкіна Г.Б., Мякшыла М.М., Масюкевіч А.Я., Смаргунова А.У., Вялікіна А.У, Ганул Г.М., Кміт В.В., Трубееў У.Л., Сайко М.М., Байкова Н.І., Кукунова А.В.

Гонарам і "візітнай карткай" цыклавой камісіі з'яўляюцца творчыя аркестравыя калектывы са шматгадовай гісторыяй і традыцыямі:

Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў аркестр народных інструментаў (мастацкі кіраўнік і дырыжор Сечка А.Э.);

Лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў аркестр беларускіх народных інструментаў (мастацкі кіраўнік і дырыжор Пушкіна Г.Б.);

Лаўрэат міжнародных і абласных конкурсаў камерны аркестр (мастацкі кіраўнік і дырыжор Руто Л.В.);

Лаўрэат рэспубліканскіх і абласных конкурсаў духавы аркестр (мастацкі кіраўнік і дырыжор Масюкевіч А.Я.).

Педагогі вядуць плённую метадычную працу, вынікам якой з'яўляецца падрыхтоўка тыпавых праграм для УССА па прадметах дырыжорскага цыклу выкладчыкамі Рута Л.У. і Смаргуновай А.У.

Цыклавая камісія штогод праводзіць творчыя конкурсы "Майстэрства маладога дырыжора" і "Мастацтва інструментоўкі" для навучэнцаў III-IV курсаў, а таксама - семінары для кіраўнікоў калектываў інструментальнага жанру дзіцячых музычных школ мастацтваў Лідскага метадычнага аб'яднання.

## Цыклавая камісія "Баян-Акардэон"

Цыклавая камісія "Баян-акардэон" была ўтворана ў 1973.

За 40-гадовы перыяд выкладчыкамі камісіі падрыхтавана больш за 400 дыпламаваных спецыялістаў, большасць з якіх скончыла розныя ўстановы вышэйшай адукацыі Рэспублікі Беларусь і паспяхова працуе ў дзіцячых музычных школах мастацтваў, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, прафесійных творчых калектывах краіны.

У розныя гады ў складзе камісіі працавалі і ўзначальвалі яе выдатныя выкладчыкі Ліcтратаў В.М., Патапейка Т.Я., Патапейка А.М., Бубен В.П., Акімаў А.М., якія падрыхтавалі вялікую колькасць высока-


*Цыклавая камісія "Баян-Акардэон"*

прафесійных і таленавітых музыкаў.

У гэты момант у складзе цыклавой камісіі "Баян-акардэон" 8 выкладчыкаў. З іх па класе баяна: Ганул Г.М. (старшыня), Байкова Н.І., Пушкіна Г.Б., Рута Л.У., Смаргунова А.У., Трубееў У.Л., Фефелаў І.М., па класе акардэона: Догілева А.І., Ёда В.А.

Адзін з найважнейшых кірункаў працы камісіі на сучасным этапе - канцэртная і конкурсная дзейнасць. Многія навучэнцы ярка заявілі пра сябе на розных выканальніцкіх конкурсах і фэстах:

- Рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на народных інструментах імя І.І. Жыновіча: Гойдзь І. (выкл. Патапейка А.М.) - лаўрэат II ступені (1984 г., г. Ліда); Вайтовіч С. (выкл. Патапейка А.М.) - лаўрэат II ступені (2003 г., г. Гародня); Пракоф’еў Г., Хітрун П. (выкл. Догілева А.І.) - лаўрэаты III ступені (2006 г., г. Маладзечна, 2012 г., г. Берасце);

- Міжнародны конкурс юных выканаўцаў на народных інструментах імя Н.Н. Калініна "Мяцеліца": Кярней А. (выкл. Догілева А.І.) - лаўрэат I ступені (2007 г., г. Санкт-Пецярбург);

- Міжнародны фестываль-конкурс "Петра-Паўлаўскія асамблеі": Крэнь А. (выкл. Догілева А.І.) - дыпламант конкурсу (2007 г., г. Санкт-Пецярбург, Расія); Шмара А. (выкл. Догілева А.І.) - дыпламант конкурсу (2012 г., г. Санкт-Пецярбург, Расія);

- Міжнародны конкурс юных выканаўцаў на народных інструментах імя В.В. Андрэева: Кярней А. (выкл. Догілева А.І.) - лаўрэат II ступені (2008 г., г. Санкт-Пецярбург);

- Міжнародны фестываль-конкурс "Іграй, баян!": Хітрун П. (выкл. Догілева А.І.) - лаўрэат II ступені (2010 г., г. Ржэў, Расія);

- Міжнародны конкурс баяністаў - акардэаністаў "Шоў “Заходні рэгіён": Падворская І. (выкл. Патапейка А.М., Рута Л.У.) - лаўрэат II ступені; Роўбуць К. (выкл. Рута Л.У) - лаўрэат III ступені, (2009 г., г. Роўна, Украіна),

- Міжнародны конкурс баяністаў - акардэаністаў "Intersvitiaz accomusic": Шпакоўская С. (выкл. Рута Л.У.) - лаўрэат I ступені; Анікевіч Л. (выкл. Ганул Г.М.) - лаўрэат II ступені (2012 г., Луцк, Украіна);

- Міжнародны конкурс баяністаў - акардэаністаў "Perpetuum mobile": Шпакоўская С. (выкл. Руто Л.У.) - лаўрэат II ступені (2012 г., г. Драгобыч, Украіна);

- Міжнародны конкурс выканаўцаў на баяне - акардэоне "Citta di Lanciano": Адамчык Д. (выкл. Смаргунова А.У.) - лаўрэат II ступені, Шпакоўская С. (выкл. Рута Л.У.) - лаўрэат III ступені, Шмара А., Куней С. (выкл. Догілева А.І.) - лаўрэаты III ступені (2012 г., г. Ланчыяна, Італія);

- Міжнародны конкурс выканаўцаў на баяне - акардэоне, г. Вільня, Літва: Куней С. (выкл. Догілева А.І.) - лаўрэат II ступені (2012 г.)

- Міжнародны конкурс выканаўцаў на народных інструментах "KrimAcco - 2013": Камянецкі М. (выкл. Догілева А.І.) - дыпламант конкурсу (2013 г., г. Сімферопаль, Украіна)

Найболей адораныя навучэнцы: Пракоф’еў Г., Кярней А. (выкл. Догілева А.І.), Савіцкая І., Куліш А. (выкл. Патапейка А.М.), Шпакоўская С. (выкл. Рута Л.У.) з'яўляюцца стыпендыятамі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Выкладчык А.І. Догілева адзначана прэміяй Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За значны ўклад у развіццё здольнасцяў адораных навучэнцаў і студэнтаў".

## Цыклавая камісія "Струнныя народныя інструменты"

Цыклавая камісія "Струнныя народныя інструменты" аб'ядноўвае высокакваліфікаваных выкладчыкаў, канцэртных выканаўцаў і кіраўнікоў творчых калектываў. У розныя гады ЦК "Струнныя народныя інструменты" ўзначальвалі Саўко М.М., Сечка А.Э., Кміт В.У., Вялікіна А.У., Багданёнак Ж.К. Асноўны кантынгент выкладчыцкага складу мае вялікі досвед працы, цалкам аддае свае сілы і веды навучэнцам.

Навучэнцы неаднаразова станавіліся лаўрэатамі Рэспубліканскага конкурсу ім. І.І. Жыновіча. Лаўрэаты Друцько А., Кахоцкі С., Лазко Д. (кл. выкл. Мякшылы М.М.), Казловіч Т. (кл. Вялікінай А.У.), Хількевіч А. (кл. Булатавай З.М.) паспяхова спалучаюць педагагічную і выканаўчую дзейнасць.

Штогод маладыя таленавітыя музыкі папаўняюць шэрагі студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Беларускага дзяржаўнага педага-


*Цыклавая камісія "Струнныя народныя інструменты"*

гічнага ўніверсітэта імя М. Танка, Санкт-Пецярбургскай акадэміі музыкі, Львоўскай кансерваторыі: Шафар Л., Вінаградава С., Хандогі П., Грыцук С., Бубен А., КарпічкаА., (кл. выкл. Саўко М.М.), Хількевіч А. (кл. выкл. Булатавай З.М.), Праскачылава М., Сільвановіч А., Самускевіч С. (кл. выкл. Сечка А.Э.), Казак Г., Лямкіна І., Комар Т., Здановіч Л., Жыбарт А. (кл. выкл. Кміт В.У.), Друцько А., Кахоцкі С., Лазко Д., Ендза В., Іваноў А. (кл. выкл. Мякшылы М.М.), Новік М. (кл. выкл. Сцефановіча Р.І.), Салькоўскі В., Звярко Т., Карэцкая Я. (кл. выкл. Карпавай С.Д.), Казловіч Т. (кл. выкл. Вялікінай А.У.).

У цяперашні час выхаванцы каледжа Серафінка В. (кл. выкл. Сцефановіча Р.І.) Гародка Е. (кл. выкл. Сечкі А.Э.), Гурэнда С. (кл. выкл. Кміт В.У.) з'яўляюцца студэнтамі Беларускай Акадэміі музыкі.

Выкладчыкі цыклавой камісіі могуць ганарыцца дасягненнямі сваіх выпускнікоў, актыўна праявіўшых свае здольнасці ў сферы культуры, выканальніцкага майстэрства, педагагічнай дзейнасці. Выпускнік каледжа Вашкевіч В. (клас выкладчыка Саўко М.Н.) узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за дасягненні ў вобласці культуры Рэспублікі Беларусь, адзначаны шматлікімі граматамі Міністэрства культуры.

Званне лаўрэата Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі атрымала Казловіч Т. - цымбалы (кл. выкл. Вялікінай А.У.).

Навучэнцы каледжа Суровіч Д., Бохан Т. (кл. выкл. Вялікінай В.У.), Шчука І. (клас выкл. Булатавай З.М.), прдстаўлялі беларускае нацыянальнае мастацтва на ІХ В'етнамскім міжнародным гандлёвым кірмашы "В'етнам-Экспа- 2011" (г. Хашымін).

Выкладчыкі неаднаразова прымалі ўдзел у рэспубліканскіх конкурсах метадычных і творчых прац сярод устаноў сярэдняй спецыяльнай адукацыі культуры і мастацтваў, дзе былі ацэнены дыпломамі і граматамі (Сцяфановіч Р.І., Сечка В.В., Чымірка А.В., Мякшыла М.М., Саўко М.М., Кміт В.У., Сечка А.Э., Дубіцкі У.П., Булатава З.М.)

Выкладчыкі ЦК з мэтай аказання метадычнай дапамогі актыўна падтрымліваюць сувязь з выпускнікамі каледжа, настаўнікамі дзіцячых музычных школ мастацтваў, праводзяць прафарыентацыйную працу, выступаюць у складзе выязных канцэртных брыгад.

## Цыклавая камісія "Музыказнаўства"

Цыклавая камісія "Музыказнаўства" з'яўляецца адным з найважнейшых структурных падраздзяленняў навучальнай установы. У Лідскім музычным каледжы падрыхтоўка па спецыяльнасці "Музыказнаўства" вялася з 1973 па 1981 год і была адноўлена ў 1989 годзе. За мінулыя гады падрыхтавана больш за 120 дыпламаваных спецыялістаў, большасць з якіх скончыла ўстановы вышэйшай адукацыі і паспяхова працуе ў сістэме музычнай адукацыі (ДМШМ, УССА, УВА), Дамах культуры, рэдакцыях перыядычных выданняў, музычных рэдакцыях Белдзяржтэлерадыёкампаніі.



*Цыклавая камісія "Музыказнаўства"*

Першым кіраўніком цыклавой камісіі "Тэорыя музыкі" была Л.І. Макравусава (Дзенісюк).

З 1976 цыклавую камісію "Музыказнаўства" ўзначальвае Дзвілянская Б.А.

У розныя гады камісія фармавалася выпускнікамі Маскоўскай, Адэскай, Астраханскай, Саратаўскай, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: Папова Л.А., Плотнікава Т.В., Котава Т.Д. Беражная В.В., Юр'ева М.Ю., Яблонская С.Б., Ганін А.А. і многія іншыя.

У наш час у склад камісіі ўваходзіць 12 выкладчыкаў, чацвёра з якіх маюць вышэйшую катэгорыю - Дзвілянская Б.А., Кушаль В.А., Серакова А.В., Фядзюшчанка А.А., а таксама выпускнікі Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа - Васільева С.В., Комінч Г.А., Драпала В.С., Данілевіч А.Ю., Батура А.А., Аўраменка А.Д., Удалых К.В.

Дзейнасць камісіі накіравана на падрыхтоўку спецыялістаў з шырокапрофільнай адукацыяй. Навучэнцы набываюць глыбокія і трывалыя веды па музычна-тэарэтычных дысцыплінах, авалодваюць навыкамі асэнсавання музычных з'яў мінулага і сучаснасці, рэалізоўваюць сябе ў розных конкурсах і творчых змаганнях, спрабуюць сілы ў складанні музыкі. Найболей таленавітыя з іх працягваюць навучанне на кафедрах тэорыі, гісторыі, беларускай музыкі, кампазіцыі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Сярод выпускнікоў: стыпендыяты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Комінч Г.А., Сідаровіч К.; сябры Саюза кампазітараў Беларусі Падгайская В. (Лаўрэат Міжнароднага конкурсу кампазітараў), Ларыёнаў Я.Д. (выкладчык УА "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі"). Н. Ролік (сябар Саюза кампазітараў РБ); Н. Ганул - выкладчык УА "Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі", кандыдат мастацтвазнаўства; Маркевіч А. - фіналіст Рэспубліканскага праекту АНТ "Маладыя галасы Беларусі" і г.д.

Выкладчыкі цыклавой камісіі вядуць актыўную метадычную, прафарыентацыйную, асветніцкую працу, супрацоўнічаюць з гарадскімі, абласнымі, рэспубліканскімі СМІ, выступаюць з цыкламі лекцый у школах, бібліятэках горада і раёна. Арганізаваныя музычна-тэматычныя вечары па арыгінальных сцэнарыях, творчыя сустрэчы з вядомымі дзеячамі культуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь - кампазітарамі Г. Гарэлавай, Я. Паплаўскім, В. Кузняцовым, В. Войцікам, музыказнаўцамі - прафесарам - В. Дадзіёмавай, якія

выклікаюць вялікі грамадскі рэзананс. Традыцыйнымі сталі музычна-тэарэтычныя алімпіяды ў рамках абласнога конкурсу імя К. Горскага.

Многія выкладчыкі актыўна займаюцца метадычнай працай, з'яўляюцца распрацоўнікамі аўтарскіх праграм па дысцыплінах тэарэтычнага цыклу, выпушчаных Міністэрствам культуры РБ.

Сёння выкладчыкі цыклавой камісіі вядуць актыўную педагагічную, навучальна-метадычную і асветніцкую працу. Дзякуючы іх прафесіяналізму навучэнцы атрымліваюць значны багаж тэарэтычных і практычных ведаў. У гэтым - заклад поспеху іх будучай прафесійнай дзейнасці.

## Цыклавая камісія "Агульнаадукацыйныя дысцыпліны"

Цыклавая камісія "Агульнаадукацыйных дысцыплін" аб'ядноўвае 8 выкладчыкаў: Семяніка І.Я.- старшыня, Венскі І.У., Астраверхава Т.М., Піпко Т.В., Салуянава А.У., Чарняк В.Я., Чумачова Г.М., Жук А.Ю.

Асноўная дзейнасць ціклавой камісіі накіравана на арганізацыю навучальна-выхаваўчага працэсу і правядзенне пазакласных мерапрыемстваў, а таксама метадычнай працы, якая прадстаўлена шматлікімі аўтарскімі распрацоўкамі.

Навучэнцы каледжа прымаюць удзел у абласных і рэспубліканскіх конкурсах, дзе становяцца ўладальнікамі прызавых месцаў, у гарадскіх і абласных віктарынах, прысвечаных розным памятным датам гісторыі Беларусі, у раённых і абласных прадметных алімпіядах, а таксама сумесна з СППС у агітбрыгадах.

Пад кіраўніцтвам выкладчыка гісторыі Астраверхавай Т.М. распрацавана і рэалізавана сумесна з навучэнцамі некалькі конкурсных праектаў гістарычнай і літаратурнай скіраванасці.

На базе кабінетаў гісторыі і літаратуры працуюць краязнаўчы і літаратурны гурткі. У рамках гуртковай працы арганізуюцца экскурсійныя маршруты па гістарычных і памятных месцах Рэспублікі Беларусь.

На базе літаратурнага гуртка дзейнічае этнаграфічны музей "Спадчына", створаны выкладчыкам Чарняк В.Я.

Значная частка працы цыклавой камісіі па ініцыятыве выкладчыкаў Салуянавай А.У. і Піпко Т.В. накіравана на арганізацыю і правядзенне мерапрыемстваў, галоўнай мэтай якіх з'яўляецца прапаганда літаратурнай і музычнай творчасці выбітных дзеячаў культуры.



***Цыклавая камісія "Агульнаадукацыйныя дысцыпліны"***

## Абласны конкурс імя К. Горскага



***К. Горскі***

*Канстанцін Горскі нарадзіўся 13 чэрвеня 1859 года ў горадзе Лідзе. У 1881 годзе скончыў навучанне ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі са срэбным медалём і атрымаў дыпломы па дзвюх спецыяльнасцях: па класу скрыпкі ў Л. Аўэра і па класу кампазіцыі ў М. Рымскага-Корсакава. Працаваў педагогам у музычных вучэльнях Саратава, Тыфліса, Пензы, актыўна займаўся канцэртнай дзейнасцю. Выступіў як саліст-скрыпач з канцэртам для скрыпкі з аркестрам П.І. Чайкоўскага пад кіраўніцтвам аўтара. У 1919 годзе пераехаў у Польшчу. Там працаваў канцэртмайстрам аркестра ў Вялікім тэатры оперы Познані. Памёр у 1924 годзе.*

*К. Горскі з'яўляецца аўтарам дзвюх опер, некалькіх сімфанічных паэм, твораў для хору з аркестрам, мноства вакальных і скрыпічных сачыненняў.*




***Эмблема конкурсу імя К. Горскага***

З 1995 года па ініцыятыве Лідскага музычнага вучылішча штогод праводзіцца конкурс імя К. Горскага ў розных намінацыях: "Фартэпіяна", "Струнныя смычковыя інструменты", "Духавыя і ўдарныя інструменты", "Народныя інструменты", "Харавое дырыжыраванне", "Музычна-тэарэтычная алімпіяда". За час свайго існавання ў конкурсе прыняло ўдзел больш за 2000 чалавек. Больш за 370 удзельнікаў конкурсу сталі навучэнцамі УА "Лідскі дзяржаўны музычны каледж", многія з іх у наступным прадоўжылі адукацыю ў вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь і за яе межамі.

**Дзінара Мазітава** - лаўрэат конкурсу імя К. Горскага 1995 года, намінацыя "Фартэпіяна". Скончыла Санкт-Пецярбургскую кансерваторыю па класах "фартэпіяна", "кампазіцыя". У наш час выкладае ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі.

**Ірына Трубеева** - лаўрэат конкурсу імя К. Горскага 1995 года, намінацыя “Фартэпіяна”. У наш час з’яўляецца выкладчыкам Bielefeld (Германія) і канцэртуючым музыкантам.

**Максім Шкулепа** - лаўрэат Міжнароднага, Усерасійскага, Рэспубліканскага конкурсаў, артыст сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

**Аляксандр Ахрэмка** - лаўрэат Міжнароднага, Рэспубліканскага конкурсаў, саліст Еўрапейскага сімфанічнага аркестра.

**Павел Чымірка** - лаўрэат Міжнароднага конкурсу, артыст аркестра Дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Рэспублікі Беларусь.

**Яўген Амбражук** - лаўрэат Міжнароднага, Усерасійскага конкурсаў, артыст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## Стыпендыяты, лаўрэаты Спецыяльнага фонду Прэзідэнтата Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі

Амбражук Яўген Генадзевіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Ахрэмка Аляксандр Уладзіміравіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Юрэвіч Міхаіл Леанардавіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Сцяпанаў Ягор Канстанцінавіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Чымірка Павел Анатольевіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Шкулепа Максім Фаміч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Чабатар Аляксандр Канстанцінавіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

Барысавец Алена Юр’еўна (балалайка), клас выкл. Сечкі В.В.

Буклярэвіч Уладзіслаў Часлававіч (балалайка), клас выкл. Мякшылы М.М.

Лазко Дзмітры Валянцінавіч (балалайка), клас выкл. Мякшылы М.М.

Гадаева Ірына Сяргееўна (дырыжыраванне), клас выкл. Пясецкай Л.Ф.

Залескі Алег Аляксеевіч (баян), клас выкл. Акімава А.М.

Кярней Анатоль Віктаравіч (акардыён) клас выкл. Догілева А.І.

Лінга Дзмітры Іванавіч (акардыён) клас выкл. Догілева А.І.

Пракоф’еў Рыгор Уладзіміравіч (акардыён), клас выкл. Догілева А.І.

Казловіч Тацяна Віктараўна (цымбалы), клас выкл. Вялікінай А.У.

Красоўскі Браніслаў Браніслававіч (валторна), клас выкл. Гладкага Л.А.

Мікялевіч Станіслаў Валер’евіч (валторна), клас выкл. Гладкага Л.А.

Аўчыннікаў Мікалай Ігаравіч (валторна), клас выкл. Гладкага Л.А.




*Буклет, выпушчаны Лідскім музычным каледжам да 40-годдзя ўстановы*

Радзюк Яўгенія Аляксандраўна (фартэпіяна), клас выкл. Сушко Н.М.

Кукліцкая Яна Станіславаўна (фартэпіяна), клас выкл. Акімавай Т.А.

Куліш Аксана Васільеўна (баян), клас выкл. Патапейкі А.М.

Савіцкая Ніна Пятроўна (баян), клас выкл. Патапейкі А.М.

Юрчук Людміла Валер’еўна (музыказнаўства), клас выкл. Радзівонава В.К.

Падгайская Вольга Сяргееўна (музыказнаўства), клас выкл. Радзівонава В.К.

Сідаровіч Ксенія Аляксандраўна (музыказнаўства), клас выкл. Дзвілянскай Б.А.

Цырусь Ірына Васільеўна (домра), клас выкл. Кміт В.У.

Шпакоўская Святлана Васільеўна (баян), клас выкл. Руты Л.У.

Волкава Дар'я Валер'еўна (музыказнаўства), клас выкл. Дзвілянскай Б.А.

Дудзевіч Кірыл Іванавіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М.

## Уладальнікі прэміі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта імя А.І. Дубко

Шпакоўская Святлана Васільеўна (баян), клас выкл. Рута Л.У. (2012 г.)

Сушчэня Ягор Аляксандравіч (труба), клас выкл. Сцяпанава К.М. (2013 г.

## Уладальнікі спецыяльных прэмій Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта імя А.І. Дубко "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва"

Пясецкая Людміла Фёдараўна, выкладчык, кіраўнік камернага жаночага хору (2004 г.)

Рута Ларыса Уладзіміраўна, выкладчык, кіраўнік камернага аркестра (2013 г.)

Такім пераступіў Лідскі музычны каледж свой 40-гадовы рубеж.

***Паводле матэрыялаў, прадстаўленых адміністрацыяй каледжа.***

### Гэта было 70 гадоў таму назад

# Вернасць


*Генуэфа Казакевіч*

У маёй журналісцкай практыцы ёсць сустрэчы з людзьмі, якія не забыліся нават з цягам часу. Адна з такіх сустрэч - з бабулькай з вёскі Бельскія Дзітвянскага сельсавета Генуэфай Іванаўнай Казакевіч. Старэнькая адышла болей за дзесяць гадоў таму ў іншы свет, але засталася назаўсёды ў маёй памяці. Згадваю яе, калі ідзе размова аб тых, хто годны быць гонарам Лідчыны. Нярэдка стаўлю Генуэфу Іванаўну ў прыклад іншым як чалавека найвялікшай вернасці і ахвярнасці. А сёння я вырашыла ўспомніць пра Генуэфу Казакевіч пісьмова. Бо хачу, каб не забыліся пра гэтую простую, маленькую жанчыну жыхары Лідчыны, а маладзейшае пакаленне даведалася пра яе жыццё і вычын, па-сапраўднаму ацаніла іх. Калі б не Генуэфа Казакевіч, напэўна, так бясследна і зацягнула б мохам тое месца ў Кашаровым лесе (зараз раён вуліцы Рыбіноўскага), дзе былі расстраляны ў сакавіку 1943 года дзевяць ксяндзоў з акругі, і не з'явілася б на Слабадскіх могілках месца, дзе кожны з нас, католік ці праваслаўны, схіляе галаву, аддаючы даніну павагі бязвінна загінуўшым святарам.

Пазнаёмілася я з бабуляй Генуэфай у сярэдзіне дзевяностых гадоў. На той час жыццё яе адмерала восем дзесяткаў. Нямоглую жанчыну даглядала сацыяльны работнік і плямянніца, бо дзяцей яна так і не займела. Абітая толлю хатка, у якой каратала дні бабуля, была яшчэ старэйшая за ее і сагнулася да зямлі, як і сама гаспадыня, дыміла адпрацаваўшая свой век печ. Але Генуэфа Іванаўна ні на што не скардзілася. Яна жыла іншым. Верыла, як сама казала, што хутка прыйдзе той час, калі яе душа сустрэнецца з тымі, каму была адданай усё сваё жыццё.

На дзіва, у старэнькай была добрая памяць, якая да драбніц захавала падзеі, даты. І вось што яна мне тады расказвала.

## У дзень Пятра і Паўла

9 чэрвеня 1942 года прыпадала на каталіцкае свята Пятра і Паўла. Слабадскія ксяндзы Вінцэнт Лабан і Люцыян Мрачкоўскі вялі імшу ў касцёле. Генуэфа, якая на той час служыла ў іх, спраўлялася па гаспадарцы. Закончыла рыхтаваць ксяндзам абед, як зайшоў нямецкі салдат. Прывітаўся па-польску. Прысеў, памаўчаў. Потым загадаў Генуэфе: "Ну, хопіць, паслужылі. Ідзі кліч гаспадароў".

"У камісарыят патрабуюць з'явіцца", - паведаміў святарам, калі тыя пераступілі парог хаты. Але зноў сядзеў, чакаў, пакуль абедалі. Немец спыніўся ля мужчыны, які нёс поўны кош рыбы. Паказваючы на ўлоў, салдат пачаў нешта гаварыць. А ксяндзы без праважатага паціху рушылі да камісарыята. Усё было мірна. Але Генуэфу, якая глядзела, як у звоне летняга дня аддаляюцца постаці божых служкаў, агарнуў страх. Такога пачуцця не было, калі ксяндзоў і яе выклікалі ў свой час у НКУС, калі, заняўшы Ліду, немцы выгналі іх з плябані ў невялікую старую хату побач з касцёлам… І як ні ўгаворвала сябе, што да вечара святары павінны вярнуцца, супакоіцца не магла. Мінуў дзень, прайшла ноч. Ксяндзы не вярнуліся.

У чаканні Генуэфа правяла яшчэ некалькі бяссонных начэй. Што рабіць? Пяць гадоў верай і праўдай праслужыла яна ў слабадскіх ксяндзоў. З дзяцінства бедная наймічка мела тут кавалак хлеба. Стараннем, акуратнасцю заслужыла павагу святароў, і сама прывыкла да іх, як да родных. А зараз здрадзіць? Кінуць усё - пойдзе прахам. Вернуцца, дзе жыць будуць?

## Сярод вязняў

Раіцца пайшла да дэкана Баярунца з Лідскага фарнага касцёла. Яго, старога, кульгавага чалавека,

немцы пакінулі ў спакоі. Можа, Баярунец ведае, чым правініліся яе слабадскія ксяндзы?

- Кажуць, заключаны ў турму, каб не падбівалі людзей на смуту супраць немцаў, - адказаў дэкан. І сказаў, дакладней, загадаў ні ў якім разе не пакідаць Генуэфе службы. Яна патрэбна нявольнікам.

Затым жанчына штодня збірала пакунак з такой-сякой ядой і несла ў турму, што размяшчалася па вуліцы Сыракомлі. Два дні на тыдзень клала разам і чыстую бялізну.

- Калі можаш, прынось болей хлеба і варанай бульбы, - папрасіў неяк пры спатканні пробашч Лабан. Аказваецца, шчодрай рукой раздаваў ён гэтую ежу згаладалым нявольнікам у камерах.

… У дзень перад куццёй Генуэфа прыйшла ў турму пад самы вечар. Сустрэла намесніка начальніка турмы Паўлоўскага. Той, мясцовы чалавек, няблага ставіўся да ксяндзоў.

- Што прынесла ў святы вечар гаспадарам? - зачапіў пытаннем Генуэфу.

Тая кінулася да яго:

- Паночак, пусці маіх ксяндзоў на Вігілію дахаты. Яны не ўцякуць. Калі патрэбна, дык я застануся ў турме закладніцай.

- Ты з глузду з'ехала? - адмахнуўся Паўлоўскі.

Але Генуэфа так упрошвала, што згадзіўся паклікаць начальніка турмы. Жанчына на каленях пачала маліць немца аб спагадлівасці да ксяндзоў. І той, на дзіва, злітаваўся, не патрабуючы ніякіх закладнікаў, дазволіў двум ксяндзам (а іх з усёй акругі дзевяць пакутавала ў турме) выйсці на волю ў святую ноч.

Вячэру слабадскія ксяндзы Вінцэнт Лабан і Люцыян Мрачкоўскі елі дома. Схадзілі ў касцёл, памаліліся. А пачало святлець на вуліцы - накіраваліся да турмы. Далажылі начальніку, што з'явіліся.

- Навошта прыйшлі? Хіба на тое я вас адпускаў, каб вы вярнуліся зноў? - спытаў немец.

- Не можам інакш, - адказалі тыя. - Што падумаюць пра нас іншыя ксяндзы? Ды і людзі палічаць за здраднікаў. Пакутаваць будзем разам.

## У Кашаровым лесе

10 сакавіка 1943 года пакунак з ежай Генуэфе вярнулі назад. Жанчына хацела ісці на станцыю, мяркуючы, што яе гаспадароў павязуць у іншае месца, але сустрэла па дарозе паліцая Сцепанюка. І той расказаў Генуэфе, што айцы расстраляны. Жанчына ад такой весткі ледзь не страціла прытомнасць. Што рабіць? Куды кідацца? Нейкае пачуццё падштурхоўвала яе ў кашаровы лес, дзе фашысты забівалі людзей. Абышла бліжэйшыя ад лесу хаты. Жанчыны з вуліцы Кашаровай (зараз Чырвонаармейская) пацвердзілі, што зранку "на Кашары" праехала машына, абцягнутая брызентам, у якой сядзелі людзі ў сутанах. Некаторыя жыхары лідскай ускраіны - Пескаў - бачылі, як машына праехала назад ужо полем і з борта яе матляхаліся рукавы чорнага ксяндзоўскага адзення. Тады Генуэфа рушыла проста ў лес. Хоць быў яшчэ сакавік, снег сышоў даўно. Першую яму, якую ўбачыла, нават пакрапаў дождж. Здагадалася: значыць, тут захаваны яўрэі, па чутках, расстраляныя тры дні назад. Пайшла далей і метраў за трыццаць ад дарогі наткнулася на свежую яму. Побач - лужына запечанай крыві. Зняла з галавы хустку і сабрала ў яе зямлю, перамешаную з крывёю, каб потым пахаваць ля касцёла, а месца пазначыла, абламаўшы ядловец.

## Трэба ячмень жаць

Думкі, як перахаваць ксяндзоў па-людску, ні на хвіліну не пакідалі Генуэфу. Прыходзілі ці то сны, ці то трызненні.

… Адчыняюцца дзверы ў плябані і заходзіць пробашч Лабан. "Ты пробашчанька?" - "Я". - "Адкуль?" - "З Кашаровага лесу". - "А ты што, Генуэфа, дамоў сабралася?" - "Дамоў". - "А ці ведаеш ты, што ў полі наш ячмень паспеў? Трэба пажаць, у снапы звязаць, на месца пакласці". - "А я, пробашчанька, пра гэта і думаю".

Потым, здаецца, жне яна ячмень, а там куст ядлоўцу. Нахіляецца над ім: гняздо перапёлак-шарачкоў, дзюбы паадкрывалі. Хацела ўзяць дваіх. І раптам з'яўляецца чалавек, увесь у чорным, але з вельмі прыемным тварам. Кажа: "Не руш. Хай сядзяць да часу. І як забярэш - дык усё гняздо..."

Па дапамогу Генуэфа накіравалася да служкі слабадскога касцёла Ежы Маркевіча, а таксама набожнай сям'і Марыі і Антона Ухтаў з вёскі Дайнава. Яны згадзіліся, што перахоўваць ксяндзоў трэба. Падрыхтоўка вялася ў самай строгай тайне: за гэта немцы маглі расстраляць. Сын Ухтаў Донек зрабіў дзве труны. Бо меркавалася дастаць толькі слабадскіх ксяндзоў. Марыя Ухта дала матэрыял абабіць труну і зрабіла падушачкі.

У кашаровы лес паехалі глыбокай ноччу. Антон Ухта, Донек Ухта, Ежы Маркевіч, сама Генуэфа і двое дайноўскіх мужчын - Пятрук Кодзік і Альфонс Янцэвіч. Колы падводы абкруцілі анучамі, каб не бразгаталі па каранях.

Дабраліся да месца, Генуэфа пайшла наперад праверыць, ці ўсё спакойна. Абышла вал - ціха. Знайшла яму і паклікала мужчын:

- Капайце.

Знялі літаральна метр зямлі і пры святле адзінага ліхтара разгледзелі першага нябожчыка. Але раптам цішыню неба разрэзаў гул матораў самалётаў. Ад выбухаў задрыжэла ўсё навокал. Пачалася страляніна, чутно было, як немцы павыскоквалі з казармаў вайсковай часткі. Мужчыны, схапіўшы лапаты, прысыпалі яму і кінуліся да падводы, амаль цягнучы за сабой Генуэфу:

- Не галасі ты, Бог дасць, яшчэ вернемся сюды.

Другая спроба адкапаць забітых была зроблена дзесьці ў сярэдзіне красавіка. Не расказаць, колькі Генуэфа перахвалявалася, праліла слёз і абышла надзейных богапаслушных мясцовых мужчын, агітуючы на дапамогу. Ды згадзіліся зноў толькі Ухты і Маркевіч, а астатнюю сілу знайшла ў вёсцы Бельскія, звяр-

нуўшыся да Ваўжынца Карэйвы. Яму не адмовілі трое хлопцаў-сяброў: Станіслаў Карэйва, Юзаф Лапко і Станіслаў Буткевіч. Зноў капалі пры святле ліхтара. На гэты раз вельмі хутка і спорна. Дасталі Вінцэнта Лабана і Люцыяна Мрачкоўскага. Ваўжынец, зняўшы бурку, паклаў пад галавы нябожчыкам, каб не так трэсла па дарозе. Прывезлі да Ухтаў. Абмылі, апранулі і пахавалі ў садзе блізка ля хаты. Закончылі - якраз пачаў займацца дзень. Над магілай на дрэве закукавала зязюлька.

Праз тыдзень тым жа гуртам паехалі даставаць астатніх ксяндзоў. Грошы на тое, каб зрабіць труны, купіць матэрыял, адзенне і на іншыя расходы, даў дэкан Баярунец. І не толькі таму, што расстраляны быў яго вікары з фарнага касцёла Стэфан Снягоцкі, але і таму, што пакідаць астатніх божых служкаў у яме было грахом.

Дваіх ксяндзоў яшчэ пахавалі каля хаты Ухтаў, астатнія пяць трунаў закапалі ў лесе, блізка каля гарадзенскай шашы.

## Хай спачываюць у цішы







*Помнік ксяндзам на Слабадскіх могілках*

Прайшлі гады. Генуэфа Казакевіч служыла ў іншых ксяндзоў, потым працавала ў калгасе. Але ўвесь час і ў святы, і ў вольныя хвіліны будняў наведвалася да тых месц, дзе былі пахаваны святары. Прыбірала магілы. Дарэчы, сям'я Ухтаў пасля вайны выехала ў Польшчу.

Ужо ў 1960 годзе Казакевіч даведалася, што дайнаўскія і цыбарскія вернікі напісалі ў Лідскі райвыканкам просьбу аб перазахаванні забітых ксяндзоў на Слабадскіх могілках, не паставіўшы сваіх подпісаў, а толькі ўказаўшы, што агітаваў іх напісаць гэта пісьмо белагрудскі ксёндз. Прадстаўнікі райвыканкама ездзілі ў вёскі шукаць аўтараў. Але не знайшлі. Вакол перазахавання пачалі хадзіць усялякія плёткі і непрыемныя чуткі. І тады Генуэфа смела пайшла ў райвыканкам. Пераадолеўшы заслону наведвальнікаў з заявамі выпісаць шыфер, дрэва на дом, зайшла ў кабінет да старшыні. Расказала ўсё чэсна, без утайкі, як былі арыштаваны ксяндзы, расстраляны, як і кім пахаваны. І старшыня, выслухаўшы, зразумеў па-чалавечы, даў згоду на перазахаванне, нават падказаў, што для парэшткаў неабходна

зрабіць новую труну, бо старыя, пэўна, ужо спарахнелі.

Па падмогу Генуэфа Казакевіч звярнулася да жыхароў Дайнавы. Вернікі сабралі грошы на расходы, выдзелілі двух мужчын для работы па перазахаванні.

30 кастрычніка 1960 года прах ксяндзоў быў перавезены на могілкі на Слабадзе. На свежым насыпе Генуэфа паставіла невялічкі сціплы крыжык. Гэта ўжо потым ксяндзы з акругі, узяўшы ініцыятыву ў свае рукі, паставілі на магіле помнік з імёнамі расстраляных божых паслужнікаў.

## За лістом ліст на дол спадае

На дзіва, імкненне бабулі Казакевіч, пра якое яна казала мне: і пасля смерці быць бліжэй да тых, каму захоўвала вернасць, - спраўдзілася. На Слабадскіх могілках я адшукала магілу старэнькай - дзякуючы яе пляменніцы Ядвізе Міхайлаўне Гербедзь з вёскі Астроўля. Ад месца, дзе пахаваны ксяндзы, яна знаходзіцца зусім блізка: напрасткі праз метраў дзесяць. Веру, што і душа Генуэфы Іванаўны знайшла спакой ля тых, да каго імкнулася.



*Ядвіга Міхайлаўна Гербедзь на магіле Генуэфы Казакевіч*





*Медаль "Таварыства аховы памяці бітваў і месц пахавання"*

А што засталося пасля бабулі Генуэфы на зямлі? На яе магілцы надмагільнік і сціплы металічны крыж. Іх устанавіла (дзякуй ёй за гэта) дачка пляменніцы, якая пражывае далёка ад Ліды. А вось помніка ці нават надпісу, што тут спачывае Генуэфа Казакевіч, на магіле няма.

Ядвіга Міхайлаўна паказала мне медаль з надпісам на польскай мове "Таварыства аховы памяці бітваў і месц пахавання", якім была ўганаравана бабуля Генуэфа, але даслалі яго дзесьці праз год, пасля таго, як яна памерла.

Жыхары вёскі Бельскія нагадалі мне шлях да дома, у якім жыла Генуэфа Казакевіч.

- Гэта тая, што ксяндзоў хавала? - перапытвалі.

Хатка старой, што стаіць на водшыбе, без гаспадарскага цяпла раскідалася. Вакол яе расправілі галіны старыя яблыні. Расквечаныя восенню лісты злятаюць з іх адзін за другім і кладуцца на дол. Сумна. Хаця, можа ўсё гэта і не так важна? Пасля Генуэфы Казакевіч засталося нешта большае.

**Людміла ПЕТРУЛЕВІЧ.**

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

***(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)***

## Парафія Ваверская

**1.**

**Касцёл парафіяльны ў вёсцы Вавёрка** знаходзіцца ў павеце і дэканаце Лідскім, вёскі і мейсцы, якія да гэтай парафіі належаць, выкладзены ніжэй паалфавіту.

**Абрамішкі** (Abramiszki), яснавяльможнага пана Валя, старасты Трыдэнскага, паміж летнім захадам і поўднем ад касцёла Ваверскага малая міля.

**Ажэлі** (Ozele), яснавяльможнага пана Александровіча, Лідскага маршалка, паміж поўднем і летнім захадам міля.

**Баранаўцы** (Baranowce), таго ж яснавяльможнага васпанства Валяў, паміж летнім поўднем і зімовым захадам палова чвэрці мілі.

**Бернатаўшчына** (Bernatowszczyzna), ці **Татарышкі** яснавяльможнага пана Руцкога, на летні захад спорая міля.

**Багданаўшчына** (Bohdanowszczyzna), яснавяльможнага пана Вільканца, рэгента гродскага і земскага Лідскага, паміж поўднем і захадам летнім чвэрць мілі.

**Бярозаўка** (Brzozowka), яснавяльможнага пана Александровіча, маршалка Лідскага павета, паміж поўднем і летнім захадам лёгкая міля.

**Бярозаўка** (Brzozowka), яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана ВКЛ, дзе так сама знаходзіцца адзін падданы яснавяльможнага пана Ступальскага, пісара гродскага Лідскага павета, паміж поўднем і захадам лёгкая міля.

**Вавёрка** (Wawiorka), вёска ў якой парафіяльны касцёл, ад якога вядзецца апісанне ўсёй парафіі, сама вёска належыць плябані.

**Вавёрка** (Wawiorka), двор яснавяльможнага пана Валя, на летні поўдзень палова чвэрці мілі.

**Вадэйкі** (Wodejki), яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усаркага, на летні поўдзень міля.

**Верхвавёрка** (Wierzchwawiorka), яснавяльможнага васпанства Шалевічаў, рэгентаў, паміж поўднем і летнім захадам тры чвэрці мілі.

**Верхвавёрк**а (Wierzchwawiorka), васпанства Сумарокаў, паміж поўднем і летнім захадам тры чвэрці мілі.

**Верхвавёрка** (Wierzchwawiorka), васпана Урублеўскага, Лідскага скарбніка, паміж поўднем і летнім захадам чвэрць мілі.

**Вінчы Вялікія** (Wincze Wielkie), ваколіца markнай шляхты, так сама паміж летнім захадам і поўднем міля.

**Вінчы Малыя** (Wincze Male), ваколіца markнай шляхты, паміж летнім захадам і поўднем чвэрць мілі.

**Гайкаўшчына** (Hajkowszczyzna), фальварак яснавяльможнай пані Гарваскай, палкоўнікавай Яго Каралеўскай Мосці, паміж усходам і зімовым захадам адна міля.

**Гаранцы** (Garance), яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усаркага, на летні захад адна міля.

**Гердзеўцы** (Gierdziowce), яснавяльможнага пана Валя, паміж усходам і зімовым захадам палова мілі.

**Драгуці** (Dragucie), яснавяльможнага пана Гаўрыновіча, старасты Тургелянскага, паміж усходам і зімовым захадам тры чвэрці мілі.

**Дзітва Тальвашоўская** (Dzitwa Talwoszowska), фальварак яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага, на летні поўдзень адна міля.

**Дзітва** (Dzitwa), двор таго ж яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага, на летні поўдзень адна міля.

**Дзітва** (Dzitwa), двор яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усаркага, паміж поўднем і летнім захадам адна міля.

**Заляшаны** (Zaleszany), яснавяльможнага пана Пацея, старасты Рагачоўскага, паміж поўднем і зімовым захадам адна міля.

**Запруданы** (Zaprudzie), яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана ВКЛ, на летні поўдзень спорая міля.

**Зенявічы** (Zieniewicze), васпанства Шалевічаў, паміж поўднем і летнім захадам палова мілі.

**Каспяроўшчына** (Kasperowszczyzna), яснавяльможнага пана Ступальскага, пісара гродскага Лідскага павета, паміж поўднем і летнім захадам лёгкая міля.

**Катовічы** (Katowicze), таго ж яснавяльможнага пана, старасты Рагачоўскага, паміж поўднем і зімовым захадам адна вялікая міля.

**Келмуці** (Kielmucie), яснавяльможнага пана Валя, паміж поўднем і летнім захадам адна міля.

**Кошыцы** (Koszyce), яснавяльможнай пані Пяровай, старасцянкі Абелінскай, паміж усходам і зімовым захадам тры чвэрці мілі.

**Круповічы** (Krupowicze), ваколіца васпанства Круповічаў і іншых, паміж усходам і зімовым поўднем адна міля.

**Кубельчыкі** (Kybielczyki), яснавяльможнага пана Пацея, старасты Рагачоўскага, паміж поўднем і зімовым захадам адна міля.

**Кулдзюкі** (Kuldziuki), яснавяльможнага пана Александровіча, Кідскага маршалка, паміж поўднем і летнім захадам адна спорая міля.

**Лябёдка** (Lebiodka), яснавяльможнага пана Пацея, старасты Рагачоўскага, паміж паміж поўднем і зімовым захадам адна міля.

**Лябёдка** (Lebiodka), яснавяльможнай пані Пяровай, старасцянкі Абелінскай, паміж поўднем і зімовым захадам тры чвэрці мілі.

**Лябёдка** (Lebiodka), яснавяльможнага пана Гаўрыновіча, старасты Тургелянскага, паміж поўднем і зімовым захадам адна міля.

**Лябёдка** (Lebiodka), васпанаў Тукалаў, паміж поўднем і зімовым захадам адна міля.

**Мантуны** (Mantuny), яснавяльможнага пана Рагачэўскага, паміж поўднем і зімовым захадам, міля.

**Маркуці** (Markucie), васпанства Сумарокаў, паміж поўднем і летнім захадам, палова мілі.

**Мікуты** (Mikuty), яснавяльможных паноў Шалевічаў, рэгентаў, у кірунку летняга поўдня палова мілі.

**Місявічы** (Misiewicze), з капліцай (належнай да Ваверскага касцёла - *Л.Л.*) яснавяльможнага пана Гаўрыновіча, паміж поўднем і летнім захадам міля.

**Місявічы** (Misiewicze), яснавяльможнага пана Гаўрыновіча Нарбута, паручніка нацыянальнай брыгады, паміж поўднем і летнім захадам міля.

**Мыто** (Myto), мястэчка і руская (уніяцкая - *Л.Л.*) царква васпана Паца, старасты Вілейскага, паміж усходам і летнім поўднем міля.

**Навасёлкі** (Nowosiolki), яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага, паміж поўднем і летнім захадам палова мілі.

**Нядзелькі** (Niedzielki), яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана ВКЛ (уладальніка Гародна - *Л.Л.*), паміж поўднем і летнім захадам, палова мілі.

**Пашкі** (Paszki), яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усаркага, паміж летнім поўднем і захадам пяць чацвёртых мілі.

**Пеляса** (Pielasa), двор таго ж яснавяльможнага маршалка Лідскага, паміж поўднем і летнім захадам адна спорая міля.

**Пеляса** (Pielasa), фальварак яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана ВКЛ, паміж поўднем і летнім захадам адна спорая міля.

**Пукялёўцы** (Pukielowce), таго ж яснавяльможнага польнага гетмана, паміж поўднем і летнім захадам добрая міля.

**Радзівілаўцы** (Radziwilowce), ваколіца шляхецкая рознай шляхты, на поўдзень палова мілі.

**Рулявічы** (Rulewicze), яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усаркага, паміж поўднем і летнім захадам міля.

**Серафіны** (Serafimy), яснавяльможнай пані Кастравіцкай, пісаравай гродскай Лідскай, на зімовы поўдзень спорай палова мілі.

**Смалякі** (Smolaki), таго ж пана Валя, на летні поўдзень чвэрць мілі.

**Станкялішкі** (Stankieliszki), ваколіца васпанства Бярнацкіх, на поўдзень тры чвэрці мілі.

**Сямёнкі** (Siemionki), васпана Шышкі, старасты Лавецкага, на летні поўдзень палова чвэрці мілі.

**Сясюлькі** (Siesiulki), ваколіца васпанства Рэксцяў, паміж поўднем і летнім захадам добрая палова мілі.

**Шаркіны** (Szarkinie), яснавяльможнага пана Валя, на зімовы поўдзень чвэрць мілі.

**Шымчукі** (Szymczuki), васпанства Тукалаў, паміж поўднем і зімовым захадам міля.

**2.**

**Ад касцёла парафіяльнага, суседнія касцёлы:**

**Лідскі** касцёл парафіяльны ў старостве яснавяльможнага пана дэль Кампа Сцыпіёна, падстолія Літоўскага, ляжыць паміж летнім усходам і поўначчу праз тры мілі.

**Радунскі** касцёл парафіяльны у тым жа павеце і дэканаце Лідскім, у старостве яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана ВКЛ, на летні захад сонца праз чатыры вялікія мілі.

**Васілішскі** касцёл парафіяльны, у тым жа павеце і дэканаце Лідскім, у старостве яснавяльможнага пана Александровіча, палкоўніка Яго Каралеўскай Мосці, старасты Васілішскага, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам праз паўтары мілі.

**Забалацкі** касцёл парафіяльны, у тым жа павеце і дэканаце Лідскім, на землях яснавяльможнага пана Тышкевіча, польнага гетмана ВКЛ, ляжыць на летнім захадзе праз паўтары мілі.

**3.**

**Значнейшыя гарады каля парафіяльнага касцёла:**

**Ліда**, судовы горад (дзе знаходзіцца, бачна вышэй).

**Васілішкі**, гандлёвае мястэчка, ляжыць паміж поўднем і зімовым захадам.

**4.**

Дарога з Вавёркі ад касцёла ідзе да Мыто, за грэбляй Мытлянскай разгаліноўваецца: улева на Вільню, управа на Ліду, дарога на Ліду сухая, трохі пясчаная і камяністая.

Дарога з другога боку касцёла ідзе да Радуні, месцамі сухая, месцамі балоцістая.

Дарога ад касцёла да Васілішак месцамі гарыстая, камяністая, увесну балоцістая.

З Вавёркі да Ліды ўлетку чатыры гадзіны язды, узімку тры.

З Вавёркі да Радуні ўлетку язды сем гадзін, узімку пяць.

З Вавёркі да Васілішак улетку язды дзве гадзіны, узімку паўтары.

**5.**

У парафіі азёраў няма.

Багна ёсць невялікая ў Місявічах, увесну па ёй цяжка праехаць, такія ж пад Вавёркай і Кошыцамі, але даўжэйшыя за першую, можа, на дзве стаі і шырэйшыя на адну.

Балоты найзначнейшыя каля рэчкі Дзітвы, пачаўшы ад Дзітваў яснавельможнага пана Паца, старасты Вілейскага, цягнуцца каля ракі Дзітвы аж да мяжы парафіі Радунскай і Забалацкай, даўжынёй, можа з дзве мілі, аднак тыя балоты знаходзяцца ва ўжытку, на іх косяць розныя іхмосці паны парафіяне і іх мужыкі, шмат адтуль сена маюць.

Ставаў чатыры. Першы вялікі стаў на рацэ **Абелінка**, яснавяльможнай Пяровай, старасцянкі Абелінскай, пачынаецца ад **Лябёдкі Пацееўскай** з крыніцаў на захад ад плябаніі паўтары мілі. Другі малы стаў васпана Гаўрыновіча, старасты Юргелянскага, на той жа рацэ. Трэці стаў выкапаны на балоце, яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага. Чатвёрты, малы стаў у **Лябёдцы Пацееўскай**, пачынаецца з крыніц.

**6.**

У парафіі болей адкрытага поля чым лесу. Аднак ёсць малы бор і іншыя зараслі яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усарскага, пад назвай **Ваўкелі**, плошчай можа моргаў з дваццаць ці трыццаць. Другі малы бор яснавяльможнага пана Гаўрыновіча, старасты Юргелянскага, мае назву **Дайнава**, у якім маюць гонар бываць васпанства Валі, можа мае плошчу моргаў восем.

У тых двух лясках расце сасна здатная для будоўлі, але яе няшмат. У іншых зараслях гэтай парафіі расце вольха, асіна, невысокі дуб, такіх зарасляў можа будзе некалькі моргаў.

**7.**

**Млыны ў парафіі знаходзяцца:**

Млын яснавяльможнай пані Пяровай, старасціны Абелінскай, на рацэ Лябёдцы.

Млын васпана Гаўрыновіча, старасты Юргелянскага на той жа рацэ.

Млын яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага на яго зямлі ў Дзітве.

Млын таго ж яснавяльможнага пана на яго зямлі ў Мыто на рацэ Дзітва.

Млын яснавяльможнага пана Пацея ў Лябёдцы.

Млын ветраны яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усарскага на яго зямлі ў Дзітве.

Іншых машын як вадзяных, так ветраных у парафіі Ваверскай няма, старажытных рэчаў няма, рэчаў цікавых з боку гледжання натуральнай гісторыі няма.

**8.**

**Партыкулярныя дарогі і публічныя тракты згодна з даўжынёй:**

Дарога, выехаўшы з Вавёркі, управа ідзе партыкулярная дарога да Дзітвы яснавяльможнага пана Расадоўскага, харунжага Усарскага, узімку гэтая ж дарога ідзе ў Ліду, у левы бок ідзе другая дарога да Ліды і да Вільні, яна праходзіць каля вёскі Красноўцы, далей да карчмы ў Мыто і праз мястэчка да грэблі парома Мытлянскага, за грэбляй, каля крыжа падзяляецца: улева на Вільню, управа да Ліды, і тут мяжа парафіі Ваверскай.

Дарога прама каля Ваверскай плябанскай карчмы ідзе да Місевічаў, адтуль падзяляецца: да Праважы, да Радуні, да Алькенік, у Місевічах мяжа парафіі.




**Парафія Ваверская і Дылеўская**

Дарога Васілішская, дзе ёсць ганлёвае мястэчка і касцёл парафіяльны, выехаўшы з Ваверкі, дарога ідзе крута ўправа на каменны мост праз вёскі Шаркіны, Кошыцы, каля двара Лябёдка ідзе прама да карчмы і вёскі Дзягцяры, па рэчцы Лебяда праходзіць мяжа парафій Ваверская і Васілішскай.

З вёскі Вавёрка выехаўшы, каля садоў той жа вёскі дарога ідзе да Сімакоўшчыны і Дылева, як яна ідзе далей, будзе ў апісанні парафіі Дылеўскай.

Акрамя дарожак, іншых дарог і партыкулярных трактаў няма.

Парафія Ваверская не мяжуе з іншымі ваяводствамі і паветамі, цалкам ляжыць у Лідскім павеце.

Гэтае апісанне парафіі Ваверскай уласнаручна падпісаў **кс. Андрэй Паўлоўскі** D. L. P. W. i D.

## Парафія Дылеўская

Далучаная да Ваверскай праз яснавяльможнага біскупа Віленскага Абрахама Войны.

**1.**

**Касцёл Дылеўскі у вёсцы Дылева** знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце. Як філіяльны далучаны яснавяльможным біскупам Віленскім Абрахамам Войнай да Ваверскага касцёла, як з-за блізкасці ў чвэрць мілі, так і з-за старасці абодвух тых касцёлаў. Вёскі і мейсцы, якія да гэтага касцёла належаць выкладзены ніжэй па-алфавіту.

**Більтаўцы** (Biltowce), яснавяльможнага пана Леана Горскага, кашталяна Жмудскага, паміж усходам і зімовым поўднем, у вёсцы знаходзіцца больш жыхароў грэцкага абраду (уніятаў - *Л.Л.*), а католікаў мала, ад касцёла Дылеўскага адна міля.

**Губейкі** (Hubiejki), таго жа ягамосці, у тым жа кірунку міля.

**Даўгаполле** (Douhopole), яснавяльможнага пана Горскага, кашталяна Жмудскага, паміж усходам і летнім поўднем, дзе найболей вернікаў грэцкага абраду, адна міля.

**Дзмітраўцы** (Zmitrowce), яснавяльможнага пана кашталяна Жмудскага, паміж поўднем і зімовым захадам, дзе значная частка вёскі рускага абраду, адна міля.

**Дылева** (Dylew), у каторай знаходзіцца Дылеўскі касцёл, гэта кропка ад якой робіцца апісанне парафіі. Сама вёска належыць яснавяльможнаму пану Шышку, старасту Лавецкаму і яснавяльможнай пані Кастравіцкай, пісаравай гродскай Лідскага староства.

**Забялы** (Zabialy), таго ж ягамосці, паміж усходам і летнім поўднем, дзе больш русі, адна міля.

**Задворцы** (Zadworce), яснавяльможнага пана Касцялкоўскага, старасты Чатырскага, на летні ўсход, рускага абраду, адна міля.

**Занкевічы** (Zankiewicze), яснавяльможнага пана кашталяна Жмудскага ў тым жа кірунку адна добрая міля.

**Ігнаткаўцы** (Ihnatkowce), таго жа ягамосці, паміж зімовым усходам і поўднем праз добрую мілю.

**Клімавічы** (Klimowicze), таго жа ягамосці, у тым жа кірунку міля.

**Касілаўцы** (Kosilowce), яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага, дзе ёсць і карчма, паміж усходам і летнім поўднем праз тры мілі.

**Лябёдка Трызнянска** (Lebiodka Tryznianska), двор яснавяльможнага пана Леана Горскага, кашталяна Жмудскага, паміж поўднем і захадам зімовым з царквой і мястэчкам, дзе католікаў мала, праз мілю.

**Манькаўцы** (Mankowce), яснавяльможнага пана Касакоўскага з царквой, карчмой, дзе найбольш ёсць русі (уніятаў - *Л.Л.*), паміж усходам і летнім поўднем летняя міля.

**Мацясы** (Maciasy), ваколіца васпанства Дзмітровічаў, паміж поўднем і летнім захадам палова летняй мілі.

**Мейры** (Mejry), яснавяльможнага пана Шышкі, старасты Лавецкага, часткова яснавяльможнай пані Кастравіцкай, пісаравай гродскай Лідскага староства, паміж усходам і летнім поўднем палова чвэрці лёгкай мілі.

**Паваргі** (Powargi), яснавяльможнага пана кашталяна Жмудскага, на зімовы поўдзень, дзе найболей русі, адна міля.

**Палуты** (Poluty), таго ж ягамосці, паміж усходам і летнім захадам, дзе найболей русі, палова мілі.

**Паперня** (Papiernia), двор і вёска яснавяльможнай пані Кастравіцкай, пісаравай гродскай Лідскай, паміж поўднем і летнім захадам чвэрць мілі.

**Пяхуры** (Piechury), яснавяльможнага пана Шышкі, старасты Лавецкага, на поўдні чвэрць мілі.

**Радзівонішкі** (Radziwoniszki), двор яснавяльможнага пана Касцялкоўскага, старасты Чатырскага, паміж усходам і летнім поўднем міля.

**Роўбы** (Rouby), ваколіцы васпанства Роўбаў, паміж поўднем і зімовым захадам лёгкая міля.

**Семякоўшчына** (Siemakowszczyzna), яснавяльможнага пана Шышкі, старасты Лавецкага, на летні поўдзень дваццаць стай.

**Станкевічы** (Stankiewicze), ваколіца васпанства Станкевічаў і іншых, паміж усходам і зімовым захадам паўтары мілі.

**Сямашкі** (Siemaszki), яснавяльможнага пана кашталяна Жмудскага, амаль што ўся вёска грэцкага абраду, паміж усходам і поўднем адна добрая міля.

**Халявы** (Cholewy), фальварак яснавяльможнага пана Леана Горскага, кашталяна Жмудскага, падобна знаходзіцца паміж усходам і зімовым поўднем праз адну мілю.

**Цвербуты** (Cwierbutty), яснавяльможнага пана Тадэвуша Касцялкоўскага, старасты Чатырскага, паміж усходам і летнім поўднем, гэтая вёска цалкам грэцкага абраду праз паўтары мілі.

**Чашэйкі** (Czeszejki), яснавяльможнага пана Шышкі, старасты Лавецкага, знаходзіцца паміж поўднем і летнім захадам праз чвэрць мілі.

2.

**Ад касцёла парафіяльнага, суседнія касцёлы:**

**Белагрудскі** касцёл парафіяльны ў тым жа павеце і дэканаце, на летні ўсход паўтары мілі.

**Ішчалнскі** касцёл парафіяльны ў тым жа павеце і дэканаце, на землях васпанства Валяў, на зімовы поўдзень дзве мілі.

**Няцецкі** касцёл парафіяльны ў тым жа павеце і дэканаце, паміж усходам і летнім поўднем, на землях яснавяльможных паноў Бабрымоўскіх, Лідскіх земскіх суддзяў, дзве мілі.

**Жалудоцкі** касцёл парафіяльны ў тым жа павеце і дэканаце, на землях яснавельможнага пана Тызенгаўза, старасты Пасольскага, паміж усходам і зімовым поўднем тры мілі.

3.

**Найбольш значныя мястэчкі каля парафіяльнага касцёла:**

**Беліца**, паміж усходам і летнім поўднем тры мілі.

**Жалудок**, паміж усходам і зімовым поўднем тры мілі.

4.

Дарога з Дылева да Беліцы, месцамі ўвесну і ўвосень балоцістая, пясчаная і крывая.

Дарога з Дылева да Жалудка гарыстая, месцамі камяністая, пясчаная і крывая.

З Дылева да Беліцы летняй і зімовай дарогай чатыры гадзіны язды.

З Дылева да Жалудка летняя дарога чатыры гадзіны, зімовая тры гадзіны язды.

5.

Азёраў і багнаў у парафіі няма.

Самае вялікае балота цягнецца ад самага Дылева да Паперні, ад Паперні да Лебяды і ваколіцы Роўбы, аднак выкарыстоўваецца ў гаспадарцы, двары і іх людзі там маюць сенакос.

Малы стаў яснавяльможнага пана Шышкі, старасты Лавецкага, на рачулцы Дылеўка, якая пачынаецца ад балот за Мейрамі на летні поўдзень ад плябані праз шэсць стаяў.

Стаў яснавяльможнай пані Кастравіцкай, пісаравай Лідскай гродскай, фармуецца з рэчак Дылеўкі і Вавёркі, ад плябані на зімовы поўдзень праз чвэрць мілі.

Стаў у мясцовасці Лебяда яснавяльможнага пана Горскага, кашталяна Жмудскага, у які упадае рэчка Лебяда, на якім ёсць паром, выгадны для плябані, праз спорую мілю на зімовы поўдзень.

Малы стаў у Радзівонішках яснавяльможнага пана Касцялкоўскага, старасты Чатырскага, у які ніводная рэчка не ўпадае, а толькі з балотаў і крыніц, на летні ўсход адна міля.

6.

Палёў болей, чым лясоў, аднак ад Паперні Кастравіцкіх калі ехаць да Васілішак, знаходзяцца адзін бярозавы лес, другі сасновы, аднак для будоўлі там годных дрэваў няма, тыя зараслі маюць плошчу можа трыццаць моргаў, ад плябані на летні поўдзень. У Лябёдцы кашталяна Жмудскага тры малыя сасновыя бары, у якіх можа трыццаць моргаў дрэва здатнага для будоўлі, ад плябані на зімовы ўсход. У Радзівонішках у маёмасці яснавяльможнага пана Касцялкоўскага, старасты Чатырскага, ёсць лес які называецца **Ханкавым**, у ім растуць елкі, дубы, лес можа ў дзве, можа болей валокі, дрэва здатнага для будоўлі няма, ад плябані на летні ўсход. Малады лес ва ўрочышчы **Шасцюрнік**, там ёсць сасна, належыць Найяснейшаму Князю ягомасцю Радзівілу, экс-падкамораму Літоўскаму, плошчай можа быць у валоку, ад плябані на поўнач. У зараслях на дзесяць моргаў ксендза-пробашча Ваверскага і Дылеўскага, якія называюцца **Борк** растуць сосны, месцамі дуб, да будоўлі дрэвы яшчэ няздатныя, ад касцёла Дылеўскага на летні ўсход. Астанія зараслі ў гэтай парафіі малыя, з ядлоўцу ці лазы.

7.

Млыноў тры: яснавяльможнага пана Шышкі, старасты Лавецкага, на рацэ Дылеўцы, яснавяльможнай пані Кастравіцкай на рэках Вавёрцы і Дылеўцы, яснавяльможнага пана Касцялкоўскага на балотах і крыніцах, як вышэй напісана ў раздзеле 6 пра ставы.

8.

**Дарогі партыкулярныя ў гэтай парафіі і публічныя тракты:**

Дарога, якая ідзе на летні ўсход з Вавёркі да Дылева, з Дылева да царквы і карчмы Радзівонішскай праз мілю, дзе заканчваецца Дылеўская парафія, і тут дарога падзяляецца на два тракты, адзін - управа, да Слоніма, другі - да Наваградка.

Дарога на зімовы поўдзень да Васілішак, адтуль да Гародні, з таго месца, дзе заканчваецца парафія Дылеўская, на поўнач адыходзіць дарога праз Мейры да Мыто яснавяльможнага пана Паца, старасты Вілейскага, з таго ж месца ёсць санная дарога з Мыта да Дылева, тут жа праходзіць публічны тракт з Вільні да Гародні.

Тракт публічны праз Паперню з Гародні на Вільню, на летні ўсход ад Дылева.

З Дылева так сама партыкулярная дарога да Лебяды яснавяльможнага пана кашталяна Жмудскага, іншыя дарожкі вядуць да зарасляў і сенажацяў і тут не апісваюцца.

Такое апісанне парафіі маёй Дылеўскай подпісам уласнай рукі падцвярждаю **кс. Андрэй Паўлоўскі** D. L. P. W. i D.

*(Пераклад Леаніда Лаўрэша.)*

***Леанід Лаўрэш***

# Лідскія касцёлы

## Фарны касцёл, касцёл Піяраў, Кармеліцкі касцёл

Расейскі афіцэр В. Любарскі, які перад паўстаннем у 1862 г. служыў у Лідзе, у сваіх мемуарах пісаў пра тры лідскія касцёлы: *"У Лідзе, якая налічвала ў той час дзве з невялікім тысячы жыхароў, былі тры велічэзныя мураваныя касцёлы выдатнай архітэктуры, якія высока і ганарліва ўздымалі да неба свае прыгожыя шпіцы. Адзін з іх стаяў пусты, за непатрэбнасцю, бо вернікаў на ўсе касцёлы бракавала"*[1]. Пустымі стаялі два з трох: касцёл кляштара Піяраў пасля пажару 1842 г. і касцёл Кармеліцкага кляштара, зачынены пасля паўстання 1831 г. і перададзены спачатку ўніятам, а пасля ліквідацыі уніі, стаўшы праваслаўным. Пра гісторыю трох лідскіх касцёлаў і будзе гэты артыкул.

Гісторыя Ліды сягае ў глыб стагоддзяў. Звесткі пра час узнікнення Ліды супярэчлівыя. Тодар Нарбут пісаў у сваёй "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" аб княстве Дайнава і заснаванні Ліды ў 1180 г.[2] Найбольш праўдападобнай датай з'яўляецца 1323 г. - пачатак будаўніцтва вялікім князем ВКЛ Гедымінам (1316-1341 г.) Лідскага замка, вакол якога паступова вырас горад[3]. На працягу 1323-1328 г. Гедымін пабудаваў каля балцкага паселішча Ліда, заснаванага паміж X-XII ст., магутны мураваны замак з сотняй байніц і чатырохпавярховай вежай. З 30-х г. XIV ст. Ліда пачынае фігураваць у кантэксце розных падзей на старонках летапісаў і хронік Вялікага Княства Літоўскага[4]. Такім чынам, Ліда ўпершыню згадваецца ў адзін год са сталіцай дзяржавы Вільняй, і большасцю яе насельнікаў былі язычнікі.

Каля магутнага замка расце горад, і ў ім паступова распаўсюджваецца хрысціянства. У першай палове XIV ст. горад, у першую чаргу дзякуючы замку, з'яўляўся адным з рэгіянальных ваенна-адміністрацыйных цэнтраў ВКЛ. Ліда становіцца цэнтрам намесніцтва, вядомага з 1382 г., а потым і павета ў складзе Віленскага ваяводства. Павет меў сваю харугву чырвонага колеру з выявай Пагоні[5]. Пасля Крэўскай уніі 1385 г. Ліда аказалася важным, бліжэйшым да Вільні населеным пунктам, каля якога ляжаў шлях ад сталіцы ВКЛ да польскай сталіцы Кракава. Такое геаграфічнае размяшчэнне Ліды, разам з наяўнасцю добра ўмацаванага і да таго ж досыць камфартабельнага замкавага комплексу еўрапейскага тыпу, зрабіла горад месцам прыпынку Ягайлы ў яго частых паездках. Тут адбываліся важныя для абедзвюх дзяржаў сустрэчы, перамовы, урачыстасці[6]. Усё гэта вабіла ў Ліду і хрысціянскіх місіянераў з захаду.

Пачатак каталіцтва ў Лідзе адносіцца да часоў княжання Альгерда. Адзін з літоўскіх вяльможаў, Гаштольд, прыняўшы рыма-каталіцкую веру, узяў пад сваё заступніцтва манахаў ордэна Св. Францішка і пабудаваў для іх манастыр ў Вільні[7]. У 1366 г. тры францішканцы прыбылі ў ВКЛ з Польшчы, каб распаўсюджваць тут хрысціянскую веру, і пасяліліся ў Лідзе. Праз тры гады місіянераў забілі паганцы. Але новыя браты-францішканцы прыйшлі ў Ліду. Над магілай сваіх папярэднікаў яны пабудавалі капліцу, пры якой і пасяліліся. Лідскім старастам тады быў хрысціянін Даўгерд. У 1376 г. колькасць місіянераў павялічылася да 9 манахаў. Крыніцы паведамляюць, што яны прывезлі з сабой з Візны абраз Маці Божай[8]. Але ж вядома, што ў Візне ніколі не было францішканцаў, а ў той час не было нават касцёла, каталіцкая парафія там з'явілася толькі ў 1390 г.[9] Такім чынам, з 1360-х г. у Лідзе існавала францішканская місія. Горад згадваецца ў фундушавым дакуменце 1397 г., дадзеным францішканцам[10].

Новы этап хрысціянскай гісторыі Лідчыны

[1] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 823.

[2] Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1.

[3] Коўкель І. Ліда // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 4. Мінск, 1997. С. 362.

[4] Марозава С. В. Ліда на старонках летапісаў і хронік Вялікага княства Літоўскага // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі. - Ліда, 2009. С. 8.

[5] Насевіч В. Лідскі павет // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 198-199.

[6] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 196.

[7] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[8] Zmicorodzki J. Nowogrodek i okolice. Nowogrodek, 1931. S. 59.

[9] Pyzel K. Kosciol parafialny p. w. Podwyzszenia krzyza sw. w Lidzie . Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Tom 2, czasc III. Krakow, 2008. S. 98.

[10] Тамсама. S. 93.

пачынаецца з заключэння ў 1385 г. Крэўскай уніі. Ёсць звесткі, што ў горадзе адбылася выдача дзяржаўных грамат, звязаных з хрышчэннем Літвы[11]. У 1387 г. была створана Віленская рымска-каталіцкая епархія. Ва ўласнасць епархіі вялікі князь перадаў воласць Дуброўня каля Ліды[12].

У 1387 г. Ягайла заклаў у Лідзе адзін з першых касцёлаў у ВКЛ. Ён перадаў яму вёску, якая зараз называецца Плябанцы, і даход з нейкай іншай воласці. Так сама Ягайла надаў зямлю "на 6 сох", 3 пляцы, лугі і корчмы, дзесяціну з усёй каралеўскай маёмасці ў Лідскім павеце і 6 рублёў. Гэты фундуш быў пацверджаны 7 ліпеня 1616 г. каралём Жыгімонтам III[13]. Касцёл знаходзіўся на падзамчы і згарэў у 1392 г. пры нападзе крыжакоў. У 1397 г. быў пабудаваны новы касцёл. Яго асвяціў віленскі біскуп Андрэй, які зноў адкрыў пры касцёле францішканскую місію, бо ранейшыя місіянеры гэтага ордэна былі хутчэй за ўсё забітыя або выгнаныя падчас нападу крыжакоў на Ліду ў 1394 г. І гэты касцёл згарэў у 1406 г. У 1414 г. ён быў узноўлены як парафіяльны і пасвечаны пад назвай "Найсвяцейшай Дзевы Марыі Панны, Усіх Святых".

Фрагмент прывілею касцёлу, дадзены Ягайлам, бярог сярод іншых дакументаў Лідскі пробашч. У дадатку да пятага тома "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" Т. Нарбут змясціў тэкст гэтага прывілею, а таксама спіс пробашчаў Лідскага касцёла[14].

У Метрыцы ВКЛ Лідскі касцёл згадваецца ў 1516 г. з-за таго, што намеснік Лідскага дзяржаўцы Юрыя Ільініча не аддаў арыштавана слугу гетмана Канстанціна Астрожскага калі "тотъ нятецъ самъ прибегъ на цвинтаръ и въ костелъ Лидски' на кони звязанъ, и ноги подъ конь окованы"[15].

Пад час спусташальнай вайны 1654-1663 г.г. горад быў цалкам знішчаны. У тэксце візітацыі касцёлаў Віленскай дыецэзіі ў 1674 г. біскупам-суфраганам Мікалаем Слупскім, пра Лідскі касцёл зроблены наступны запіс: *"Касцёл новазбудаваны, драўляны, пабудаваны коштам мясцовага дэкана, ксяндза Ігната Рэберта, асвечаны пад час знаходжання візітатара"*[16]. З дрэва гэтага касцёла потым была пабудавана ўніяцкая царква Ўваскрасення Гасподняга.

Пры касцёле былі капліцы: у Чэхаўцах, Перапечыцы, на гарадскіх могілках (Св. Барбары, пабудавана ў 1805 г.,), у Востраве (на свае сродкі фундаваў Тадэвуш Нарбут[17], ліквідавана ў 1866 г.) і філіяльны касцёл у Кір'янаўцах (фундаваны ў 1602 г. Марцінам Курчам, ліквідаваны ў 1866 г.). Як філіяльны, у 1460 г. Ганнай Давойнай быў фундаваны касцёл у Крупаве[18].

**Фарны касцёл**

У другой палове XVIII ст. у Лідзе, верагодна па праекту віленскага архітэктара Глаўбіца, з цэглы ў стылі барока быў пабудаваны Фарны касцёл Узвіжання Святога Крыжа, які дзейнічае да нашага часу[19].

Будаўніцтва новага, мураванага, касцёла пачалася ў 1765 г. і было скончана ў 1770 г. стараннямі

[11] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 196.

[12] Насевіч В. Віленская рымска-каталіцкая епархія // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 1. Мінск, 2007. С. 417.

[13] Kurczewskie Jan. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 208.

[14] Баравы Р. Ліда // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 197; Гісторыя Беларусі: у 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2008. С. 233; Narbutt T. Cokolwiek z historyi miasta Lidy // Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T. 5. Wilno, 1839. Dodatek I. S. 1. (In nomine Dni Amen. Vladislaus dei gratie Rex polonie lituanieque Princeps supremus e. t. c. Heres mie e. t. c. Ad perpctuam rei memoriam. Quamquam ex suscepli cura Regiminis universorum nostrorum Regimini subditoruM utilitale tenemur ad ea tanien que diuini cultui administracionem decus ac gloriam ac statum felicem et quietem, ac virium firmitatem Ministrorum Omnipotentis conspiciunt, tanio dignius intendimus quantum pro ceteris mundi Principibus nomen Regale solum magniricencie extollit et mirabilius universorum prouidencie creatoris con-sideranles sane Omnipotenlis inimensam clemenciam qua nos ovem pridem perditam ad Begales dignitates solium Clementissimi sublimauit, volentesque tanquam fidelis commissorum gubernator pro infinibis heneficiis aliquibus licet tamen exilio meritis obuiare. Ecclesiam vetere nostre fundacionis olim pp. cc. ord. s. Francisci Apostolis Lituanie cominendandam in opido nostro Lida nunc de nouo conslructam et ad honorem Omnipotentis Dei Gloriosissime Virginis Marie Omnium Sanctorum specialiler Sancti Crucis...... dicalum......dotauirnus bonis prouenlibus et utilitatibus ut in nostris literis ........clare nitilur confirmamus et incorporamus donamus et appropriamus Lidensem..........Dougirdi........ommos thelonis vulgariter. На абаротным баку стаяла дата даданая потым: A. Domini M. CCC. XIIII. Feria iijj. in hebd. Pentecost... У імя Бога, аман. Уладзіслаў Кароль Божай міласцю Польшчы, вялікі князь Літоўскі... і г.д..... На вечную памяць... Касцёл нашай старой фундацыі ордэна Святога Францішка, Апостала Літвы, заснаваны раней у нашым горадзе Ліда, зараз нанава збудаваны і названы ў гонар Усіх Святых, асабліва Святога Крыжа, мы надзяляем маёмасцю і прывілеямі...).

[15] Археографическая комиссия. Русская историческая библиотека Том 20. Литовская метрика. Т. 1. Петербург, 1903. С. 920-922.

[16] Kurczewskie Jan. Stan kosciolow parafialnych w djecezji wilenskiej po najaciu nieprzyjacielskiem 1655-1661 r. // Litwa i Rus. Luty, 1912. T.1. Zeszut II. S. 122.

[17] Kurczewski J. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 486.

[18] Kurczewski J. Biskupstwo Wilenskie. Wilno, 1912. S. 209.

[19] Кулагін А. М. Каталіцкія храмы на Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 2000. С. 86; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S.107-109.

Віленскага суфрагана (вікарнага біскупа) Томаша Зянкевіча, які выканаў запавет свайго дзядзькі, біскупа Міхала Зянкевіча († 23.01.1762). Міхал Зянкевіч, перад тым як у 1747 г. стаць Віленскім біскупам, быў Лідскім пробашчам. У сваім тастаманце, напісаным у 1761 г. ён рэкамендаваў прапанаваць прыцягнуць да будаўніцтва Іагана Крыштафа Глаўбіца або "каго-небудзь яшчэ, добрага". Біскуп прызначыў для будаўніцтва 50000 тынфаў[20], і працэнты ад 7500 чырвонных злотых, якія былі размешчаны ў фальварку Канюшаны. Тамаш Зянковіч хутка павялічыў гэтую суму на 4900 злотых. Касцёл пачалі будаваць на новым месцы, але недалёка ад старой святыні. Новы касцёл быў асвечаны ў 1768 ці 1780 г.

Свой агульны выгляд касцёл захаваў да нашага часу, аднак вядома, што першапачаткова ён меў дзве трохузроўневыя вежы. У новы касцёл былі перанесеныя некаторыя рэчы са старога: абразы, купель, увянчаную драўлянай статуяй Св. Яна Хрысціцеля і арган, другі арган быў перанесены сюды з Крупаўскага касцёла.

Новы касцёл меў сем алтароў. Тры з іх (у тым ліку і галоўны) мураваныя, размалёваныя пад мармур, бочныя алтары - у блакітна-ружовыя таны.

У галоўным алтары знаходзіўся цудоўны абраз Маці Божай Ружанцовай. Пра Божыя ласкі, выказаныя праз гэты абраз, сведчылі запісы у "Кнізе цудаў". Таксама ў алтары былі чатыры драўняныя фігуры: злева Св. Пётр і Св. Станіслаў, справа Св. Павел і Св. Казімір, а над імі - чатыры стуковыя (штучны мармур) анёлкі.

Другія два мураваных алтары былі пад вызваннямі Ян Непамуцкага і Бічавання.

Алтар Св. Яна Непамуцкага ў верхняй частцы меў маляваны на сцяне абраз Найсвяцейшай Панны Ружанцовай, алтар Бічавання там жа - абраз Св. Апостала Тамаша. Усе абразы ў бакавых алтарах, за выключэннем абраза Бічавання, былі новыя.

Два алтары, якія знаходзяцца пры ўнутрыкасцельных слупах мелі мураваныя прыстолы с абразамі Св. Антонія і Св. Юзафа, якія былі перанесеныя са старога касцёла.

Іншыя два алтары пры бочных сценах пад вызваннем Св. Барбары і Св. Івона.

Сцены і столь прэзбітэрыюма[21] пакрывалі малюнкі. Падлога выкладзена каменнымі плітамі, але пад лаўкамі і па баках была выкладзена цэглай[22].

Унутранае абсталяванне касцёла з большага захавалася да нашых дзён.

Касцёл агароджвала мураваная сцяна, знутры якой знаходзіліся могілкі, каля касцёла стаяла званіца на чатырох слупах з двума званамі. На вуліцу вяла брама *"бляхай крытая, на ёй выраблена з жалеза імя Марыя з прамянямі зялёнага колеру"*. Адначасова з касцёлам планавалася пабудова плябані і двух шпіталяў, з якіх адзін ужо ў 1777 г. патрабаваў рамонту. У тым жа 1777 г. планавалася пабудаваць парафіяльную школу, бо шэсць вучняў да гэтага часу вучыліся ў доме арганіста.

З-за памылак пры праектаванні і будаўніцтве касцёла, а таксама з-за "надта, дрэннага матэрыялу", ужо ў 1777 г. касцёл патрабаваў рамонту, пра тое ж самае напісана і ў візітацыі 1782 г. Першымі пачалі разбурацца трохузроўневыя вежы, з якіх звалілася бляха, тынк і нават фрагменты гзымсаў[23] і сценаў, да таго ж ветрам павыбівала шыбы, і ўнутр пачала прасочвацца вада, што павялічыла небяспеку абрушэння вежаў[24].

У 1790 г. на грошы ксендза Вінцэнта Нарбута быў устаноўлены новы арган, які змяніў арган, што застаўся яшчэ ад старога касцёла.

У 1791 г. касцёл пацярпеў ад расейскага войска.

Рамонт праводзіўся ў 1782-90 гг. пробашчам касцёла Казімірам Нарбутам, для чаго першапачаткова было выдзелена 16 000 тынфаў, а потым яшчэ 1675 чырвонных злотых. Канчаткова касцёл быў адрамантаваны да 1792 г. Верагодна, тэхнічную экспертызу праводзілі архітэктары, прызначаныя біскупам Масальскім. У выніку рамонту былі разабраны дзве вежы, зроблены новы шчыт, верагодна, цалкам перароблены фасад касцёла. Таксама папраўленыя пілястры[25] і ўсе вокны. Дах нанава пакрыты гонтай, сігнатурка[26] над прэзбітэрыюмам пакрыта бляхай.

Цікава, было б пабачыць малюнак лідскага Фарнага касцёла да перабудовы - з дзвюма вежамі, але на жаль, падобна, такога малюнка не існуе.

У 1794 г. значная частка касцельнага срэбра пайшла для падтрымкі паўстання, а касцёл быў яшчэ раз разрабаваны расейскім войскам.

15 жніўня 1812 г. у Фарным касцёле і горадзе прайшлі святочныя мерапрыемствы па святкаванні дня нараджэння Напалеона:

*" [...] У 10 гадзін раніцы падпрэфект Лідскага павета Ігнацы Скіндар, акружаны абывацелямі і мясцовымі службоўцамі розных ведамстваў, адправіўся з прэфектуры ў Фарны касцёл для прынясення*

[20] Агульны назва для манет бітых Андрэ Тынфам у 1663-1667 гг. Намінальны кошт: 1 зл. 30 грошаў, рэальны - каля 12-18 грошаў.

[21] Прэзбітэрый ці прэзбітэрыюм - ("месца для выбраных", ад старагрэчаскага "сход святароў") частка каталіцкага храма між асноўным аб'ёмам і алтарнай апсідай, прызначаная для царкоўнага кліра.

[22] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 102.

[23] Профільны пояс, карніз

[24] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 103.

[25] Пілястра - плоскі вертыкальны прамавугольны ў плане выступ на сцяне або слупе.

[26] Сігнатурка - невялікая вежачка (звычайна са звонам), якая звычайна ўзвышаецца над прэзбітэрыем.

*самых гарачых малітваў Каралю Каралёў за цуд, створаны Яго творчай правіцай для нашай Радзімы.*

*Шматлікія дамы занялі ў касцёле пярэднія месцы, а натоўп простага народу напоўніў бакавыя прыдзелы. Па знаку, дадзеным гарматным стрэлам, у Касцёл увайшоў аддзел размешчанага ў горадзе 14 палка фузілераў і пашыхтаваўся пасярэдзіне касцёла ў два шэрагі. Прыгожы выгляд жаўнераў і іх пакорлівыя паводзіны перад алтаром Усявышняга расчулілі ўсіх прысутных, якія ўжо больш за дваццаць гадоў не бачылі свайго войска.*

*Пасярэдзіне храма быў усталяваны транспарант з вензелем Найусеміласцівага Імператара і Караля з подпісам пад вензелем: "Magne Cesar! Vive diu felix locuplexque omnium prosperitatum".*

*Пасля другога гарматнага стрэлу пачалася абедня, якую служыў, са шматлікім клірам, Станіслаў Нарбут, канонік Смаленскі і ён жа пробашч Косаўскі. Падчас набажэнства патрыятычную і адпаведную акалічнасцям прамову сказаў ксёндз Гаўлоўскі, прафесар мясцовай вучэльні піяраў.*

*Пасля дабраславення Св. Дароў, пасля трэцяга гарматнага стрэлу, аддзел войска выйшаў з касцёла і пашыхтаваўся на могілках, дзе Вікенці Нарбут, канонік Інфлянцкі, пробашч і дэкан Лідскі, са шматлікім клірам праспявалі "Te Deum", пад бесперапынны салют з гармат і ручной агнястрэльнай зброі. Пасля Набажэнства ўсе прысутныя былі запрошаныя на абед да падпрэфекта. [...]"* [27].

Першыя тры дзесяцігоддзі XIX ст. былі пабудаваны ўсе касцельныя пабудовы: шпіталь, могілкі, новая плябань (1818 г.) і закончаны рамонты тынкоўкі, вокнаў, дзвярэй. Зроблены два новыя алтары: Св. Сімона Юды, Св. Тэклі і Св. Барбары. У той жа час у галоўным алтары ўстаноўлены абраз "Хрыстос, які падае пад крыжам".

У 1826 г. пажар знішчыў дах і вокны касцёла, згарэў таксама і шпіталь, страты былі вялікімі, бо яшчэ ў 1832 г. рамонт касцёла не быў закончаны. Пасля пажару, у 1828 г. дах



**Фарны касцёл на пачатку XX ст.**




**Фарны касцёл падчас нямецкай акупацыі, паштоўка 1916-1917 гг.**




**Працэсія каля Фарнага касцёла падчас нямецкай акупацыі, паштоўка 1916-1917 гг.**

[27] Litwa i Rus. 1912. Maj-czerwiec. T. II. Zeszut II/III. S. 150-152.

касцёла пакрылі саломай[28].

На пачатку сакавіка 1832 г. ў дадатак да павятовай у Лідзе была арганізаваны і гарадская паліцыя[29], і ўжо 12 сакавіка 1832 г. выканавец абавязкаў Лідскага гараднічага падпалкоўнік Верашчак дзеля пакарання каталіцкага святарства за падтрымку паўстання, пачаў цяжбу з лідскімі касцёламі. З ніжэй прыведзеных дакументаў добра бачны фінансавы стан Фарнага касцёла, упамінаюцца і расейскія вайсковыя рэквізіцыі. Лідскі гараднічы дакладваў Гарадзенскаму грамадзянскаму губернатару Мураўёву[30] рапартам "аб непрыстойных стане каталіцкіх цэркваў у г. Лідзе". Сярод іншага падпалкоўнік пісаў: *"Настаяцелі тутэйшых манастыроў, маючы дастатковыя даходы на ўтрыманне малалікага духавенства, і хоць звыш гэтага, як я пацікавіўся маюць яшчэ і ахвяраванні абывацеляў, складкі, ... але дагэтуль каталіцкія цэрквы ... без дахаў, агароджы і не атынкаваныя, таму 2 сакавіка я папярэдзіў настаяцеляў манастыроў, каб яны прынялі меры па прывядзенню ў належны выгляд ... асмельваюся спытаць Ваша правасхадзіцельства, ці магу я ў выпадку ўхілення змусіць мерамі паліцэйскімі да выканання ... прапановы"*[31]. Гарадзенскі губернатар 29 сакавіка піша ў Віленскую кансісторыю і выкладае ёй патрабаванні гараднічага[32]. 12 красавіка губернатар атрымлівае адказ, што *"кансісторыя разам прадпісала Лідскаму Дэкану ксяндзу Лінкіму абавязаць настаяцеляў тамтэйшых манастыроў да неадкладнага рамонту па меры магчымасці цэркваў, манастыроў і агароджаў, якія ім належаць, роўна, каб і Фарная царква ў ведамстве яго...,*





***Жабракі каля Фарнага касцёла падчас нямецкай акупацыі, паштоўкі 1916-1917 гг.***




***Фарны касцёл у 20-я гады XX стагоддзя***

[28] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 104-105.

[29] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 9. сп. 110. "Об учреждении городской полиции в гор. Волковыске, Лида и Слониме".

[30] Будучы Віленскі генерал-губернатар Мураўёў-вешальнік.

[31] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 4. сп. 131. "Переписка с римско-католической духовной консистории духовной консистории Гродненской казённой палатой, Лидским городничим и неудовлетворительном состоянии католических церквей и монастырей в г. Лида." С. 1.

[32] Там жа. С. 2.

*Дэкана..., была адрамантавана..., і пра тое Вашаму правасхадзіцельству маю гонар паведаміць"*[33]. 14 чэрвеня 1832 г. кіраўнік Віленскай епархіі біскуп Андрэй Кланцэвіч піша Мураўёву: *"Лідскай царквы настаяцель святар Лінкім рапартам данёс епархіяльнаму ўпраўленню, што тамтэйшы гараднічы дасланаю другі раз позваю, настойліва патрабуе, каб ён Лінкім на працягу аднаго тыдня пачаў рамантаваць згарэўшую ад пажару Фарную царкву, шпіталь, мураваную агароджу і пагражае змусіць яго да таго ваеннай экзекуцыяй ... у разуменні чаго, ... настаяцель Лінкім тлумачыць, што два гады таму назад ён атрымаў у кіраванне сваю Лідскую плябань даведзеную да галечы, таму быў вымушаны даваць фундушовым сялянам дапамогу і ... пабудаваць званіцу, млын і цагельны завод, прыгатаваць патрэбныя для пакрыцця царквы матэрыялы. Але ў мінулым 1831 г. з нагоды былога бунту і будучы заняты задавальненнем ваенных рэквізіцый, не мог прывесці ў дзеянне ... фабрыку, зімою ж па прычыне недахопу снегу і дрэннай дарогі меў вялікія перашкоды ў вывазе патрэбнага матэрыялу ... настаяцель Лінкін абавязуецца выправіць мураваныя і драўляныя агароджы і плот перад вуліцай і пафарбаваць плябанскі дом, калі хутка будзе добрае надвор'е, а ў будучыні ... заняцца рамонтам сваёй царквы"*[34].







***Фарны касцёл, плошча Славы, прыпынак аўтобусаў, 1930-я гг.***

Пасля скасавання Ордэна Піяраў у 1844 г. Фарны касцёл прыняў ацалелы пры пажары Піярскага кляштара звон.

У 1847 г. быў пабудаваны новы шпіталь для бедных, а ў 1856 г. адрамантаваны арганы.

Вялікі рамонт усяго касцёла праводзіўся ў 1861 г. У 1878 г. адноўлены франтон святыні. Чарговы рамонт зроблены ў 1886-92 гг.

У 1906-09 гг. пры пробашчу Юзафу Шкопу адноўлена тынкоўка, насценныя малюнкі, алтары.

У 1960-х гадах разабрана агароджа касцёла разам з брамай[35], што выклікала моцныя хваляванні сярод парафіян, але іхнія намаганні ўратаваць каштоўны гістарычны помнік у цэласці былі марнымі.

**Касцёл Піяраў**

У першай трэці XVIII ст. у Лідскім павеце з'явіліся піяры. У 1756 г. па прапанове Лідскага старасты Ігната Сцыпіёна піярскі калегіюм, які быў створаны ў 1730 г. у Воранаве, перанеслі ў Ліду. Мясцовая шляхта ахвяравала піярам фальварак Пастаўшчыну і юрыдыку ў Лідзе. У 1834 г. у піяраў была канфіскавана іх навучальная ўстанова і рэарганізавана ў 5-класнае дваранскае павятовае вучылішча[36].

[33] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 4. сп. 131. "Переписка с римско-католической духовной консистории с Гродненской казённой палатой, Лидским городничим о неудовлетворительном состоянии католических церквей и монастырей в г. Лида." С. 3.

[34] Там жа. С. 8-8 аб.

[35] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 105-106.

[36] Самусік А. Лідскі піярскі калегіюм // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 199; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Bialej Rusi. Wilna, 1909. S.107-109.

Магчыма Ігнату Сцыпіёну дэль Кампа прапанаваў перанесці ў Ліду з Воранава піярскі калегіюм ягоны настаўнік - Мацей Догель. Акт пераносу калегіюма падпісаны Ігнатам Сцыпіёнам дэль Кампа 12.01.1756 г. у прысутнасці Францішка Александровіча, Лідскага харунжага, Дамініка Александровіча, пісара земскага Лідскага, і Самуэля Кастравіцкага, пісара гродскага. Акт пераносу прадугледжваў захаванне і нават павялічэнне фундушоў (да фундуша баў дададзены фальварак Асава Лапацінская), і выдзяленне пляца па вуліцы Віленскай, набытага у 1749 г. у Людвікі Гадэбскай, стольнікавай Пінскай. Не гледзячы на пратэсты лідскіх кармелітаў, Віленскі біскуп Міхал Зянковіч 09.03.1756 г. прыняў фундуш. Летам таго жа года піяры пераехалі ў Ліду і першапачаткова спыніліся ў драўляным будынку шынка, які знаходзіўся на іх пляцы.

Лідская піярская школа пачала працаваць у 1757 г. А ў 1758 г. тут ужо стаяў драўляны будынак школы і невялікі касцёл Св. Юзафа Каласантага[37]. На працягу трох наступных гадоў быў пабудаваны драўляны кляштар на 12 законнікаў.

Пляц піяраў павялічваўся праз далучэнне двух суседніх пляцаў - адзін ахвяраваў Юзаф Барумоўскі, суддзя земскі Лідскі, другі піяры абмянялі з уладальнікамі Воранава Францішкам і Дамінікам Александровічамі, на пляц у гэтым мястэчку. У выніку, пляц піяраў цягнуўся на ўсход аж да рэчкі Лідзейкі.

У 1762 г. лідскія піяры атрымалі ад Аўгуста III зацвярджэнне фундушоў, а ў 1774 г. - ухвалу сойму на нованабытую маёмасць. Для ўтрымання кляштара і школы ў фундуш былі запісаны фальварак Лапацішкі, наданы Сцыпіёнам дэль Кампа, вёска Віскунцы і фальварак Пастаўшчына з вёскай Расլякі, купленыя ў 1778 г. у Тамаша Ўмястоўскага, рэгента земскага Лідскага.

Піяры ў той час атрымлівалі грашовыя ўнёскі ад розных ахвярадаўцаў. У 1762 г. яны атрымалі запіс на 7 000 зл., які за пазыку ў 1773 г. быў перададзены Аляксандру Міхалу Сапегу, атрымлівалі працэнты ад 15 000 зл., прынялі 10 000 зл. ад Ганны Агінскай з Юдыцкіх. На пабудову мураванага кляштара ў 1781 г. ад Тамаша і Бенедыкта Мігдалаў атрымалі 1000 зл. гатоўкай і працэнты ад 10 000 зл., а ў 1789 г. на пабудову новага мураванага касцёла 20 000 зл. ад Ежы Адамовіча, суддзі земскага Лідскага[38].

Зразумець як лідскія піяры аднесліся да інкарпарацыі Рэчы Паспалітай у Расею можна з загаду расейскага генерал-губернатара Літвы Рапніна ад 1 красавіка 1795 г. *"у горадзе Лідзе 19 мінулага сакавіка месяца па новым стылі Піяр, названы Лаўрынец* (Ваўжынец - *Л.Л.*) *Адамовіч, адважыўся ў пропаведзі, замест павучання закону Божаму, супраць правілаў Евангельскіх і апостальскіх і насуперак сваёй прысязе, непрыстойна ганьбіць паводзіны Гасудароў і ўмешвацца ў справы палітычныя, якія да духоўнага сану і закону Боскага не належалі; за такую дзёрзкасць той не варты свайго сану манах быў ўзяты пад варту і пазбаўлены свайго месца, ён будзе за гэта злачынства пакараны па ўсёй строгасці законаў"*. Разам з Адамовічам манахам быў узяты пад варту і рэктар Лідскага вучылішча Фларыян Крушэўскі, але *"пасля разгляду справы высветлілася, што ён бязвінны бо не ведаў, што такую пропаведзь той манах казаць будзе: таму гэты Крушэўскі адпушчаны без усялякага спагнання, хоць ён і знаходзіцца не на сваім месцы з-за слабога ўтрымання падначаленых, ад чаго і адбылася такая дзёрзкасць, гэтак жа вінаваты і ў тым, што супраць сваёй прысягі адразу не прыняў залежных ад яго мер да спынення падобнага злачынства і не паведаміў пра яго, куды трэба"*[39].

Толькі атрымаўшы ўсе неабходныя фінансавыя рэсурсы, у 1792 г. піяры пачалі будоўлю мураванага кляштара. Гэта быў самы самавіты будынак у горадзе і менавіта таму, пад час свайго побыту ў Лідзе, 15.05.1797 г. тут начаваў цар Павел I. Ён паабяцаў 5000 руб. на будаўніцтва касцёла, але ў выніку, манахі змаглі атрымаць толькі 1250 руб. і толькі пасля смерці манарха. Але ў гонар побыту тут цара на кляштары была прымацавана драўляная табліца з тэкстам на лаціне. У 1802 г. піярскі кляштар наведаў чарговы рускі цар Аляксандр I.

У 1799 г. рэктарам калегіюма стаў кс. Себасцьян Дамброўскі - лепшы архітэктар сярод піяраў таго часу. З дазволу ўладаў у 1800 г. пачалося будаўніцтва мураванага касцёла, у 1801 г. сцены ўзняліся на палову праектаванай вышыні, яшчэ за некалькі гадоў сцены ўдалося ўзняць да узроўню гзымсаў. А ў 1805 г. будаўніцтва спынілася з-за недахопу грошай.

У 1803 г. піярскі калегіюм ператвораны ў 4-класную павятовую вучэльню, але арганізацыя вучэбнага працэсу і праграма навучання пры гэтым не змяніліся, і піяры па-ранейшаму лічылі яе сваёй справай.

Будаўніцтва касцёла аднавілася ў 1817 г., гэта справа капітулам ордэна піяраў была даручана таму ж самаму кс. Дамброўскаму, у той час - ваверскаму пробашчу. Ён *"зрабіў з лапацінскіх лясоў рыштаванні і дах, прыступіў да адбудовы муроў. Але ў гэты момант здарылася наступнае: стрáпчы[40] Чаховіч патрабаваў, каб яму былі пазычаны значныя грошы, але, вядома, без вяртання. Рэктар, маючы вялікую патрэбу у грошах гатоўкай, не мог даць чыноўніку "ў лапу". Пакрыўджаны стрáпчы цішком паскардзіўся*

[37] Іосіф (Хасе) Каласанц, Святы Юзаф дэ Каласанс (1557 - 25 жніўня 1648) - каталіцкі святар, заснавальнік Ордэна Піяраў.

[38] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 141-142.

[39] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792-1796) [С предисл. Ар. Турцевич]. Вильна, 1903. С. 270.

[40] У Расіі ў 1775-1864 гг. - назва некаторых судовых чыноўнікаў, напрыклад памочніка пракурора па крымінальных справах.



***Ліда, касцёл Піяраў. Замер Т. Тышкевіча, 1842 г. Паўдзённая крыло пасля 1863 г. было разабарана І. Каяловічам.***

339. Lida, kościół i klasztor Pijarów. Pomiar T. Tyszeckiego, 1842. Rzut założenia.



340. Lida, kościół Pijarów. Pomiar T. Tyszeckiego, 1842. Elewacja pn.

***Ліда, касцёл Піяраў. Замер Т. Тышкевіча, від з поўначы. 1842 г. пасля пажару, бачна, што згарэў толькі купал будынка.***

*ўладам, што піяры нішчылі казённы лес, у якасці доказу указаў на стосы лесу каля касцёла. ... у выніку піяры заплацілі больш за 300 рублёў срэбрам штрафу. Хутка рэктар памёр"*. Таму ў 1819 г. будаўніцтва зноў спынілася.

Яшчэ доўга набажэнствы адбываліся ў драўляным касцёле, пра які ў візітацыі 1820 г. пісалася, што ён "годны толькі для руйнавання". Наступныя 5 гадоў набажэнствы праходзілі ў трапезнай (refektarzu), якая з дазволу Віленскага біскупа была перароблена ў капліцу і мела 3 алтары, перанесеныя сюды з драўлянага касцёла.

У 1820 г. новым рэктарам абраны кс. Каласанты Санкоўскі, ён прадоўжыў будаўніцтва. Рэктар нарыхтаваў неабходныя матэрыялы і заключыў з яўрэем з Расіенаў Лейзарам Давыдавічам Цясельскім кантракт на дабудаванне і атынкоўку муроў. Працы пачаліся ўвесну 1823 г. і былі закончаны ў 1824 г., што дазволіла заняцца абсталяваннем храма. Старыя алтары былі малыя і не падыходзілі, але, не маючы грошай, рэктар вырашыў устанавіць іх і закрыць вялікімі абразамі, выкананымі ў 1824-25 гг. мясцовым мастаком Глы-

боўскім. Дзеля эканоміі сродкаў усталявалі старыя арганы з піярскага касцёла ў Віцебску.

Касцёл асвечаны 4 ліпеня 1825 года Літоўскім біскупам-правінцыялам Ізідорам Сяклюцкім[41].

У 1832 г. касцёл Піяраў таксама меў цяжбу з лідскім гараднічым. 14 чэрвеня 1832 г. Гарадзенскаму губернатару Мураўёву Віленская кансісторыя тлумачыцца, што піярскі кляштар не атрымлівае працэнтаў ад фундушовых сум, у тым ліку з ... маёнтка Жырмуны князёўны Радзівіл. Выплата грошай прызначана на наступны 1833 г., і таму манастыр не мае *"... ні запасаў ні патрэбных матэрыялаў, якія мінулай зімой з-за нясталай і дрэннай дарогі нельга было нарыхтаваць"*. Таму кляштар не мог выканаць патрабаванні лідскай гарадской паліцыі пра рамонт кляштара і касцёла, не зроблены *"тынкоўка, агароджа пляца ... ад вуліцы"*, аднак і зараз *"... ў летні час, з-за немагчымасці адцягнення сялян ад гаспадаркі і іншых эканамічных работ, задаволіць патрабаванні не ў стане"*. Так сама правінцыял ордэна Піяраў тлумачыў губернатару, што рамонт лідскага манастыра планавалася зрабіць за кошт працэнтаў ад сумы ў 15 000 злотых, якая была запісана за маёнткам Дзярэчын князя Сапегі, аднак, маёнтак пасля паўстання 1830-31 гг. секвестраваны, і планаваныя грошы ў памеры 3159 злотых пакуль атрымаць не магчыма, таму *"правінцыял не знаходзіць спосабаў, каб зрабіць неабходны рамонт"* [42].

З дакладу чарговага рэктара Язафата Вайшвілы ад 1831 г. да біскупа бачна, што будаўнічыя працы зроблены няякасна, будынак мае патрэбу ў істотным рамонце гзымсаў, а дрэнна пабудаваны порцік (ганак) патрэбна разабраць і пабудаваць нанава. Таму новы рэктар у 1836-37 гг. правёў грунтоўны рамонт касцёла. У 1838 г. быў адрамантаваны кляштар: дах пакрыты новай гонтай, часткова памяняныя вокны, зроблены ўнутраны рамонт, усё пафарбавана алейнай фарбай.

Кляштар складаўся з касцёла, арыентаванага фасадам да вуліцы Віленскай і злучанага з усходняга боку з двухпавярховым кляштарам, які меў два крылы: фасадам на паўноч і фасадам на ўсход, усходняе крыло мела рызаліт[43], у якім на другім паверсе была трапезная а на першым зала капітулы. У 1831-32 гг. ад вуліцы і з паўднёвага боку пабудавана мураваная агароджа, якая складалася з квадратных слупоў, злучаных кратамі. Каля кляштара у 1837 г. была пабудавана драўляная званіца. На поўнач ад кляштара знаходзілася драўляная школа, а на ўсход - драўляная жылая афіцына (флігель), гаспадарчыя пабудовы, а далей, ажно да ракі Лідзейкі, ляжаў падзелены дзвюмя алеямі гарод і сад.

09.09.1834 г. Лідскі піярскі калегіюм (ці павятовая вучэльня) быў зачынены і ператвораны ў Павятовую дваранскую пяцікласная школу.

23.08.1842 г. хуткі пажар знішчыў дах і купал касцёла, значна пашкодзіў жылы будынак і знішчыў усе драўляныя пабудовы, непашкоджанымі засталіся толькі рэчы, якія знаходзіліся ў сакрыстыі. Згарэла ўсё абсталяванне касцёла: тры алтары, разьбяны амбон і табернакль[44] (перанесены з закрытага ў 1832 касцёла кармелітаў), арган, два канфесіяналы (спавядальні), 10 лаў, фігура Маці Божай Ласкавай і ўсе абразы, якія віселі на сценах. Згарэла ўсё, што было ў манастыры, у тым ліку вялікая бібліятэка, якая ў 1830 г. складалася з 1464 тамоў, а пасля пераносу ў 1841 г. сюды кніг з калегіюмаў Воранава і Вільні (які месціўся на Снішках) - 1787 тамоў.

Не гледзячы на намаганні рэктара Язафата Вайшвілы, губернскія ўлады, каб апраўдаць набыццё разбураных будынкаў, не дазволілі пачаць рэканструкцыю. У 1843 г. гарадзенскі губернатар загадаў перадаць касцёл праваслаўнай царкве, прылеглае крыло кляштара пад праваслаўную плябанію, а асноўную частку (ўсходняе крыло) пад павятовую школу і жытло настаўнікаў[45]. У Расейскім Дзяржаўным Гістарычным архіве захоўваецца дакумент "Аб пераводзе заштатнага ў г. Лідзе піярскага манастыра ў праваслаўную царкву"[46], у дадатках да артыкула прыводзіцца тэкст гэтага дакумента.

У тым жа годзе, па распараджэнні Віленскага біскупа застаўшаяся касцельная маёмасць падзелена паміж лідскім Фарным і навакольнымі піярскімі касцёламі.

Дарэчы Піярскі калегіюм юрыдычна быў ліквідаваны толькі 14.05.1845 г.[47]

Як бачна з тэксту візітацыі цэркваў Лідскага ўніяцкага дэканату ў 1792 г., на поўдзень ад кляштара піяраў знаходзілася ўніяцкая царква Св. Міхала (якая часта памылкова ў гістарычнай літаратуры называецца Св. Мікалая) са шпіталем, плябанню і могілкамі. Ужо

[41] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewjdztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 142-143.

[42] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродна. Ф 1. воп. 4. сп. 131. "Переписка с римско-католической духовной консистории духовной консистории Гродненской казённой палатой, Лидским городничим о неудовлетворительном состоянии католических церквей и монастырей в г. Лида.". С. 5-5 аб., 16.

[43] Рызаліт - частка будынка, якая выступае за асноўную рысу фасада і ідзе па ўсёй вышыні будынка

[44] Невялікі шафка са Святымі Дарамі,

[45] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 143-144.

[46] Дакумент у 2010 г. адшукаў у архіве лідзянін Вадзім Нікалаеў. Цалкам змяшчаецца па адрасу: http://pawet.net/library/history/citydistrict/religion/svmichalauski o/Об обращении Заштатного в г. Лиде Пиарского монастыря в православную церковь.html

[47] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakjw, 2008. T. 2., cz. III. S. 145.

пры канцы XVIII ст. царква была ў дрэнным стане і неўзабаве зачынілася. З 1765 г. паміж гарадскімі каталіцкімі могілкамі і млынам існавала іншая вялікая ўніяцкая царква Ўваскрасення Гасподняга. Пры царкве дзейнічаў невялікі шпіталь[48]. Аднак гэтую царкву у 30-х гадах XIX ст. зруйнавала бура[49]. У 1832 г. уніятам быў перададзены скасаваны кармеліцкі кляштар[50], але ўсё роўна месца для правядзення набажэнстваў у 1830-я гады яны не мелі, бо грошай для ўладкавання па-кармеліцкага касцёла пры кляштары не было. Лідскія ўніяты маліліся ў Вольжаўскай капліцы, і таму ў момант скасавання ўніяцкай царквы маскоўская праваслаўная царква ў Лідзе засталася без будынка.

Шмат гадоў у былых піярскіх мурах працавала толькі павятовая школа.

Спробы перарабіць касцёл на царкву была адкладзеная на працяглы час, па меншай меры да 1855 г., у гэтым годзе быў складзены каштарыс пераробкі, як аказалася замалы, таму ў 1862 г. быў прадстаўлены новы каштарыс на 4313 рублёў. У выніку перабудовы было знесена ўсходняе, найвялікшае крыло будынка. Быў адноўлены купал, унутраны інтэр'ер атрымаў новае абсталяванне, але, верагодна, захаваў сваё першапачатковае архітэктурнае аблічча. Разам з аднаўленнем і адаптацыяй будынка, з поўначы пабудавана званіца з цэглы, магчыма, у тым жа месцы, дзе была папярэдняя з дрэва[51].

"Литовские епархиальные ведомости" у 1863 г. далі інфармацыю пра асвячэнне храма*: "18 жніўня тут праходзіла ўрачыстае асвячэнне ... храма ў імя Св. Архістратыга Міхаіла. Новы храм пабудаваны з былога піярскага касцёла, які пасля пажару заставаўся доўгі час у поўным разбурэнні. З ... гэтага ... касцёла на працягу апошніх 3-х гадоў створана благалепная праваслаўная царква ў візантыйскім стылі. Без перабольшання можна сказаць, што новая праваслаўная царква - мураваная з вялікім зялёным купалам - першы па прыгажосці будынак у Лідзе і з'яўляецца лепшым ўпрыгожваннем горада. Асвячэнне храма здзейснена, па даручэнні Высокапраасвяшчэннейшага Мітрапаліта Літоўскага Іосіфа Ковенскім епіскапам Аляксандрам, вікарыем Літоўскай епархіі....*

*17 жніўня ў новым храме адбылося ўсяночнае чуванне пры ўдзеле Архірэя з саборам 10 святароў: мясцовых і якія прыбылі з навакольных прыходаў. Выдатныя спевы архірэйскага хору прыцягвалі не толькі рыма-каталікоў (праваслаўныя ўсе былі ў храме), але і нехрысціян.*

*18-га жніўня, пасля літургіі ў ранейшай дамавой царкве, у новым храме здзейснена асвячэнне вады. З прыбыццём у храм правялебнага ў пачатку 11-й гадзіны, пачалося асвячэнне самога храма .... Сход народа быў велізарны .... па асвячэнні храма быў хрэсны ход па Св. мошчы ў старую царкву. ...*

*Да самога дня асвячэння некаторымі дабрачыннымі асобамі дасланыя з Пецярбурга праз камергера П.Н. Бацюшкава 2 святарскія і адно дз'яканскае адзенне"*[52]. А ў 1886 г. "Литовские епархиальные ведомости" пісалі: *"Наш гарадок 26 снежня сціпла святкаваў 20-ці гадовы юбілей служэння ... святара, настаяцеля Лідскага Міхайлаўскага сабора а. протаіерэя Іосіфа Каяловіча. Да прыняцця ім гэтага месца прыход не меў нават царквы, і набажэнства здзяйснялася ў аднапавярховым драўляным доміку ў тры акны. Хатка і да сёння стаіць насупраць пышнага мураванага храма, пабудаванага а. Іосіфам са згарэлага касцёла. Сам жа прыход які лічыў тады вернікаў дзесяткамі, у цяперашні час налічвае іх больш за 1500".*[53] Заўважым, што ў абодвух тэкстах адзначаецца, што праваслаўны Свята-Міхайлаўскі храм адбудаваны з былога піярскага кляштара.

Пра хатку, дзе праводзіліся набажэнствы пісаў у сваіх мемуарах расійскі афіцэр І.В. Любарскі, які перад паўстаннем 1863 г. служыў у Лідзе: *"Праваслаўная царква ў Лідзе была ў несамавітай, драўлянай, бедна абстаўленай хаце з нізкай столлю. У царкве адначасова магло маліцца не болей за 50 багамольцаў, таму салдаты прыходзілі ў храм Божы па чарзе камандамі. Служыў святар без дыякана, а спявалі на клірасе салдаты, як ім Бог "положил на душу". ... . Адсутнасць панікадзіла ў храме, бляшаныя пагнутыя падсвечнікі, чорныя абразы на сцяне, падраныя рызы на святары - усё гэта так не было падобнае на звыклыя ўражанні праваслаўнага чалавека, і мімаволі глыбокая нуда ахоплівала душу"* [54].

Найверагодней, ролю праваслаўнай царквы да асвячэння Свята-Міхайлаўскага храма ў 1863 г. выконвалі ці былы ўніяцкі шпіталь, ці былая ўніяцкая плябань, ці былая пякарня ўніяцкай плябані. У візітацыі 1782 г. шпіталь, плябань і пякарня былой ўніяцкай царквы апісваліся так: *"Шпіталь новы, коштам Двара* (каралеўскага - *Л.Л.*) *пабудаваны, хата чорная, печ простая, вокнаў 3, дзвярэй на бегунках двое, крыты саломай ... . [...] Хата* (святара - *Л.Л.*) *белая, уваход праз сені, дзверы на бегунках, унутры хаты дзверы на завесах жалезных з клямкамі і зашчапкамі.*

[48] Kuwalek R. Rzymskokatolicki cmentarz przy ul. Grazyny // Zemia Lidzka. 1996. № 18-19. S. 16.

[49] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторически очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[50] Палуцкая С. В. З гісторыі уніяцтва на Лідчыне // Наш Радавод. Кн. 6: З гісторыі Лідчыны. Ліда, 1994. С. 67.

[51] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 145.

[52] Литовские епархиальные ведомости. 1863. № 17. С. 629-632.

[53] Литовские епархиальные ведомости. 1886. № 1-2. С. 5.

[54] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 824.

*Печ кафляная з комінам вонкавым, вокнаў вялікіх 2, трэцяе малое, шкла белага, столь з дошкі, стол сталярнай работы, лаў 2. Дзверы ў камору на завесах з зашчапкамі, адно вялікае акно белага шкла, у сенях шырма, двое дзвярэй на бегунках. У пякарні дзверы на бегунках, вокнаў 3, белага шкла, печ простая, камора прыбудаваная з адным акном, дзверы на бегунках, дом цалкам крыты дранкай, стары, патрабуе рэпарацыі. Клець (амбар) новая, дзверы на завесах з зашчапкай і прабоямі новымі яшчэ, накрытая цалкам саломай, у сярэдзіне зроблены яслі, коштам святара сучаснага адміністратара гэтая клець пабудавана, бо даўней толькі сцены былі. Гумно і хлеў ... саломай крыты. Плябань часткова плотам, а часткова жэрдкамі агароджана, з брамай, стараннем Двара і святароў пабудаванай"*[55].

На старой паштоўцы з выявай Міхайлаўскага сабора бачны могілкі. Верагодна, гэта рэшткі вельмі старых гарадскіх уніяцкіх могілак вакол былой уніяцкай царквы: *"Могілкі неагароджаныя, на якіх была старая званіца, нядаўна зруйнаваная"*[56]. На трошкі больш позніх паштоўках гэтых могілак ужо няма.

Да 1919 г., храм функцыянаваў як праваслаўная царква Святога Арханёла Міхаіла. У выніку рэстытуцыі храм быў зноў перароблены ў касцёл і аддадзены піярам, якія вярнуліся ў Ліду. У 1919 г. яны аднавілі сваю педагагічную працу ў школе, якая месцілася ў старым драўляным будынку на поўдзень ад касцёла (зараз не існуе). У 1926 г. былы будынак калегіюма перададзены піярам, і ўжо ў наступным годзе тут пачынае працаваць школа і інтэрнат. У 1930 г. заснавана 4-класная мужчынская гандлёвая школа, якая ў 1936 г. пераўтворана ў 4-класную гандлёвую гімназію з сумесным навучання хлопцаў і дзяўчат. Гімназія знаходзілася ў будынку на поўнач ад касцёла.

У цесным супрацоўніцтве з Віленскі ваяводскім рэстаўрацыйным упраўленнем неўзабаве пачаліся неабходныя рамонтныя работы. Ужо ў 1928 г. па праекце віленскага архітэктара Іосіфа Здановіча была адрамантавана званіца і



***Свята-Міхайлаўская царква са старымі гарадскімі могілкамі.***



***Свята-Міхайлаўская царква, могілак ужо няма. Пачатак XX ст.***



***Свята-Міхайлаўская царква падчас нямецкай акупацыі горада ў Першую Сусветную вайну.***

[55] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата 1792 г. С. 35аб.

[56] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Візіты цэркваў Лідскага дэканата 1792 г. С. 35-35аб.




***Свята-Міхайлаўская царква падчас нямецкай акупацыі горада ў Першую Сусветную вайну.***




***Касцёл Піяраў у 1930-я гг.***

выкананы новы амбон. Гэты ж архітэктар зрабіў абмеры касцёла[57].

У 1929 г. Навагрудская ваяводская адміністрацыя асігнавала Лідскаму праваслаўнаму прыходу 3 000 злотых як кампенсацыю за страту храма[58].

У 1932 г. па праекце лідскага інжынера Феліцыяна Хайнацкага быў перароблены ліхтар купала.

8 траўня 1938 г., на фасадзе была прымацавана бронзавая дошка з профілем Людовіка Нарбута і надпісам: *"1832-1863 | Вучню былой школы | кс. Піяраў ў Лідзе | Людвіку | Нарбуту | камандзіру студзеньскага паўстання | да 75-ці годдзя гераічнай смерці | 1863-1938 | З павагай | Лідская Зямля"*. Аўтарам праекту быў лідскі скульптар Юры Кацяшчэнка, адліўку выканаў Савул Пупко з Вільні, каменную гранітную пліту выканаў камнярэз з Міра Антон Грыневіч.

17 верасня 1939 г. ноччу, перад прыходам Чырвонай Арміі, мемарыяльную дошку замуравалі жыхары горада[59].

Пасля нямецкіх авіяналётаў на горад у першыя дні вайны 1941 г. згарэў практычна ўвесь цэнтр горада. Пачаў гарэць і касцёл піяраў. Будучы пробашч Фарнага касцёла, а ў той час ксёндз-піяр Станіслаў Роек пісаў у сваім дзённіку: *"Агонь, які разносіўся ветрам, дабраўся да даху касцёла праз адчыненыя вокны над хорамі. Наш касцёл пачаў гарэць. Прыступілі да тушэння. Я і ксёндз-рэктар Чабаноўскі ўзяліся за ручную помпу. Брат Фелікс Урбаля, надзеўшы маску са шлангам, пачаў тушыць агонь. Працаваў нядоўга, бо ад дыму ўпаў, не падаючы прызнакаў жыцця. З'явіўся тады садоўнік Бадрых і выцягнуў яго з дыму. Потым разарваў некалькі лістоў бляхі, і тады дым, маючы выхад, не перашкаджаў у тушэнні. Брат Фелікс, ачуняўшы, пачаў тушыць пажар разам з садоўнікам. Калі пажар быў патушаны, то брат Фелікс, абследуючы месца пажару, праваліўся разам з часткай спаленай столі на хоры. Яму нічога не сталася. Загінуў пазней ад асколкаў снарада, падчас захопу Ліды нямецкай пяхотай"*[60]. Іншых пашкоджанняў у гады Другой сусветнай вайны касцёл не меў.

Пасля арышту пробашча і рэктара лідскіх піяраў Клеменса Мар'яна Чабаноўскага ў 1945 г., касцёл быў закрыты. Пробашч і ксёндз-рэктар у 1926-37 гг. Фердынанд Казлоўскі ў 1956 г. вярнуўся з лагераў і да сваёй смерці ў 1972 г. быў пробашчам касцёла

[57] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 146-147.

[58] Загідулін А.М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. С. 99.

[59] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 146.

[60] Стасевіч-Ясюкова Ірэна. Ксёндз Станіслаў Роек. Варшава-Ліда 2007. С. 44-45.

на Слабадзе[61].

У 1958 г. Лідскі касцёл піяраў быў перададзены краязнаўчаму музею. У 1964 г. у былым храме размясціўся планетарый, адзін з трох у той час у Беларусі і з 26 у СССР. У 1976-1978 гг. школьнікам аўтар наведваў астранамічны гурток пры планетарыі, які вёў яго дырэктар Уладзімір Дзмітрыевіч Столмаў, высокаадукаваны і інтэлігентны чалавек. Другім супрацоўнікам была ягоная жонка. Уладзімір Дзмітрыевіч, былы вайсковец (падпалкоўнік запасу, які падчас службы меў справы з космасам), высока цаніўся сярод дырэктараў планетарыяў у былым СССР, сябраваў з тагачасным дырэктарам Маскоўскага планетарыя Б.А. Максімачовым, меў вялікія планы на будучыню. Да 1978 г. ужо быў распрацаваны праект перабудовы званіцы ў абсерваторыю, і для гэтага атрыманы прафесійны тэлескоп АВР-3 (рэфрактар з дыяметрам аб'ектыва 130 мм). Лідскі планетарый і астранамічны гурток хутка набіралі папулярнасць сярод аналагічных установаў былога СССР. Наведваў гурток і аўтар гэтага артыкула. Але пасля трагічнай гібелі адзінага сына сям'я Столмавых пакінула Ліду, і астранамічны гурток распаўся[62].

Памятная дошка прысвечаная памяці Нарбута была зноў адкрыта ў 1989 г., а ў 1990 г. дапоўненыя перакладам на беларускую мову.

7 сакавіка 1996 г., касцёл па рашэнні гарадскіх улад, якое было ўзгоднена з касцельнымі ўладамі, быў перададзены праваслаўнай парафіі. 17 чэрвеня 1996 г. з муроў храма была сарвана мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута. Яна знайшла свой прытулак у гарадскім музеі, а ў 1997 г. з ведама тагачаснага дырэктара музея Рыгора Жалезнага дошка была вывезена і схаваная на тэрыторыі аднаго з касцёлаў. 21 красавіка 2013 г. ў лідскім мікрараёне Індустрыяльны была адкрыта і асвечана аднаўленая мемарыяльная дошка памяці Людвіка Нарбута - вайсковага начальніка Лідскага павета падчас паўстання 1863 года, паўстанцкага палкоўніка, прызначанага за некалькі дзён да смерці галоўнакамандуючым войскаў ВКЛ. Каля новазбудаванага касцёла піяраў на імя Святога Юзафа Каласантага ў адмысловай капліцы і была ўстаноўлена мемарыяльная дошка з 1938 года.

Многія, з тых, хто змагаўся за вяртанне дошкі, не дажылі да гэтага дня, таму гэта дошка будзе помнікам не толькі Людвіку Нарбуту, але і ўсім лідзянам - патрыётам Бацькаўшчыны і горада[63].

У 1996, 2000 і 2010 гг. праводзіліся рамонты праваслаўнага храма.

**Кармеліцкі касцёл**

20.05.1672 г. кармеліты, каталіцкі манаскі ордэн, заснаваны ў XII ст. ў Палестыне на гары Кармель падчас крыжовых паходаў, атрымалі ад лідскага войскага Адама Нарбута і яго жонкі Кацярыны пляц для касцёла. Касцёл і кляштар фундаваў Мікалай Рыла[64]. Акрамя яго шмат хто з шляхты і гараджан надавалі кармелітам землі, пляцы ў горадзе і грошы[65]. З фундушоў вядома імя першага лідскага прыёра Эліяша Неўяроўскага. У 1684 г. фундушы былі зацверджаны на канвакацыйным сойме каралём Янам III Сабескім.

Будоўля працягвалася вельмі доўга, і толькі 5 верасня 1714 г. касцёл быў асвечаны Віленскім біску-



***Касцёл Кармелітаў, здымак Яна Балзункевіча.***

[61] Kalamajska-Saeed Maria. Kosciol p.w. Sw. Jozefa Kalasantego i klasztor Pijarow w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 146.

[62] Лаўрэш Леанід. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі астраноміі. Мінск, 2013. С. 264-265.

[63] Наша слова. № 17 (1116) 24 красавіка 2013 г.

[64] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 171.

[65] 20 верасня 1674 г. Зоф'я Івашкевіч, лідская гараджанка, запісала палову пляца ў Лідзе па вуліцы Віленскай; у 1674 і 1682 гг. зноў Мікалай Рыла разам з Ежы Дамашэўскім запісаў 60 000 злотых забяспечаных вёскай Крупава (потым з гэтым было шмат цяганіны); 1 жніўня 1674 г. Канстанцін Калясінскі дараваў валоку

пам Канстанцінам Казімірам Бжастоўскім пад вызваннем Найсвяцейшай Марыі Панны і Св. Альберта. Ёсць меркаванне, што Кармеліцкі касцёл моцна пацярпеў падчас Паўночнай вайны, і гэта зацягнула будаўніцтва.

Мураваныя кляштар і касцёл пры ім знаходзіліся ў цэнтры горада на адлегласці за 108 крокаў ад Фарнага касцёла, на супрацьлеглым баку вуліцы.

Цікавую інфармацыю пра яго мы даведваемся з візіты 1820 г. Кляштар - двухпавярховы будынак, які меў форму літары "L" з паўночным і ўсходнім крыламі, з аднапралётным размяшчэннем памяшканняў і калідорам са двара. Ён прылягаў да сакрыстыі касцёла з поўдня і быў тынкаваны толькі з боку вуліцы[66]. Кляштар крыты гонтай. На другім паверсе было 7 жылых памяшканняў і склады. Каля кляштара ў бок рэчкі знаходзіўся агарод і гаспадарчыя пабудовы, ніжэй - альховы гаёк і яшчэ ніжэй - луг. З маёмасці кляштар меў 4 абрусы, 8 сурвэт, адну вялікую і тры малыя фаянсавыя вазы, 29 фарфоравых талерак, адну алавяную вазу, 5 алавяных паўмісак і 3 такія ж міскі, 6 алавяных лыжак, 12 пар нажоў з відэльцамі, два вялікія сталы, 10 крэслаў, адну шафу для начыння, 1 канторку, 1 канапу, 1 насценны гадзіннік, 2 куфры, 2 медныя імбрыкі, 1 медную цукернічку, 1 медны збан, 12 шклянак, 3 келіхі, 2 шкляныя сальніцы, 2 філіжанкі.

Касцёл фасадам на ўсход, быў тынкаваны і выбелены як знутры, так і звонку, у плане меў форму крыжа даўжынёй 44,5 і шырынёй 17,5 локця, пакрыты дахоўкай, над вялікім алтаром меўся купал з сігнатуркай[67]. Бязвежавы фасад падзелены прамымі пілястрамі, меў трохкутны шчыт. Бакавыя фасады таксама былі падзеленыя пілястрамі і мелі вялікія вокны. Разам касцёл меў 11 вокнаў з белага шкла і 6 алтароў.

Вялікі алтар сніцарскай работы быў пазалочаны, тут размяшчаўся абраз Маці Божай, маляваны на палатне, над ім - абраз Найсвяцейшай Тройцы, а яшчэ вышэй статуя Св. Іллі. З апісання касцёла вынікала, што паміж верхняй і ніжняй частай алтара знаходзілася месца для *"хору манахаў, дзе былі лаўкі сталярнай работы на 20 асобаў і пазалочаны амбон"*[68].

Другі алтар Пана Езуса ўкрыжаванага, сніцарскай работы "на чорнай структуры", пазалочаны. Вышэй, на другім узроўні гэтага алтара меўся абраз Св. Сымона Стока[69].

Трэці алтар Маці Божай Шкаплернай (Шкапулярнай).

Чацвёрты алтар Св. Іллі сніцарскай работы, пакрыты лакам. Тут быў абраз Св. Іллі ў пазалочанай раме, маляваны на палатне, вышэй, на другім узроўні - абраз Св. Яна Непамуцена.

Пяты алтар Св. Іосіфа Абручніка (Sw. Jozefa Oblubienca). Абраз святога ў пазалочанай раме маляваны на палатне і, вышэй, на другім узроўні - абраз

---

зямлі ў Лідскім павеце; 8 ліпеня 1675 г. Станіслаў Караль Абрамовіч, стараста Булгакаўскі, дараваў палову валокі зямлі; 2 верасня 1675 г. пісар гродскі Лідскі Казімір Міхал Янет Палевіч запісаў кармелітам 5 пляцаў у Лідзе па вуліцы Замкавай; 4 студзеня 1676 г. гараджанін Ян Марцінавіч Перхур запісаў палову валокі зямлі; 22 верасня 1676 г. Адам Грынкевіч, Лідскі бургамістр, дараваў палову пляца ў Лідзе; 10 студзеня 1686 г. Палевіч, ужо пісар скарбовы ВКЛ, зноў дараваў кармелітам нешта (дакладна не вядома); у траўні 1690 г. гараджанін Андрэй Гарневіч падпісаў тастамант, па якім пасля яго смерці кармелітам адыходзіць пляц, які зваўся "Гечалоўскі", пляц месціўся ў Лідзе каля рынка; 25 красавіка 1697 г. Фрацішак-Юзаф Масевіч, Лідскі харунжы, запісаў 24 000 злотых, забяспечаных фальваркам Зарэчча, які здаваў у заставу, дарэчы, менавіта гэты фундуш даваў галоўныя сумы грошай кармелітам; у 1698 г. Казімір Шышка, Ежы Пашкевіч і Станіслаў Выдымонскі прызначылі кляштару 28 000 злотых; 14 ліпеня 1714 г. Станіслаў Карповіч, гараджанін, запісаў дом з пляцам у Лідзе; 15 верасня 1714 г. Ян Іваноўскі, Лідскі радца, запісаў палову пляца ў Лідзе. У той жа дзень Мацей і Альжбета Шырмы запісалі чвэрць пляца ў Лідзе; 21 чэрвеня 1716 г. вышэй згаданы Масевіч, ужо Лідскі маршалак, дараваў пляц ў Лідзе; 4 сакавіка 1718 г. сужонцамі Юрыем і Марыянай Шклярэўскімі запісаны пляц у Лідзе; 13 траўня 1744 г. Антоні Ваўжэцкі, Аляксандр Вінча і Юзаф Стыпалкоўскі зрабілі запіс на юрыдыку ў Лідзе з 2 яўрэямі на ёй; 3 ліпеня 1747 г. Францішак Тубялевіч дараваў 244 злотых забяспечаных пляцам ў Лідзе; у 1752 г. Зыгмунт Сакаловіч і Ян Драбігевіч запісалі 4 000 злотых; 3 лістапада 1755 г. Ашмянскі скарбнік Станіслаў Гурыновіч дараваў дом у Лідзе; у 1762 г. Ян Юдыцкі, кашталян Менскі, запісаў 6 000 злотых. Гл. Gizycki J. M.F. (Wolyniak). Z przeszlosci karmelitow na Litwie i na Rusi. Cz. 1-2.Krakow, 1918. S. 243-244.

[66] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 172.

[67] Сігнатурка - невялікая вежачка, якая ўзвышалася над прэзбітэрыем (у меншых храмах) касцёла ці месцам перасячэння галоўнага нефа з трансептам (у большых храмах).

[68] Па іншай версіі хор законнікаў месціўся ў прэзбітэрыі касцёла за перагародкай.

[69] Сымон Сток (1165-1265) - святы, генеральны прыёр Ордэна Братоў Прасвятой Дзевы Марыі Гары Кармел. 16 ліпеня 1251 г. Сымон Сток меў бачанне Найсвяцейшай Панны Марыі, у якім Яна абяцала Сваё заступніцтва яго ордэну і падарыла яму і ўсім кармелітам Шкапулярый, нашэнне якога з выконваннем асаблівых правіл даравала шмат ласкаў душы хрысціяніна пасля скону, напрыклад, вызваляла ад пакут у чыстцы кожную суботу. Шкапулярый уяўляе сабой два прастакутныя кавалкі матэрыі ці іншага матэрыялу, на якія нанесены рэлігійныя выявы ці тэксты, змацаваныя паміж сабой шнурамі. Носіцца на целе пад адзеннем такім чынам, што адзін вобраз знаходзіцца на спіне, другі - на грудзях. Св. Сымон таксама з'яўляецца аўтарам малітвы "Flos Carmeli", прысвечанай Багародзіцы.

Св. Антонія Падуанскага.

Шосты алтар Св. Тарэзы. Абраз святой ў пазалочанай раме, маляваны на палатне, вышэй, на другім узроўні - абраз Св. Марыі Магдалены[70].

Алтары Маці Божай Шкаплернай і Св. Іосіфа знаходзіліся у асобных капліцах. Акрамя гэтых капліц касцёл меў сакрыстыю і скарбніцу. Потым у гэтай скарбніцы знаходзіліся земскі павятовы архіў. Пад касцёлам месціліся мураваныя крыпты для пахавання законнікаў, але ў акце візітацыі 1830 г. напісана, што касцельныя лёхі для гэтай мэты не ўжываюцца[71].

У касцёле стаялі чатыры канфесіяналы. У званіцы былі чатыры званы, самы вялікі важыў 30 пудоў, другі - 15, трэці - трохі болей за 1 фунт. У сігнатурцы меўся звон, які важыў 4 фунты. У самім касцёле 4 мшальныя званочкі[72].

Званіца стаяла на невялікіх могілках, якія межавалі з кляштарным дзядзінцам. У 1829 г. была пабудавана новая званіца, якая стаяла на чатырох дубовых слупах і мела тры званы. Здаецца, касцёл прастаяў без перабудоў ад асвячэння ў 1714 г. да закрыцця яго царскім указам ад 06.09.1835 г. Ужо на пачатку XIX ст. касцёл і кляштар патрабавалі рамонту: візітацыя 1818 г. сцвярджала, што *"кляштар патрабуе поўнага рамонту, бо так зруйнаваны, што 20 лістапала 1818 г. два памяшканні разам з кухняй рухнулі"*.

Праз два гады ўдалося адрамантаваць фасад, гзымсы і дахі. Але 20 траўня 1826 г. пажар знішчыў дах і пашкодзіў скляпенні. Пажар цалкам знішчыў шпіталь, які не меў собскага фундушу, і таму не было грошай, каб яго адбудаваць. Пасля пажару дах касцёла пакрылі саломай, якую часта зрывала ветрам. Касцёл стаяў занядбаны і брудны, абразы парваныя, літургічнае начынне патрабавала рэпарацыі.

Колькасць манахаў-кармелітаў ў розныя часы была рознай. Першапачаткова, у канцы XVII ст. іх колькасць была 6-7 чалавек. У першай палове XVIII ст. лічба кармелітаў дасягнула 10 чалавек, а ў 1774 г. іх было ужо 14, што выводзіла Ліду на трэцяе месца па колькасці манахаў - кармелітаў у літоўскай кармеліцкай правінцыі. У 1803 г. у Лідзе засталося 6 кармелітаў, у 1820 г. - 4 і ў 1825 г. - зноў 6[73].

На працягу XIX ст. першы паверх кляштара часта выкарыстоўваўся для свецкіх мэтаў. Акрамя

---

[70] Gizycki J. M.F. (Wolyniak). Z przeszlosci karmelitow na Litwie i na Rusi. Cz. 1-2.Krakow, 1918. S. 241-242.

[71] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 172.

[72] Gizycki J. M.F. (Wolyniak). Z przeszlosci karmelitow na Litwie i na Rusi. Cz. 1-2.Krakow, 1918. S. 241-242.

[73] З дакументаў вядома, што з 1674 г. пракуратарам лідскіх кармелітаў быў Эліяш Невяроўскі, праз два гады акрамя Невяроўскага ў Лідзе фігуруюць яшчэ тры манахі: Бенедыкт Чаплінскі, Альберт Лазарскі і Эліяш Недзялкевіч. На капітуле правінцыі ў Кракаве 1677 г. удзельнічаў ужо новы лідскі пракуратар Леанард Жулінскі. А ў 1681 г. у кляштры разам з наступным пракуратарам Ігнатам Стэльмаховічам жылі айцы Альберт Лазарскі, Геранім Падгорскі і Фартунат Пекаровіч. У 1682 г. пракуратарам становіцца а. Фартунат Пекаровіч, але ўжо ў 1684 г. разам з наступным пракуратарам Дыдакам Тэрнаровічам у клештары жывуць манахі Апалінары Весалоўскі, Клеменс Кухновіч, Альбін Вадовіч, Іахім Ярачэўскі і два іншыя браты. На правінцыйным капітуле ў Вільні 1684 г., Дыдак перавыбраны, а ў Лідзе ўтвораны канвент (агульны сход членаў манаскага ордэна ў межах кляштара), у 1685 г. прыёрам канвенту з'яўляецца а. Яўхім Ярачэўскі, акрамя яго ў кляштары жывуць Апалінары Весялоўскі, Шыман Рагульскі, Алекса Ласіскі, Мар'ян Скальскі, Мікалай Гутоўскі, Караль Зяжынскі (субдыякан) і Ануфры Чарвінскі (канверс - манах без святарскага пасвячэння). 16 чэрвеня 1690 г. правінцыяльная капітула праходзіць у Лідзе, і Яўхім Ярачэўскі перавыбраны прыёрам. На кангрэгацыі 1692 г. яшчэ бачым прыёра Ярачэўскага, акрамя яго ў лідскім кляштары жылі Яўстах Кавальскі (субпрыёр), Ян Малковіч, Бенедыкт Чаплінскі, Якуб Мулiновіч, Юзаф Саковіч і Габрыель Быкоўскі, два дыяканы: Марак Купрыяновіч і Вікторын Леснер і тры канверсы.

На правінцыйнай капітуле, якая пачала працу 19 чэрвеня 1694 г. ў Лідзе, прыёрам ёсць яшчэ Яўхім Ярачэўскі, акрамя яго, наступныя айцы: Андрэй Граіцкі, Генрык Смяшковіч, нейкі Тэафіл, Петроні Рудніцкі, Мар'ян Купрыяновіч (ужо святар) і яшчэ тры браты. На капітуле 1697 г. у Вільні ўдзельнічае лідскі прыёр Эліяш Масевіч, ён кіруе Брокардам Тварковічам (падпрыёр), Петроніем Рудніцкім, Анастазы Дусцыем (?), Паўлінам Капельніцкім, Дзмітрам Жалінскім і адным канверсам.

У 1701 г. лідскі прыёр а. Дыянізі Гілвіцкі, у Лідзе жывуць Тэафіл Масельніцкі, Казімір Шалдровіч, Антоні Тышкевіч (субдыякан) і два канверсы. У 1705, 1707 і 1709 гг. прыёрам застаецца Гілвіцкі.

У 1713 г. лідскі прыёр Амброзі Пранеўскі, але ў наступныя гады прыёрам зноў абіраюць Гілвіцкага.

У 1719 г. лідскім прыёрам становіцца а. Серапіён Стангоўскі, акрамя яго Зыгмунт Сікорскі (субпрыёр), Тэлесфор Мусялкоўскі, Норберт Янішэўскі, Роберт Дэнер (захрыстыян), Міхал Савінскі і два канверсы.

У 1723 г. персанал кляштара: Серапіён Стангоўскі (прыёр), Аляксандр Халхоўскі (субпрыёр), Кандыд Штыпер, Пётр Канскі, дыякан Амброзі Рымкевіч і адзін канверс.

У 1730 г. прыёр Палкевіч, манахі Альбін Смачынскі, Цыпрыян Суравецкі, Рэгіяш Вісьніцкі і два канверсы.

У 1731 г. правінцыйная капітула адбываецца ў Лідзе, прыёрам ёсць той жа Палкевіч, але экспраўінцыял Серапіён Стангоўскі абраны агульным кіраўніком (zwierzchnikiem) у Лідзе.

У 1736 г. у Лідзе жылі наступныя манахі: Альбін Пурхлінскі (прыёр), Норберт Калужынскі (субпрыёр), Пётр Канскі, Лукаш Шчарбінскі, Леан Скачынскі, Пётр Дублінскі (дыякан) і два канверсы.

павятовага архіва, тут месціліся павятовая каса і нават суд з канцылярыяй[74]. Перад вайной 1812 г. трапезную кляштара забралі пад царкву рускага драгунскага палка, камандзірам якога быў немец, лютаранін генерал Корф. Гэты ж генерал забраў кляштарны дом, які да яго здаваўся і прыносіў кармелітам добры даход (каля 150 руб. у год), скаргі адпаведным уладам не дапамаглі[75].

Стан маёнткаў кармелітаў вядомы толькі з XIX ст. Напрыклад ў 1810 г. фальварак Зарэчча быў павінен штогод прыносіць 252 руб. прыбыткаў. Гэты фальварак складаўся з жылога дома, гаспадарчых пабудоў і гарода, фальварку належалі вёскі Навасёлкі (там жылі 3 мужчыны), Лайкоўшчына (7 жыхароў), Паддубна (17 жыхароў) і некалькі валок зямлі. У фальварку высявалася 9 бочак жыта, пшаніцы 2 асміны, аўса 3 бочкі і 7 асмін, гароху 3 асміны, грэчкі 5 асмін, канопляў 12 гарнцаў, на сенажацях скошвалася 60 вазоў сена. Фальварак меў 5 валоў, 2 бугаі, 10 дойных кароў, 1 ялавую карову, 10 цялят, 2 кані, 15 авечак, 1 барана, 4 казы і 1 казла, 10 свіней, 12 вяпрукоў, 10 парасят, 20 кур і 1 пеўня, 8 гусей і 3 качкі. Пасля скасавання ордэна, фальварак перададзены ў дзяржаўны скарб.

Фундушовыя грошы былі падзелены на чатыры часткі і размешчаны: 1-я частка 9 000 руб. (60 000 зл.) у маёнтку Крупава, 2-я частка 600 руб. (4 000 зл.) у Жырмунах, 3-я частка 900 руб. (6 000 зл.) у Востраве, 4-я частка 2 100 руб. (14 000 зл.) у Лідскім кагале. Усе разам гэтыя грошы павінны былі прыносіць 1 071 руб. прыбыткаў у якасці адсоткаў з капіталаў. Але за атрыманне гэтых працэнтаў кляштару прыходзіліся пастаянна судзіцца.

Згодна з актам візіты 1820 г. грашовыя сумы пазначаны ў памеры 12 500 руб. Даходы склалі: з працэнтаў 958 руб. 29 кап., з касцёла 30 руб., з сялян за аплату рэкрутчыны 14 руб., з арэнды пляцаў 17 руб., за кватараванне ў кляштары свецкіх асобаў 150 руб, разам - 1 169,29 руб. З гэтых сум выдаткавана: урадавыя падаткі 27,83 руб, рэкрутчына 34 руб., воск, алей, віно і іншае - 120 руб., утрыманне законнікаў 556 руб, утрыманне слуг і чэлядзі 130 руб., рэстаўрацыя касцёла і кляштара 300 руб., разам - 1 167,83 руб.

Фундушу на утрыманне школы кляштар не меў, але час ад часу, калі з'яўляліся грошы, вучыў навукам хлопчыкаў з бедных сямей.

Бібліятэка кляштара мела больш за сто тамоў, пераважна тэалагічнай літаратуры, некалькі дзесяткаў кніжак былі пашкоджаны. У архіве меліся: інвентар фальварка Зарэчча за 1697 г., кнігі кляштарных актаў за 1719 і 1757 гг., кнігі духоўных і цывільных запісаў за 1804 г., кнігі расходаў і даходаў за 1729 і 1764 гг., інвентар за 1800 г.

Шпіталь, як пісалася вышэй, не меў адмысловага фундушу і таму ўтрымліваўся на ўзносы розных дабрадзеяў.

Як і належыць у кармелітаў, пры клештары існавала братэрства Шкапулярыя, якое працавала за кошт складак яго сяброў[76].

У 1832 г. Лідскі гараднічы меў прэтэнзіі і да ўжо нядзейснага кармеліцкага кляштара. 24 жніўня 1832 г. ён дакладваў Гарадзенскаму грамадзянскаму губернатару пра тое, што зрабіў распараджэнне аб папраўцы плота скасаванага кармеліцкага кляштара[77].

У 1845 г. будынак кляштара быў перароблены на вайсковы шпіталь, касцёл быў кінуты і разбураўся.

---

У 1740 г. на правінцыйнай кангрэгацыі ў Вільні лідскім прыёрам абраны а. Шыман Латовіч, у 1754 г. прыёрам становіцца а. Анёл Руткоўскі, у 1760 г. на капітуле Ліду прадстаўляе прыёр а. Брокард Мацкевіч, а ў 1764 г. - а. Станіслаў Завістоўскі.

Да 1806 г. прыёрам быў а. Міхал Гудоўскі, яго змяніў а. Павел Серакоўскі, а ўжо ў 1807 г. новым прыёрам абраны а. Каятан Кмяцінскі, які з-за хваробы не доўга займаў гэтую пасаду, хутка яго змяніў усё той жа а. Павел Серакоўскі.

На пачатку 1810 г. прыёрам становіцца а. Франіцішак Рушкевіч, субрыёрам а. Маўрыцы Таўтовіч, акрамя іх у кляштары жывуць Казімір Рходэ, Люцыян Забела, Яўхім Міхалоўскі (хутка памёр).

Пры канцы 1810 г. кляштарны персанал: Франіцішак Рушкевіч (прыёр, нарадзіўся 07.05.1775, святарскі стаж - 11 гадоў), Казімір Рходэ (скарбнік, нарадзіўся ў 1762 г., святарскі стаж - 24 гады), Люцыян Забела (субпрыёр, нарадзіўся ў 1777 г., святарскі стаж - 2 гады).

У 1820 г. прыёр кляштара Антоні Мацкевіч (узрост - 47 гадоў, вучыўся ў Марыямполі, потым ў Віленскім універсітэце, у ордэне з 1797 г.). Субпрыёр - Вацлаў Рудзевіч (узрост - 55 гадоў, нарадзіўся і вучыўся ў Марыямполі). Прамоўтар Шкапуляры Фларэнты Сліжэвіч (узрост - 43 гады, вучыўся ў Кражах), Паўлін Янушэўскі (узрост - 26 гадоў, вучыўся ў лідскіх піяраў).

На правінцыйнай капітуле 1825 г. лідскім прыёрам абраны Дыянізі Балсевіч - апошні лідскі прыёр кармелітаў. Гл. Gizycki J. M.F. (Wolyniak). Z przeszlosci karmelitow na Litwie i na Rusi. Cz. 1-2.Krakow, 1918. S. 247-256.

[74] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 172-173.

[75] Gizycki J. M.F. (Wolyniak). Z przeszlosci karmelitow na Litwie i na Rusi. Cz. 1-2.Krakow, 1918. S. 254.

[76] Там жа. S. 245-247.

[77] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гародня. Ф 1. воп. 4. сп. 131. "Переписка с римско-католической духовной консистори с Гродненской казённой палатой, Лидским городничим о неудовлетворительном состоянии католических церквей и монастырей в г. Лида.". С. 18-18 аб.

Выкананыя ў 1840 г. абмеры сведчыць, што касцельныя скляпенні ўжо не існавалі. У 1851 г. кляштар апісваўся як кінуты і разбураны. У 1858 г. муры святыні "ледзь трымаліся".

У 1908 г. касцёл быў разабраны, хоць касцельныя муры усе яшчэ стаялі да узроўню даху. Цэгла выкарыстоўвалася для будаўніцтва кашараў Паўночнага вайсковага гарадка. У тым жа 1908 г. кляштар занялі вайскоўцы. Пад час нямецкай акупацыі ў будынку былога кляштара месціўся жаўнерскі клуб, а з 1927 г. тут стала размясцілася староства Лідскага павета.

Зараз там дзе стаяў карmeліцкі кляштар, знаходзіцца будынак музычнага каледжа[78].







*Будынак былога кляштара кармелітаў у Лідзе, жаўнерскі клуб пад час Першай сусветнай вайны*

**Дадаткі**

**№182-1795 г. Красавіка, 1[79]. Аб'ява генерал-губернатара Рэпніна аб тым, каб духоўныя ўлады строга назіралі за пропаведзямі духавенства.**

Аб'ява
Літоўскага генерал-губернатара
Князя Рэпніна, усім каму пра тое
ведаць належыць.

У горадзе Лідзе 19 мінулага сакавіка месяца па новым стылі Пiяр, названы Лаўрынец (Ваўжынец - *Л.Л.*) Адамовіч, адважыўся ў пропаведзі, замест павучання закону Божаму, і супраць правілаў Евангельскіх і апостальскіх, і насуперак сваёй прысязе, непрыстойна ганьбіў паводзіны Гасудароў і ўмешваўся ў справы палітычныя, якія да духоўнага сану і закону Боскага не належалі; за такую дзёрзкасць той не варты свайго сану манах быў ўзяты пад варту і пазбаўлены свайго месца, ён будзе за гэта злачынства пакараны па ўсёй строгасці законаў. Але каб і ўсякага роду духавенства сцераглося і не адважвалася надалей ўпадаць у падобныя злачынствы супраць закона Хрысціянскага, які загадвае падпарадкавацца ўсталяванай ўладзе, а не наракаць супраць сваёй прысягі, пад засцярогай немінучага за тое строгага па законах пакарання; то праз гэта ўсім абвяшчаецца і пацвярджаецца: каб улады Духоўныя ўважліва за гэтым назіралі і падпарадкаванае ім духавенства трымалі ў правілах Хрыста Збаўцы нашага і ў вернасці прысязе нашай Аўгусцейшай Імператрыцы; да гэтага духоўныя ўлады ўсе намаганні свае і ўсю ўладу, ім законам дадзеную, павінны спажыць, для захавання падначаленага ім духавенства ад бядотных наступстваў, якія непазбежна прыцягнуць на сябе злачынцы.

З гэтым манахам як тамтэйшы начальнік быў узяты пад варту і рэктар Лідскага вучылішча Фларыян Крушэўскі; але пасля разгляду справы высветлілася, што ён бязвінны, бо не ведаў, што такую пропаведзь той манах казаць будзе: таму гэты Крушэўскі адпушчаны без усялякага спагнання, хоць ён і апынуўся не на сваім месцы з-за слабага ўтрымання падначаленых, ад чаго і адбылася такая дзёрзкасць, гэтак жа вінаваты і ў тым, што супраць сваёй прысягі адразу не прыняў залежных ад яго мер да спынення падобнага злачынства і не паведаміў пра яго, куды трэба.

Праз гэтую аб'яву пацвярджаю ўсім духоўным уладам пра неабходнасць строга назіраць.

Дадзена ў Гародні, 1/12 красавік 1795. Князь Мікалай Рэпнін.

РДГА. № фонду: 797, № вопісу: 12, год: 1842-1843.

[78] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 173.

[79] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792-1796) [С предисл. Ар. Турцевич]. Вильна, 1903. С. 270-271.

№ справы: 30981

**С. 1.**

Спадару Обер-Пракурору
Свяцейшага Сінода

Віленскі Ваенны, Гарадзенскі, Менскі і Беластоцкі Генерал Губернатар прадстаўляе мне аб прапанове начальніка Гарадзенскай Губерні перавесці пашкоджаны пажарам у мінулым жніўні ў г. Лідзе касцёл Заштатнага піярскага манастыра ў Праваслаўную царкву, а манастырскія будынкі для памяшкання павятовага вучылішча.

Да якога-небудзь з майго боку распараджэння, пакорліва прашу Ваша Сіяцельства, па змесце ў гэтым спісе прапановы Генерал-губернатара Мірковіча, паведаміць мне Ваша меркаванне.

Міністр Унутраных спраў [подпіс].

Дырэктар [подпіс].

**С. 2.**

**Спіс з прапановы Віленскага Ваеннага, Гарадзенскага, Менскага і Беластоцкага Генерал-губернатара да Міністра Унутраных спраў ад 30 Кастрычніка 1842 г. за № 8107.**

Падчас былога пажару ў г. Лідзе Гарадзенскай губерні, 23 мінулага жніўня, пажар знішчыў амаль палову гэтага горада, абгарэў касцёл з мураваным будынкам каля яго, які належаў заштатнаму манастыру піяраў.

Па зместу звароту да Гарадзенскага грамадзянскага губернатара, Кіраўніка Віленскай рымска-каталіцкай епархіі, біскупа Цывінскага, згаданы манастыр не ў стане выправіць абгарэлых будынкаў. Між тым Касцёл гэты стаіць на галоўнай вуліцы, і пакіданне яго ў цяперашнім выглядзе знявечыла бы лепшую частку горада.

Гарадзенскі Грамадзянскі Губернатар падае мне розныя прапановы пра новае ўладкаванне г. Ліда і растлумачыў між іншым, што азначаны Касцёл па аднаўленні знішчаных агнём драўлянага купала і даха, а таксама ўнутранага аздаблення, мог бы з дасканалай прыстойнасцю быць ператвораным ў праваслаўную царкву, так як ён прыгожай архітэктуры, мае трывалыя сцены і непашкоджаную агнём каланаду.

Маючы на ўвазе, што прыманыя да гэтага часу меры па зборы ахвяраванняў для збудавання ў Лідзе хоць бы невялікай драўлянай царквы, засталіся беспасяховымі з-за беднага стану мясцовых жыхароў, якія прыйшлі сёння яшчэ ў большае засмучэнне ад пажару, а між тым ёсць вялікая неабходнасць адкрыцця ў азначаным горадзе Праваслаўнай царквы, таму я лічу абавязкам прапанову Гарадзенскага Грамадзянскага губернатара перадаць для далейшага разгляду Вашага правасхадзіцельства на той прадмет, ці не прызнаеце Вы, Міласэрны Спадар, магчымым зрабіць залежнае ад Вас хадайніцтва аб пераводзе Лацінскага касцёла ў г. Лідзе, які належыць заштатнаму піярскаму манастыру, у Праваслаўную царкву за кошт сум духоўнага ведамства і аб наступным ушанаваць мяне сваім паведамленнем.

Калі цяперашняя прапанова атрымае адабрэнне, то ў такім выпадку па зместу прадстаўлення да мяне сапраўднага стацкага дарадцы Допельмайра, заснаванага на зносінах яго з Дырэктарам вучылішчаў Гарадзенскай губерні, у абгарэлым мураваным манастырскім будынку, маглі б з выгадай і прыстойнасцю змяшчацца: Лідская павятовая вучэльня, наглядчык яе і некалькі настаўнікаў. Набыццё гэтага будынка ад Рымска-Каталіцкага духавенства ўяўляецца вельмі магчымым, бо манастыр, як вышэй сказана, не мае сродкаў для выпраўлення; выдаткі ж на аднаўленне гэтага будынка могуць прыкладна складаць не вышэй за 4 тысячы рублёў срэбрам.

Дакладна. Начальнік аддзялення [подпіс].

**С. 4.**

Правялебнаму Мінскаму (закрэслена)
Літоўскаму

Прывялеб. Уладыка

Міласцівы сп-р. і Арх.

Сп. Міністр Унутраных спраў перадаў паступіўшую [] ад Віленскага Ваеннага, Гарадзенскага, Менскага і Беластоцкага Генерал-губернатара прадстаўленне пра прапанову начальніка Гарадзенскай Губерні [] пашкоджаны пажарам быў у мінулым жніўні [] у г. Лідзе касцёл пазаштатнага піярскага манастыра ў праваслаўную царкву, а манастырскія будынкі для памяшканняў павятовага вучылішча.

Лічу абавязкам пераправіць пазначанае прадстаўленне ў [] на папярэдняе меркаванне Вашай правялебнасці і пакорна прашу аб паведамленні мне Вашага меркавання.

Са шчырай пашанай

[подпіс] пакорны слуга Граф Пратасаў.

Дакладна: Століначальнік [подпіс].

**С. 5.**

Ваша Сіяцельства
Міласэрны Спадар!

Гарадзенскай Губерні ў павятовым горадзе Лідзе, ёсць сёння два Праваслаўныя прычты, адзін старажытна-праваслаўны, а другі ўз'яднаны, але Царквы Праваслаўнай тут няма, так што першы з тых прычтаў адпраўляе Набажэнства ў адведзеным паліцыяй абывацельскім пакоі, а другі ў старой могілкавая капліцы. Епархіяльныя начальства, Менскае і Літоўскае, хадайнічалі аб звароце ў Праваслаўную Царкву Касцёла скасаванага ў Лідзе Кармелітанскага манастыра, але Касцёл гэты разам з кляштарам, у мінулым годзе, паступіў ужо канчаткова ў ваеннае ведамства. Так як ў горадзе Лідзе Праваслаўная Царква неабходная, то, каб пазбегнуць пабудовы новай Царквы, я мяркую зусім зручным і карысным звярнуць на Праваслаўную Царкву абгарэлы цяпер у Лідзе Касцёл піярскага манастыра. Касцёл гэты даволі прыгожы, і знаходзіцца на бачным месцы, і хоць ад яго засталіся толькі мураваныя сцены, аднак ж аздабленне яго на Царкву па ўсёй верагоднасці менш будзе каштаваць, чым пабудова новай.

Паведамляючы пра гэта Ваша Сіяцельства, у наступства Вашага ліста ад … лістапада за № 7641, маю гонар быць з сапраўднай павагай і адданасцю

Вашага сіяцельства пакорны слуга Іосіф, Арцыбіскуп Літоўскі.

**№ 1689**

22 лістапада 1842 года,
С. Петербург,
яго сіяцельству
Сп. Обер-Пракурору Сінода
Графу Н.А. Пратасаву

**С. 6.**

Спадару Міністру Унут. спраў.

У выніку прапановы … ад 12 гэтага лістапада за № 2996 маю гонар паведаміць, што прапанова Віленскага Ваеннага, Гарад. Бел. і Менскім Генерал-губернатарам

пераводу ў праваслаўную царкву касцёла пазаштатнага манастыра піяраў у г. Лідзе … Прывялебны Літоўскі лічыць зусім зручным і карысным для тамтэйшых праваслаўных … сустракаюць цяжкасці ў выкананні сваіх дух. абавязкаў з-за адсутнасці прыходскай царквы.

[подпіс] Обер-Пракурор Св. Сінода Генерал-Ад'ютант Граф Пратасаў.

Дакладна, Столаначальнік [подпіс].

**С. 7.**

Спадару Обер-Пракурору
Свяцейшага Сінода

Пры паведамленнай мне Вашым сіяцельствам ад 27 лістапада мінулага года за № 7834 прапанове перадаць у ведамства Праваслаўнага духавенства піярскі Рымска-Каталіцкі касцёл у г. Лідзе, з перадачай часткі будынкаў яго для Лідскага павятовага вучылішча, я прапаноўваў … Сенату, які, дазволіўшы перадачу згаданага касцёла і будынкаў яго на вышэйвыказанай падставе, дазволіў указам ад 3 сакавіка зрабіць мне належнае па гэтым распараджэнне.

Паведаміўшы пра гэта Генерал-губернатару Мірковічу, Міністру Народнай Асветы і прапанаваўшы Рымска-Каталіцкай духоўнай Калегіі для залежных ад іх распараджэнняў, лічу абавязкам паведаміць пра гэта Ваша Сіяцельства.

Міністр Унутраных Спраў [подпіс].

Дырэктар [попіс].

**С. 9.**

Ваша Сіяцельства
Міласэрны Спадар!

Атрымаўшы прапанову Вашага сіяцельства ад 16 гэтага сакавіка за № 1913., датычную перадачы ў ведамства праваслаўнага духавенства, згарэўшага ў горадзе Лідзе лацінскага мураванага касцёла: я прапанаваў цяпер жа Літоўскай Кансісторыі распарадзіцца аб прыёме таго касцёла ў веданне мясцовага праваслаўнага кліру, а з тым разам прадпісаць епархіяльнаму архітэктару, каб ён склаў належныя планы і каштарысы на папраўку і пераробку таго Касцёла, для хадатайніцтва пра выдачу патрэбных для гэтага сум.

Паведамляючы пра гэта Ваша Сіяцельства з сапраўднай павагай маю гонар быць.

Вашага сіяцельства Іосіф Архіепіскап Літоўскі.

**№ 458**

17 сакавіка 1843 года
Яго сіяцельства Сп. Обер
Пракурору Св. Сінода Графу
Н.А. Пратасаву.

**С. 10.**

Спадару Обер-Пракурору
Свяцейшага Сінода

Віленскі ваенны, Гарадзенскі, Менскі і Ковенскі Генерал-Губернатар паведамляе мяне, што касцёл былога піярскага манастыра ў г. Лідзе, здадзены ў веданне праваслаўнага духавенства, а частка будынкаў яго аддзелена для Лідскага павятовага вучылішча.

Маю гонар паведаміць пра гэта Вашаму сіяцельству ў дапаўненні да майго ліста за № 797.

Міністр Унутраных Спраў [подпіс].

Віца-Дырэктар [подпіс].

**Дакументы з асабістага архіва мітрапаліта Іосіфа Сямашкі, надрукаваныя ў кнізе: "Записки Иосифа, митрополита литовского"** (Т. 3, СПб., 1883)

Г. обер - прокурору Св. Синода графу Протасову, от 20 августа (1837 г.) за № 566, о неимении препятствия к передаче Лидской по-кармелитской церкви на Православную, с тем, что бы в ней устроен был боковой престол для Униатов[80].

В следствии отзыва вашего сиятельства, от 9 сего августа за № 218, честь имею довести до вашего сведения: что в Лидской каменной по-кармелитской церкви Грекоуниатское богослужение действительно не совершается, из-за неустройства оной по правилам Восточной церкви, что устройство таковое не состоялось до сих пор, частью по известному уже от нескольких лет предположению обратить сию церковь в военную Православную, частью по неимению вовсе средств совершить таковое устройство, что для отправления Лидским Грекоуниатским прихожанам богослужения снабжена иконостасом и прилично устроена небольшая Ольжевская Грекоуниатская каплица, что, хотя число означенных прихожан обоего пола не превышает трехсот, и они по необходимости должны довольствоваться сказанною каплицей, из уважения однако ж, что каплица эта находится в пяти или шести верстах от города Лида, куда, кроме прихожан, стекается по делам и на торги много других униатов, и что здесь естественно иметь пребывание местному благочинному, весьма бы нужна была Униатская церковь в самом городе Лида. По сему я не нахожу никакого препятствия отдать ныне же в военное ведомство означенную выше по-кармелитскую каменную церковь, осмеливаюсь однако ж возобновить при сем случае давнишнюю мою мысль, чтобы вместо предполагаемой постройки новой в городе Лиде Униатской церкви, при предстоящей переделке помянутой по-кармелитской церкви в Православную, устроить в ней для Униатов боковой придел. Мысль эту сообщал я еще в 1834 г. губернатору Муравьеву, и он пустил о том представление, оставшееся или в министерстве внутренних дел или у бывшего обер-прокурора Св. Синода.

Преосвященному Антонию, епископу Бресткому, от 17 декабря (1837 г.) за № 831, об отмене сделанных им сношений о постройке в Лиде особой Грекоуниатской церкви…[81].

В Лиде, бывший кармелитский костел отстроиться на Православную Грекороссийскую церковь, в которой можно будет отправлять богослужение и Грекоуниатскому священнику, так, как ныне дозволено это Грекороссийским священникам в Грекоуниатских церквах. По сему и по бывшим у меня отношениям с г. обер-прокурором Святейшего синода, оказывается излишним строить в городе Лида новую Грекоуниатскую церковь. За тем, вследствии отзыва вашего преосвященства, от 3 сего декабря за № 512, поручаю вас отменить сделанные вашим преосвященством распоряжения касательно постройки означенной церкви.

---

[80] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт - Петербург, 1883. Т. 3. С. 330-331.
[81] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт - Петербург, 1883. Т. 3. С. 334.

***Валеры Сліўкін***

# Гісторыя, напісаная ў небе

## Да 100-годдзя Лідскага аэрадрома

Ваеннае паветраплаванне на тэрыторыі Беларусі пачыналася ў Берасці. 18 снежня 1901 г. у цвердзі было сфармавана Брэст-Літоўскае цвердзевае паветраплавальнае аддзяленне. Папярэднія шэсць цвердзевых аддзяленняў былі створаны ў Варшаве (1891), Новагеоргіеўску (1893), Івангорадзе (1893), Асаўцы (1893), Коўне (1895) і Яблонне (1897). Інжынернае забеспячэнне аддзялення ўключала шэсць прывязных шароў аб'ёмам 650 м$^3$, тры вольныя шары аб'ёмам 1000 м$^3$, рухомы газаздабывальны апарат; тры пераносныя газгольдары ёмістасцю 250 м$^3$, тры паравыя лябёдкі на двух вазах; 1200 пудоў сернай кіслаты; 900 пудоў жалезных стружак; 2546 пудоў іншых матэрыялаў для газаздабывання; абсталяванне для метэастанцыі.

Камандаваў аддзяленнем афіцэр у званні не ніжэй штабс-капітана. У мірны час па штаце да аддзялення належалі два малодшыя афіцэры ў чынах паручніка і падпаручніка, фельдфебель, два каптэнармусы, старэйшы і малодшы ўнтар-афіцэры, 2 яфрэйтары і 37 шарагоўцаў, а таксама восем нешыхтовых чыноў - пісар, старшы майстар, машыніст, тры майстравых, адзін абозны. І адзін конь.

У ваенны час цвердзевае паветраплавальнае аддзяленне "прызначалася для баявых запатрабаванняў цвердзі", павінна было павялічыцца па штаце амаль у тры разы і праводзіць рэкагнасцыроўку цвердзевага раёна, а ў выпадку патрэбы здзяйсняць з цвердзі вольныя палёты.

Падчас руска-японскай вайны для патрэб Маньчжурскай арміі была сфармавана Сібірская палявая паветраплавальная рота (8.04.1904) у складзе 198 чалавек. Праз тры месяцы быў сфармаваны Ўсходне-Сібірскі паветраплавальны батальён (8.07.1904), яшчэ праз тры з паловай - Сібірская палявая паветраплавальная рота была разгорнута ў Другі Ўсходне-Сібірскі паветраплавальны батальён (21.10.1904). У красавіку 1905 г. быў сфармаваны Трэці Ўсходне-Сібірскі батальён, але на вайну ён не паспеў. Два батальёны паветраплавальнікаў не змаглі паўплываць на сумны для Расійскай Імперыі зыход руска-японскай вайны, аднак, першы досвед баявога ўжывання паветраплавальных частак аказаўся станоўчым. Пад'ёмы паветраных шароў з назіральнікамі на вышыню ў некалькі сотняў метраў паказалі высокую выніковасць у вызначэнні месцаў размяшчэння артылерыйскіх батарэй і перасоўванняў войскаў праціўніка.

Пасля вайны, улетку 1906 г., 1-шы, 2-гі і 3-ці Усходне-Сібірскія паветраплавальныя батальёны былі раскватараваны адпаведна ў Омску, Іркуцку і Нікольску-Усурыйскім. У 1907 г. Брэст-Літоўскае цвердзевае паветраплавальнае аддзяленне было перафармавана ў батальён. Да 1910 г. паўстала разуменне непазбежнасці вайны на заходніх і паўднёвых межах Імперыі. Была праведзена ваенная рэформа, якая закранула і паветраплавальныя часткі. Усходне-Сібірскія паветраплавальныя батальёны былі расфармаваны. З першага батальёна была ўтворана 7-я паветраплавальная рота,



***Аэрастат Парсеваля***

якая была размешчана ў Кіеве. Асабовы склад і тэхнічнае абсталяванне другога і трэцяга батальёнаў былі размеркаваны па зноў сфармаваных 3-6 і 8-10 паветраплавальных ротах, якія былі размешчаны адпаведна ў Свеаборгу, Коўне, Гародні, Асаўцы, Севастопалі, Лідзе і Бярдзічаве. У Гародні была размешчана пятая паветраплавальная рота, а ў Лідзе - дзявятая.



*Аэрастат Парсеваля*

### 9-АЯ ПАЛЯВАЯ ПАВЕТРАПРАВАЛЬНАЯ РОТА

Дзявятая палявая паветраплавальная рота была сфармавана 9 верасня 1910 г. з 2-ой роты былога 3-га Ўсходне-Сібірскага палявога паветраплавальнага батальёна (Ваенная энцыклапедыя. Том 6). У "Лідскай газеце" некалькі разоў паведамлялася, што 9-ая паветраплавальная рота з'явілася ў Лідзе ў 1907 г. Гэта памылка.

Восем афіцэраў і класных чыноў прыбылі ў Ліду, іх пасялілі на паўночнай ускраіне горада ў прыватных хатах па вул. Віленскай. Сотня шарагоўцаў, 2 прывязныя змейкавыя аэрастаты Парсеваля, 2 рухо-мыя газаздабывальныя апараты, газголь-дары, лябёдкі з прыстасаваннямі для пад'ёму аэрастатаў размясцілі каля маён-тка Перапечыца, на выкупленых у братоў Садоўскіх землях. Здарылася гэта ўвосень 1910 г.

Улетку 1911 г. жыхары Ліды маглі назіраць, як над Перапечыцай падымаўся аэрастат Парсеваля.




**Змейкавы аэрастат.** 1 - абалонка; 2 - сілавы пояс з брызентавай прагумаванай тканіны; 3-баланет; 4 - клапан, 5 - вяроўка кіравання клапанам; 6 - цяга кіравання разрыўным прыстасаваннем; 7- клапан прывязны; 8 - гандола; 9 - рулявы мяшок; 10 - адтуліны для выхаду лішняга паветра.

Гэты тып аэрастата меў падоўжаную форму. У ніжняй яго частцы размяшчаўся баланет, адкрыты сустрэчнаму струменю паветра, які падціскаў газ, змешчаны ў абалонцы. Пры ваганнях ціску, нагрэве, астуджэнні ці ўцечцы газу аэрастат захоўваў вонкавыя аэрадынамічныя абрысы. Каб аэрастат станавіўся па ветры, у яго ніжняй частцы знадворку быў змешчаны рулявы мяшок, які гэтак жа, як і баланет, злучаўся з атмасферай праз улоўнік. Для надання аэрастату яшчэ большай устойлівасці ў хвастават частцы абалонкі размяшчалі падоўжныя мяшкі. Падвеска гандолы, якая складаецца са сталёвых трасоў, мацавалася да абалонкі праз палатнянныя накладкі ("гусіныя лапкі"), якія раўнамерна перадавалі нагрузку на тканіну абалонкі. Паветраплавальнік, змешчаны ў гандоле, з дапамогай вяроўкі мог кіраваць клапанам, змешчаным у верхняй частцы абалонкі. Устойлівасць аэрастата была вельмі высокай нават пры ветры да 100 км/г.

6 красавіка 1911 г. Ваенная Рада Расійскага войска прыняла палажэнне пра авіяцыйную службу. У адпаведнасці з гэтым палажэннем пры кожнай з паветраплавальных рот павінен быць сфармаваны авіяцыйны аддзел, забяспечаны 6 аэрапланамі і іншай маёмасцю па табелі. 21 чэрвеня ў Чыце пры 4-й Сібірскай паветраплавальнай роце быў сфармаваны першы авіяцыйны атрад рускага войска. У верасні было прынята гістарычнае рашэнне пра стварэнне ў рускім войску шасці авіяцыйных атрадаў. Паўстала пытанне пра месцы дыслакацыі авіяатрадаў і пра выбар пляцовак пад аэрадромы.

**ВЫБАР МЕСЦА ДЛЯ ЛІДСКАГА АЭРАДРОМА**

У снежні 1911 г. начальнік штаба Віленскай вайсковай акругі падрыхтаваў даклад з прапановай пра ўладкаванне аэрадромаў у акрузе, у тым ліку "паблізу Ліды, каля будучых пабудоў для захоўвання маёмасці 9-ай паветраплавальнай роты".

У красавіку 1912 г. у Віленскую вайсковую акругу з Пецярбурга быў камандзіраваны вайсковы інжынер штабс-капітан Зміцер Аляксандравіч Барэйка для выбару месца пад аэрадром у Лідзе. 2 траўня 1912 ён прадставіў справаздачу: *"У адпаведнасці з прадпісаннем Афіцэрскай паветраплавальнай школы ад 18 красавіка 1912 г. 19 красавіка я прыбыў да Начальніка інжынераў Віленскай вайсковай акругі ў г. Вільня і па яго загадзе ў складзе ім прызначанай камісіі 21 красавіка г.г. разгледзеў шэраг зямельных участкаў пад г. Лідай з мэтай знайсці найболей падыходзячае месца для меркаванага ў Лідзе навучальнага аэрадрома. Пры выбары месца для аэрадрома кіраваўся выдадзеным мне Начальнікам Паветраплавальнага аддзела Галоўнага Інжынернага Кіравання інструкцыяй, якая складаецца з наступнага:*

*- адпаведныя памеры аэрадрома 1* х *2 вярсты;*

*- на месцы вызначыць асаблівасці грунту;*

*- характар атачальнай мясцовасці;*

*- стан дарог, якія вядуць на аэрадром, і каму яны належаць;*

*- кошт участка, і каму ён належыць…*

*З усіх агледжаных у Лідзе ўчасткаў, адзіны, які адпавядае свайму прызначэнню па памерах і грунту, - участак на месцы элінга, які будуецца для 9-й паветраплавальнай роты, што належыць абшарніку Садоўскаму. (Кошт участка 750 рублёў за 1 дзесяціну). У самым шырокім месцы шырыня ўчастка 1 вярста, у найболей вузкім - 375 сажняў, даўжыня - 2 вярсты… Дарогі, якія вядуць на ўчастак, не прыдатныя для грузавога руху і належаць земству…Блізкасць балот, рэчкі Лідзейкі і змешанага лесу з процілеглага боку не будуць замінаць паспяховаму навучанню палётам"* (РДВГА. Ф. 802. л. 1341).

Абраныя пляцоўкі пад аэрадром паблізу Ліды па распараджэнні Начальніка Інжынераў Віленскай вайсковай акругі 3 траўня 1912 г. праверыла камісія ў складзе: начальніка Віленскай Інжынернай Дыстанцыі вайсковага інжынера палкоўніка Цімафея Янчыса, акруговага інжынернага кіравання палкоўніка Ўсевалада Васільевіча Сахарава і камандзіраванага з Галоўнага інжынернага кіравання падпалкоўніка Сяргея Апалонавіча Немчанкі з мэтай высветліць, які з участкаў найболей падыходзіць пад аэрадром. Агляд пацвердзіў усе высновы, зробленыя камісіяй З.А. Барэйкі.

*"1. Найболей падыходзячым участкам, у сувязі са значнымі яго памерамі - неабходнымі для навучання палётам на аэрапланах, з'яўляецца ўчастак зямлі, плошчай каля 170 дзесяцін, які мяжуе з участкам 9-й паветраплавальнай роты, і знаходзіцца ў валоданні абшарніка Садоўскага (135 дзесяці, часткай пад казённым лесам (10 дзесяцін) і часткай у валоданні сялян вёсак Мялькі і Прыдыбайлы (25 дзесяцін).*

*2. Неабходна звярнуць спецыяльную ўвагу на ўборку камянёў з усяго ўчастка, прычым на паласе ўчастка зямлі шырынёй каля 100 сажняў, у кірунку меркаванага курсу палётаў - выбраць камяні вагой больш аднаго фунта, а на астатнім участку не пажадана прысутнасць камянёў вагай больш за 5 фунтаў.*

*3. Неабходна засыпанне дзвюх ям у сярэдзіне ўчастка і карчаванне ўчастка лесу.*

*4. Неабходна перанесці ўчасткі дарог, якія перакрыжоўваюцца памяняўшы іх кірунак па перыметры ўчастка.*

*5. Месцам для аэрадромных пабудоў абраць участак з паўночнага боку аэрадрома, прычым дарогу, якая вядзе да гэтага ўчастка, як і на самім участку, заасфальтаваць ці выкласці каменем.*

*6. Што да метэаралагічных дадзеных абранага ўчастка, камісія прызнала, што наяўнасць даліны рэчкі Лідзейкі не акажа істотнага ўплыву на рух паветраных мас, бо першапачатковае навучанне палётам па прамой будзе праводзіцца ў паўночным баку аэрадрома, гэта значыць на адлегласці $^3/_4$-1 вярсты ад даліны рэчкі. Уплыў лесу, які абмяжоўвае заходнюю, так званую самую вузкую частку аэрадрома, будзе малаважным, бо пры палётах па крузе можна з пачатку навучання палётам, не далятаючы да лесу, здзейсніць разварот, а пры палётах па прамой, лес не акажа ўплыву, бо лятальны апарат будзе ляцець ці на лес, ці ад яго, і не прыйдзецца ажыццяўляць палёты ўздоўж лесу".* (РДВГА. Ф. 802, спр. 1341, лл. 88, 88-б).

5 траўня 1912 г. за подпісамі Т. Янчыса, В.В. Сахарава і С.А. Немчанкі ў электратэхнічную частку Галоўнага Інжынернага кіравання быў адпраўлены акт камісіі з суправаджальным лістом, у якім канчаткова быў вызначаны ўчастак пад аэрадром у Лідзе і ацэнены кошт яго пабудовы:

*"…камісія аддае перавагу ўчастку, размешчанаму большай часткай на землях абшарніка Садоўскага, які адпавядае ўмовам, што прад'яўляюцца сучаснымі патрабаваннямі да навучальнага аэрадрома.*

*Пры аглядзе ўчастка … выявілася неабходнасць самай стараннай уборкі камянёў па бегавой дарожцы да аднаго фунта вагой, што павялічыць кошт падрыхтоўкі аэрадрома…. Акрамя таго, неабходна закрыць 3 земскія грунтавыя дарогі агульнай даўжынёй каля 2 вёрст, якія перасякаюць аэрадром, і перанесці іх за межы аэрадрома, што выкліча дадатковыя выдаткі да 1000 рублёў. У папярэдні каштарыс не ўключаны таксама выдаткі на выкарчоўванне пнёў казённага лесу, які падлягае адчужэнню пад аэрадром, для чаго запатрабуюцца выдаткі ў межах 300 рублёў.*

*Такім чынам, агульны кошт абсталявання аэрадрома ў Лідзе - 164000 рублёў:*

*- адчужэнне зямлі ў Садоўскага - 101250 рублёў;*




***Выбар месца для будучага аэрадрома***

*- адчужэнне зямлі ў сялян вёсак Мялькі і Прыдыбайлы - 18750 рублёў;*

*- планіроўка аэрадрома з выбаркай камянёў і пасевам травы - 11000 рублёў;*

*- старанная выбарка камянёў па бегавой дарожцы - 5000 рублёў;*

*- перанясенне грунтавых дарог - 1000 рублёў;*

*- карчаванне пнёў на пляцы дзяржаўнага лесу - 3000 рублёў;*

*- устаноўка плота з дроту вакол участка па заяве падпалкоўніка Немчанкі недапушчальная, як небяспечная пры палётах;*

*- пабудова неабходных шашэйных дарог да аэрадрома і на самім аэрадроме агульнай даўжынёй да 3 вёрст - 24000 рублёў.*

*Падрыхтоўка аэрадрома павінна праводзіцца ў цёплае надвор'е, гэта значыць не пазней 1 кастрычніка. Уборка камянёў, планіроўка і ўзворванне запатрабуе не меней 3-х месяцаў. Гэта значыць, працы павінны быць пачаты не пазней 1 ліпеня гэтага года. Да гэтага часу павінен выйсці загад ... пра адчужэнне зямлі. Канчатковае абсталяванне аэрадрома можа быць праведзена толькі з вясны наступнага года. Сяўбу травы можна пачаць пасля канца маразоў…"* (Там жа).

29 траўня 1912 г. начальнік інжынераў Віленскай акругі атрымаў тэлеграму Галоўнага інжынернага кіравання: *"Галоўнае кіраванне не сустракае перашкод да ўладкаванння аэрадрома ў Лідзе".*

Аэрадром меркавалася размясціць побач з тэрыторыяй, ужо асвоенай паветранымі шарамі 9-ай паветраплавальнай роты.

23 траўня 1912 г. Імператар Мікалай ІІ зацвердзіў закон "Пра водпуск з дзяржаўнага казначэйства сродкаў на ўтварэнне і ўтрыманне авіяцыйных атрадаў паветраплавальных рот". Генеральны штаб Вайсковага міністэрства Расіі плануе стварэнне авіяцыйных цэнтраў у вайсковых акругах. Адзін з такіх цэнтраў для Віленскай акругі было запланавана стварыць у Лідзе. У жніўні 1912 г. былі сфармаваны 8 авіяцыйных атрадаў, у тым ліку адзін з іх пры Гарадзенскай цвердзевай паветраплавальнай роце.

## БУДАЎНІЦТВА АЭРАДРОМА І ПАЎДНЁВАГА ГАРАДКА

У 1912 г. вайсковая будаўнічая камісія пад кіраўніцтвам генерал-маёра І.А. Канабіха прыступіла да

будаўнічых прац у Паўднёвым гарадку. За лета былі пабудаваны склады авіяцыйнай маёмасці, казармы, падстрэшкі, уладкована ўзлётна-пасадачная паласа.

Калі аэрадром быў падрыхтаваны, калі прызямліўся першы самалёт, прозвішчы першых лётчыкаў - гэта ўсё пакуль у стадыі вывучэння. Напрыклад, Гатчынскі аэрадром - першы ў Расійскай імперыі быў пабудаваны ў сярэдзіне траўня 1910 г., і адразу пачаліся палёты на аэрапланах "Фарман", афіцыйнае ж адкрыццё адбылося 26 сакавіка 1911 г. Такія даты для Лідскага аэрадрома пакуль устанавіць не ўдалося. Упэўнена можна казаць, што ў 1912-13 гг. на землях маёнтка Перапечыца, выкупленых дзяржавай у Івана і Міхала Садоўскіх, быў пабудаваны вайсковы аэрадром.

*"У 1911-1912 гг. у Лідзе з'явіліся цікавыя, статныя афіцэры-лётчыкі. Сінія пілоткі, тонкі пояс з партупеяй, да якой быў прышпілены корцік, накшталт марскога. Яны былі такія прыгожыя. А той факт, што гэтыя маладыя ганарлівыя мужчыны, як мы ведалі, маглі разбіцца ў кожным палёце, рабіў кожнага з іх сапраўдным героем".*

Улетку 1913 г. на Лідскім аэрадроме прызямляліся самалёты. У жніўні часопіс "Паветраплавальнік" апублікаваў артыкул пра пералёт лётчыкаў Гарадзенскага цвердзевага авіяцыйнага атрада на трох самалётах "Фарман-16" па маршруце Гародня-Баранавічы, Баранавічы-Ліда і Ліда-Гародня. Усе тры пілоты ляцелі з пасажырамі-механікамі ў Скобелеўскі лагер, дзе карэктавалі артылерыйскую стральбу на вучэннях. Камандаваў пералётам камандзір атрада штабс-капітан Карпаў. Вось як апісваецца пералёт на Лідскім участку: *"...з Баранавіч пераляцелі ў Ліду: адлегласць 120 вёрст праляцелі за 1 гадзіну 20 хвілін, ляцелі без компаса, проста на поўнач, уздоўж чыгуначнага палатна. З Ліды частка вярнулася ў Гародню".*

Да канца 1913 г. на Лідскім аэрадроме былі пабудаваны склады, казармы, майстэрні, жылыя дамы для афіцэрскага складу, велізарны (90х40х40 м) драўляны на металічным каркасе элінг, вышка-прычал для дырыжабляў. Спланавана дарожка для разгону і пасадкі аэрапланаў шырынёй каля 100 м і пабудаваны падстрэшкі для аэрапланаў.

Адзін з Садоўскіх, атрымаўшы грандыёзную па тых часах суму грошай, пагрузіўся ў п'янства і гістарычна меў рацыю, да прыходу немцаў заставалася пару гадоў.

19 снежня 1913 г. рашэннем Вайсковай Рады 9-ая паветраплавальная рота, размешчаная ў Лідзе, была пераназвана ў 3-ю паветраплавальную роту, у сувязі з тым, што 3-я паветраплавальная рота, дыслакаваная ў Свеаборгу (Хельсінкі), была пераназвана ў Свеаборгскае цвердзевае паветраплавальнае аддзяленне. 31 студзеня 1914 г. Мікалай II зацвердзіў гэтае рашэнне.

## ДЫРЫЖАБЛІ НА ЛІДСКІМ АЭРАДРОМЕ

Трэцяя паветраплавальная рота, якая базавалася ў Лідзе ў Паўднёвым гарадку, у 1913-1914 гг. была адным з найбуйных ваенных паветраплавальных падраздзяленняў Расійскай Імперыі. На Лідскім аэрадроме адначасова базаваліся паветраныя шары, змейкавыя аэрастаты, дырыжаблі некалькіх тыпаў і аэрапланы розных канструкцый. Падніmaліся ў карзінах паветраных аэрастатаў назіральнікі, з элінга выплывалі велізарныя дырыжаблі з экіпажамі ў падвясных гандолах, па ўзлётнай дарожцы ўзляталі і садзіліся лётчыкі на сваіх "Ньюпарах","Фарманах", "Сікорскіх". Трэцяя паветраплавальная рота і ўваходзіўшая ў яе склад чацвёртая авіяцыйная рыхтаваліся да Першай агульнасусветнай бойні.

Улетку 1913 г. Лідская паветраплавальная рота атрымала дырыжабль "Астру". Гэты дырыжабль мяккага тыпу быў набыты ў Францыі на заводзе "Astra". Меў ён трохарачную канструкцыю з трыма падоўжнымі зборамі і ўнутранымі тросавымі сцяжкамі. Абалонка за кошт гэтага мела высокую трываласць пры паніжаным ціску, і дазваляла ўжываць танныя матэрыялы абшыўкі. "Астра" - вялікі дырыжабль, даўжынёй 78 м, максімальны дыяметр - 15 м, аб'ём - 10500 $м^3$, два баланеты аб'ёмам па 1750 $м^3$, два рухавікі па 147 к.с., два вінты дыяметрам 3,4 м. Максімальная хуткасць 59 км/гадзіну, столь 2500 м. Карысная нагрузка 5400 кг. Працягласць палёту 15-20 гадзін. Радыёстанцыя з далёкасцю дзеяння да 350 км. Узбраенне: два кулямёты "Максім" (7,62 мм) на 3000 патронаў, адзін на грэбні абалонкі, другі - у гандоле, 410 кг бомбаў з прыстасаваннем для скідвання.

Першы палёт дырыжабля ў расійскім небе адбыўся 22 ліпеня 1913 г. Спецыялістам дырыжабль не спадабаўся: *"... звярнуў на сябе ўвагу крайняй марудлівасцю і тым, што ні за што не браў вышыні".* Экіпаж "Астры" складаўся з 10-14 чалавек розных вайсковых спецыяльнасцяў. Камандзір, вахтавы афіцэр (адказны за газавыя балоны, абцяжку і баласт), афіцэр па абслугоўванні рухавікоў, галоўны рулявы-штурман, двое рулявых, адзін-два ўнтар-афіцэры, адказныя за сувязь, два ніжнія чыны на кожны з матораў, адзін-два спецыялісты на абалонкі. Кулямёты абслугоўвалі і скідвалі бомбы стралкі. Наземны тэхнічны персанал складаўся звычайна з 20-25 чалавек. Для ўзняцця ў паветра дырыжабля і памяшчэння ў ангар пры моцных парывах ветру, патрабаваліся высілкі да 200 чалавек, якія ўтрымлівалі дырыжабль за ванты.

Напярэдадні Першай сусветнай вайны Расійская армія мела 14 дырыжабляў: "Лебедзь", "Крэчат", "Беркут", "Голуб", "Ястраб", "Чайка", "Каршун", "Грыф", "Кобчык", "Сокал", "Альбатрос", "Астра", "Кандор", "Буравеснік", 6 з іх французскай вытворчасці, 2 - германскай. Дыслакаваліся дырыжаблі ў Луцку, Бярдзічаве, Беластоку, Лідзе, Салізі, Брэст-Літоўску, Коўне, Гародні, Домне, Уладзівастоку. Германія мела 18 уласных дырыжабляў, Італія - 10, Англія - 7, Францыя - 5, ЗША - 4.

З пачаткам вайны Лідская 3-я паветраплавальная рота была папоўнена асабовым складам у адпаведнасці са штатамі ваеннага часу. Матэрыяльная частка была праверана і прыведзена ў баявую гатоўнасць.

У жніўні з Салізі па чыгунцы быў прывезены дырыжабль "Голуб". Ён разбіраўся на часткі вагой не больш за 40 кг.

Гэты невялікі дырыжабль быў зроблены ў 1910 г. на Іжорскім заводзе. Выкарыстоўваўся ў Паветраплавальнай школе для трэніровак экіпажаў. Аб'ём абалонкі - 2270 м$^3$, даўжыня 50 м, максімальны дыяметр 8 м, хуткасць да 50 км/гадзіну, столь 1000 м, працягласць палёту - 4 гадзіны, грузападымальнасць - 800 кг, экіпаж 4 чалавекі. У верасні 1914 г. "Голуб" здзейсніў некалькі палётаў да лініі фронту. У кастрычніку ў Лідскім элінгу па прычыне зношанасці дырыжабль разабралі і вярнулі ў Пецярбург.



***Дырыжабль "Голуб"***

Неўзабаве было прынята рашэнне пра адпраўку на фронт лепшага на той момант расійскага дырыжабля "Альбатрос". "Альбатрос" знаходзіўся ў Салізі і належаў Паветраплавальнай школе. Камандзірам карабля быў прызначаны адзін з яго стваральнікаў Б.В. Голубаў. Каманда была сабрана з добраахвотнікаў. 12 жніўня 1914 г. паступілі загад пра прызначэнне экіпажа і прадпісанне пра падрыхтоўку на працягу трох дзён да пералёту ў Ліду, а затым на перадавую базу ў Беласток. 15 жніўня "Альбатрос" вывелі з элінга, экіпаж заняў свае месцы, і ў 18 гадзін наземная каманда аддала канцы. Падняўшыся на вышыню ў 200 м., карабель накіраваўся да Варшаўскай чыгункі, якую абралі ў якасці шляхавога арыенціру. Каля 20 гадзін прайшлі Лугу і паглыбіліся ў Пскоўскія балоты. Начная імга апускалася на зямлю, але агеньчыкі ў вартоўнях і на раз'ездах чыгункі давалі магчымасць лёгка арыентавацца. На падходзе да Пскова механік Чымала перадаў па перагаворнай трубе з машыннага аддзялення, што моцна грэецца камера размеркавання магутнасці на вінты, і папрасіў дазволу зменшыць лік абаротаў. Гэта былі непрыемныя хвіліны палёту - бакавым ветрам дырыжабль зносіла ў бок ад чыгункі, паўстала рэальная перспектыва аварыйнай пасадкі ў балоце. Праз 20 хвілін механік Чымала перадаў, што можна павялічыць абароты, і неўзабаве карабель вярнуўся да чыгункі. Як потым стала вядома, камеру забіла густой змазкай, якая разагрэлася ў выніку кручэння шасцерняў. Калі Чымала адкрыў вечка механізма, лішнюю змазку выбіла, і тэмпература прыйшла ў норму. У 2 гадзіны на вышыні 300 м дырыжабль падышоў да Дзвінска, які выявіў сябе светлай плямай у непрагляднай цемры. Над Дзвінскай цвердзю "Альбатрос" абстралялі вартавыя, хоць паведамленне пра шлях руху дырыжабля было перададзена ва ўсе вузлавыя пункты маршруту. За Дзвінскам збіліся са шляху, але неўзабаве аднавілі арыенціроўку і досвіткам наблізіліся да Вільні. Раніца выдалася ціхая і ясная, вецер не змяніў кірунку, пасля павароту на Ліду стаў бакавым. 16 жніўня ў 6-30 "Альбатрос" шчасліва прыбыў у Ліду. За 12 гадзін дырыжабль праляцеў каля 780 км з сярэдняй хуткасцю 65 км/г.

У Лідскім элінгу "Альбатрос" прабыў 10 дзён і 27 жніўня ўначы пераляцеў у Беласток. Прылёт "Альбатроса" супаў з днямі катастрофы войска генерала Самсонава.

Начальнік штаба Паўночна-заходняга фронту палкоўнік Бонч-Бруевіч настойваў на правядзенні выведкі ў раёне Аленштэйна. Але моцны заходні вецер не дазволіў "Альбатросу" выканаць гэтае заданне. На вышыні 500-700 м карабель сустракаў такую моцную паветраную плынь, што яго зносіла, не гледзячы на працаваўшыя ў поўную магутнасць рухавікі, а падняцца вышэй гэтага струменя не дазваляла дрэнная пад'ёмная сіла газу. Тады штаб Паўночна-заходняга фронту паставіў экіпажу задачу ажыццявіць начное бамбаванне пад'язных шляхоў ля Асаўца. У ноч на 30



***Дырыжабль "Альбатрос"***

жніўня "Альбатрос" выляцеў на выкананне задання. Пад Граевам ён быў сустрэты моцным ружэйным агнём 4-га Сібірскага корпуса, толькі што прыбылага на фронт і не папярэджанага пра магчымы пралёт свайго дырыжабля. Абалонка карабля атрымала мноства прабоін. Прыйшлося пераляцець у Брэст-Літоўск. Там дырыжабль давялі да ладу, і ў сярэдзіне верасня ён вярнуўся ў Беласток.

У канцы верасня Б. В. Голубаў быў прызначаны камандзірам 3-й паветраплавальнай роты і выехаў у Ліду на прыёмку перададзеных пад яго начала дырыжабляў "Грыф" і "Астра". Камандзірам "Альбатроса" стаў Апанас Шабскі. Ён выканаў некалькі азнаямленчых палётаў, а затым распачаў шэсць беспаспяховых начных вылетаў у раён Асаўца. 4 разы замінала нізкая воблачнасць, адзін раз заблудзіліся, адзін раз былі абстраляныя сваімі войскамі. У ноч на 13 кастрычніка Шабскі ў сёмы раз павёў карабель да Асаўца. Моцная смуга замінала арыенціроўцы, і пасля пяці гадзін блукання камандзір загадаў знізіцца, каб вызначыцца на мясцовасці. Дырыжабль напароўся на дрэвы. Абалонка і гандола былі пашкоджаны. Моцны вецер кідаў бездапаможны карабель на дрэвы, і, каб яго выратаваць, камандзір аддаў загад ірваць разрыўное прыстасаванне. Аварыя адбылася за сорак кіламетраў ад лініі фронту. Каманда абышлася сінякамі. Рамонту дырыжабль не падлягаў, яго разабралі.

У верасні 1914 г. на Лідскі аэрадром прыбыў дырыжабль "Грыф", які да гэтага знаходзіўся ў 4-й роце ў Бярдзічаве. Гэта мяккі нямецкі дырыжабль Parseval PL-7, выпушчаны ў 1910 г. на прадпрыемстве Luftfahrzeug GmbH.

Меў блізкую да цыліндрычнай формы абалонку аб'ёмам 7600 м$^3$ са сферычным насавым і канічным кармавым канчаткам. Усярэдзіне абалонкі размяшчаліся два паветраныя баланеты па 900 м$^3$, злучаныя мяккімі паветраправодамі з усталяваным у гандоле вентылятарам. Даўжыня "Грыфа" - 72 м, максімальны дыяметр - 14 м, столь - 2300 м, грузападымальнасць - 3700 кг. Меў два рухавікі NAG па 81 к.с., хуткасць - 50 км/гадзіна, час у палёце - да 20 гадзін, экіпаж - 4 чалавекі. Узброены быў 2-мя кулямётамі "Максім".

Палёты на дырыжаблі "Грыф" у Бярдзічаве выконваў экіпаж у складзе: камандзір - капітан В.Л. Ніжэўскі, памочнік - штабс-капітан А.П. Чачулін, штабс-капітан М.О. Сафонаў, старэйшы механік - Н.Я. Навумаў. Можна меркаваць, што гэты ж экіпаж выконваў палёты з Лідскага аэрадрома. Баявых задач дырыжаблю не ставілі, увесну 1915 г. "Грыф" быў дэмантаваны.

3 лістапада 1914 г. у Лідскім элінгу быў напоўнены апорным газам дырыжабль "Астра".

Да сярэдзіны снежня дырыжабль быў гатовы да палётаў. Камандзірам карабля быў прызначаны А.І. Шабскі. 24 снежня ў 10 гадзін раніцы "Астра" вылецела ў Беласток. Дзьмуў імпэтны вецер, месцамі зямлю пакрывала густая смуга. Ішлі над чыгункай, якая вядзе ў Гародню. У 12 гадзін прайшлі над Гародняй. Воблачнасць павялічвалася, смуга схавала Варшаўскую чыгунку, даводзілася спускацца на малую вышыню, каб аднавіць арыенціроўку. Вецер узмацніўся да такой ступені, што вярнуцца назад у Ліду не ўяўлялася ніякай магчымасці - магутнасці рухавікоў не хапала, і дырыжабль проста зносіла. Часамі ішоў снег, і ў 15.00 дарога, а разам з ёй і арыенціроўка, былі страчаны канчаткова. Карабель дрэнна слухаўся рулёў, і Шабскі вырашыў прызямліцца на краі лесу палізу ад маленькай вёсачкі, каб высвятліць сваё месцазнаходжанне. Пры прызямленні парыў ветру кінуў дыры-




*Дырыжабль Parseval PL-7, ён жа "Грыф"*



*Дырыжабль "Грыф"*



***Дырыжабль "Астра"***

жабль на зямлю, што прывяло да дэфармацыі пярэдняй часткі гандолы і пашкоджання насавога паветранага вінта. Аказалася, што дырыжабль знаходзіцца за 20 км ад Беластока, але дабрацца туды ўжо было немагчыма. Паломка паветранага вінта рэзка зменшыла хуткасць палёту, і вецер літаральна зносіў карабель. У Беласток быў пасланы ганец, каб выклікаць рамонтную каманду, але яна не паспела. Вецер увесь час узмацняўся, паваліў снег, покрыў якога да раніцы дасягнуў паўметра. Парывамі ветру дырыжабль біла аб зямлю, змінаючы панэлі гандолы, і ў 17.30 камандзір даў каманду рваць разрыўныя. Прыбылая каманда разабрала дырыжабль, і да 1 студзеня ўсе яго часткі былі дастаўлены на найбліжэйшую чыгуначную станцыю Чорны Бор для адпраўкі ў Ліду.

Да канца сакавіка 1915 г. дырыжабль знаходзіўся на рамонце, у красавіку яго падрыхтавалі ўсім неабходным і напоўнілі газам. Напачатку траўня былі зроблены выпрабавальныя палёты, падчас якіх праверана кіравальнасць, максімальная хуткасць (38 км/г) і столь (1500 м). У сярэдзіне траўня дырыжабль пад камандаваннем Б. В. Голубава пераляцеў у Беласток, дзе яго падрыхтавалі да выканання баявых вылетаў. Былі зроблены 6 баявых палётаў за лінію фронта, з іх - тры начныя з бомбакіданнем. Самай паспяховай аперацыяй за ўсю вайну стаў налёт дырыжабля "Астра" на чыгуначную станцыю Лык (Элк) у нямецкім тыле. Для выканання гэтай аперацыі патрабаваліся асоба спрыяльныя ўмовы надвор’я, бо тэхнічныя магчымасці дырыжабля былі абмежаванымі. Трэба было пры слабым ветры агульнага кірунку на паўночны захад, карыстаючыся для арыенціру сеткай Мазурскіх азёр, падысці су-праць ветру да Лыка, які знаходзіўся прыкладна за 80 км ад перадавых пазіцый, скінуць бомбы і, карыстаючыся спадарожным ветрам, сысці дахаты. Такі выпадак прадставіўся ў ноч на 21 траўня - вецер быў паўночна-заходні 2-3 м/с, воблачнасць - сярэдняя. "Астру" вывелі з элінга каля 21.00, каманда заняла свае месцы, і дырыжабль узяў курс правей Асаўца на лінію азёр, маючы на борце 21 аднапудовую бомбу і кулямёты для абароны. Да 24.00 набралі вышыню 700 м, а на падыходзе да Лыка (у 2.30) мелі 1200 м. З гэтай вышыні і былі скінуты бомбы - спачатку тры для прыстрэлкі, а затым астатнія васямнаццаць. Вызваліўшыся ад грузу, дырыжабль прыскокнуў да 1600 м, тым часам па ім адкрылі агонь зенітныя гарматы. Некалькі снарадаў разарвалася ў небяспечнай блізкасці ад карабля. Карыстаючыся цемрай і спадарожным ветрам, дырыжабль сышоў з зоны абстрэлу і ў 5.30 шчасліва вярнуўся на базу. Пасля прызямлення ў насавой частцы былі выяўлены некалькі прабоін. Гэта быў адзіны ўдалы баявы вылет, зроблены рускімі дырыжаблямі падчас вайны. У другой палове чэрвеня 1915 г. дырыжабль быў раззброены і дэмантаваны.

Улетку 1915 г. становішча дырыжабляў рэзка ўскладнілася, паколькі немцы пачалі выкарыстоўваць супраць іх самалёты-знішчальнікі з запальнымі кулямі. Да таго ж з'явілася зенітная артылерыя. Да восені ў выніку нямецкага наступу былі страчаны ўсе элінгі і перадавыя базы. Эфектыўнасць выкарыстання дырыжабляў у баявых умовах аказалася вельмі нізкай па прычынах велізарных памераў, нізкай хуткасці, малой вышыні палёту і вялікай залежнасці ад умоў надвор’я.

Да 1920 г. дырыжабль "Астра" захоўваўся на складзе Паветраплавальнай школы ў Салізі. У 1920 г. быў адноўлены пад імем "Чырвоная зорка". Узімку 1921 г, падчас палёту, пры моцным ветры дырыжабль стукнуўся аб зямлю, гандола адарвалася ад абалонкі, абалонка звалілася непадалёк.



***Дырыжабль "Чырвоная зорка" (1921 г.)***

**4-АЯ АВІЯЦЫЙНАЯ РОТА**

Пры вывучэнні матэрыялаў па Лідскім аэрадроме я дазнаўся, што ў архівах ляжыць рукапіс першага рускага генерала авіяцыі **В.М. Ткачова**, які служыў у Лідзе ў 1914 г.

У Грамадзянскую вайну ён ваяваў на баку белых, пасля Другой сусветнай быў арыштаваны ў Югаславіі, адседзеў 10 гадоў у лагерах, яго рукапіс катэгарычна не рэкамендаваўся да публікацыі, і ніякіх надзей на яго прачытанне я не меў. Нечакана ў неабсяжных абшарах Інтэрнэту знайшоў паведамленне, што ў 2007 г. рукапіс быў выдадзены ў выглядзе кнігі тыражом 500 асобнікаў. Пад назвай "Крылы Расіі" кніга адразу ж стала рарытэтам. З МБА даслалі прывітанне, з якога вынікала, што такой кнігі ў РБ няма. Трэба было знайсці чалавека, які жыве ў Маскве, здольнага скапіяваць патрэбную частку з кнігі ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы (былой "Ленінцы"). Намеснік дырэктара Лідскай ЦБР Тамара Іосіфаўна Зенюковіч знайшла такую выдатную жанчыну, за што ім абедзвюм удзячны і вельмі ўдзячны.

Усе прыведзеныя даты даюцца па старым стылі.

У канцы 1912 г. на Лідскім аэрадроме ствараўся авіяатрад Адмысловага прызначэння. Пра гэта згадваецца ў біяграфіі вайсковага лётчыка Е.С. Пятосіна. 15 снежня 1912 г. ён быў камандзіраваны ў г. Ліду для заняцця пасады малодшага афіцэра 2-га авіяцыйнага атрада Адмысловага прызначэння і тут жа вернуты ў Санкт-Пецярбург для даабучэння.

У ведамасці ад 3 верасня 1913 г. у авіяцыйным атрадзе лічыліся 4 афіцэры-лётчыкі, 34 ніжнія чыны, 14 коней. Атрад меў 6 самалётаў "Ньюпар" французскай вытворчасці, 2 запасныя рухавікі, 3 складаныя намёты, інжынерны абоз з 37 вазамі і 6 вазоў для перавозкі самалётаў.

Напачатку снежня 1913 г. у 2-гі карпусны авіяатрад прыбыў Уладзімір Фёдаравіч Станюкевіч: *"Тут лётчыка чакаў сталы ўжо звыклым "Ньюпар", за якім былі замацаваны механік, матарыст і яго памочнік. Узрадавала тое, што на зіму палёты не спыняліся. Гэта дазваляла не толькі падтрымліваць сябе ў форме, але і дадавала да месячнага забеспячэння 200 рублёў "палётных" грошай. Праўда, патрабавалася налятаць не меней 6 гадзін. У Лідзе кватаравалі і дырыжаблісты, што ўваходзілі, як і лётчыкі, у склад 3-й паветраплавальнай роты. Іх велізарны элінг прылягаў да аэрадрома, але дырыжаблі не прыйшліся яму па душы. "Вялікія непаваротлівыя ціхаходы" - падумаў Станюкевіч. Вёрткі "Маран" Уладзімір Фёдаравіч асвоіў самастойна".* (На досвітку рускай авіяцыі. М., 2000. С. 276).

Паветраплавальнікі і лётчыкі ў той час былі элітай ва ўсіх войсках свету. Яны былі добра забяспечаны матэрыяльна і карысталіся павагай у грамадстве. У 1912 годзе было зацверджана павышанае ўтрыманне ўсяму асабоваму складу паветраплавальных і авіяцыйных частак і сутачныя лётнаму складу. Лятаўшым на аэрапланах афіцэрам плацілі па 3 рублі, а салдатам па 1,5 р. у суткі. Лятаўшым на дырыжаблях афіцэрам выплачвалі па 1 руб.50 кап, ніжнім чынам - па 75 кап. у суткі.

15 лютага 1914 г. камандзір 9-й паветраплавальнай роты капітан Я.Н. Рэшчыкаў загадам па роце сфармаваў 4-ую авіяцыйную роту з 7 атрадаў: 2 карпусны авіяцыйны атрад (КАА), 3 КАА, 4 КАА, 6 КАА,10 КАА, 20 КАА, 21 КАА. Да 10 сакавіка 1914 г. авіяцыйная рота была цалкам сфармавана. Камандзірам роты быў прызначаны В. Ткачоў. Вядома некалькі загадаў пра фармаванне 4-й роты.

*"Загад № 47 па Лідскай паветраплавальнай роце ад 15 лютага 1914 г.:*

*П.1. Стваранaя пры даверанай мне роце 4-ая авіяцыйная рота з 7 авіяцыйнымі атрадамі 2 лютага сфармавана. Ад імя 9-й паветраплавальнай роты вітаю маладыя часткі, віншую іх з уступленнем у самастойнае жыццё і прашу прыняць шчырыя пажаданні поўнага поспеху ў іх дзейнасці.*

*П.2. У далейшым да атрымання распараджэння зверху пра складанне з мяне функцый назіральніка за фармаваннем 4-й авіяцыйнай роты і пра перадачу яе ў часовае камандаванне старэйшаму з афіцэраў - лётчыкаў, пакідаю за сабой часовае камандаванне названай ротай.*

*Часовы камандуючы ротай капітан Рэшчыкаў."*

Быў загад штаба Віленскай вайсковай акругі ад 11 сакавіка пра прызначэнне камандзіра авіяцыйнай роты, у якім гаворыцца, што фармаванне роты завяршылася 10 сакавіка.

Быў яшчэ загад па Галоўным кіраванні Генеральнага штаба.

Таксама на працягу лютага-красавіка 1914 г. адбывалася запаўненне штатных пасад.

10 лютага 1914 г. у Ліду быў камандзіраваны выпускнік авіяцыйнага аддзела афіцэрскай паветраплавальнай школы **Павел Пятровіч Багдашэўскі**. Ён быў прызначаны малодшым афіцэрам у VI-ты авіяцыйны атрад, 12 сакавіка быў пераведзены ў XX атрад, і затым загадам № 147 па 4-й авіяроце ад 25 сакавіка прызначаны начальнікам VI-га карпуснога авіяцыйнага атрада.

***Багдашэўскі Павел Пятровіч*** *нарадзіўся ў Менскай губерні ў шматдзетнай сям'і адстаўнога капітана. Скончыў Яраслаўскі кадэцкі корпус, Адэскую пяхотную вучэльню (1901). У службу ўступіў у 64-ты пяхотны Казанскі полк падпаручнікам. У гады руска-японскай вайны прыкамандзіраваны да 2-га Ўсурыйскага чыгуначнага бата-*



***П.П. Багдашэўскі (7.07.1881 - 1.06.1970, Буэнас-Айрас)***

*льёна (1905), пераведзены ў 41-шы Усходне-Сібірскі полк (1906), затым працягнуў службу ў 64-ым Казанскім палку (1906-12). Скончыў тэарэтычны курс авіяцыі пры Політэхнічным інстытуце ў С-Пецярбурзе (26.05. 1912), здаў іспыт на званне вайсковага лётчыка ў Афіцэрскай школе авіяцыі (13.02.1913). За "заканчэнне Афіцэрскай школы авіяцыі" ўзнагароджаны ордэнам Святой Ганны 3-й ступені (31.05.1913). Па заканчэнні навучання 10 лютага 1914 г. камандзіраваны ў Ліду.*



***Дом у Лідзе, у якім размяшчалася канцылярыя фармаванай 4-ай авіяцыйнай роты***

10 сакавіка 1914 г. у Ліду з Кіева прыбылі есавул **В.М. Ткачоў** і штабс-капітан **В.Н. Арлоў**, будучыя начальнікі XX і IV карпусных авіяцыйных атрадаў.

***Ткачоў Вячаслаў Мацвеевіч*** *нарадзіўся на Кубані ў станіцы Келермескай у сям'і вайсковага старшыны. Скончыў Ніжагародскі кадэцкі корпус (1895-1904), Канстанцінаўскую артылерыйскую вучэльню ў Санкт-Пецярбурзе (1906). Атрымаў прызначэнне ў 2-ю батарэю 39-й артылерыйскай брыгады 1-га Каўказскага Армейскага корпуса. Афіцэр-выхавальнік у Адэскім кадэцкім корпусе (1910). Пераканаў камандаванне накіраваць яго ў прыватную школу пры Адэскім аэраклубе. Атрымаў дыплом грамадзянскага пілота (1911). Прайшоў навучанне ў Севастопальскай афіцэрскай школе авіяцыі, 1 снежня 1912 г. здаў іспыт на званне вайсковага лётчыка. 5 студзеня 1913 г. атрымаў прызначэнне ў 7-ю паветраплавальную роту. 23 чэрвеня 1913 г. прызначаны малодшым афіцэрам у XI-ты Карпусны авіяатрад 3-й (Кіеўскай) авіяроты. 10 жніўня разам з П.Н. Несцеравым і паручнікам М. Перадковым здзейсніў першы ў Расіі палёт па маршруце звяном у шчыльным шыхце. 5 кастрычніка 1913 г. атрымаў званне пад'есавула. 12 кастрычніка здзейсніў рэкордны пералёт па маршруце Кіеў - Адэса - Керч - Тамань - Кацярынадар працягласцю 1500 вёрст. Кіеўскае таварыства паветраплавання прысудзіла яму залаты знак "За найболей выбітны ў Расіі ў 1913 г. пералёт". 10 сакавіка 1914 года адкамандзіраваны ў Ліду ў 4-ю авіяроту па яе фармаванні.*

***В.М. Ткачоў (24.09.1885 - 25.03.1965, Краснадар)***

"Цягнік спыніўся, і з платформы данёсся голас кандуктара: "Лі-і-да". Несамавіты вазок давёз мяне да гасцініцы на галоўнай вуліцы гэтага маленькага гарадка з мілай назвай. Непадалёк ад гасцініцы высіўся велізарны мураваны двухпавярховы будынак даволі мудрагелістай архітэктуры, у якім і размяшчалася канцылярыя фармаванай 4-ай авіяцыйнай роты.

Гэты будынак ды брук з вострага каменю на галоўнай вуліцы былі, мабыць, адзінымі выбітнасцямі Ліды.

У першых днях сакавіка 1914 года ў шырокім пакоі, побач з кабінетам камандзіра, сабраліся ўсе афіцэры-лётчыкі, якія з'ехаліся са школ і іншых авіяцыйных рот. Нечаканыя сустрэчы, знаёмствы, ажыўленыя гутаркі.

Вось дзверы кабінета адчыніліся, і з'явіўся камандзір роты, буйны з лёгкай сівізной, лагодна ўсмешлівы палкоўнік Крыцкі. За ім ішоў яго памочнік - стройны, падцягнуты, румянашчокі капітан Рэшчыкаў. Гутаркі спыніліся, усё выцягнуліся ў струнку.

Прывітаўшыся з намі, Крыцкі абвясціў:

- Спадарства, я атрымаў з Галоўнага кіравання Генеральнага штаба загад пра фармаванне нашай 4-й авіяцыйнай роты. У загадзе ўказваецца размеркаванне афіцэраў па атрадах. Цяпер мой памочнік пазнаёміць вас з афіцэрскім складам атрадаў. Капітан разгарнуў ліст паперы і сакавітым, прыемным баском зачытаў нам загад.

Усе атрады, акрамя XX, былі недаўкамплектаваны." *(Ткачоў В.М. Крылы Расіі. 2007. С. 229-230)*

Прычыну недакамплекту лётчыкамі авіяцыйных атрадаў 4-ай роты В.М. Ткачоў тлумачыць недальнабачнасцю Генеральнага штаба і авіяцыйных "вярхоў", у прыватнасці генерала Шышкевіча і палкоўніка Немчанкі. На Шышкевіча ён дарма апалчыўся, 25 снежня 1913 г. генерал-маёр М.І. Шышкевіч быў прызначаны генерал-кватэрмайстрам штаба Адэскай вайсковай акругі і з таго дня да ваеннай авіяцыі адносін не меў.

- Цяпер пададуць грузавік, абвясціў капітан Рэшчыкаў, - вы, спадары, адправіцеся на аэрадром. Там вас сустрэне камандзір роты.

Мы выехалі за горад. Калі праязджалі міма элінгаў 9-й паветраплавальнай роты, хтосьці з лётчыкаў выклікнуў:

- Ды ён, ніяк, пусты!

Прыгледзеўшыся, мы заўважылі ўсярэдзіне элінга невялікі дырыжабль.

- Вось ужо гэтыя "пухірнікі" - ашуканцы, - сказаў штабс-капітан Багдашэўскі, - панабудавалі дарагіх элінгаў у Коўне, Брэст-Літоўску, Беластоку, Лідзе, у Роўне, у Бярдзічаве і нават на Далёкім Усходзе, а элінгі гэтыя ў большасці пустуюць. Затое пад Пецярбургам засяродзілі ўсе свае бурбалкі і пускаюць найвышэйшаму начальству пыл у вочы…

Наперадзе паказаўся аэрадром. Яшчэ здалёк мы любаваліся стройным шэрагам новенькіх ангараў, але калі грузавік пад'ехаў да іх, усё раззявілі раты: велізарнае поле аэрадрома было пакрыта грудамі свежага ворыва…

Камандзір загадаў адчыніць брамы ангараў. Там стаялі скрыні з аэрапланамі. Матарысты выцягнулі некалькі фюзеляжаў "Ньюпараў", і мы з цікаўнасцю пачалі іх разглядаць. Трасы мацавання крылаў і маторы былі тоўста памазаны тавотам, і ўсё ж дзе-нідзе віднелася ржа.

Як пазней высвятлілася, усе гэтыя аэрапланы складалі рэштку тых партый, якія пайшлі на фармаванне авіяцыйных атрадаў яшчэ ў 1913 г. Ну, а рэштка прастаяла дзесьці больш за год у скрынях пад адкрытым небам.

… Праз некалькі дзён аэрапланы былі размеркаваны па атрадах, і ў ангарах закіпела праца…

Разам са старэйшым матарыстам я прыводзіў у парадак свой аэраплан.

Нам дапамагалі салдаты-слесары, адабраныя мной з атраднай каманды. Мой прыклад паўтарылі і іншыя афіцэры-лётчыкі атрада. У ангарах раз-пораз чуліся іх бурчанні і лаянкі з нагоды дрэннага стану аэрапланаў.

Да мяне падышоў буйны трохі гарбаваты паручнік І.С. Стрэльнікаў, уладальнік лапатападобнай барады, і прамовіў незадаволена:

- Спадар есаул, як жа мы будзем лётаць?

- Не есаул, а Вячаслаў Мацвеевіч,- заўважыў я мякка, даючы гэтым зразумець, што ў маім авіяцыйным атрадзе адносіны паміж афіцэрамі і начальнікам павінны грунтавацца не на вонкавых праявах падпарадкаванасці, а на павазе, аўтарытэце і адначасова на свядомай бясспрэчнай выканаўчасці, дысцыпліне….

- А калі нам утрамбуюць поле? - спытаў Стрэльнікаў.

- Камандзір роты абяцаў дастаць каткі.

- Абяцаць то ён абяцае, а вось справы штосьці не відаць, - раздражнёна заключыў Стрэльнікаў і адышоў да свайго аэраплана" *(там жа, с. 230-232).*

***Стрэльнікаў Іван Сцяпанавіч*** *1886 г.н. з сялян Тамбоўскай губ. Скончыў 5-класную Навачаркаскую рэальную вучэльню (1907), Тыфліскую вайсковую вучэльню (1907-09). Служыў у 1-м Сібірскім стралковым палку (1909-14). Падпаручнік (1909), паручнік (1912). У 1913 г. прайшоў навучанне ў Афіцэрскай школе авіяцыі АВФ. Малодшы афіцэр XX-га карпуснога авіяцыйнага атрада (10.03.1914-20.04.1915).*

"Ён у пэўнай меры меў рацыю. Палкоўнік Крыцкі не адрозніваўся паваротлівасцю і, як той казаў, быў цяжкі на пад'ём. Відаць, яго не асабліва хвалявала тая акалічнасць, што ў роце не мелася ніводнай запасной часткі да аэрапланаў і матораў.

У ангар увайшоў начальнік IV атрада штабс-капітан В.Н. Арлоў, які прыехаў разам са мной з Кіева" *(там жа, с. 232).*

"Валтузня з паржавеўшымі аэрапланамі, груба ўзаранае поле перад ангарамі затрымоўвалі правядзенне палётаў. Гэта нервавала, абурала лётчыкаў, і іх абурэнне дакацілася нарэшце да Вільні, дзе знаходзіўся штаб акругі. Адтуль у Ліду прыехаў генерал Баёў *(Генерал-маёр Баёў Канстанцін Канстанцінавіч 1869 г.н., у той час генерал-кватэрмайстар штаба Першай арміі)* - памочнік грознага генерала Рэненкампфа. Прыезд гэтак высокага госця трохі паскорыў прывядзенне ў парадак нашага аэрадрома, але тэхнічная частка, відаць, не асабліва цікавіла наша камандаванне. Не хвалявалі генерала Баёва і пытанні нашай падрыхтоўкі: што і як мы будзем рабіць, на што мы здольныя? Баёў, як і многія прадстаўнікі высокага начальства, не ведаў і не разумеў авіяцыі.

У красавіку 1914 года на Лідскім аэрадроме пачалася кіпучая праца" *(там жа, с. 233).*

"Большасць лётчыкаў, за выключэннем траіх, былі ўчарашнімі вучнямі, вобразна кажучы, "дзецьмі авіяцыі", якія робяць свае першыя самастойныя крокі.

У мяне ж за плячамі быў амаль трохгадовы пілоцкі стаж. Гэта ўскладала на мяне вялікую адказнасць і сур'ёзныя абавязкі не толькі перад гэтымі "дзецьмі-пілотамі", але і перад усёй рускай авіяцыяй. Мы ўсе, і асабліва пілоты з вялікім стажам, павінны былі спрыяць яе развіццю і служыць прыкладам для іншых меней дасведчаных.

Неўзабаве на нашым аэрадроме пачалі выяўляцца найболей адважныя і таленавітыя маладыя лётчыкі. Яны пачалі рабіць правільнае і ўмелае манеўраванне ў паветры, віражы, планіраванне па прамой і па спіралі. Асабліва вылучаліся К.Ф. Альбрэхт, Е.С.




***"Ньюпар-IV" В.М. Ткачова***



***Начальнік XX КАА В.М. Ткачоў***

Пятосін, а В.Ф. Станюкевіч дзівіў усіх сваёй віртуознасцю".

***Альбрэхт Канстанцін Фёдаравіч*** *(23.05.1890-25.04.1945, Парыж). Скончыў Сувораўскі кадэцкі корпус у Варшаве, Мікалаеўскую інжынерную вучэльню і Севастопальскую авіяцыйную школу. Увесну 1914 г. пацярпеў аварыю пры пасадцы каля казармаў 69 пяхотнага Разанскага палка пад Люблінам. Доўга лячыўся.*

***Пятосін Яўген Сцяпанавіч*** *(21.02.1887-1935?). Нарадзіўся ў Кіеўскай губерні ў дваранскай сям'і. Скончыў Гомельскую гімназію (1906), Віленскую вайсковую вучэльню, выпушчаны ў 157-мы пяхотны Імерацінскі полк (15.06.1908), малодшы афіцэр, в.а. камандзіра роты, справавод палкавога суда. Камандзіраваны ў г. Ліду для заняцця пасады малодшага афіцэра 2-га авіяцыйнага атрада Адмысловага прызначэння (2.12.1912). 1 лютага прыбыў у Афіцэрскую школу авіяцыі Аддзела паветранага флота па заканчэнні Тэарэтычных курсаў авіяцыі імя В.В. Захарава пры Санкт-Пецярбургскім політэхнічным інстытуце. Выканаў умовы на званне "вайсковага лётчыка", здзейсніўшы пералёт Кача-Сакі-Еўпаторыя-Севастопаль-Кача (3.09.1913). 16 кастрычніка завяршыў навучанне ў Афіцэрскай школе авіяцыі АПФ. З 18 сакавіка 1914 г. - малодшы афіцэр 6-га карпуснога авіяцыйнага атрада.*

***Станюковіч Уладзімір Фёдаравіч*** *(2.05.1889-?) нарадзіўся ў Чарнігаўскай губерні ў дваранскай сям'і. Скончыў Сумскі кадэцкі корпус (1907), Міхайлаўскую артылерыйскую вучэльню з прысваеннем звання падпаручніка (1910). Служыў у 46-й артылерыйскай брыгадзе (1910-1913). Паручнік (1912). Накіраваны ў Афіцэрскую школу авіяцыі (2.01 -10.10.1913). Здаў іспыт на званне лётчыка (13.08.1913) і вайсковага лётчыка (10.10.1913). Быў прыпісаны да II КАА з 2 снежня 1913 г. 10 сакавіка 1914 г. прызначаны малодшым афіцэрам II КАА.*

5 красавіка 1914 г. у XX КАА прыбыў вайсковы лётчык лейтэнант В.В. Дыбоўскі. Безумоўна, Дыбоўскага меў на ўвазе Ткачоў, калі пісаў пра трох дасведчаных лётчыкаў: але хто быў трэцім?

***Дыбоўскі Віктар Уладзіміравіч*** *з дваран Кіеўскай губ. Сын падпалкоўніка. Малодшы (1902), старэйшы гардэмарын (1903). Залічаны ў Балтыйскі флоцкі экіпаж са званнем мічмана (1904). На эскадраным браняносцы "Мікалай I" (02-05.1905) удзельнічаў у Цусімскім баі (15.05.1905). Пераведзены ў Чарнаморскі флоцкі экіпаж (03.1907). Лейтэнант (04.1908). З 10.1908 г. у карабельным складзе Чарнаморскага флота. Старэйшы сцяг-афіцэр штаба камандуючага атрада мінных караблёў (11.1908-03.1909). Узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені (29.03.1909). Сцяг-афіцэр пры начальніку 1-га дывізіёна эскадранных мінаносцаў (03-07.1909). Камандзір мінаносца № 273 (07-08.1909). Скончыў Афіцэрскі клас Навучальнага паветраплавальнага парку (12.1909-10.1910). Прызначаны ў распараджэнне начальніка Аддзела паветранага флота (10.1910). Скончыў Афіцэрскую школу авіяцыі АВФ (26.10.1911). Першым з афіцэраў флоту атрымаў званне ваеннага лётчыка. Узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 2 ст. (04.11. 1911). Інструктар Афіцэрскай авіяшколы (1911). 6 чэрвеня 1911 г. першым ажыццявіў пошук падводных лодак з паветра на самалёце і адну з іх, якая ідзе пад вадой, сфатаграфаваў. Неўзабаве выпрабаваў у палёце радыёстанцыю. Увосень*



***"Ньюпар-IV"***

*1911 г. на манеўрах Варшаўскай ваеннай акругі зрабіў аэрафотаздымку з самалёта. Разам з братам Вячаславам пабудаваў арыгінальны манаплан "Дэльфін".*

*У 1912 г. здзейсніў пералёт Севастопаль - Харкаў - Масква - Пецярбург. У 1913 г. здзейсніў пералёт у некалькі тысяч кіламетраў. З 05.04. 1914 г.- ваенны лётчык XX-га карпуснога авіяцыйнага атрада.*



***В.У. Дыбоўскі (13.01.1884-1950, Берн)***

У красавіку ў 4-й авіяроте адбыліся тры авіякатастрофы. 8 красавіка на аэрадроме загінулі падпаручнік III КАА Вятчынкін Д.М. і механік Кавальчук.

27 красавіка пры здзяйсненні пералёту Вільня-Ліда, "з прычыны дэфармацыі крылаў самалёта пасля дажджу", пацярпеў аварыю каля Вільні і "атрымаў моцныя ўдары абоіх каленяў" Е.С. Пятосін.

"Паручнік Альбрэхт паляцеў у Польшчу і дзесьці пад Любліным пацярпеў цяжкую аварыю. Ён патрапіў у лякарню, і на гэтым скончылася яго авіяцыйная кар'ера".

Як пасля было ўстаноўлена, Д.М. Вятчынкін, К.Ф. Альбрэхт і яшчэ 6 лётчыкаў пацярпелі аварыі на аэрапланах "Ньюпар", выробленых на заводзе С.С. Шчацініна. Усе аварыі былі аднолькавымі, пры планіраванні самалёт нечакана пераходзіў у пікіраванне. Было ўстаноўлена, што на пецярбургскім заводзе Шчацініна "Ньюпары" выпускаліся без дамовы з галаўной фірмай з шэрагам канструкцыйных зменаў. Быў паменшаны вугал установкі крылаў, а пасажырскае месца вынесена ўгару.





ОТВАЖНЫЙ ПОДВИГЪ ЛЕЙТЕНАНТА В. В. ДЫБОВСКАГО.

Лейтенантъ В. В. Дыбовскій отдыхаетъ во время починки аппарата на ст. Люблино, подъ Москвой.

1) Лейтенантъ Дыбовскій. 2) Братъ авиатора г. Дыбовскій. 3) С. П. [illegible] 4) [illegible]

Лейтенанту Дыбовскому удалось [illegible]

***Вычын лейтэнанта Дыбоўскага В.У.***



Подпоручикъ Д. М. Ветчинкинъ, военный летчикъ, погибшій 8 апрѣля въ Лидѣ во время полета. Покойный — участникъ русско-японской войны и георгіев. кавалеръ.

***Д.М. Вятчынкін***

**Ткачоў В.М.:** "Улічыўшы ўсё перажытае і прадуманае ў мінулым і імкнучыся, каб да канца палётнага перыяду атрад сапраўды меў бы кваліфікаваных вайсковых лётчыкаў, я склаў план працы на 1914 год, у якім азначыў наступныя мерапрыемствы:

- Трэніровачныя - аэрадромныя палёты для ўдасканалення ў



***"Ньюпар" В.У. Дыбоўскага***

тэхніцы палёту;

- Па-за аэрадромныя палёты па кароткіх маршрутах для навыкаў арыенціроўкі;
- Праца з артылерыяй на Дзвінскім палігоне;
- Праца з пяхотай для ўзаемнага азнаямлення ў Пятроўскім лагеры пад Рыгай;
- Маршрутныя палёты з-пад Рыгі ў бок Прускай мяжы;
- Удзел у вайсковых манеўрах.

Асабіста для мяне аэрадромныя палёты неўзабаве страцілі свой сэнс і густ, і я першым прыступіў да выканання другога пункта плану.

Нажаль, лётчыкі майго атрада яшчэ не ўцягнуліся ў палётную працу і не выявілі адмысловай заўзятасці да пералётаў, вось чаму палёт у Гародню я здзейсніў разам са Станюковічам" *(там жа з. 234)*.

В.М. Ткачоў злятаў на "Ньюпоры" ў Вільню і напачатку траўня з'ездзіў цягніком у Пецярбург у Галоўнае тэхнічнае кіраванне з мэтай атрымаць больш сучасны самалёт "Маран". У гутарцы з начальнікам кіравання Немченкам Ткачоў даклаў пра дрэннае забеспячэнне 4-й роты запаснымі часткамі і прасіў даць яму "Маран" для ўдзелу ў конкурсным пералёце Пецярбург-Севастопаль. Немченка адмовіў у абедзвюх просьбах. На Руска-Балтыйскім заводзе Ткачову праз галаву кіраўніцтва ўдалося замовіць запчасткі да шасі і фюзеляжа і пару крылаў для "Ньюпара".

У канцы траўня Ткачоў адправіўся да камандзіра XX карпуса.

Напачатку чэрвеня XX і II корпусныя атрады перабазаваліся ў Дзвінск для ўдзелу ў працы з артылерыяй.

**Ткачоў В.М:** "Мае птушаняты ўжо паспелі натрэніравацца. Стрэльнікоў, Галаваценка і Афонскі лёталі добра, упэўнена, і ім было карысна здзейсніць па-за аэродромные палёты - пераляцець з Ліды ў Дзвінск. А аэраплан больш слабога пілота Пушкарова я вырашыў перакінуць улетку сам.

На сваім "Ньюпоры" я даляцеў да Двінска без усякіх прыгод, а на пушкароўскім трохі не дацягнуў да мэты, матор пачаў даваць перабоі" *(там жа, з. 243)*. Прыйшлося Ткачову садзіцца на поле яшчэ не саспелага зялёнага жыта.

На Дзвінскім палігоне лётчыкі абодвух атрадаў трэніраваліся ў карэктоўцы артылерыйскай стральбы. Праца была праведзена паспяхова".

На палігоне паўстаў канфлікт паміж В.М. Ткачовым і І.С. Стрэльнікавым. Прычынай канфлікту В.М. Ткачоў лічыць стракатасць лётнага складу з прадстаўнікоў розных родаў войскаў, афіцэры якіх нярэдка варагавалі адзін з адным. На мой погляд, у дадзеным выпадку адбілася розніца ў сацыяльным паходжанні. В.М. Ткачоў дваранскага паходжання, казак, начышчаны, напрасаваны, падцягнуты, а І.С. Стрэльнікаў з тамбоўскіх сялян, грузны, ды яшчэ і барадаты. І. Стрэльнікава перавялі ў VI КАА.



***Паручнік Галаваценка***

У чэрвені 1914 г. у III КАА 4-й авіяроты прыбыў пасля канца курсаў матарыстаў пры Севастопальскай авіяшколе і курсу навучання палётам на "Ньюпары-4" Данат Макіёнак. У сакавіку 1914 г. яму ўручылі лётнае пасведчанне, а ў чэрвені прысвоілі чын старэйшага ўнтар-афіцэра. Д.А. Макіёнак таксама з сялян, пішуць - з польскіх, але прозвішча кажа, што з беларускіх.

***Макіёнак Данат Адуевіч*** *(2.05.1891- ?) нарадзіўся ў в. Дамбоўка Асвейскай воласці Віцебскай губерні ў каталіцкай сялянскай сям'і. Скончыў царкоўна-прыходскую школу, 3 класы царкоўна-рамеснай вучэльні і шасцігадовай сярэдняй тэхнічнай вучэльні ў Віцебску (1906). Працаваў на фабрыцы. У лістападзе 1911 г. прызваны ў войска, залічаны шарагоўцам у 97-мы Ліфляндскі пяхотны полк, раскватараваны ў Дзвінску, 15 сакавіка 1912 г. пераведзены ў 106-ты пяхотны Ўфімскі полк у Вільню. 28 траўня 1912 г. камандзіраваны ў Севастопальскую авіяшколу. У авіяшколе скончыў курсы матарыстаў і быў уключаны ў групу для*



***Д.А. Макіёнак***




*"Ньюпар" Д.А. Макіёнка*

*навучання палётам на "Ньюпары-4". 22 лютага 1914 г. атрымаў званне вайсковага лётчыка з уручэннем пілотскага пасведчання № 239. Яфрэйтар (4.05.1914), малодшы ўнтар-афіцэр (19.05), старэйшы ўнтар-афіцэр (14.06.1914). Пасля заканчэння авіяшколы камандзіраваны ў 3-ці карпусны авіятрад.*

15 ліпеня 1914 г. Аўстра-Венгрыя абвясціла вайну Сербіі, 19 ліпеня Германія абвясціла вайну Расіі. Пачалася Першая сусветная вайна.

26 ліпеня з Лідскага аэрадрома на фронт у Першую армію адправіўся Другі КАА ў складзе 2 афіцэраў на 2 "Ньюпарах-4", у Шостую армію - VI КАА - 4 афіцэры на 4 "Ньюпарах- 4" і XX КАА -4 афіцэры на 4 "Ньюпарах- 4". 31 ліпеня ў Першую армію выехалі: III КАА -5 афіцэраў і 1 салдат (у рэчаіснасці старэйшы ўнтар-афіцэр) на 5 "Ньюпарах- 4", IV КАА - 4 афіцэры на 3 "Ньюпарах- 4" і X КАА - 3 афіцэры і 2 салдаты (у рэчаіснасці 2 унтар-афіцэры) на 4 "Фарманах". У той жа дзень у Другую армію адправіліся афіцэр і 2 салдаты на 3 "Фарманах з XXI КАА. Разам з Ліды на фронт у Першую, Другую і Шостую арміі выехалі 23 афіцэры і 5 салдат на 25 самалётах: 7 "Фарманах" і 18 "Ньюпарах-4". Усяго Рускае войска адправіла ў раёны баявых дзеянняў 154 самалёты, 48 знаходзіліся ў цвердзевых атрадах і 18 заставаліся ў Сібірскіх авіяатрадах. Разам расійскае войска выставіла на вайну 220 самалётаў і 221 лётчыка: 170 афіцэраў, 35 ніжніх чыноў і 16 вольнапісаных (добраахвотнікаў).

Самалёты, на якіх адправіліся на вайну лётчыкі 4-й авіяроты, былі выраблены ў Расіі на заводах С.С. Шчацініна і "Дукс", але сканструяваны ў Францыі.

*"Ньюпар-IV" - манаплан. Даўжыня 8 м, вышыня 2.68, размах крыла 12.3, плошча крылаў 22.5 м², вага пустога самалёта 422 кг, карысная нагрузка 240 кг. Экіпаж 1-2 чалавекі. Рухавік ратацыйны "Гном" магутнасцю 70 к.с. Максімальная хуткасць 104 км/гадзіну, крэйсерская 90-95 км/гадзіну, працягласць палёту 3 гадзіны. Столь 2 км, на вышыню ў 500 м паднімаўся за 12 хвілін. Фюзеляж драўляны, фермавай канструкцыі, узмоцненай унутранымі расчалкамі. Абшыўка палатняная, у верхняй пярэдняй частцы і ў раёне рухавіка абшываўся алюмініевым лістом. Крыло двухланжэроннае, абцягвалася палатном, неабходная жорсткасць дасягалася сталёвымі драцянымі расчалкамі. Хваставое апярэнне са сталёвых труб, абцягнута палатном, стабілізатар падмацаваны падкосамі. Пілотская кабіна змешчана ў прасторы паміж ланжэронамі, сядзенні адно за другім. Сядзенні змешчаны на паліўным баку ёмістасцю 170 літраў, другі чалец экіпажа сядзеў на ім верхам. Шасі ў выглядзе перавернутай піраміды з цэнтральнай, падоўжнай бэлькай. Канцавая частка бэлькі мела ролю каштыля, у насавой частцы ўсталёўвалася супрацькапатажная лыжа. Ужываўся як выведнік.*

*"Фарман-XVI" - паўтараплан з паветраным вінтом, які штурхае. Даўжыня 8,06 м, размах крылаў 13,76 м, плошча крылаў 35 м². Вага 410 кг, карысная нагрузка 275 кг, экіпаж 2 чалавекі. Рухавік "Гном" магутнасцю 80 к.с., хуткасць - да 90 км/гадзіну, далёкасць палёту - 315 км, столь - 2,5 км, на вышыню ў 2 км паднімаўся за 55 хвілін. Падоўжныя бэлькі, хваставая ферма, контуры апярэння і элементы шасі - са сталёвых труб, крылы - драўляныя з палатнянай абіўкай, гандола -з фанеры. Ужываўся як выведнік.*



*"Фарман-XVI"*

Хацелася б назваць усіх ваенных лётчыкаў II, III, IV, VI, X, XX і XXI КАА, якія адправіліся на Першую сусветную вайну з Лідскага аэрадрома. Нажаль, спіс пакуль няпоўны.

**Другі КАА.** Начальнік - штабс-капітан **Залескі А.В.**, паручнік **Станюковіч В.Ф.**

**Трэці КАА.** Начальнік - штабс-капітан **І.І. Саатчы-Санатчы (Самадчы)**, падпаручнік **Ульянцаў** ці **Усцьянцаў**, старэйшы ўнтар-афіцэр **Д.А. Макіёнак**.

**Чацвёрты КАА**. Начальнік - штабс-капітан **В.Н. Арлоў.**

**Шосты КАА.** Начальнік - штабс-капітан **П.П. Багдашэўскі**, паручнік **Е.С. Пятосін**, паручнік **Стрэльнікаў І.С.**



***"Фарман-XVI" на Лідскім аэрадроме***

*Сцвярджаюць, што менавіта на гэтым "Фармане XVI" на Лідскім аэрадроме паручнік В.Р. Па-плаўка праводзіў доследы па ўсталёўцы кулямёта. У рэчаіснасці доследы ён праводзіў у Мажайску. У складзе XXI КАА В.Р. Паплаўка лётаў у траўні 1915 г.*

**Дзясяты КАА**. Начальнік - штабс-капітан **А.Г. Топчаў**, паручнік **Д.С. Мікалаеў**, унтар-афіцэр **Агафонаў А.А**.

**Дваццаты КАА**. Начальнік - есавул **В.М. Ткачоў**, лейтэнант **Дыбоўскі В.В**., паручнік **Галаваценка**, паручнік **Афонскі**, паручнік **Пушкароў**.

**Дваццаць першы КАА**. Паручнік **В.Р. Паплаўка** (? ).



***В.Р. Паплаўка***

## КАРПУСНЫЯ АТРАДЫ 4-Й РОТЫ Ў ПЕРШЫЯ МЕСЯЦЫ ВАЙНЫ

II, III, IV і X карпусныя авіяцыйныя атрады 4-й роты ў першыя дні вайны паступілі ў распараджэнне 1-й рускай арміі, якой камандаваў генерал П.К. Рэненкампф. XXI КАА быў прыпісаны да штаба 2 -й рускай арміі, якой камандаваў генерал А.В. Самсонаў. Абедзве арміі былі аб'яднаны ў Паўночна-заходні фронт. Перад фронтам была пастаўлена задача: разграміць 8-ю нямецкую армію і авалодаць Усходняй Прусіяй. У складзе Паўночна-заходняга фронту было 17,5 пяхотных і 8,5 кавалерыйскіх дывізій, 1104 гарматы, 54 самалёты, 250 тысяч салдатаў. Нямецкая 8-я армія мела 15 пяхотных і 1 кавалерыйскую дывізію, 1044 гарматы, 56 самалётаў, 2 дырыжаблі, 173 тысячы салдатаў.

У выніку гэтай наступальнай аперацыі, якая атрымала назву Ўсходне-Прускай, 2-я армія Самсонава была разгромлена, сам ён застрэліўся, 50 тысяч салдат здаліся ў палон. 1-я армія Рэненкампфа была адкінута на зыходныя рубяжы. Дзейнічалі рускія генералы здрадліва бесталанна, выведка была агіднай, кавалерыйскія дывізіі не былі задзейнічаны. "Данясенні лётчыкаў выклікалі іранічныя ўхмылкі, рэплікі зводзіліся да аднаго: адкуль немцы могуць узяць такую вялікую колькасць войскаў".

III КАА быў прылічаны да 3-га армейскага корпуса 1 арміі, якім камандаваў генерал ад інфантэрыі Н.А. Епанчын 1857 г.н. У атрадзе было пяць манапланаў "Ньюпар-4”. 8 жніўня пілот - падпаручнік Ульянцаў і назіральнік - паручнік Шанін пры пошуках конніцы хана Нахічаванскага прапалі без вестак разам з сакрэтным пакетам. У той жа вечар на пошукі хана адправіўся ўнтар-афіцэр Д. Макіёнак. Ён знайшоў конніцу і перадаў пакет. На зваротным шляху самалёт абстралялі нямецкія пяхотнікі. Адна з куль прабіла бензабак. Макіёнак выключыў матор і спланаваў на сваю тэрыторыю. Пакінуўшы машыну пад наглядам салдатаў, адправіўся дакласці, што заданне выканана. Тым часам у месцы пасадкі з'явіўся нямецкі конны раз'езд, і рускія салдаты спалілі самалёт. За паспяховае выкананне задання Макіёнка ўзнагародзілі "салдацкім" Георгіеўскім крыжом 4-й ступені. Засталося 3 самалёты.

11 жніўня Макіёнак і назіральнік падпаручнік Макейчык у раёне мястэчка Танаў выявілі буйную скучанасць варожай артылерыі. Праціўнік рыхтаваўся да контрудару, інфармацыю генералы пакінулі без увагі. 12 жніўня Макіёнак няўдала прызямліўся, самалёт скапатаваў, крылы, вінт і шасі былі зламаны. Засталося 2 самалёты.

| Авиаотряды, выступившие на фронт в 1914 г. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| День выступления | Название рот и отрядов, места их дислокации | Какой армии | Число летчиков | | Аэропланы | |
| | | | офицеров | солдат | Кол-во | Тип |
| | 4-я авиационная рота - Лида | | | | | |
| 24/VII | II корпус. авиаотряд | I | 2 | - | 2 | "Ньюпор-IV" |
| 26/VII | VI корпус. авиаотряд | VI | 4 | - | 4 | "Ньюпор-IV" |
| 26/VII | XX корпус. авиаотряд | VI | 4 | - | 4 | "Ньюпор-IV" |
| 31/VII | III корпус. авиаотряд | I | 5 | 1 | 5 | "Ньюпор-IV" |
| 31/VII | IV корпус. авиаотряд | I | 4 | - | 3 | "Ньюпор-IV" |
| 31/VII | X корпус. авиаотряд | I | 3 | 2 | 4 | "Фарман"* |
| 31/VII | XXI корпус. авиаотряд | II | 1 | 2 | 3 | "Фарман"* |

***Авіяатрады, якія выступілі на фронт у 1914 г.***

15 жніўня ў 3-м КАА застаўся адзін самалёт, які знішчылі ўласнымі рукамі пры адступленні. Абслуговы персанал авіяатрада адправілі ў тыл, а пілотаў камандзіравалі на маскоўскі завод "Дукс" па новыя аэрапланы "Маран-парасоль".

Так сама адваявалі і іншыя авіяатрады, прыдадзеныя 1-й і 2-й арміі, за два тыдні яны страцілі ўсе самалёты, некаторыя лётчыкі патрапілі ў палон. А Ўсходне-Пруская аперацыя паклала пачатак разгрому Рускага войска і вывучаецца, як прыклад абсалютнага крытынізму расійскага генералітэту. Зрэшты, з гэтым у іх заўсёды было добра.

VI і XX КАА паступілі ў распараджэнне 4-й арміі, якой камандаваў генерал ад інфантэрыі барон А.Е. Зальца 1843 гр. 28 ліпеня XX КАА прыбыў на прыфрантавы аэрадром.

"12 жніўня я атрымаў адмысловую задачу: *"Абследаваць магчыма старанней, што адбываецца супраць амаль 50-вёрстнага прамежку паміж правым флангам нашай 4-й арміі і ракой Віслай, дзе знаходзіцца слабы атрад і дзве кавалерыйскія дывізіі генерала Новікава".*

… стаяла выдатнае надвор'е…. Я ляцеў на вышыні 1000-1200 метраў над шашой… Паглыбіўшыся за лінію фронта, я заўважыў на белай, зіготкай на сонцы стужцы дарогі перадавыя часткі праціўніка, затым галоўныя сілы… На некалькі дзясяткаў кіламетраў працягнулася бясконцая стужка непрыяцельскай пяхоты і артылерыі, якія рухаліся па шашы… Нарэшце калоны войскаў засталіся ззаду, але мне хацелася пераканацца, ці няма яшчэ калон далей, і я працягваў шлях углыб непрыяцельскага тылу. Хвілін праз дзесяць на дарозе зноў з'явілася доўгая кішка, але ўжо не войскаў, а суцэльных абозаў, назіраючы якія, я амаль даляцеў да Сандаміра.

… сабраўшы выключнай важнасці звесткі пра непрыяцеля, я вяртаўся дахаты. І тут мне прыйшла думка зірнуць яшчэ, што робіцца на нашым правым фланзе - пад Краснікам.

Яшчэ здалёк, па артылерыйскіх выбухах, я заўважыў, што пад Краснікам ідзе бой, а падляцеўшы бліжэй, убачыў брыгаду непрыяцельскай пяхоты, якая выходзіць у тыл і ў абыход правага флангу нашых войскаў.

Каб падрабязней абследаваць тактычнае становішча самага бою, я пачаў круціцца над раёнам Красніка і рабіць на карце накіды размяшчэння непрыяцельскай артылерыі. Тым часам пад крыламі адчуўся "гарох", затым раптам пайшоў услед наймоцны ўдар куль па металічных частках аэраплана… З бака лінуў тоўсты струмень кастаравай алівы. Рататыўны матор "Гном" патрабаваў багатай змазкі, і я выдатна разумеў, што хуткая ўцечка алівы створыць для мяне сур'ёзную пагрозу, тым больш, што вышыня палёту не дасягала цяпер і 1000 метраў.

Я прыняў рашэнне: з любой рызыкай, але дацягнуць да сваіх і даставіць як мага хутчэй сабраныя мною звесткі! Узяўшы кірунак да нашых пазіцый, я кінуў кіраванне нагамі, падняў іх дагары і носам правага чаравіка прычыніў знізу раззяўленую дзюру ў баку, чым прыпыніў буйную ўцечку алівы. У такім становішчы я дацягнуў да сваіх пазіцый і спусціўся на палянку…

Нашы ланцугі адыходзілі… Ззаду націскала аўстрыйская пяхота… салдаты выцягнулі мой "Ньюпар" на шашу і прывязалі яго хвастом да адыходзіўшай патроннай двухколкі. Прыкладна праз дзве гадзіны я быў са сваім аэрапланам у вёсцы Вількалаз… Тут я заспеў штаб адной з дывізій 14-га корпуса і неадкладна



***Лётчыкі XX КАА: Фёдараў, Касабрухаў, В.М.Ткачоў, В.І. Бржазоўскі, В.В. Дыбоўскі, Жураўлёў. Карчэвіца, чэрвень 1915.***



***Афіцэры XX КАА. Рыга, лістапад 1915 г.***

даклаў начальніку гэтай дывізіі вынікі выведкі. Неўзабаве па маёй просьбе была ўсталявана прамая сувязь з Люблінам. Я зрабіў начальніку выведвальнага аддзялення штаба арміі даклад пра маю выведку…

Аддаўшы распараджэнне пра дастаўку аэраплана на аэрадром, я выехаў на легкавым аўтамабілі для спешнага дакладу камандаванню арміі…

Генерал Папоў ад душы падзякаваў мяне за здабытыя мною звесткі пра праціўніка і за спосаб іх дастаўкі. Ён павёў мяне да начальніка штаба генерала Гутара. З ім мы ўсе ўвайшлі ў кабінет камандуючага арміі, дзе нас сустрэў ужо не Зальца, а змяніўшы яго генерал Эверт, масіўны, вялікага выгляду мужчына з рудаватай акладзістай барадой. Ён моцна пацiснуў мне руку і сказаў:

- Ну, паветраны выведнік, віншую і шчыра дзякую! Вы ратуеце наша становішча.

Вярхоўнае камандаванне аддало распараджэнне пра пагрузку і перакідванне па чыгунцы з-пад Варшавы 1-га карпуса на поўдзень для прадухілення абыходу правага флангу 4-й арміі, прадпрынятага непрыяцелем.

У канцы 1914 г. мяне выклікалі ў штаб арміі, дзе генерал Папоў у прысутнасці камандуючага і начальніка штаба мне абвясціў: *"Загадам Паўднёва-заходняга фронту ад 24 лістапада 1914 г. па ўганараванні Георгіеўскай кавалерскай думы, заснаванай пры штабе галоўнакамандуючага войскамі Паўднёва-заходняга фронту, Вы ўзнагароджаны ордэнам Святога вялікапакутніка і пераможца Георгія 4-й ступені"*. Камандуючы арміі падышоў да мяне, прышпіліў на маіх грудзях сціплы, пакрыты белай эмаллю крыжык, пацiснуў мне руку і сказаў: "Віншую! Наша армія ганарыцца, што ў яе складзе першы георгіеўскі кавалер авіяцыі" (с. 272-276).

Тым не менш, 4-я руская армія пасля двухдзённых цяжкіх баёў з аўстрыйцамі адышла да Любліна і перайшла да абароны.

У снежні 1914 г. В. М. Ткачоў, маючы пры сабе толькі пісталет "Наган", першым сярод рускіх пілотаў, атакаваў нямецкі аэраплан "Альбатрос" і сваімі дзеяннямі прымусіў праціўніка рэціравацца.

Добра ваявалі і іншыя лётчыкі XX КАА. В.В. Дыбоўскі 1 студзеня 1915 г. быў павышаны ў званні да старэйшага лейтэнанта "за выдатную і дбайную службу". Ён быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4 ступені, "за тое, што 22-24-га чэрвеня 1915 г. зрабіў шэраг паветраных выведак у раёне г. Красніка, занятага непрыяцелем, і своечасова даставіў важныя звесткі пра сілу, становішча і перасоўванні значных сіл непрыяцеля".

У складзе XX КАА ваявалі: есаул В.М. Ткачоў (начальнік да 14.03.1916); лейтэнант Дыбоўскі Віктар Уладзіміравіч (да верасня 1915), паручнікі Абронскі, Бржазоўскі Уладзімір Іванавіч 1890 г.н. (з 29.06. 1915, в.а. камандзіра XX КАА з 14.03.1916), Галаваценка, Жураўлёў, Пушкароў, прапаршчыкі Фёдараў, Касабрухаў, Валянцін Іванавіч Гольцшмідт 1894 г.н. (з верасня 1915 г.), сотнікі Папоў, Чапіла, паручнік Галембіёўскі Станіслаў Іванавіч (лета 1917), салдаты Косткін, Марахоўскі.


***Начальнік XX КАА В.М. Ткачоў***

У складзе VI КАА ваявалі: капітан Багдашэўскі Павел Пятровіч (камандзір атрада па 26.08.1915); Пятосін Яўген Сцяпанавіч (з 8.12.1914, з 26.08 па 24.11.1915 часова займаў пасаду начальніка атрада); штабс-капітан Стрэльнікаў Іван Сцяпанавіч 1886 г.н. (начальнік авіяатрада з 24.11.1915 па 26.10. 1916); штабс-капітан Каплін Міхаіл 1888 г.н. (з 1.08.1916, камандзір атрада з 26.10.1916 г.), падпаручнік Корвін-Крукоўскі Барыс Вячаслававіч 1895 г.н. са жніўня 1915 г;, унтар - афіцэр Сцяпан Іванавіч Марозаў (з 24.09.1915)

З сямі лідскіх карпусных авіяатрадаў толькі 3-ці КАА перайшоў на бок бальшавікоў, быў перафармаваны ў авіяатрад чырвоных ваенных лётчыкаў, з кастрычніка 1919 г. названы 2-м знішчальным авіяцыйным дывізіёнам. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне. На яго базе пасля быў сфармаваны 899-ты гвардзейскі штурмавы авіяцыйны Аршанскі двойчы Чырванасцяжны ордэна Суворава полк імя Ф.Э. Дзяржынскага.

### ЛЁСЫ ЛЁТЧЫКАЎ 4-Й РОТЫ

**В.М. Ткачоў** (1885-1965, Краснадар), камандзір першай знішчальнай авіягрупы (1916), начальнік Палявога кіравання авіяцыі і паветраплавання пры Штабе Вярхоўнага Галоўнакамандуючага (1917). Першы авіяцыйны генерал (1920), эміграваў у Югаславію, адседзеў 10 гадоў пасля Другой сусветнай вайны ў лагерах.

**П.П. Багдашэўскі** (1881-1970), з лістапада 1915 г. займаўся адміністрацыйнай і гаспадарчай дзейнасцю, палкоўнік (1919). Эміграваў у Югаславію, пасля Другой сусветнай - у Аргентыну.

**В.В. Дыбоўскі** (1884-1950, Берн) увосень 1915 г быў камандзіраваны ў Лондан у Рускі закупачны камітэт, узначальваў аддзел прыёмкі авіяцыйнай маёмасці да 1917 г. Капітан 2 рангу (1916). Жаніўся з англічанкай. Жыў у ЗША.

**Е.С. Пятосін** (1887- пасля 1933) камандаваў 2-м авіяцыйным дывізіёнам. Капітан (1917). Уступіў у РККА, начальнік штаба Кіравання паветранага флоту Заходняга фронту (1922-24), служыў у Кіраванні ВПС РККА (1926-33).

**Д.А. Макіёнак** (1891-1941, Асвенцым) штабс-капітан (1917), у 1918 г уступіў у Войска Польскае, камандаваў 3-й эскадрылляй. У 1929 г. выйшаў у адстаўку ў званні маёра. Загінуў у Асвенцыме.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Леанід Лаўрэш

# Пра галоўнага лідскага боўдзілу XX ст. Яна Боландзя

Публікацыі ў газетах пачатку XX ст. даюць магчымасць пункцірна прасачыць за жыццёвым шляхам нейкага Боландзя - галоўнага і легендарнага лідскага "падшыванца", пра якога гараджане памяталі праз шмат дзесяцігоддзяў.

Успаміны пра яго я, як краязнавец, запісаў на дыктафон нават у 2012 г., размаўляючы з маім цесцем, зараз нябожчыкам. Юзаф Юзафавіч сказаў: "Мой бацька пры канцы 1930-х гадоў цікава расказваў пра галоўнага лідскага "боўдзілу" пачатку XX ст. - Боландзя. Ён быў жахам для яўрэяў і ксяндзоў горада. Неяк убачыўшы ксяндза, які выпадкова праходзіў недалёка ад бардэля, ён пачаў гнаць яго бічом да плябані, крычучы пра тое, дзе ён яго нібыта злавіў. Другім разам ён, выпіўшы, учыніў вэрхал у плябні Фарнага касцёла, і ксёндз-дэкан папрасіў суседзяў замкнуць яго ў "трупярні" - памяшканні злева ад галоўнага ўваходу ў Фарны касцёл, дзе ў той момант знаходзіліся дзве труны з нябожчыкам і нябожчыцай, якіх павінны былі заўтра адпяваць. Ачомаўшыся, Боландзь палажыў у адну труну на нябожчыцу нябожчыка і ўцёк. Назаўтра, пры поўным касцёле адчынілі вечка труны ... Вэрхал, які ўчыніла радня нябожчыцы, помнілі і праз шмат гадоў"[1].

У Віленскі архіве ёсць справа, якая датычыць нашага героя: **"Предварительное следствие судебного следователя Виленского окружного Суда 1-го участка Лидского уезда. По делу о разбойном нападении на шоссе Лида-Гродно в ночь с 24 на 25 мая 1910 г., 1630, 1632, 1634 ст. Ул. О нак."**. З гэтай справы пра Яна Боландзя даведваемся, што *"10 красавіка 1873 года ў Лідскім рыма-каталіцкім парафіяльным касцёле ахрышчана немаўля па імені Ян ксендзам Юльянам Калантаем са здзяйсненнем усіх абрадаў сакраманту. Дваран Яна і Евы з Дашкевічаў Боландзяў, законных мужа і жонкі сын, які нарадзіўся гэтага года 3 красавіка ў г. Ліда. Хрышчонымі бацькамі былі дваране Войцех Хруль і ...(неразборліва) жонка Аляксандра Вярцінкага"* [2].

Не абыходзіла "прыгоды" Боландзя і краёвая прэса. У студзені 1906 г. "Кур'ер літэўскі" пісаў: *"У мясцовай бальніцы здзейснена страшнае забойства. У 3-й гадзіне ночы забіты нямы шляхціц Кулеша, які знаходзіўся там на лячэнні. Абставіны забойства наступныя. З канца лістапада на горадзе пачала хадзіць невядома кім пушчаная гаворка пра тое, што нейкі пан Боландзь збіраецца арганізаваць яўрэйскі пагром. Гаворка гэтая не мела ніякіх падстаў, але моцна закранула яўрэйскае насельніцтва горада. Панічны страх дайшоў ды вышэйшага напружання 5 снежня. Падаваліся сігналы трывогі, былі зачыненыя ўсе яўрэйскія крамы"*. Увечары таго ж дня 20 яўрэяў напалі на Боландзя і збілі яго сталёвымі прутамі, потым паранілі стрэламі з рэвальвера (у нагу, руку і ў бок). Боландзь страціў прытомнасць, а нападнікі, вырашыўшы, што ён забіты, палажылі яго ў дрожкі і загадалі фурману завезці дадому. Аднак ён выжыў, і яго адвезлі ў гарадскую бальніцу, дзе пацярпелы пачаў хутка здаравець. Наведвальнікі паведамілі Боландзю, што сябры "Бунда" пастанавілі яго забіць. *"Боландзь засцярожыўся… У сярэдзіне снежня ў бальніцу з маёнтка Мікянцы прывезлі нямога шляхціца Л. Кулешу, ён ляжаў ў той жа палаце… Увечары 19 снежня з дазволу адміністрацыі Боландзь памяняў ложак, але застаўся ў той жа палаце. Каля 3-х гадзін ночы ён пачуў крокі трох мужчын. Незнаёмцы падышлі да ложка, на якім ён раней ляжаў і ўбачыўшы, што ложак пусты, падышлі да ложка, на якім накрыўшыся з галавой спаў Кулеша. Нападнікі нанеслі Кулешы 9 ран стылетам, Боландзь ўсё бачыў і ляжаў ні жывы, ні мёртвы. Здзейсніўшы забойства, мужчыны хутка пакінулі шпіталь… пачаўся перапалох. Праз гадзіну ў бальніцы з'явілася паліцыя. Вядзецца следства.."* [3].

2 красавіка 1907 г. на дарозе за 5 вёрст ад Ліды ў бок Гародні быў здзейснены напад на яўрэяў Гірша Купінскага і Абрама Малчадскага, 5 нападнікаў забралі 425 рублёў і срэбны гадзіннік[4]. У арганізацыі нападу абвінавацілі Боландзя і як быццам асудзілі на два гады турмы.

"Кур'ер літэўскі" ў траўні 1910 г. паведаміў пра наступны напад на мельніка з маёнтка Паперня Абрама Малчадскага, які *"разам з жонкай, 6-ці гадовым сынам і сваяком Янкелем Дыменчынскім пасля кірмашу ў Лідзе вяртаўся дахаты. На дарозе, на 5-й вярсце ад Ліды з лесу выскачылі 3 чалавекі, адзін з іх затрымаў каня, два іншыя пачалі біць палкамі яўрэяў. Пасля зверскага збіцця (не пацярпела толькі дзіця, яго закрыла сабой маці), бандыты забралі 600 рублёў і схаваліся ў лесе. Ахвяраў цягніком адправілі ў бальніцу ў Вільню, дзе Янкель Дыменчынскі памёр. Жонка мельніка, прыйшоўшы ў сябе, распавяла, што пазнала аднаго з нападнікаў - гэта быў сусед мельніка Боландзь. 2 гады таму, ён на … тым жа месцы напаў на Малчадскага і забраў грошы. Выйшаўшы з турмы, ён зноў напаў на мельніка. Боландзь арыштаваны, двух*

[1] Размова са старым шляхціцам // Лідскі Летапісец № 2(58)-2012. С.52.
[2] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.448. Воп. 5. Спр. 850. С. 243.
[3] Kuryer Litewski № 3, 4 (17) stycznia 1906.
[4] Kuryer Litewski № 78, 10 (23) kwietnia 1907
[5] Kuryer Litewski № 119, 27 maja (9 czerwca) 1910

*іншых шукаюць"*[5].

Загадкай з'яўляецца тое, што з справы бачна - Боландзь не меў судзімасці, у даведцы, датычнай гэтага пытання напісана: *"аказалася, што ў кнізе 2-й за 1904 ... значыцца:" Боландзь Іван Іванавіч, дваранін горада Ліды, 28 гадоў, Віленская 6, п. 1 ч. 286 арт. турма 2 месяцы, выканаў 15 лістападзе 1903 года""*[6]. Гэта значыць, што ён меў толькі адміністратыўны арышт у 1903 г., дарэчы, магчыма, за ўчынак у Лідскім касцёле.




***Лідскі шынок***

Пацярпелая Сара Эліева Купінская, 37 гадоў, як быццам пазнала Боландзя, з пратаколу допыту пацярпелай: *"... нас спынілі 3 чалавекі, адзін быў лідскі жыхар Боландзь, высокага росту, у што быў апрануты не заўважыла, яго я добра пазнала па голасе і па твары, ... Боландзь быў з калом ..., Боландзь крыкнуў мне: "Давай грошы" ..."*[7].

На падставе паказанняў пацярпелай наш герой арыштаваны, і ў яго праведзеныператрус. *"Следчы 1-га ўчастка Лідскага павета ў прысутнасці ніжэйпадпісаных панятых ... у суправаджэнні паліцэйскага стражніка Сабадахі, прыбыў у сядзібу двараніна Івана Іванавіча Боландзя, размешчаную ў Лідзе па Каменскай вуліцы, для ператрусу ..."*[8]. Боландзь вінаватым сабе не прызнаў, з першаснага допыту, праведзенага 26 траўня 1910 г. бачна, што *"дваранін Лідскага павета, 35 гадоў, Іван Іванавіч Боландзь, імя дзеда - Фама. Ахрышчаны ў Лідскім касцёле, пісьменны, халасты, ратнік апалчэння 2-га разраду, мае сядзібу ў г. Ліда, жыве ў хляве, бо дом згарэў"*[9]. Арыштаваны даў паказанні: *"Паліцмайстару г. Ліды. ... Вярнуўся дадому гадзін 8-9 вечара і неўзабаве зноў пайшоў гуляць па Каменскай вуліцы. Каля дома ... Марачэўскага сустрэўся з ім і пайшоў у піўную ў доме Блотніка па Каменскай вуліцы, там з Марачэўскім прасядзеў ад гадзін 10 вечара да пачатку другога ночы. ... Пасля піўной пайшоў дадому, дзе лёг спаць да арышту мяне паліцыяй у 2-30"*[10]. Наш герой даў спіс з 28 чалавек, якія бачылі яго ў гэты вечар у Лідзе, тым не менш больш за год прасядзеў у Лідскай турме, чакаючы на суд.

У сярэдзіне верасня 1911 г. ў Лідзе прайшло чарговае паседжанне Віленскага акруговага суда. "Виленские губернские вести" у раздзеле "Судебные известия" пісалі: *"Список уголовных дел, назначенных к слушанию в Виленском окружном суде, во временном его помещении в гор. Лиде с 12 по 17 сентября 1991 г. ... 13 сентября, вторник. 1) О дв. Иване Иванове Болондзе, обв. по 1630, 1632, 1634 ст. ул. о нак. ар."*[11].

Пра гэтае паседжанне ў "Кур'еру Віленскім" пісаў Вандалін Шукевіч, жыхар Лідскага павета, чалавек дасведчаны і аб'ектыўны, сам міравы суддзя: *"Вялікай сенсацыяй для гараджан, асабліва для яўрэяў, быў суд над нейкім Боландзем, абвінавачаным у нападзе і забойстве з мэтай рабавання. Справа была вельмі невыразная, але ж магла б быць раскрытая, калі б было правільна праведзена першаснае следства. У гады рэвалюцыі Боландзь быў жахам для яўрэяў горада Ліда, за што яны яго ненавідзелі. Таму ўсе паказалі на яго як на арганізатара апошняга злачынства. Гэтага было дастаткова для мясцовай паліцыі: яго арыштавалі трымалі пад арыштам. Прысяжныя, аднак, не пераканаліся ў яго вінаватасці, доказы былі вельмі недастатковыя, і Боландзь прызнаны невінаватым, што выклікала вялікае абурэнне гарадскіх яўрэяў, якія ладзілі маніфестацыі перад будынкам суда"*[12].

Наш боўдзіла нейкім чынам пазбегнуў мабілізацыі ў войска і застаўся ў акупаванай Лідзе. І знакамітага ў Лідзе чалавека, раней судзімага расейскай уладай, не абышлі бокам і акупацыйныя ўлады, газеты пісалі: *"Ліда. За ўкрывальніцтва стрэльбы і медзі. Эканом Ян Боландзь засуджаны акруговым судом за гвалт і ўзлом, так сама судзіўся за хаванне паляўнічай стрэльбы і незаяўку меднага посуду, які знайшлі схаваным у хляве. Ён засуджаны на 5 гадоў папраўчых работ"*[13].

Ці пераход Ян Боландзь нямецкую акупацыю - не вядома. Аўтар спадзяецца знайсці след нашага боўдзілы ў польскай прэсе 1920-х гадоў.

---

[6] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.448. Воп. 5. Спр. 850. С. 34.

[7] Там жа. С. 4.

[8] Там жа. С. 6-10.

[9] Там жа. С. 36.

[10] Там жа. С. 37.

[11] Виленские губернские вести. № 71, 07 сентября 1911 г.

[12] Kuryer Wilenski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdernika) 1911.

[13] Homan № 77, 7 listapada 1916.

*Зофія Кабылянская*

# З успамінаў санітаркі Ударных кадравых батальёнаў

*27 траўня 2013 года споўнілася 70 гадоў ад хвілі, калі пад камандаваннем Баляслава Пясецкага вырушыла ў поле галоўнае згрупаванне Ударных кадравых батальёнаў (УКБ) - вайсковых фармаванняў Канфедэрацыі народа (КН), каб на землях на ўсход ад Буга весці барацьбу з немцамі.*

*У 1988 годзе Выдавецкі інстытут "Рах" у Варшаве выдаў кнігу Зофіі Кабылянскай[1] "З успамінаў санітаркі Ударных кадравых батальёнаў" з прадмовай Ежы Гагмаера, першы вялікі твор, які датычыцца фрагментаў гісторыі Ударных кадравых батальёнаў. Ніхто з пазасталых у жывых таварышаў па зброі Баляслава Пясецкага не спадобіўся на напісанне гісторыі Канфедэрацыі народа або ўласных успамінаў. Усе яны засталіся даўжнікамі камендманта і арганізацыі, якой прысвяцілі найлепшыя гады сваёй маладосці.*

### З ПРАДМОВЫ

У 1949 годзе маладая партызанка, санітарка Зофія Кабылянская ("Зося") запісала свае ўспаміны з перыяду баёў УКБ на тэрыторыі Лідчыны і Віленшчыны ў 1943-1944 гадах. Habent sua fata scripta! Праляжалі яны амаль 40 гадоў на выдавецкіх паліцах, не гледзячы на свае бясспрэчныя літаратурныя якасці і гістарычную вартасць успамінаў, якія датычацца адносна малавядомых баёў на Крэсах даўняй Рэчы Паспалітай. "Зося" проста і без прэтэнзій, але так праймальна малюе вобраз жаўнерскай працы, радасці поспехаў, горычы няўдач і трагізму партызанскіх смерцяў. Рэч відавочная, што ў сваіх успамінах Кабылянская не паказвае цэльнасці спраў, якія датычацца Канфедэрацыі народа, не высвятляе, чаму на адлеглых усходніх рубяжах аказаліся хлопцы з Варшавы. Аднак варта хоць бы ў вельмі агульным акрэсе прыпомніць гісторыю КН, тым больш, што па-за фрагментарнымі ўспамінамі, якія з'яўляюцца на старонках паксаўскай прэсы ці палемік з аўтарамі, якія скажаюць яе гісторыю, тэма гэтая мала вядомая, неаднакратна фальшаваная абвінавачваннямі Канфедэрацыі ў фашызме і таталітарызме.

Яшчэ ў час ваенных дзеянняў вераснёвай кампаніі (1939 г., *рэд.)* генерал Міхал Карашэвіч-Такарэўскі на падставе мандата маршала Эдварда Рыдз-Сміглага арганізаваў Службу для перамогі Польшчы, якая мела працягваць у канспірацыі барацьбу з немцамі. Непасрэдна пасля заканчэння кампаніі пачалі паўставаць ва ўсёй Польшчы, а ў асаблівасці ў Варшаве шматлікія падпольныя арганізацыі, значная частка якіх недаверліва і нават варожа адносілася да СПП. Баяліся таго, што будзе гэта працягам санацыйнага лагера, адказнага за знішчэнне праўнасці ў Польшчы паслятравенскай і перш за ўсё за паразу вераснёвую.

З ініцыятывы маёра Яна Уладаркевіча (ТАП), мецэната Вітольда Расцішэўскага ("Пабудка") і Баляслава Пясецкага ў ліпені 1940 года распачаліся перамовы, якія датычылі ўзамадзеяння некаторых арганізацый, што крытычна ацэньвалі Службу перамозе Польшчы. У выніку тых перамоў 28 верасня 1940 года паўстала арганізаыя, якая ўзяла назву Канфедэрацыя народа і неўзабаве апавясціла ідэйную дэкларацыю. Супольнай плоскасцю груповак, якія стварылі новую арганізацыю быў каталіцызм, нацыянальная ідэалогія і радыкалізм праграмы гаспадарчай, грамадскай і культурнай. "Жаўнерскі бюлетэнь" са снежня 1940 года змяшчае такія самаакрэсленні: *"Ідэя Канфедэрацыі вырасла з духу польскага народа. Заўсёды, калі наступалі паразы, і вораг нішчыў край, народ, веручы ў Божую дапамогу, ставаў як адзін чалавек да бою са злом і зрываў путы няволі. Адтуль галоўныя лозунгі:*

[1] Зофія Кабылянскаяў час апошняй вайны належала да вайсковага падполля Канфедэрацыі народа (КН). У траўні 1943 года аказалася ў партызанскім аддзеле і як санітарка перайшла разам з ім з Падлесся цераз Беласточчыну аж да Вільні. З 1-й ротай VIII Ударнага кадравага батальёна (УКБ) брала ўдзел у акцыі "Бура" на Віленшчыне. Пасля няўдачнай атакі на Вільню (7 ліпеня 1944 г.) і заняцця горада савецкімі войскамі мусіла з рэштаю аддзела перабрацца зноў на Падлессе. Пасля вайны была звязана з Таварыствам "Рах", працавала журналістам у "Сёння і заўтра", "Слове паўшэхным", "ВТК", "Каталіку". Была шматгадовым галоўным рэдактарам "Зары", ад 1981 г. на пенсіі.

Успаміны былі напісаны ў 1949 годзе. Зофія Кабылянская не старалася пісаць гістарычнай манаграфіі. Паказала ваенныя лёсы партызанскага аддзела (VIII УКБ) і карціну нялёгкага ў ім жыцця дваццацігадовай дзяўчыны. Прапанаваная справаздача - гэта па-просту запіс бачаных яе вачыма здарэнняў, якія мелі месца на Беласточчыне, Лідчыне і Віленшчыне ў 1943-1944 гг. Ці з-за самацэнзуры, ці з-за цэнзуры пры друку, але ва ўспамінах вельмі мала ёсць пра баі і сутычкі з чырвонымі партызанамі, хоць з іншых крыніц вядома, што такія баі і сутычкі мелі месца і не адзін раз.

Кнігу перадаў у рэдакцыю Анатоль Кулеш.

*“Адзінства - Свабода - Бог”.*

У слад КН увайшлі: Тайная армія Польшчы (ТАП), Гвардыя нацыянальнай абароны (ГНА), Саюз збройнага чыну (СЗЧ), “Пабудка”, “Вавель”, “Знак”. Старшынём прэзідыюму Канфедэрацыі народа быў выбраны 28 студзеня маёр Ян Уладаркевіч. Неўзабаве прынята рашэнне падзяліць КН на вертыкаль вайсковую і палітычную. У вайсковую вертыкаль увайшлі ўсе аддзелы сканфедэраваных арганізацый, і яна атрымала назву Збройнай канфедэрацыі, кіраўніком якой застаўся маёр Уладаркевіч. Палітычная вертыкаль захавала назву Канфедэрацыі народа, і кіраўніцтва яе прыняў Баляслаў Пясецкі.

Тым часам у падпольнай дзяржаве адбываліся важныя змены. Па загадзе ген. Уладзіслава Сікорскага Служба перамозе Польшчы была пераўтворана ў Саюз збройнай барацьбы, адзіная прызнаная Вярхоўным галоўнакамандуючым вайсковая арганізацыя ў краі. Камандуючы СЗБ, ген. “Грот” - Равецкі выдаў загад, які сцвярджаў, што дэмабілізацыя не праводзілася, паводле чаго вайскоўцы дзейнай службы, якія не падпарадкуюцца загадам Камандуючага Ўзброеных Сілаў у краі будуць адказваць паводле артыкулаў вайсковага карнага кодэксу. Яшчэ перад адданнем гэтага загаду кіраўнік Збройнай канфедэрацыі правёў шэраг перамоў з прадстаўніком Галоўнага Камандавання СЗБ - падпалкоўнікам Антоніем Санойцам (“Кортум”). У іх выніку былі ўзгоднены ўмовы ўваходу Збройнай канфедэрацыі ў СЗБ. Трывалі яны ад лістапада 1941 г. да траўня 1942 г. Маёр Ян Уладаркевіч быў прызначаны камандуючым “Вахляжа” (“Веера”) і накіраваны ў Львоў, дзе памёр (у сакавіку 1942 г.) пры дакладна не вядомых акалічнасцях. На фоне адносін да СЗБ і да дэлегатуры ўраду дайшло ў Канфедэрацыі народа да рознародных канфрантацый, у выніку якіх шмат асобаў і арганізацый пакінула яе шэрагі. Пясецкі здалеў, аднак, затармазіць распад Канфедэрацыі, якая паволі пачала вяртаць страчаную сілу. Менш-больш ад ліпеня 1942 года была ўладкована новая арганізацыйная структура. Галоўным камендантам быў Баляслаў Пясецкі (“Саблеўскі”), які пакінуў сабе непасрэднае кіраўніцтва “Ўдарам”. Кіраўніцтва новапаўсталай Краёвай арганізацыі прыняў Ян Машынскі (“Мяльніцкі”). У Краёвай арганізацыі за вертыкаль палітычна-прапагандысцкую быў адказны Ўладзімір Петрак (“Балк”), за эканамічную - Аляксандр Ялавіцкі (“Лавіцкі”), культурную - Браніслаў Ануфры Капчынскі (“Адам”), славянскую - Станіслаў Гнядзевіч (“Альгерд”), справай працы з жанчынамі займалася Марыя Іваніцкая (“Малгажата”), моладзі - Ежы Цыбіхоўскі (“Смаленскі”), а потым Мечыслаў Куржына (“Ліпінскі”), секцыю турэмную ўзначальвала Гелена Ямант (“Вашыцкая”). Акрамя таго ў кіраўніцтва КН уваходзілі: Дамінік Гарадынскі (“Віленскі”), Ежы Шлюбоўскі (“Шары”), Войцах Кантржынскі (“Ваўкавыскі”), Адольф Рэўт (“Веланоўскі”), пасля вызвалення з Павяка - Ежы Гагмаер (“Кейстут”), нарэшце, прызначаны на спецыяльныя заданні, Станіслаў Брэсемейстар (“Кавальскі”) і капелан езуіт а. Юзаф Варшаўскі (“Айцец Павел”). (З той групы загінулі ў канцэнтрацыйных лагерах: Машынскі, Ялавіцкі і Капчынскі; палеглі ў партызанцы: Гнядзевіч, Іваніцкі, Шлюбоўскі; у Варшаўскім паўстанні - Петрак і Ямант; трагічнай смерцю ў памяшканні акружаным гестапа загінуў Цыбіхоўскі.)

Канферэнцыя народа ў сваім новым кшталце не была ані ідэалагічна, ані кадрава працягам руху нацыянальна-радыкальнага, як сцвярджаюць некаторыя гістарычныя ці публіцыстычныя даследванні, перакананыя тым фактам, што абедзвюмя арганізацыямі кіраваў Баляслаў Пясецкі. Думка ідэйна-палітычная КН пазбаўлена была характэрных для так зв. Фалангі таталітарных канцэпцый і антысемітызму, бо персанальна звязана з рухам нацыянальна-радыкальным была меншасць новага кіраўніцтва, не гаворачы ўжо пра ўсю арганізацыю, у якой падобны падход абмяжоўваўся нікчэмным працэнтам.

Пясецкі прыдаваў велізарнае значэнне філасофскім і ідэалагічным разважанням, калі ўяўлялі яны неабходныя для стварэння праграмы арганізацыі інтэлектуальныя падставы. Тым больш, што выдадзеная яшчэ ў 1940 годзе (пад псеўданімам Леан Цалка) брашура яго аўтарства - “Вялікая ідэалогія народа польскага” выканала ўжо сваю ролю, і закладзены ў яе змест вымагаў новых абагульненняў. Пад кіраўніцтвам айца Юзафа Варшаўскага (“Айца Паўла”) была паклікана да жыцця супольнасць, якая прадыскутавала тэзісы ствaранай “Айцом Паўлам” філасофскай сістэмы. Канцэпцыю тую Юзаф Варшаўскі назваў універсалізмам, нарысам нацыянальнай грамадскай філасофіі.

Аўтар зрабіў спробу стварэння сістэмы норм і правілаў, якія датычылі паняццяў часткі і цэльнасці. Паняцці тыя служылі акрэсленню адносін *асоба - грамадства* і *грамадства - асоба*. Адносіны тыя ў сваім праграмным вымярэнні павінны быць абапёртыя на моцных фундаментах канкрэтнай філасофіі і дасканалым веданні гісторыі.

Праблемы культуры, закранутыя ва ўніверсалізме былі прадметам творчых дыскусій рэдакцыйнай суполкі месячніка “Мастацтва і народ”. Асобу аўтара і іншых сутворцаў універсалізму характарызуе адсылка да думкі Станіслава Любамірскага: *“Ні адна справа не ёсць добра пачатай на практыцы, калі яна да гэтага не закончана ў думцы”*, ці Норвіда: *“Да паўстання з мячом патрэбна паўстанне сілай думкі”*. Ва ўступе да свайго даследвання “Айцец Павел” піша між іншым: *“Чын без думкі ёсць чын бяздумны. А чын дзейны мусіць быць папярэджаны дзеямі выраслай думкі. Думка ўсеаб’емная. Яна сягае да асноў і фундаментаў”.* Правядзенне больш глыбокага аналізу ўсёй сістэмы ўніверсалізму не мажлівае ў рамках акрэсленых памерамі гэтага тэксту. Варта аднак на фоне абвінавачванняў КН у ідэалогіі фашысцка-таталітарнай прадставіць аўтэнтычную ацэнку таталітарнасці рэпрэзантаваную арганізацыяй: *“Памылкай ёсць (...) падкрэсліванне дзяржавы і грамадства аж да адмаўлення асобы; памылкай ёсць лозунг “Die Einzelne ist nichts, die Nation ist alles” (“Асоба нішто, нацыя ўсё”), памылка - усялякае ўвасабленне дзяржавы; памылка - абагаўлення дзяржавы; памылка раўнанне ў ёй усяго*

*да нізу; памылка - брутальная машынізацыя асобы; памылка памяшчэнне ўласцівай яму рэчаіснасці выключна ў ідэі, міфе, без погляду на змест..."*

Супрацьпастаўлючыся прыросту індывідуалізму і таталітарызму аўтар прапануе альтэрнатыўную, усебаковую філасофію - універсалізм.

Галоўнай светапоглядавай асновай КН была аксіёма, якая сцвярджала, што Бог - апошняя мэта чалавека, таму імкненне да яго выражаецца ў тварэнні маральных і цывілізацыйных вартасцяў у свеце, які застаў чалавек, а таксама ў развіцці ўласнай асабовасці. Кансеквенцыяй гэтых тэзісаў было глыбокае перакананне сяброў Канфедэрацыі пра неабходнасць чыннай пазіцыі ў адносінах да праблем, якія стаяць перад Польшчай і палякамі. Польшча павінна быць вялікай, справядлівай, рэфармаванай гаспадарча, палітычна і культурна. Праграма КН бачыла вялікасць Рэчы Паспалітай у Імперыі, якая абдымала б сваімі межамі землі пястаўскія і Польшчы Ягелонаў і адыгрывала б ролю гегемона супольнасці народаў паміж Балтыкай, Чорным морам і Адрыятыкай. Справядлівасць у радыкальна перабудаванай нацыянальнай гаспадарцы мела забяспечыць нацыяналізацыя буйной прамысловасці, банкаў, шахтаў; рэформа сельскагаспадарчая, якая б распаўсюджвала самастойныя, непадзельныя, самадастатковыя мужыцкія гаспадаркі. На той базе пастулявалася развіццё прамысловасці, гандлю і сельскай гаспадаркі, вялікія фінансавыя ўклады ў культуру, асвету, ахову здароўя і грамадскую бяспеку. Дасягненне закладзеных мэтаў мела быць магчымым толькі тады, калі палякі зразумеюць неабходнасць і важнасць чыну. Чын той ва ўмовах акупацыйных меўся выражаць жаўнерскую ахвярную гатоўнасць пралівання ўласнай крыві ў барацьбе за незалежнасць, а пасля яе вяртання - барацьба за вялікасць Польшчы і поўная прысвечанасць службе ў адбудове і перабудове краю.

Распаўсюджванню ідэалогіі і прапагандзе дзейнасці служыла выдаваная Канфедэрацыяй народа прэса і шматлікія брашуры. Галоўным органам была “Новая Польшча”, рэдактарам якой быў Ян Машынскі (“Мяльніцкі”), а пасля яго арышту - Уладзімір Петрак (“Балк”). Гаспадарчым пытанням былі прысвечаны: “Новая гаспадарчая Польшча” (рэдактар Войцах Залескі - “Шарэцкі”), “Новая Польшча - новая вёска” (рэдактар Ежы Шлюбоўскі - “Шары”). Для жаўнераў “Удару” прызначана было выданне “Да зброі” (рэдактар Адольф Рэўт - “Веланоўскі”). Славянскі аддзел выдаваў “Славянскі бюлетэнь” (рэдактар Войцах Вінклер - “Вільчэўскі”) і справамі моладзі займаліся выданні “Моладзь імперыі” і “Іскра” (рэдактар Мечыслаў Куржына - “Ліпінскі”).

Уладзімір Петрак быў не толькі рэдактарам галоўнага аргана КН, а задаваў таксама кірунак культурнай працы арганізацыі. Аднак галоўным актывізатарам той дзейнасці быў выпускнік Варшаўскай кансерваторыі, кампазітар і публіцыст Браніслаў Ануфры Капчынскі. З яго ініцыятывы ўзнік штомесячнік “Мастацтва і народ”, якога ён быў першым рэдактарам. Сабраў ён вакол выдання групу выбітных паэтаў, празаікаў і культуралагічных публіцыстаў. Суполка тая сцякла крывёю ў барацьбе з акупантам, а яе творчасць перайшла да гісторыі польскай літаратуры. Капчынскі загінуў у Майданаку, яго наступнік - Вацлаў Чарнота Баярскі памёр у шпіталі “Дзіцятка Езус” ад агнястрэльнай раны ў жывот, атрыманай падчас ускладання кветак пад помнік Каперніку. Выпадкова арыштаваны чарговы рэдактар штомесячніка Андрэй Тшабінскі быў расстраляны пры публічнай экзекуцыі на Новым Свеце, яго наступнік - Тадэвуш Гайцы і сурэдактары Здзіслаў Страінскі і Войцах Мэнцаль палеглі ў Варшаўскім паўстанні.

Паралельна з дзейнасцю філасофскай, ідэалагічнай, культурнай і палітычнай Пясецкі інтэнсіўна будаваў вайсковую вертыкаль Канфедэрацыі народа, мэтай якой была канцэпцыя “Ўдару”. Ідэя тая выходзіла з палажэння, што ў палітыцы той пераможа, хто атакуе, хто робіць, а не той, хто чакае на міжнародныя меркаванні, плебісцыты і да т.п. **“Польшчу незалежную атрымаем, Польшчу вялікую мусім заваяваць самі”**, таму вайсковыя канспірацыйныя аддзелы не павінны стаяць са зброяй ля нагі, але павінны быць кінуты ў партызанскую барацьбу.

Ударныя кадравыя батальёны мелі быць накіраваны на густа заселеныя забужскія тэрыторыі, каб фармаваць там сведчанне пра польскасць тых зямель створанымі партызанскімі аддзеламі. Яны мусілі праводзіць дыверсійныя акцыі ў тылах Вермахту, дэманструючы перад саюзнікамі чынную, бесперапынную барацьбу палякаў з немцамі. Стваралі б яны нарэшце прыстанішча для “спаленых” у так званым Генерал-губернатарстве дзеячаў падполля. Невымерна важнай рысай сяброў КН і жаўнераў УКБ было іх глыбокае перакананне, што новай Польшчы будуць патрэбныя людзі, характар якіх выпрацавалі не толькі філасофія і ідэалогія, але таксама і жаўнерскі чын.

Намерам кіраўніцтва Канфедэрацыі была такая арганізацыя дзейнасці ўсіх вертыкаляў, каб стваралі яны адзінства, якое служыла б канцэпцыі “Ўдару” цераз павелічэнне колькасці і ўдасканаленне вайсковай і ідэалагічнай падрыхтоўкі аддзелаў УКБ. Характэрным для атмасферы, якая панавала ў КН ёсць Загад №3, выдадзены Галоўным камендантам: *“Звяртаю ўвагу, што ў Канфедэрацыі народа не існуе спраў арганізацыі палітычнай і спраў арганізацыі вайсковай, пакольі ўвесь рух ёсць ідэйны і змілітарызаваны. Сурова рэкамендую асцерагацца вышэй названых паняццяў - Б”.*

У палове кастрычніка 1942 г. у Стэрдынскіх лясах была праведзена канцэнтрацыя 1 УКБ, які пазней меў фарсіраваць Буг і дабрацца да Белавежскай пушчы. Там павінна быць створана тэрыторыя для прыняцця наступных аддзелаў “Удару”. Канцэнтрацыя агаліла памылкі кіраўніцтва: шмат жаўнераў прыбыло ў вопратцы не прыдатнай для дзейнасці ў партызанах (адсутнасць уваходнага кантролю), наяўная зброя аказалася ў значнай ступені няспраўнай, і, наогул, было яе замала, бракавала боепрыпасаў. У гэтай сітуацыі камандзір 1 УКБ - маёр “Дуб” загадаў каля 80 чалавекам вярнуцца на месца жыхарства, сам жа з 30 пар-

тызанамі перайшоў Буг. Адсылка некалькіх дзясяткаў чалавек без забеспячэння іх праваднікам і без указання маршруту вяртання аказалася фатальнай памылкай “Дуба”, бо каля 20 чалавек было злоўлена жандармерыяй на розных станцыях Падлесся. Пасля двухтыднёвага маршу цераз забужскія лясы, “Дуб” распарадзіўся вярнуцца ў Варшаву. Акрамя злоўленых жандармерыяй аддзел страціў 2 забітых і меў 2 параненых. Фатальная няўдача 1 УКБ прымусіла Галоўнага каменданта КН да правядзення персанальных змен у афіцэрскіх кадрах, рэарганізацыі навучання і разбудавання інтэнданцкіх служб, якія павінны былі забяспечыць патрэбу ў зброі, боепрыпасах, медыкаментах і асноўных элементах абмундзіравання. Пясецкі планаваў выйсці ў поле разам з галоўным згрупаваннем УКБ вясной 1943 года. Для гэтага ўжо ў снежні 42 г. ён выслаў на тэрыторыю некалькі маладых, поўных запалу афіцэраў, заданнем якіх была падрыхтоўка на працягу некалькіх месяцаў пераходу згрупаваня цераз Падлессе, Беластоцкае ваяводства і далейшыя тэрыторыі за Бугам, а таксама завязванне кантактаў з мясцовай люднасцю з мэтай забеспячэння кватэр, харчавання і будучага наплыву дабраахвотнікаў. Важнай мэтай іх побыту на тэрыторыі было разведка размяшчэння нямецкіх аддзелаў.

Позна восенню 1942 г. распачаліся афіцыйныя перамовы кіраўніцтва КН з прадстаўнікамі Галоўнага камандавання АК. Зразумела, што поспех канцэпцыі “Ўдару” залежаў у велізарнай меры ад адносінаў да яе кіраўніцтва афіцыйнай, якая дзейнічала з мандата Галоўнакамандуючага, вайсковай арганізацыі. Спачатку перамоўцам з боку АК быў п/п-к “Картум” (інж. Антоні Санойца), пазней п/п-к “Валігара” (Рэміг Грахольскі), нарэшце п/п-к “Сэмп” (Ян Мазуркевіч), пазнейшы слынны п-к “Радаслаў” (памерлы нядаўна ў званні генерала брыгады). З боку КН першым яе прадстаўніком у перамовах быў “Аркан” (Адольф Рэўт), пазней Баляслаў Пясецкі і “Кейстут” (Ежы Гагмаер). У выніку праведзенага гандлю вайсковыя аддзелы КН былі ў перыяд ад сакавіка да ліпеня 1943 года падпарадкаваныя Краёвым збройным сілам (АК), захоўваючы пэўнага роду аўтаномію ў сферы спраў ідэйна-палітычных, кадравай палітыкі і наменклатуры вайсковых званняў для ўнутранага ўжытку УКБ. Але перш за ўсё была прызнана канцэпцыя партызанскай барацьбы на ўсходніх рубяжах.

Выхад УКБ у траўні 1943 пад кіраўніцтвам Баляслава Пясецкага быў узгоднены ГК АК, якое адобрыла яго мэту, а таксама маршрут і будучае месца дыслакацыі.

17 жніўня 1943 года выйшаў загад генерала “Бора”, камандуючана Ўзброеных сіл у Краі, які датычыўся падпарадкавання вайсковых аддзелаў КН камандаванню Арміі Краёвай. Загад той утрымоўвае акрамя іншага рашэнне ген. “Бора” ўзнагародзіць 7 афіцэраў Крыжам Валечных у першы раз, павысіць да афіцэрскага звання 5 падхарунжых (сяржантаў) і да звання падхарунжых - 22 жаўнераў.

Узначаленае Пясецкім згрупаванне УКБ дабралася пасля некалькіх сутычак з немцамі да раёна Ліды. Камандзір Навагрудскай акругі АК п-к “Барсук”, даручыў Пясецкаму перафармаванне падначаленага яму аддзела ў III батальён 77 пяхотнага палка. Тым батальёнам Пясецкі камандаваў да канца эпапеі брыгад паўночна-ўсходняга абшару АК, якім была крывавая бітва за Вільню. Неўзабаве пасля ўзяцця Вільні (Чырвонай Арміяй, *рэд.*) эпапея змянілася на драму раззбраення частак Арміі Краёвай і іх наступнага тулянне пратаптанымі бацькамі і прабацькамі шляхамі.

Пасля выхаду аддзела Пясецкага Канфедэрацыя народа вяла на на тэрыторыі Цэнтральнай Польшчы ўсебаковую дзейнасць палітычную, культурную і вайсковую. Пры падтрымцы базы “Старт - III” (камандзір маёр “Борак”, на самай справе п-к Тамаш Зан) накіроўвалася папаўненне ў 77 полк, а таксама быў перададзены плутон (паўзвяза, *рэд*) жаўнераў у распараджэння 82 пп 30 дывізіі АК, якая дзейнічала на Палессі.

Набліжаўся тэрмін выбуху Паўстання. Кіраўніцтва Канфедэрацыі было супраць ідэі паўстанцкага рыўка, не верачы ў ніякую лагічную дапамогу ані Ўсходу, ані Захаду. Звярталіся да найвышэйшых уладаў падпольнай Польшчы, пры пасярэдніцтве слыннага “Цэльта” пераслалі эміграцыйнаму ўраду мемарыял аўтарства Петрака супраць канцэпцыі паўстання. На жаль, значэнне Канфедэрацыі народа было вельмі малое, каб магло паўплываць на канчатковае рашэнне. У той сітуацыі былі змабілізаваны ўсе кадры арганізацыі і перададзены ў распараджэнне п-ка “Радаслава” плутоны “Мядзведзі” і “Мечыкаў”, некалькі аддзяленняў баявых сувязных і санітарак, а таксама звыш дзесятка чалавек для дапаможнай службы. У суме было гэта каля 200 мужчын і жанчын. Канфедэрацыя народу растапілася ў партызанскіх аддзелах і паўстанчых батальёнах і пасля ўпадку паўстання не аднавіла сваёй дзейнасці.

Гісторыя Канфедэрацыя народа складаная і неадназначная. У сваёй дзейнасці і ў ідэалогіі не пазбегла яна памылак. Гаворачы пра іх, належыць перш за ўсё назваць нацыяналістычны экстрэмізм, які выражаўся ў канцэпцыі імперыі. Але трэба памятаць, што ў міжваенныя гады і ў часе вайны большасць польскага грамадства (і КН таксама) прапагандавала тэорыі двух ворагаў Польшчы. Такія перакананні прымушалі ўсё ж да пошуку рашэнняў, якія, адкідваючы мажлівасць саюзу з Савецкім Саюзам, гарантавалі б існаванне паміж “Двума ворагамі” самастойнага дзяржаўнага арганізму, зарганізаванага пад кіраўніцтвам Польшчы абшару Міжмор’я. Гэта была тая выпеставаная вялікасць Польшчы, рэалізатарам якой меў быць “Удар”, які ствараў у справе межаў закончаныя факты.

Развіццё сітуацыі ваеннай і міжнароднай змушала аднак да эвалюцыі поглядаў. У канцавой фазе партызанкі сам Пясецкі тлумачыў жаўнерам, як піша ў сваіх успамінах Зофія Кабылянская, што гістарычнай неабходнасцю ёсць паразуменне з Савецкім Саюзам. Абвешчаныя ў 150 - я ўгодкі Касцюшкаўскага паўстання (24 сакавіка 1944 года) “Праграмныя тэзісы новай Польшчы”, ужо больш спакойна фармулююць пастулат, які датычыцца Міжмор’я: *“Польшча, як край ся-*

*рэднееўрапейскі і славянскі, павінна імкнуцца да ўзнікнення сярэднееўрапейскай супольнасці ў імя супольнасці задач цывілізацыйных і палітычных",* і параграф 25, які замыкае тэзісы, гучыць: *"Польшча імкнецца ўсе свае мэты дасягнуць мірным шляхам. Вайна ёсць катаклізм маральны і матэрыяльны. Польшча не адступіць ніколі ад абароны сваіх інтарэсаў і свайго гонару".*

Памылкай палітычнай і ідэалагічнай КН была таксама адсутнасць разумення патрыятызму польскай левіцы і яе слушных ацэнак міжнароднай сітуацыі і спосабу ўладкавання паваеннай Польшчы. Называючы памылкі, належыць аднак памятаць пра цікавы і вартасны філасофскі даробак КН і яе цікавыя прапановы, якія датычыліся будовы новай Польшчы. Але перш за ўсё нельга забываць глыбокую ідэйнасць, рэлігійнасць і ахвярнасць сяброў Канфедэрацыі. Іхнія перакананні, як гатоўнасць пралівання ўласнай крыві ёсць сцвярджэнне вартасці чалавека. Перакананні, пацверджаныя смерцю больш за 700 палеглых жаўнераў Канфедэрацыі народа і Ударных кадравых батальёнаў.

Расстраляны немцамі Анджэй Тшабінскі ў пазасталай пасля яго паэтычнай спадчыне пакінуў такое пасланне:

*Жаўнеры,*
*не булаву, а ідэі нясе кожны ў ранцы.*
*Плынь падзей - гэта струмені нашай крыві,*
*Не бойся,*
*калі пурпуровыя струмені рвуцца*
*ўздоўж хуткаплыні.*
*Не слёзы,*
*не плач*
*мае нас праводзіць.*
*Падымем лёс - няхай крывёй*
*плывуць здзяйсненні.*
*Кроў звяжа нас з гісторыяй,*
*як найкаштоўнейшы шнур.*
*Жаўнеры, якія вераць у кроў,*
*няхай*
*кроў*
*ліецца.*
*У гісторыю трэба рвацца,*
*як у атаку.*

***Ежы Гагмаер.***

**Найважнейшыя баі УКБ (КН) паводле апрацавання Збігнева Лакінскага ("Градняка").**

1. Стардынскія лясы, 20.X.1942 г.
2. Штабін, 1.V.1943 г.
3. Далекія-Тшцянка, 28.V.1943 г.
4. Няскуш, 30.V.1943 г.
5. Паўлы - Цялушкі, 11.VI.1943 г.
6. Завады, 21.VI.1943 г.
7. Кабылін, 21.VI.1943 г.
8. Жандзяны, 21-22.VI.1943 г.
9. Ціхаволя, 9.VII.1943 г.
10. Каралёў Мост, 14-15.VII.1943 г.
11. Зубры, 17.VII.1943 г.
12. Акулак, 12.VIII.1943 г.
13. Мітэнгайдэ-Крумэнгайдэ, 15-16.VIII.1943 г.
14. Козі Рынак, 16.VIII.1943 г.
15. Стрыюўка - Віланаў - Арэхвічы, 20.IX.1943 г.
16. Плябанішкі Пятрыкоўскія, 26.IX.1943 г.
17. Ляйпуны, 5.X.1943 г.
18. Крылатка, 7.X.1943 г.
19. Старое Грабава, 30.XI.1943 г.
20. Бурносы, 8.XII.1943 г.
21. Смалярня, 2.II.1944 г.
22. Ліда (казармы арг. ТОДТ), 7.IV.1944 г.
23. Кена (казармы арг. ТОДТ), 23.IV.1944 г.
24. Віндзюны, 16.V.1944 г.
25. Дворышча, 28.V.1944 г.
26. Вікшняны, 17.VI.1944 г.
27. Бакшышкі, 30.VI.1944 г.
28. Трабы, 1.VII.1944 г.
29. Вільня, 7.VII.1944 г.
30. Выжары, 19.VII.1944 г.
31. Вілянова, 20-21.VII.1944 г.
32. Варшаўскае паўстанне, 1.VIII - 2.X.1944 г.

**Асабовы склад III батальёна 77 пп на 6.VII.1944 г.**

17 афіцэраў, 37 падафіцэраў (старэйшы сяржанцкі склад), 65 падхарунжых (малодшы сяржанцкі склад), 580 стральцоў - разам 699 вайскоўцаў.

**Страты КН у 1942 - 1944 гадах:**

Расстраляных - 30.
Замардаваных у канцэнтрацыйных лагерах - 27.
Дыверсійныя акцыі ў Варшаве - 15.
Партызанскія баі - 550.
Варшаўскае паўстанне - 90.
Разам - 712.

Вось такія людзі, з такой ідэалогіяй прыйшлі ў Беларусь 70 гадоў назад, восенню 1943 года, каб засведчыць польскасць гэтай зямлі. Вось такія іхнія лёсы.

Самі ўспаміны Зофіі Кабылянскай мы падаём, пачынаючы з XI раздзела, з моманту пераходу Ударнага кадравага батальёна Баляслава Пясецкага мяжы генеральнай акругі "Беларусь".

У сувязі з тым, што аўтарка карыстаецца ў сваіх успамінах галоўным чынам псеўданімамі асобаў, для аблягчэння чытачам арыентацыі падаём спіс. Псеўданімы пададзены ў двукоссі ў алфавітным парадку. У некаторых выпадках, калі нейкая асоба насіла больш, чым адзін псеўданім, як першы падаём часцей ужываны ў тэксце.

"Адась", "Новак" - Адам Сікорскі.
"Айцец" - Генрык Івашкевіч.
"Айцец Павел" - а. Юзаф Варшаўскі.
"Акулярнік" - невядомы.
"Альгерд" - Станіслаў Гнядзевіч.
"Альтко" - Альфрэд Бакуноўскі.
"Альшына" - Рышард Церляк.
"Аня" - Ганна Домбская.
"Антоні" - Ян Барэвіч.
"Антось" - невядомы.
"Астоя" - Баямір Твашыянскі.

“Астроўскі” - Ежы Білінскі.
“Асэсар” - Антоні Цішэўскі.
“Атаман” - Ежы Гумкоўскі.
“Бабініч” - Рамаоўскі
“Бальк” - Уладзімір Петрак.
“Бася” - Барбара Садоўская.
“Бася” - Зофія Пагарэльская-Матусэвіч.
“Беднарак” - Збігнеў Новак.
“Белы” (“Бялы”) - Стэфан Тэадаровіч.
“Багуслаў” - Багуслаў Нэрынг.
“Борак” - Томаш Зан.
“Барсук” - Януш Праўдзіц-Шляскі.
“Барута” - Уладзіслаў Бандроўскі.
“Баяр” - Анджэй Красінскі.
“Бжэзняк” - невядомы.
“Бжэхва” - Тэадор Казлоўскі.
“Бронак” - Браніслаў Смігель.
“Бронка” - Яніна Гофман.
“Бруна” - Стэфан Ліпінскі.
“Буль” - Ян Швыкоўскі.
“Бульба” - невядомы.
“Бяроза” (“Бжоза”) - Юзаф Сульжынскі.
“Валерык” - невядомы.
“Варта” - Станіслаў Сэндзяк.
“Ваўкавыскі” - Войцех Кэнтжынскі.
“Вікторыя” - Марыя Борчык - Бурмайстар (Борчыкуўна - Бурмайстар).
“Вір” - Конрад Бардашэўскі.
“Вірэцкі” - Люцыян Лапінскі.
“Віхар” - Пётр Касінскі.
“Войскі” - невядомы.
“Воўк” (“Вільк”) - Аляксандр Крыжаноўскі (Кжыжаноўскі).
“Вронскі” - Ян Вышамірскі.
“Вужык” (“Вэнжык”) - невядомы.
“Вусік” (“Вонсік”) - Вацлаў Ляскоўскі.
“Гадула” - Мечыслаў Хайноўскі.
“Галіят” - Браніслаў Камот.
“Ганка” - Ганна Заржыцкая - Альшэўская.
“Гапа” - Цітус Пудла.
“Гара” (“Гура”) - Адольф Пільх.
“Гервазы” - Тадэвуш Хомка.
“Горны” (“Гурны”) - Людвік Пашкевіч.
“Грабя” - Казімір Асіпяк.
“Грабя” - Лехаслаў Станіслаўскі.
“Градняк” - Збігнеў Лакінскі.
“Грот” - Адам Сасноўскі.
“Грот” - Станіслаў Стшэляц.
“Грубы Бартак” - Войцех Ступула.
“Гураль” - Раман Борак.
“Давейка” - Зыгмунт Мачульскі.
“Дамейка” - Станіслаў Бака.
“Дан” - Ян Уладзімір Сядлецкі.
“Данка” - Данута Жалапінска.
“Джэк” - Генрык Енчык.
“Длускі” - Збігнеў Грушчынскі.
“Дуб” (“Домб”) - невядомы.
“Дуб” (Домб”), “Тапорскі” - Ігнацы Тэляхун.
“Дуброва” (“Дамброва”) - Станіслаў Базінскі.
“Дэман” - Браніслаў Ашмян.
“Ендрыеўскі” - Міхал Шаэн.
“Жагота” - Марак Календа.
“Жбік” - Яўген Рытэль.
“Жвірскі” - Веслаў Лянгевіч.
“Завада” - Ян Кайсерберг.
“Завіруха” - невядомы.
“Завіша” - Генрык Крашэўскі.
“Зарэмба” - Пётр Цялецкі.
“Збых” - Збігнеў Даткевіч.
“Здрой” - Здзіслаў Балаховіч.
“Зімак”, “Кшых” - Зімаслаў Кшышкоўскі.
“Зося” - Зофія Кабылянская.
“Зоя” - Зофія Лаўрэнцева.
“Зых” - Уладзіслаў Жагло.
“Ірад” (“Герад”) - Зыгмунт Марак Луцына.
“Ірмус” - Януш Зялінскі.
“Кавальскі” - Станіслаў Брасемэйстар.
“Кайтэк”, “Збжыч” - Каятан Гужны.
“Канеўка” - Чэслаў Гжыбоўскі.
“Карскі” - Анджэй Макс.
“Квяткоўскі” - Яўген Дамброўскі.
“Квяткоўскі” - Зянон Дабашынскі.
“Кінг” - Ян Валіцкі.
“Кміціц” - невядомы.
“Кміціц” - Канстанты Касінскі.
“Кнышыняк” - Ян Нядзеля.
“Козак” - невядомы.
“Козіц” - Станіслаў Алексяк.
“Котвіч” - Мацей Калянкевіч.
“Краўчак” - Багдан Багуміл Кляйбор.
“Крэчатаў” - Стэфан Гаебель.
“Крапідла” - Леанард Баршчэўскі.
“Крук” - Антоні Касінскі.
“Крыся” - Ян Барысевіч.
“Крэмень” - Чэслаў Грудскі (Грондзкі).
“Кубала” - Мацей Славамір Хржаноўскі.
“Курпскі” - Ежы Ўрублеўскі.
“Кшыштаф” - Багдан Смалярскі.
“Ламжак” - Тадэвуш Краеўскі.
“Лех” - Юзаф Свіда.
“Лілька” - Людміла Ліпко.
“Лісбор” - Тэадор Лесэ.
“Людвік” - Эдвард Азембла.
“Ляжанскі” - Ежы Казімерскі.
“Максім” - Максім ле Фаржэ.
“Малгажата” - Марыя Іваніцкая.
“Марак” - Марак Шацкі.
“Маруда” - Станіслаў Войцех Браткоўскі.
“Марыя” - невядомая.
“Мастовіч” - невядомы.
“Мацек”, “Сатыр” - Мечыслаў Ліпко.
“Мацек” - Яўген Завістоўскі.
“Метак”, “Жбік” - Мечыслаў Дабрылка.
“Міхал” - Казімір Бабінскі.
“Міцкевіч” - Казімір Кобус.
“Момус” - Вацлаў Жмігродскі.
“Мора” - Лех Збігнеў Брымора.
“Мушкецёр” - Стэван Віткоўскі.
“Мыга” - Ян Дылеўскі.
“Мыслібор” - Ігнацы Коц.

“Мэн” - Мечыслаў Мядніцкі.
“Мядзведзь” - Рышард Дамрош.
“Нась” - Анджэй Гадульскі.
“Невядомы” (“Нязнаны”) - невядомы.
“Ніна” - Яніна Вайніцкая.
“Ніна” - Яніна Выляжынская.
“Онкель” - невядомы.
“Ора” - кс. Мечыслаў Сувала.
“Орлік” - невядомы.
“Орліч” - Тадэвуш Кроляк.
“Павісляк” - невядомы.
“Падгорскі” (“Падгурскі”) - Генрык Сінярскі.
“Паланецкі” - Станіслаў Арлікоўскі.
“Паль” - Станіслаў Дэдэліс.
“Паморак” (“Паможак”) - Чэслаў Бражаеўскі.
“Пануры” - Ян Піўнік.
“Папай” - Зянон Савіцкі.
“Прага” - Кшыштаф Лех Кшыштафовіч.
“Пратазы” - Станіслаў Мазур.
“Паўль” - невядомы.
“Паўлоўскі”, “Стэфан Паўлоўскі” - Тадэвуш Юльян Ягадзінскі.
“П-8” - Леан Сушынскі.
“Пепж” - Генрык Сэпэта.
“Пэся” - Гэнавэфа Колач.
“Пярун” - Аляксандр Сафарын.
“Равіта” - Ежы Ўрублеўскі.
“Равіч” - Яўген Раманскі.
“Рагнер” - Чэслаў Заянчкоўскі.
“Радэцкі” - Станіслаў Пецюль.
“Раман” - Ежы Штайнэрт.
“Раманоўскі” - Лешак Костак-Бярнацкі.
“Рамантык” - Анджэй Фабіноўскі.
“Рафал” - Зыгмунт Артых.
“Роберт” - Роберт Сэрвэ.
“Розга” - Юльян Віткоўскі.
“Рэент” - Станіслаў Чапскі.
“Саблеўскі” - Баляслаў Пясецкі.
“Сак” - невядомы.
“Саламон” - Мечыслаў Кавальчык.
“Самбор” - Тадэвуш Анджаеўскі.
“Сапёр” - невядомы.
“Саўка” - Казімір Догіль.
“Славік” (“Славэк”) - Баляслаў Лісоўскі.
“Смаленскі” - Ежы Цыбіноўскі.
“Сокал” - Ян Лапінскі.
“Сарока” - невядомы.
“Сверк” - Баляслаў Місюра.
“Свіст” - невядомы.
“Снежыца” - Станіслаў Гнась.
“Спад” - Ян Францішак Марак.
“Старжа” - Касмоўскі.
“Суліма” - Збігнеў Федаровіч.
“Султанка” - невядомы.
“Сум” - Збігнеў Анджэй Кабылянскі.
“Сыльвія” - Ванда Ляскоўская.
“Сэнп” - Антоні Калішэўскі.
“Табар” - Ежы Ляскоўскі.
“Тарэза” - Данута Мацеевіч.
“Тарлецкі” - Ян Малышка.
“Тжаска” - Людамір Вылежынскі.
“Тжаска” - Генрык Краеўскі.
“Тшцянка” - Антонт Ляшчынскі.
“Тыгрыс” - Баляслаў Штукоўскі.
“Уладак” “(“Влодэк”) - Уладзіслаў Масціцкі.
“Уршуля” - Браніслава Ручынская-Кужыніна.
“Цыдзік” - Станіслаў Матушэўскі.
“Чарскі” - невядомы.
“Чорная Ганка” - Ганна Пяндоўская.
“Чорны” - невядомы.
“Чорны” - Збігнеў Чарноцкі.
“Шары” - Славамір Шлюбоўскі.
“Шчэнсны” - Станіслаў Каралькевіч.
“Шэршань” - невядомы.
“Эрык” - Эрык Барч.
“Юзаф” - Зыгмунт Дзярмага - Дзялынскі.
“Юр” - Генрык Кляйбор.
“Яблонскі” - Браніслаў Мілеўскі.
“Ямёла” - Зыгмунт Казімір Вазьніца.
“Янка” - Яніна Чарнецкая.
“Ярак” - Яраслаў Каранкевіч.
“Ярскі” - Казімір Ахрамовіч.
“Ястраб” - Мар’ян Бяднарскі.
“Ястрабец” - Уладзіслаў Масакоўскі.
“Яся” - Яніна Календа.
“Яцак” - Рышард Рэйф.

## З успамінаў санітаркі...

### XI

Пад канец кастрычніка мы перайшлі граніцу Остлянда. Трохі дроту, і нічога больш, абышлося без клопатаў. Першая кватэра на тэрыторыі “Цыранкі” падалася нам нечым зусім незвычайным. Захоўваючы ўсе сродкі асцярожнасці мы закватаравалі ў дзвюх суседніх сядзібах, адасабёных ад астатніх. Гасціннасць прыёму была ўражвальная. Людзі не баяліся нашай прысутнасці, багацце яды пераходзіла нашыя найсмялейшыя мары.

У каморы стаяла бочка салёнага сала. Цэлая бочка! - у гэта не верылася. Цішком пракрадваючыся туды мы адразалі па кавалку тога выпешчанага ў марах сала, хаваючы яго асцярожна ў кішэню разам з некалькімі “здабытымі” ў капцы бульбінамі. Хавалі не ў заплечнік, а ў кішэню, якая - калі не была дзіравая - станавілася найбяспечнейшай схованкаю. Заплечнік лягчэй было згубіць.

На другі дзень скандал. Мужык прыбег са скаргай да “Шчэнснага” - бочку сала яму раскралі! Не прызнаўся ніхто. “Шчэнсны” і камендант добра ведалі, што свеціць. Мелі грошы - заплацілі. Быў карны рапарт “опэр”, але мы выслухалі ўсё спакойна - сала ў кішэнях, і гэта было найважней.

Пасля некалькіх дзён некурэння дарваліся таксама да самасаду. Частаваў ім гаспадар. Спрагнёныя кідаліся мы на самакруткі з большаю, мабыць, прагаю, чым на яду. Здзіўленыя нашым агаладаннем мужыкі не шкадавалі прыгожых тытунёвых лісцяў. У гумне гаспадар раздаваў іх шырокай рукой. Былі выдатныя

- светлааранжавыя. Хлопцы скручвалі з іх тоўстыя "казіныя ножкі".

Абрадаваная, што нарэшце пасля доўгага посту я змагу закурыць, узяла ад Тадзіка "Гервазага" тоўсты скрутак, падобны да цыгары.

- Не зацягвайся, бо моцны, як халера... - пачула.

Не прыслухалася да перасцярогі. Задыхнулася. Убачыла прабабку... Тытунь быў немагчыма моцны, або гэта мы былі такія слабыя, што, не гледзячы на асцярожнае зацягванне, у лбах круцілася, як пасля наймацнейшага бімбару (самагонкі).

На чацвёрты ці пяты дзень нашага побыту ў Шчучынскім павеце здарыўся прыкры выпадак. Неспадзяваная сутычка з мясцовым аддзелам ротмістра "Леха". Мы кватаравалі ў некалькіх хатах, здаецца, у Савічках. Ахова была расстаўлена так, як у Беластоцкім павеце, г.зн. палова жаўнераў ахоўвала, палова адпачывала. Тут перад світаннем да нашых пастоў наблізіўся нейкі аддзел. Не ведаў паролю, рэакцыя стаяўшага на варце была правільная - стрэліў. Адбыўся кароткі абмен агнём. Праз хвілю аказалася, што гэта аддзел "Леха", які вяртаўся на тую тэрыторыю, вырваўшыся з аблавы ў Нацкай пушчы. Вынікі няведання паролю былі плачэўныя. Сяржант "Бульба" быў цяжка паранены. Не дапамагла неадкладная лекарская дапамога, праз два дні памёр. Мы ўсе моцна перажывалі гэты інцыдэнт. Такое першае спатканне з мясцовай партызанкай было невымерна прыкрае як для аднаго, так і для другога боку.

Пасля спаткання з аддзелам "Леха" мы рушылі далей разам. Са здзіўленнем мы назіралі іхнія паводзіны на мясцовасці. Ішлі днём, не толькі не хаваючыся, але нават голасна спяваючы, займалі на пастой цэлыя вёскі, амаль цалкам не выстаўляючы аховы. Рухаліся пераважна на вазах або конна. Мы прыглядваліся да іх з цікавасцю. Яны мелі добрыя боты, былі добра апранутыя, наетыя і ўпэўненыя ў сабе. Пры іх мы выглядалі, як недарэкі. Але, не гледзячы на наш плачэўны выгляд, ішла пагалоска: "варшавякі" голыя і босыя, але зброю маюць першасортную, і самі баявыя.

У тым выказванні было ўсё. Сотні кіламетраў мы неслі выпешчаную, добра дагледжаную зброю зброю, у заплечніках заміж запасаў былі боепрыпасы, у кішэнях пара ўкрадзеных з поля бульбін, а на спінах лахі. Ногі часта абкручаны анучамі, якія прытрымлівалі рэшткі ботаў... З зайздрасцю глядзелі мы на прыгожыя мундзіры і кажушкі таварышаў з мясцовай партызанкі.

На Ўсе Святыя мы кватаравалі ў адным з "гарадкоў" - так мясцовыя называлі шматлікія, раскіданыя па абшары маленькія фальваркі. Вярнуўся з патруля Збышак "Градняк". Прывёў з сабой сувязнога - Анджэя "Баяра", які прывёз загады і данясенні з Варшавы, а таксама вестку аб арышце "Ясі", якая мела далучыцца да нас у Аўгустоўскай пушчы, везучы з Варшавы ў верасні паведамленні для каменданта. На жаль, была злоўлена на мяжы, пасаджана ў Павяку, а потым у Асвенцыме.

Дзень Задушны. Вечарам на абшырным падворку адбылася пераклічка палеглых. Спісак быў доўгі. Колькасць страт гнятлівая. Пасля пераклічкі прачыталі загад. Якраз тады "Шчэнсны" ўжо афіцыйна быў прызначаны камандзірам групы, якая складалася з яго жаўнераў, аддзела "Астроўскага" і "Градняка". Асобным жаўнерам былі прысвоены вайсковыя званні.



***"Градняк" і "Шчэнсны"***



***"Астроўскі"***

Затым гаварыў камендант, дзякуючы жаўнерам за папярэднюю службу, за вытрывалась і мужнасць. Аддаючы пашану палеглым, заклікаў нас не паддавацца песімізму, паказваў аптымістычнае бачанне будучыні. Гаварыў пра тое, што "Ўдар" - гэта заняцце дзейнай пазіцыі супраць кожнай праблемы, што ёсць нішчэннем зла там, дзе яно з'яўляецца, бо Канфедэрацыя народа ёсць рух, які абвяшчае бунт супраць ранейшай маласці нашага народа, нашай слабасці і пасіўнасці. Канфедэрацыя народа - гэта служба Айчыне пры любой патрэбе. Чынам трэба пацвярджаць тое, што гаворыш словамі. Менавіта гэтая ахвяра най-

лепшых сыноў нашага народа пацвярджае тую згоднасць слоў і дзеянняў. Калі б мы не займалі такой пазіцыі жыццёвай, прыгожыя слова, праграма і лозунгі павіслі б у пустэчы, былі б без пацвярджэння. З пасеву крыві мусіць вырасці новая Польшча.

Слухаючы тую прамову каменданта, кожны з нас думаў пра тых, якія палеглі, кожны з нас верыў у сэнс сваёй прысутнасці ў тым адлеглым ад Варшавы "гарадку", верыў у сэнс свайго жаўнерскага, вайсковага, партызанскага абавязку.

У тым гарадку стаялі пару дзён. Вельмі павольна вярталіся да нейкіх сілаў. Мусілі перайсці на зусім іншыя варункі побыту. Кіраўніцтва наша старалася пазавязваць кантакты з мясцовымі ўладамі АК.

Потым мы перабраліся ў раён Васілішак, дзе затрымаліся трохі даўжэй. Шмат таварышаў было да гэтага ў полі ўжо з год - гэта не былі жарты ані звычайны турызм. Хлопцы былі парадкам змучаныя. Належала адпачыць, пачысціць зброю, прывесці ў парадак абмундзіраванне, арганізаваць нейкі абутак, цёплую вопратку. Аддзел наш ужо тады налічваў каля ста чалавек і вымагаў рэарганізацыі. Быў падзелены нанава на плутоны і аддзяленні. Нашае кіраўніцтва завязвала стасункі з мясцовай канспірацыяй і кантакты, вызначаныя кіраўніцтвам Акругі АК. Трэба таксама было ўстанавіць умовы супрацоўніцтва і паразумення з мясцовымі, найчасцей толькі цяпер узнікаўшымі партызанскімі аддзеламі.

На пачатку лістапада мы атрымалі загад перайсці на другі бок Нёмана ў ваколіцы Нагародавіч. Заданнем нашым было вывучэнне тэрыторыі і пераняцце паўставаўшай там "безгаспадарчай" роты мясцовай партызанкі. Мясцовасць, на якую нас пасылалі, ляжала паблізу Ліпічанскай пушчы, дзе дзейнічала савецкая партызанка. Справа ішла пра завязванне з ёй нейкіх больш блізкіх кантактаў. Да таго часу мы іх не мелі. Наогул, у той час мы не мелі магчымасці паразумецца з імі. Стасункі ўзнікалі ад выпадку да выпадку...

Мы пакінулі раён Васілішак, перайшлі цераз рэчку Лебяду і накіраваліся да Пескаўцаў, каб перайсці Нёман. Па прыкладу мясцовых партызанаў мы пачалі рухацца днём, ночы спакойна праводзячы на кватэрах.

Набліжаючыся ўжо да ракі мы наткнуліся на нейкі патруль, які не ведаў паролю. Адбылася кароткая перастрэлка. Тыя адступілі, мы пайшлі далей.

Падчас той нядоўгай, зрэшты, перастрэлкі мы з Ганкай ляжалі за прыдадзеным нам камандаваннем Акругі доктарам "Крэчатавым" (у тых мясцінах часта былі расейскія псеўданімы). Мы неяк спецыяльна не ўнікалі, што кулькі свішчуць над галовамі, а калі ўбачылі, што ў доктара ногі скачуць, як у ліхаманцы, пачалі смяяцца. Мабыць тая несвоечасовая весялосць добра яго да нас не настроіла, але і ён у нашых вачах не здабыў аўтарытэту. Таму, калі неўзабаве потым пачаў мне аддаваць загады (меў, зрэшты, для таго, прызнаемся шчыра, поўнае права, будучы лекарам), спаткаўся з гвалтоўным супрацівам. Прыгода вынікла вельмі хутка. Калі ён зажадаў, каб я аддала свой "паратус" (шпрыц у металічным чахле, напоўнены спіртам, купleны за абручальны пярсцёнак маёй мамы) я адчула сябе як жаўнер, у якога хочуць адабраць карабін. Сказала, што не дам, што як ішоў у аддзел, то павінен быў у Вільні пастарацца пра прылады працы, і што я не маю намеру выконваць функцыі яго ганца.

Справу неяк залагодзіў камендант, функцыі нашыя былі раздзелены. "Крэчатаў" атрымаў прыпіску да штаба, я засталася пры роце. У той час мы былі ўжо перайменаваны з аддзела ў складзе VIII УКБ у 1 роту III батальёна 77 пп (пяхотнага палка) АК.

Перад пераходам цераз Нёман мы затрымаліся ў самотна стаяўшым на беразе ракі фальварку. Вялікі дом быў цалкам вымерлы. Абшырныя пакоі свіціліся пустатой. У адным з іх надта сюррэалістычна выглядаўшае ў тым атачэнні велізарнае чорнае фартэпіяна. "Раман" пачаў на ім брэнкаць, у каміне распалілі агонь...

Я прыступіла, як звычайна да правядзення перавязак. Хлопцы, хоць ужо неяк так аджыўшыя і адпачыўшыя, не пазбыліся ані ўшывасці, ані скулаў. Пры працэдурах надалей адбываліся дантаўскія сцэны. Падзявалі мяне, прыдурваліся, клялі на перагонкі, хто даўжэй патрапіць.

Калі агледзела ўжо ўсіх пацыентаў, мусіла заняцца сабой. Скалечаны палец, заражаны падчас працэдур, нарываў. Трэба было рэзаць. Схавалася ў нейкі пусты пакой у надзеі, што не будуць мне перашкаджаць, але гэта была сонная мара. Паласнула скальпелем, слёзы цурком плылі мне з вачэй, а вакол мяне стаяла група "любімых хлопцаў", якія паўтаралі: "А, бачыш, як гэта баліць? Няхай і табе пабаліць! Добра табе так..."

Скончыла, забінтавала палец, а калі таварышы не перасталі мяне даймаць, не стрымалася - адказала на іхнія прычэпкі "лацінскай" мовай. Сама была здзіўленая наборам выразаў, якімі сыпнула. Яны былі таксама захоплены знянацку. Да канца дня мела спакой.

Той перыяд быў для мяне ў агуле паскудны. Да таго часу добрыя стасункі з хлопцамі змяніліся, увайшлі ў фазу безперапыннай вайны. Яны ніколі не былі анёламі, часта залівалі мне сала за шкуру, але характар тых дакучлівасцяў быў таварыскі. Я агрызалася, і неяк ішло. У грунце рэчаў былі да мяне добрымі. Цяпер усяліўся ў іх нейкі д'ябал. Хвілямі падавалася мне, што найвялікшым злом ёсць у іх разуменні само маё існаванне. Фізічна адчувала сябе фатальна, была жудасна змучаная. Таму з цяжкасцю выносіла настроі таварышаў.

Шостага лістапада мы перайшлі Нёман у Пескаўцах, адзінаццатага дабраліся да Нагародавічаў, дзе з нагоды свята 11 лістапада мясцовы ксёндз адправіў святую імшу. Стаялі там яшчэ два дні. Мясцовасць была апустошаная, людзі пахаваліся ў ваколічных лясах або ў склепах. Цяпер, калі пераканаліся, што мы не маем у адносінах да іх злых намераў, выходзілі са схованак. А калі ўжо выйшлі, віталі нас вельмі сардэчна і прымалі, чым толькі маглі.

Былі гэта пераважна беларусы. Тут мы абсалютна не адчувалі з іх боку ніякай варожасці, а радасць, што нарэшце бачаць польскае войска, што было раўна-

значна для іх з Арміяй Краёвай (назвы той нават не ведалі), бо іншых польскіх партызанскіх фармацый на той тэрыторыі не было. Прасілі, каб мы не адходзілі, бо нарэшце адчуваюць сябе бяспечна. Баяліся "чырвонай" партызанкі.

З Нагародавічаў мы памаршыравалі на поўдзень, але да Здзецела (Дзятлава), не гледзячы на тое, што ён меў быць мэтай нашай вандроўкі, не дабраліся. Па дарозе высветлілася, што рота, якую мелі прыняць, ёсць цяпер у поўным россыпе, а гатова будзе набесну (сапраўды, выйшлі ў поле ў сакавіку наступнага года). Мы не мелі больш чаго сядзець у той мясцовасці, асабліва, што наваколле не было прыемным. Збяднелыя, застрашаныя людзі і апусцелыя вёскі рабілі агульнае вельмі прыкрае ўражанне. Таму мы з прыемнасцю перапраўіліся назад на правы бераг Нёмана і памаршыравалі ў раён Жалудка. Кватаравалі мы ў Баярах, Папераўцах, Чэхаўшчыне, Малышах...

Паволі мы асвойваліся з новымі ўмовамі, як жа адрознымі ад тых у Беластоцкім павеце, дзе што крок можна было наткнуцца на нямецкі патруль. Скончыліся бівакі ў лесе - мы затрымліваліся ў вёсках, па прыкладу мясцовых партызан займаючы столькі кватэр, колькі нам было патрэбна. Яды было па бораду. Перасталі насіць у кішэнях хлеб ці бульбу. Аб'ядаліся аладкамі, печанымі на трыногах у хлебнай печы. Аладкі былі моцна акрашаныя салам або смятанай. Нарэшце споўніліся мары з галодных дзён на Чырвоных балотах - на стол паступіла птушка ўсякага роду, якая заспакоіла найвялікшыя апетыты.

Падзеленыя на плутоны і аддзяленні мы займалі найлепшыя хаты, кожнае аддзяленне вяло цяпер уласную кухню, толькі забеспячэннем займаўся камандзір роты. Шчыравалі ў падрыхтоўцы прысмакаў "Эрык" і "Раман".

Я са здзіўленнем аглядала хаты, у якіх кватаравалі. Мураваных не было амаль зусім, да рэдкіх належалі хаты з падлогай. Гліняны ток, вялікая печ - "печка" - утваралі цэнтр жыцця дома, пабуджалі да смутных рэфлексій. Там спала ўся сям'я, там зімой цэлы дзень сядзелі дзеці і старыя. Ад мужыцкіх адрозніваліся трохі вёскі шляхецкія - гаспадары мелі амбіцыі, каб іхнія домікі выглядалі, як малыя дворыкі, яны былі лепш дагледжаныя, але такія ж бедныя.

Усюды віднеліся тут сляды вайны. Газавыя лямпы сталі бяздзейнымі - Нават свечак не было - для асвятлення служылі лучыны. Толькі яды не бракавала. Мужыкі шчаслівыя, што не пастаўляюць дзяржаўных паставак - немцы на тую тэрыторыю не пранікалі вельмі часта, таму не маглі забіраць - не шкадавалі харчоў, за якія, зрэшты, партызаны плацілі жывымі наяўнымі грашыма.

Я была прыпісана да ЦКМ-аў (кулямётчыкаў), быў гэта, мабыць, кульмінацыйны момант маёй "вайны" з таварышамі. Аднаго вечара ў Моцевічах я не вытрымала атмасферы, бомба ўзарвалася, дала па мордзе аднаму з хлопцаў, другога пакрыла "па-латыні", забрала свае рэчы і ўцякла з кватэры. Раз'юшаная, пакрыўджаная стаяла непрыкаяная на вуліцы, якая ішла цераз вёску, не ведаючы што далей рабіць. У начальніка штаба яшчэ гарэла святло.

Увалілася туды. Начальнік штаба і "Раман" сядзелі за чаркамі бімбру (самагонкі). Запрасілі і мяне, я ўжо навучаная папярэднім досведам, не вельмі верыла іхняй зычлівасці, але была ім удзячная за гасціннасць. Пасля шклянкі самагонкі свет неяк праясніўся... Вырашыла, што назаўтра буду прасіцца ў "Шчэнснага" ў іншае падраздзяленне.

Рана была выклікана да каменданта. Меркавала, што гэта мае нейкую сувязь з учарашняй прыгодай у ЦКМ-ах. А можа справа ў той самагонцы? Ішла туды неахвотна. Акрамя "Янкі", якая парадкавала штабную кухню, амаль што нікога там лепей не ведала. Штаб быў уладай, а афіцэры, якія атачалі каменданта, былі такія важныя, што кожны кантакт з імі пагружаў мяне ў комплекс ніжэйшасці. Зрэшты, у той перыяд я наогул была ўнутрана натапыраная і расчараваная. Найахвотней бы ні з кім не размаўляла, а ўжо асабліва з камендантам. Бо чаго ўласна ён мог хацець?

У такім настроі ўвайшла на кухню, дзе "Янка" нешта рыхтавала. Пры стале сядзеў "Вронскі" - нешта мне там гаварыў, але "Янка" яго перапыніла:

- Камендант чакае паню, ён у пакоі.

Села на паказанае крэсла і чакала, што скажа. Раздражнёная і расчараваная ў жыцці і людзях не вельмі была ў стане сабрацца з думкамі, з цяжкасцю да маёй свядомасці даходзілі сказаныя словы. Камендант гаварыў, пытаўся. Гэта была сапраўды першая нашая размова, што праўда, некалькі разоў пасля больш інтэнсіўных маршаў выклікалі мяне да каменданта, каб перавязала яму натомленую ногу (вынік знаходжання ў Бярозе, меў пашкоджаную костку), але на той час кантакт наш абмяжоўвася неабходнымі лекарскімі справамі.

Я не належала да людзей надта смелых ці гаваркіх. Цяпер я атрымала ўражанне, што хоць камендант не гаворыць наўпрост пра мае клопаты, стараецца да-



***На кватэры: "Шчэнсны" і "Баяр"***

даць мне адвагі, хоча мне дапамагчы. Была захоплена той нечаканай зычлівасцю. Праз момант хацела ўжо выкінуць з сябе ўсе смутныя думкі, хацела паскардзіцца на тое, як мне цяпер кепска і цяжка, мабыць нешта пачала на тую тэму гаварыць, але нясмеласць узяла верх - замоўкла. Не патрафіла, баялася, што буду высмеяна. Не сумела таксама выціснуць просьбу пра вяртанне ў Варшаву, на якое была ў той час амаль вырашыла.

Збытаныя думкі кіпелі мне ў беднай лабаціне, але я не магла выказаць нічога талковага. Не гледзячы на гэта, вярнулася на кватэру з трохі прыўзнятым настроем.

Атмасфера бяздзеяння, перасокк з папярэдняга такога суровага жыцця ва ўмовы ў нашым разуменні амаль цяплічныя, расшэйдалі трохі дысцыпліну ў аддзеле. Было шмат яды, яшчэ больш самагонкі. У кожнай вёсцы гналі бімбар. Хлопцы пачалі "някепска" сабе выпіваць. Я складала кампанію ў тым "бімбраванні" без спецыяльнага супрацiву, хоць самагонка мне не падабалася. Але хваля п'янства ў аддзеле скончылася вельмі хутка.

Мы стаялі тады, мабыць, у Моцевічах. Якраз заселі з начальнікам штаба і "Раманам" да перакускі і бімбру. Размаўлялі - як гаварыў Раман - "пра старых палякаў". Быў вечар. Частка таварышаў ужо спала ў суседнім пакоі, калі ў кухню, у якой мы сядзелі ўвайшоў "Шчэнсны". Гулянка была перапынена, мае кампаньёны расстаўлены па кутках, я атрымала загад перайсці ў аддзяленне пры камандзіры роты. "Шчэнсны" абвясціў бой алкаголю. Распачаліся суровыя пакаранні за п'янства. Карны загад і стойка з цаглінамі ў ранцы ў месцах найбольш людных складалі адзін з выхаваўчых метадаў.

Пад канец лістапада мы кватаравалі ў Моцевічах. Была можа гадзіна дзесятая, можа трохі пазней, я ішла якраз вуліцай, якая вяла цераз вёску, калі з дарогі, што вяла ў кірунку Нёмана, выскачыла галопам пару вершнікаў - жаўнераў I батальёна, адстрэльваўшыхся ад людзей, якія ехалі на тачанцы. Сярод шуму выстралаў вершнікі крычалі: "Чырвоныя ідуць да Нёмана!"

У вёсцы зрабіўся рух. Трывога!

У першы раз падчас нашага побыту тут мелі мы сутыкнуцца з "чырвонай партызанкай"... Аднак мы не прынялі з імі бою. Адстрэльваючыся, хутка адступаем, пакідаючы ідучым доступ да берагоў Нёмана. Быў гэта вялікі аддзел "чырвонай" партызанкі, які - як потым аказалася - прыціснуты моцна немцамі, адступаў з-пад Ражанкі і накіроўваўся да броду, які знаходзіўся ў ваколіцы Моцевіч, якраз у месцы нашага пастою. Мы нечспадзявана аказаліся на яго дарозе.

Пад густым абстрэлам мы беглі цераз поле ў бок віднога ўдалечыні лесу. Хлопцы з ЦКМ-амі і РКМамі забяспечваюць наш адыход. Адступаем. Моцна абстрэльваныя - не застаёмся віннымі - востра адказваем. "Крапідла" грае на сваім "Сокале", акампануе яму "Козіц" і іншыя з РКМ-аў і аўтаматаў. Кулькі бзыкаюць... У пэўны момант бачу, як бегшая полем "Янка" падае. Думаю, што яна паранена, падбягаю да яе - круціць галавой.

- Змучылася ад бегу, - гаворыць - зараз адпачну і пайду далей. Нічога са мной не сталася.

Наўючаная манаткамі "Янка" падымаецца і, трымаючы ў руках ружанец, не кланяючыся кулям, якія сыпаліся вакол, як бы хтосьці сеяў гарох, зноў ідзе хуткім крокам.

Бягу далей. Страляніна няслабая, а камендант ідзе сабе такім крокам, як бы ішоў на шпацыр. Ці думае, што кулі яго не дастануць? А параненыя ўжо ёсць. "Вронскі" яшчэ ў вёсцы атрымаў у руку. На дарозе пад лесам куля дагнала Сташка "Паланецкага" - паранены ў галаву. Перавязваюць яго два лекары, якія з намі - "Крэчатаў" і "Дэман" (называны жартаўліва "Ямнікам")...

Яшчэ доўга даходзіў да нас водгук страляніны - цягнуўшыхся да броду "чырвоных" заатакаваў з флангу "Рагнер". Ён меў потым да нас прэтэнзіі, што мы замест таго, каб адрэзаць ішоўшым доступ да ракі, адступілі...

Пасля нашага адходу з-пад Моцевіч у аддзеле распачаліся ажыўленыя размовы - не маглі зразумець, што мы заатакаваныя не адказалі контратакай, а адступілі.

Падобна, што рэха тых размоў дайшло да каменданта, бо неўзабаве ў час "гутаркі" (так называліся яго размовы з намі) крануўся ён справы нашых стасункаў з "чырвонай" партызанкай і, наогул, палітычнай сітуацыі. Гаварыў, што савецкія войскі ідуць гвалтоўна наперад, на захад. Праз незадоўга акажуцца на польскіх тэрыторыях, што мы сёння саюзнікі па антыгітлераўскай кааліцыі, і ў сувязі з гэтым належыць імкнуцца да завязвання з імі прыязных стасункаў. Гэта неабходнасць, якая вынікае з развіцця палітычнай сітуацыі, і таму ёсць памылкай атакаваць іх. Мы слухалі тое, што ён гаварыў, але не ўсе былі перакананыя... Асабліва хлопцы з Забужжа, якія памяталі досвед з 1938 і 1940 гадоў, мелі вельмі шмат недаверу.

**XII**

У першыя дні снежня "Шчэнсны" захварэў на запаленне лёгкіх. Меў высокую тэмпературу, і трэба было яго адвезці на "маліну". Камендант даў мне загад адтранспартаваць яго пад Лебяду, на "маліну", дзе ляжыўся ўжо "Паланецкі". Я мела там застацца да таго часу, пакуль у "Шчэнснага" не спадзе гарачка. Мы размясціліся ў абшырным, асобна стаяўшым доме, стаяўшым тут жа, над Лебядой. За домам цягнулася поле. З левага боку на адлегласці можа кіламетра - паўтара, быў лес, у якім знайходзіліся Бурносы - хутар з некалькіх дамоў.

Аддзел круціўся па суседніх вёсках. Не было вечару, каб нехта з хлопцаў нас не адведаў. Прыходзілі, распавядалі пра ўсё, што дзе робіцца, спявалі і вярталіся на месца пастою. Разам з "падлясякамі" з'яўляліся таксама новыя таварышы, якіх мы прыцягнулі ўжо ў тых краях. Гэтыя мясцовыя, і перш за ўсё "Антось", прыгожа спявалі расейскія песенькі - мы слухалі іх з прыемнасцю...

9 снежня як звычайна адведалі нас некалькі

хлопцаў - рота кватаравала ў недалёкіх Бурносах. Паспявалі, пагаварылі і пайшлі. "Шчэнсны" пачуваўся ўжо значна лепей. Пасля расстання з гасцямі мы пакаліся спаць. Аднак нам не дадзена было пераспаць той ночы.

Каля паўночы разбудзілі нас выстралы. Сілай навыку на працягу пару хвілін мы былі апранутыя і гатовыя да выйсця. Выстралы даходзілі з боку Бурносаў. Пылалі ракеты, ляцелі асвятляльныя кулі. Страляніна набірала сілу. Над заснежаным лесам (у той вечар выпаў першы снег) чорнае неба рассвятлілася, як калядная ёлка. Нашы б'юцца, гэта не выклікала сумнення, але з кім? Хто іх заспеў у тых спакойных мясцінах, у якія немцы не заглядвалі?

У пэўную хвілю на белым снезе мы ўбачылі чорныя сілуэты бегшых людзей. Праз колькі секунд пазналі іх - гэта нашыя хлопцы: Марак "Жэгота", "Эрык", Адам, Багдан і яшчэ пару. Затрымаліся на пэўнай адлегласці пры гумне, да нас прыбег Марак і далажыў:

- Немцы заспелі нас у хатах, падышлі ў белых плашчах пад самыя пасты. "Жбік", які стаяў на варце, калі іх заўважыў, здалеў адно ўбегчы ў хату і крыкнуць: "Немцы!". Тыя ўлазілі ўжо на падворак. Нашыя былі параспранатыя. Кожны хапаў, што мог і скакаў праз акно. Стралялі ў нас, як у качак. Аддзел адступаў. Немцы пайшлі за імі. Праўдападобна, што ў хатах пазаставаліся параненыя. Камендант таксама, мабыць, атрымаў. Прыбеглі вас папярэдзіць, а цяпер трэба ісці нашым на паратунак.

Перш яшчэ, чым Марак скончыў апавядаць, мы выйшлі на двор перад домам. Тады далучыліся астатнія хлопцы. Да Бурносаў было каля паўтара кіламетраў. Мы хутка перайшлі поле і заглыбіліся ў рэдкі лес, перад палянай, на якой стаялі тры хаты, "Шчэнсны" раскідаў нас у лацуг. У сядзібах панавала цішыня. Падавалася, што там няма жывой душы. Уздоўж плоту мы прыбліжаемся да першай сядзібы. Нехта шэпча:

- Няма нікога...

Як бы ў адказ раздалася адна чарга, другая, з-за вугла рэжа аўтамат. Адам адказвае чаргой са свайго. Аўтамат замаўкае. Потым, аднак, адзываецца другі. На паляне робіцца светла, як удзень. "Шчэнсны" камандуе:

- Адступаць у лес.

Багдан паранены ў руку. Перавязваю яго ў святле ракет. Агонь то прыціхае, то ўзмацняецца. Разбягаемся ў двух кірунках: адны проста перад сабой у лес, іншыя - і я з імі - убок.

Зусім відно. Палымяныя ракеты падаюць на зямлю, трэба іх пераскакваць. Страляніна аглушальная. У пэўную хвілю куляюся казлянём і падаю ў вялікую яму ад бульбы, вырываюся, выграбаюся з выкапу. Бягу далей. Нарэшце лес. Нас тут чацвёра. Марак камандуе. "Шчэнсны" пабег у іншым кірунку, за ім астатнія. Яшчэ чуваць залпы, яшчэ ракеты асвятляюць лес. Ідзём наперад. Марак цвердзіць, што тады за адступаўшым аддзелам пайшла нямецкая пагоня. Трэба зважаць, каб на іх не наткнуцца, пятляем досыць доўга. Мы страшна змучаныя, гняце нас думка, што з астатнімі, дзе іх шукаць? Нарэшце перад намі нейкая вёска - Бялоўцы.

- Стой! Хто ідзе?

Дык гэта ж нашы... Хлопцы пытаюцца, дзе "Шчэнсны"? Дзе астатнія - Багдан, Адам? Не ведаю. Сядаю на лаву. Здымаю шкураны пас, на якім мела прымацаваны пас з бінтамі. Няма яго... Нехта кажа:

- Падстрэлілі цябе...

Сягаю у кішэню - дзіравая. Талісманчык - малы дзяціны негрыцёнак - разбіты ўдрызг.

- Мела шчасце, што гэта лялька атрымала, а не ты, - сказаў нехта.

Хлопцы аглядаюць мой малы "вальтар". Страляла? Прысаромленая прызнаюся - так.

Патруль выбіраецца на пошукі. Дзень доўжыцца, ніякіх вестак. Вечарам ёсць - нарэшце, не ўсе вярнуліся. Багдан забіты, дагнала яго куля, на гэты раз смяротэльная. Адам забіты. Сваімі выстраламі супакоіў нямецкага кулямётчыка, на жаль у самога патрапіў іншы. Бачачы, што робіцца, "Шчэнсны" адступіў у лес, але не адходзіў далёка. Чакаў, што зробяць немцы. Яны збіралі сваіх параненых і забітых. Можна дапусціць, што яны думалі, што наша групка ёсць дазор нейкага большага аддзела, таму спешна адступілі. Толькі дзякуючы гэтаму ацалелі нашыя параненыя. На полі бою засталіся Багдан і Адам. У кустах знайшлі вельмі цяжка параненага (ў ногу) "Цыдзіка", якому ўдалося выкавыляць з РКМ-мам з поля бачання непрыяцеля і схавацца ў кустах. Там самлеў. Казік "Грабя", не гледзячы на 12 кулявых раненняў, перайшоў убрад Лебяду і схаваўся. Паранены былі камендант і "Самбор". "Крэчатаў" страціў вока. Каля хаты, дзе стаяў кулямёт, ляжала сціртa гільз. У яме ад бульбы знайшлі мой пас з бінтамі. Хлопцы падумалі, што тады, калі я кульнулася, была забітая, шукалі цяпер маё цела.

Смутны гэта быў дзень. Два забітыя, пяць параненых - на адносна невялікі аддзел гэта залішне шмат. Немцы, не гледзячы на тое, што былі бокам нападаўшым, таксама панеслі вялікія страты, падобна, значна большыя за нашыя - была мова пра дзесяць параненых і забітых. Нашыя мясцовыя прыяцелі сцвярджалі, што такога роду нямецкая акцыя была тут нечым неспатыканым. Гаварылі, што нехта мусіў іх на нас наслаць. Ці была гэта праўда? Цяжка сказаць...

Камендант выехаў у Варшаву, астатнія параненыя лячыліся на "малінах". Пры найцяжэй падстрэленым "Цыдзіку" засталася "Янка". Усе былі пад добрай лекарскай апекай. Мая дапамога не была ім патрэбная, таму адведвала я іх даволі рэдка.

Распачаўся цяпер перыяд досыць нудны і манатонны. Прыбывалі жаўнеры. З'яўляліся варшавякі, якім удалося ўцячы з работ, далучаліся мясцовыя. Пачалася вучоба. "Ляж, устань, паварот налева, паварот направа". Вось такая звычайная жаўнерская муштра. Змагаліся з вошамі, якія не гледзячы на лазні, не гледзячы на пране і прасаванне вопраткі і бялізны горача нас палюбілі і зусім не мелі намеру пакідаць. Што ж, кватаравалі мы ў вёсках, спалі пераважна ў бруднай пасцелі. Было холадна, таму накрываліся мясцовымі



*Рота на занятках*

вашай санітарцы. Яна такая абадраная". У роце было яшчэ шмат гаворак на тэму таго, што "з бабамі так заўсёды, забіраюць добрыя рэчы, а можна б з яго зрабіць выдатны фрэнч...", але плашч застаўся ўсё ж пры мне.

Зіма ў тых краях была ўжо ва ўсёй паўнаце. Шмат снегу і прыгожая санная дарога. "Рагнер" націскаў на нас, каб мы разам пайшлі на Дакудава, дзе дзейнічала савецкая партызанка, нам аднак гэта не вельмі падходзіла, мы не залазілі ў тыя краі, аддаючы перавагу хутчэй якой-небудзь "прывычнай" акцыі супраць немцаў. Але пры тым "Шчэнсны" хацеў лепей вывучыць мясцовасць.

Набліжаліся Каляды, усе чакалі тых святаў з нецярпеннем. Хлопцы цешыліся, як малыя дзеці ёлкай і куцёй. Святы мы мелі правесці ў наваколлі Няцечы. На куццю пайшлі ў Клюкавічы. Быў снег і мароз. Майстры кухні асобных плутонаў мелі поўныя рукі работы. Пяклі печыва, мяса, птушку. Рыхтавалі не слабыя святы.

У мясцовых краўцоў у навакольных вёсках панаваў тлум. Усе хацелі быць элегантамі. Мы кватаравалі ў вёсках і засценках, а там усюды было шмат дзяўчат. "Варшавякі" хацелі паказаць шык. Трэба прызнаць аб'ектыўна, што ім гэта ў прынцыпе ўдавалася.

Куцця адбывалася ў найбольшым дворыку. Настрой быў урачысты. Прыехаў дыслакаваны паблізу ротмістр "Лех" са сваім штабам. Пасля куцці пайшлі ў Няцеч на набажэнства. Пад ботамі скрыпеў снег, іскрылася зоркамі неба, коні весела фыркалі. Малы

кажухамі, якія таксама не грашылі чысцінёй.

Не гледзячы на лепшае харчаванне, скулы не давалі хлопцам спакою, да гэтага далучыўся сверб. Я мела шмат клопатаў з тымі іхнімі балячкамі. Хоць я атрымала ўжо з мясцовай секцыі АК трохі лекаў, аднак усяго было замала. На жаль, я не мела лекаў, якія б з месца і радыкальна выздараўлялі. Я выслухвала пастаянныя наракання на тую недалэнгу санітарку, якая патрапляе рабіць боль пры ўколах і перавязках, замест таго, каб цудоўным чынам вылечыць.

Санітарка давала сульфанаміды. Спачатку, пакуль не прызвычаіліся да каляровых рэакцый, якія выклікалі таблеткі прантасілу ці таксама нейкага спецыфіку, злучанага з метыленблаў, узнікалі розныя гісторыі. Лечаныя пачыналі сікаць калярова. Гэта ўжо пераходзіла межы іхняга цярпення. Упадалі ў паніку. Санітарка нас патруціла! Шмат трэба было часу і цярпення, пакуль вытлумачыла, што так павінна быць. Потым ужо адзін другога папярэджваў...

Мы вандравалі па ўсёй тэрыторыі, вызначанай нам камандаваннем акругі. Выпаў снег. Для перамяшчэння прымянялі цяпер сані. "Шчэнсны" ад часу хваробы ездзіў конна. Паволі паўставала таксама пры роце конная выведка. Мы браліся ў пер'е. Хлопцы камбінавалі мундзіры, кажушкі.

На Каляды і я атрымала новыя боты, праўда на пару нумароў завялікія - трэба было ў іх напхаць шмат саломы, каб не лялі па ступнях, але нарэшце было цёпла і суха ў нозі. Атрымала таксама вайсковы плашч. Ахвярадаўцам быў паручнік "Міхал" (з аддзела ротмістра "Леха"), які сказаў, што "такі малы плашч будзе пасаваць той



*Аддзяленне "Віхра"*



*Марш у Няцеч у снежні 1943 г.*



*Па дарозе ў Няцеч: “Янка”, “Паланецкі”, “Вронскі”, “Самбар”*

нераў прыступала да стала Божага. Я сядзела скурчыўшыся ў куце лаўкі, думкамі адбягала далёка ў “край гадоў дзяцiных”. Было мне вельмі, вельмі журботна. Можа першы раз у жыцці падумала пра тое, што перажываю. Што будзе далей? Тыя думкі былі аднак хутка стлумлены. Гучна заспявалі “Сярод начной цішы” - і вось мы вярнуліся да цвёрдай партызанскай рэчаіснасці... На дварэ мароз, снег скрыпіць пад нагамі. Адны выходзяць з касцёла сканцэнтраваныя, яшчэ далёкія думкамі, іншыя - як бы хацелі скінуць з сябе непакоіўшыя іх узрушэнні - голасна смеючыся і ўспамінаючы ўзаемна.

У Беліцы пад Няцеччу кватараваў у той час штаб Наваградскай акругі з палкоўнікам “Барсуком” на чале. У кватэры кіраўніцтва таксама гучна адзначалі куццю. Падчас набажэнства з’явіўся ў касцёле “Ваўкавыскі” з Варшавы і “Градняк”, які прыехаў з Гародні. Пасля куцці ў “Барсука” абодва дабраліся да Няцечы. “Градняк” так газануў, што нельга было яго потым разбудзіць у касцёле.

“Ваўкавыскі” прывёз для “Шчэнснага” і “Кнышыняка” паведамленне аб узнагароджанні Крыжам Валечных, для мяне ліст ад Тоська і серыю жартаў на тэму яго рапартоў...

“Градняк” прывёз мне выдатны падарунак: густы, металічны грэбень для валасоў.

- Жалезны, каб быў моцны, - сказаў.

Падарунак сапраўды быў узрушальны і вельмі своечасовы.

Святы мінулі хутка. Асобныя плутоны па чарзе арганізоўвалі ў сябе прыёмы пры ёлцы, спаборнічаючы адзін з другім у харчовых прысмаках.

Няцецкі касцёлік напоўніўся па краі. У першы раз пасля выхаду ў поле мы афіцыйна як аддзел аказаліся ў касцёле. Гэта было вялікае перажыванне. Гукнулі пад страпілы драўлянага касцёліка поўнымі грудзямі спяваныя калядкі. Хлопцы як бы выказвалі ў тых калядках усю сваю журбу па доме, сям’і - многія з іх ужо з год перамервалі лясныя прасекі і гразкія палявыя дарогі. Хто ж быў бы ў стане апісаць, што адчувалі і што хавалася ў найпатаемнейшых закаморках душы спяваўшых жаўнераў? Былі ўзрушаны, перажывалі тое набажэнства, а словы ксендза, які гаварыў пра Нованароджанага, які прынёс свету любоў, пранікалі глыбей, чым здавалася на выгляд, да зацвярдзелых у баях і працы партызанскіх сэрцаў.

Не памятаю, як шмат з жарсна маліўшыхся жаў-

Новы Год мы правялі ў Шаўдзінях над Нёманам. Была гэта прыгожая, вялікая, чыстая вёска, размешчаная на высокім беразе ракі. На другім баку святкавалі “чырвоныя”. Нёман быў напалову замёрзлы. Мы бачылі адны адных вельмі добра, пасылаючы наўзаем “стралецкія віншаванні”. Перастрэлка з берага на бераг не перапынялася нават ноччу, бо брацця трохі падпіла. Кулі бзыкалі, але на шчасце нікому

крыўды не рабілі. З абодвух берагоў разлягаліся песні. Мы спявалі пра Наталію і выхад "Удару", пра ноч, якую шкада змарнаваць, яны пасылалі нам сумныя песні пра партызан, якія жывуць у лясах...

З Шаўдзінёў мы паехалі саньмі ў Орлю, суседнюю наднёманскую вёску. Той выпад, калі б не баявое забеспячэнне (да канца нашага побыту ў той мясцовасці "Шчэнсны" не адмаўляўся ад забеспячэння), можна было б трактаваць, як прыгожае катанне на санках. Потым мы ўжо стаялі наводдаль ад Нёмана. Мы змянялі месцы кожныя два-тры дні з двух прычын: па-першае, каб аддзел быў у пастаянным руху і не заседзеўся, па-другое - з поглядаў правіянтавых.

Пад час аднаго пастою ў начы трывога. Дэзерціравала цэлая пачка, каля 15 чалавек, якія разам з "Мэнам" далучыліся да нас пад Гародняй. Перайшлі ў роту, якой камандаваў капітан "Зых", даўні іхні камандзір. Былі гэта жаўнеры пераважна ўжо пасля рэгулярнай вайсковай перападрыхтоўкі. "Зых", афіцэр з гарадзенскага палка пяхоты, напэўна быў ім бліжэйшы, чым "варшавякі". Прычын таму можна было знайсці шмат. Фактам ёсць аднак, што форма адходу была далёкая ад ганаровай. Аддзел страціў зброю, з якой адышлі (потым зброю, якую ад нас атрымалі, вярнулі), і зменшылася яго сіла агню. Акрамя таго, што тут гаварыць, рота страціла дасведчаных жаўнераў. Горыч падману, які ўчынілі, стала яшчэ большай, калі потым даведаліся, што зрабілі гэта з ціхай згоды нашага названага прыяцеля ротмістра "Леха". Наступная горкая пігулка пасля Бурносаў. Прычын непрыязні "Леха" да нас можа было больш, пра адну ведалі ўсе - быў гэта перыяд флірту "Рагнера" з немцамі, свайго роду перамір'е. Мы з такой пазіцыяй не згаджаліся...

Недабор людзей быў хутка папоўнены. Ужо ў час святаў Божага нараджэння прыехалі з "Ваўкавыскім" два афіцэры БІП-у: паручнік "Людвік" і падхарунжы "Барута". Прыпісаныя да аддзела часова, не хацелі з намі расставацца. "Людвік" застаўся на пастаянна. "Барута", якога звалі таксама "Рудым Выйцам", атрымаў загад перайсці ў I батальён. Прыпісалі да нас таксама некалькі падхарунжых, прыбылых з Варшавы, у т.л. "Зарэмбу", прыйшло некалькі "варшавякаў", якія ўцяклі з работ, далучаліся мясцовыя. Штат павялічыўся.

Мы мелі шмат цяжкасцяў з боепрыпасамі. Ад акцыі на Саенка, дзе іх трохі здабылі, і ад побыту ў Аўгустоўскай пушчы, дзе ад Гарасімовіча атрымалі вялікі запас боепрыпасаў (зрэшты, не заўсёды надзейных, таму што захоўваліся ў зямлі без ніякай засцярогі), не здабылі нічога больш, а тым не менш усцяж іх трацілі. Мелі па некалькі штук набоек да карабіна, да кулямёта таксама не шмат, дастаткова было толькі гранат, але гэта справы не развязвала. Хлопцы аглядалі сваіх "Марысь", "Кась", "Ясь" са спачувальнымі мінамі; калі набліжаўся "Шчэнсны", яны дэманстратыўна заглядвалі ў пустыя рулі. Жаўнеры нудзіліся, наракалі на спакой...

Мы вандравалі ад вёскі да вёскі. Я неспадзявана для сябе мела шмат працы, не звязанай з партызанкай. "Аддзел з дзяўчынай", як называлася наша рота, карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод люднасці. Дзяўчына, якую вельмі часта прымалі за хлопца і толькі пазней гаварылі: "Паглядзі, гэта дзяўчына...", - лячыла, давала парады, нават часам давала лякарствы. Потым, як толькі мы з'яўляліся ў вёсцы, у якой нас ужо ведалі, адразу на кватэру, дзе я жыла, сунуліся бабы з дзецьмі. Прыносілі свае болі і хваробы і з надзеяй чакалі дапамогі. Пытанні, якія мне задавалі, часта выходзілі за межы маіх ведаў. Не раз была не ў стане нават добра іх зразумець. Аднак, як магла, дапамагала. Таму часта на кватэры падымаўся такі піск і гвалт, як на рынку.

Нарэшце неяк "Шчэнсны" разнерваваўся і выгнаў мяне ў асобную кватэру з усёй "практыкай", якая была ўжо вельі шырокая. Заняткі тыя не дастаўлялі мне прыкрасці, мяртвілі мяне аднак меншаўшыя запасы лекаў. На шчасце ў асобных вёсках не стаялі доўга. У супрацiўным выпадку не толькі было б банкруцтва з лекамі, але змушана была б выконваць яшчэ адну функцыю - знахара. А была б кепскім знахарам, таму што пра многа хвароб наогул не мела паняцця, а мусіла нешта парадзіць. Адсыланне ў горад да лекара ці ў шпіталь не шмат давала. Аднолькава паспяхова магла б прапанаваць маім пацыентам падарожжа на месяц - вынік быў бы той самы. Жанчыны слухалі , уздыхалі, гаварылі: "Добра, добра", - і прасілі: "Але, паненка, залацінка, сёння яшчэ парадзьце... толькі цяпер...". Так мінуў студзень.



***Марш роты на акцыю***

XIII

У апошнія дні студзеня “Шчэнсны” атрымаў ад камандавання акругі загад хуткага перасоўвання ў кірунку шашы Ліда-Шчучын. Мелі там перавозіць вязняў, якіх належала адбіць. Марш быў хуткі і фарсаваны. Хлопцы цешыліся, што нарэшце будзе бойка, нарэшце скончыцца нуда і безпрацоўе. Перайшлі чыгуначную каляю, але ў кантактным пункце аказалася, што вязняў павезлі іншай дарогай. З акцыі нічога. “Шчэнсны” не захацеў быць абыграным. Меў звесткі ад мясцовай канспірацыйнай ячэйкі, што той шашой раз на тыдзень аўтамабілі вязуць з Ліды ў Шчучын узбраенне і боепрыпасы для тамтэйшага аддзела СС. Гэта было вельмі прывабна. Нарэшце надаралася аказія не толькі правядзення добрай акцыі, перарывання адпачынкавай пасіўнасці, але і здабыцця так недастаючых боепрыпасаў.

2 лютага якраз павінен быў праязджаць такі транспарт.

Пасоўваемся хуткім маршам да шашы ў ваколіцы Смалярні. Сонца прыгравае моцна, як для зімы. Снег растае, ствараючы жудасную гразюку. Хлопцы брыдуць па мокрым, брудным снезе, скачуць цераз лужыны. У першую хвілю “Зарэмба” паслізнуўся і навярнуўся пасярод вялікай лужыны. Агульны смех. Настрой радасны, як быццам бы ішлі на вяселле, а не на бой.

Ідзём без абозу, які звыкла нас у той час суправаджаў. Начальнік штаба разам з кухарам і нашымі рэчамі застаўся ў тылах вёскі, у якой прызначаны збор для тых, хто згубіцца. Толькі адзін воз ехаў за намі - быў гэта воз “санітарны”. У першы раз я мела нешта такое для сваёй дыспазіцыі.

Нарэшце мы дабраліся на месца. Быў яшчэ ясны дзень, калі мы занялі пазіцыі уздоўж шашы, за сажнямі дроў. Нямецкі канвой меў праехаць каля чацвёртай - так прынамсі цвярдзіў наш мясцовы праваднік. Чакаем. Разгорнутыя ў доўгую лінію на колькі сот метраў, круціліся нецярпліва на нашых пазіцыях. З другога боку шашы расцягнулася балота. Нямецкая калона павінна пад’ехаць з левага боку. Першы выстрал павінен быць дадзены толькі тады, калі ўсе аўтамабілі акажуцца ў полі абстрэлу.

Час цягнуўся. Сцямнела. Нярвовае напружанне не дазваляла ўседзець спакойна. Курылі папяросы, хлопцы апавядалі сальныя гісторыі. Немцы не прыязджалі. “Шчэнсны”, дапускаючы, што тым днём транспарту зусім не будзе, ужо хацеў скамандаваць збор і вяртанне на нашае месца пастою, калі пастаўлены на горку пост даў знаць: “Едуць”.

Сапраўды шум матораў станавіўся што раз выразнейшым. Мы замерлі за сажнямі дроў. На лініі запанавала ідэальная ціша. Аўтамабілі былі што раз бліжэй. Ужо відаць першы, другі, наступны. Гружаныя, цяжка пасоўваліся да нашых апошніх разлікаў. Нарэшце гучыць стрэл. Адзін, другі, чэргі з кулямётаў і аўтаматаў. Хлопцы б’юць па колах і рухавіках , робячы немцам немажлівымі ўцёкі. Страляніна па ўсёй лініі. Аўтамабілі стаяць нерухомыя. Выскакваюць з іх немцы і ўкраінцы, якія хочуць арганізаваць абарону. Чуваць крыкі: “Давай бамбамёт”. Немцы менш баявыя. Адны стараюцца ўцячы на другі бок шашы і там гразнуць у балоце, іншыя бароняцца з-за аўтамабіляў. Шчыльны агонь. Сярод стрэлаў чуваць крыкі: “Не страляйце! Мой Бог! Не страляйце!”

Завязваецца рукапашны бой. “Крапідла” і іншыя ўрываюцца на аўтамабілі. Немцы выстрэльваюць ракеты, просячы дапамогі. Крыкі, праклёны, енкі, усё тое пераплялося з сабой і залпамі.

У адпаведную хвілю чую крык:

- Санітарка! Санітарка!

Бягу ў той бок - гэта “Бжазняк” прышчыпнуў сабе руку замком - бінтую.

- Санітарка! - зноў разлягаецца па лініі. Не гледзячы на вечар, ад асвятляльных куляў і ракет светла, як днём. Бягу ў другі канец, адкуль клічуць:

- “Пратазы” паранены - атрымаў па нырках.

Рана сур’ёзная. Перавязка. Цягну яго ў бок санітарнага воза, не мае сілаў ісці, мушу яго амаль несці на плячах. Нарэшце трапляецца пад руку “Эрык” - спрабуем удваіх, але воза няма. Фурман пры першых стрэлах выцяў каня і знік. Паскудна. Трэба вынесці “Пратазага” ў месца недасягальнае для агню. Цяжкі.

На шашы бой працягваецца. Мы паволі пасоўваемся наперад. Раптам перад намі пачынаюць разрывацца гранаты. Паварочваем убок. Каб дайсці да якой хаціны, адтуль ужо неяк дабяромся да зборнага пункта. Перад намі і за намі стрэлы. Кружачы па лесе выходзім нарэшце на поле. Здалёк відны пабудовы. У хаце плач і скрыгатанне зубоў, мужык ані чуць не хоча, каб нас адвезці. Пад пагрозай пісталета запрагае. Едзем. Ноч. Здалёку чуваць стрэлы. Ранены енчыць. Дарога цягнецца.

- Стой, хто ідзе? - чуем нарэшце. - Ах гэта вы! Зося? Бяжы хутчэй на кватэру, там ідуць вас адбіваць.

На кватэры рух, збор.

- Зося трапіла, пэўна, у палон, або недзе там згубілася, трэба яе адбіць..., адшукаць - чуеце.

Хачу яшчэ секунду паслухаць, што гавораць, але нехта мяне заўважае і верашчыць:

- Зося!

І так, як да гэтага часу са смуткам і зычлівасцю гаварылі пра мяне, так у тую хвілю ўсё змянілася. Кожны мяне паддзявае - выгружае на мяне злосць за неспакой, прычынай якога я была.

Аказваецца, што нядаўна вярнуліся. Прынеслі гранатамёты, скрыні гранатаў, боепрыпасаў. У адным аўтамабілі знайшлі дамскую бялізну - “Гэрвазы” ўручае яе мне ўрачыста. Гэта выклікае харавы выбух смеху. Мусіла я атрымаць не менш за 40 кг, але гэта былі карункі. Для чаго? Для тых портак?

Акрамя “Пратазага” ранены “Градняк” - меў увесь твар у асколках. Ужо ўсе. Мусім ісці. Адход углыб мясцовасці. На шашы светла. Немцы не шкадуюць ракет і боепрыпасаў. Лупяць у пусты лес. Асвятляюць шашу - напэўна збіраюць параненых. Рэшты, яшчэ праз пару дзён збіралі памерзлых таварышаў, якія ўцяклі ў балота. Неўзабаве потым уздоўж шашы высеклі дрэвы, ствараючы адкрытую паласу, па якой

у час наступных транспартаў рухалася іхняя ахова.

Задаволеныя, аглядаем здабытую зброю, боепрыпасы, вопратку, абутак. Прыдасца яшчэ як. Абадраныя "варшавякі", не гледзячы на старанні пра свой туалет, заставаліся яшчэ далёка ззаду за мясцовымі элегантамі.

Каля поўначы мы на новай кватэры. Змучаная валюся спаць, як з-за сцяны даходзяць да мяне абураныя галасы таварышаў.

- Гляньце, легла спаць, як бы не было параненых, - чую, як "Віхар" гаворыць з абурэннем.

"Градняк" супакойвае іх.

- Няма чаго тут сядзець, бо нічым нам не дапаможа.

- Яно так, але павінна тут быць.

Не вытрымліваю, устаю і з запытаннем, у чым справа, уваходжу ў пакой.

- Што за санітарка, - чую, - нічколькі яе параненыя не хвалююць.

- У чым справа? - паўтараю.

- У тым, каб апекавалася параненымі, сядзела пры іх, - адказвае "Віхар".

Іду да параненых, пытаюся:

- Даць табе што? Патрэбна табе што?

- Нічога мне не трэба, - чую адказ.

Вяртаюся на сваю пасцель.

- Яна заўсёды такая, без сэрца,- чую за сабой.

- А што б ты хацеў, каб зрабіла? - раздаецца нечае пытанне.

- Ну, каб сядзела пры іх, і каб нічога ім не балела, - гучыць адказ.

Не слухаю ўжо той размовы, накрываю галаву блюзкай і засынаю. Нічога новага не даведаюся. Зычлівасць праяўлялася ў момант, калі цвярдзілі, што загінула і калі збіраліся ісці мяне адбіваць. Цяпер мусяць адрабіць нядоімку.

Было трохі крыку за тую акцыю. Што не ўзгоднена, што для чаго дражніць немцаў... Мы не рэагавалі. У роце настрой быў баявы. Хлопцы планавалі ўжо наступнае...

"Пратазага" перавезлі на "маліну", да пані Бужынскай у Ліскове, дзе ўжо ляжаў "Цыдзік". Праз пару дзён знаходзіўся там таксама "Градняк". Мы перамясціліся ў раён Вавёркі і Астрыны на ахову месца скідвання грузаў і радыёстанцыі. Таўкліся там амаль увесь люты. Штодзень чакалі песенькі, якая будучы перададзенай радыё Лондана, мела быць сігналам, што да нас ляцяць самалёты. На жаль, не дачакаліся. Ні цяпер, ні потым.

Мы былі расчараваныя, бо часта чулі пра скідванне зброі і боепрыпасаў для польскай партызанкі ў іншых мясцовасцях, не гаворачы ўжо пра савецкія скідванні для "чырвонай" партызанкі. Не раз мы з зайздрасцю назіралі машыны, якія кружыліся над Ліпічанскай пушчай, яны мелі дапамогу ад сваіх, а мы? Мы былі пакінутыя на ўласныя сілы і магчымасці. Уся зброя і боепрыпасы, якую мы мелі, была або здабытая ў баях з немцамі, або паходзіла са сховаў 1939 года. У дадатак, наогул, яна неадпаведна захоўвалася - не заўсёды гадзілася да ўжытку.



***Камендант "Саблеўскі" ў Шляхтоўшчыне***

У той час мы часта кватаравалі ў Шляхтоўшчыне. Хлопцы вельмі гэта любілі. У пана Воўк-Ланеўскага жылі мілыя і прыгожыя панны. А гаспадар быў вельмі гасцінны. Наогул, мясцовая люднасць вельмі нам дапамагала, без іх патрымкі мы не выжылі б, гэта былі не толькі кватэры, але і харчы, за якія мы не заўсёды маглі заплаціць. Гэта была сапраўды велізарная зычлівасць і спагада.

Час ад часу "Шчэнсны" высылаў малыя патрулі для разведкі мясцовасці ці з якімі іншымі мэтамі. Справа заключалася ў тым, каб жаўнеры не выйшлі з падпарадкавання. З тых вылазак хлопцы прыносілі не раз запасы бімбру, які потым з калегамі выпівалі. "Шчэнсны" аднак не глядзеў на гэта скрозь пальцы. Неяк - ішлі якраз у Шляхтоўшчыну - Казік "Грабя" ("Граф") недзе падзгубіўся. Дагнаў нас ужо на месцы, добра ўрэзаўшым. Пакаранне за гэта меў страшнае. Стаяў гадзіну ці нават даўжэй, з цаглінамі ў ранцы, па стойцы на "Зважай" на перакрыжаванні дарог. На грудзях меў плакат, напісаны вялікімі літарамі: "Гэта вынік піцця гарэлкі". Не ведаю, ці гэта канкрэтна дапамагло, але праблема п'янства амаль знікла.

Мы вандравалі па ўсёй прызначанай тэрыторыі.

Мелі вёскі чыстыя і прыемныя. Былі таксама вёскі брудныя і занядбаныя. Найгоршыя там былі прусакі, якія выраблялі з намі агідныя штукі. Ад часу да часу, калі вярталіся з патруля познім вечарам, кожны вельмі галодны пудам ляцеў да гаршка з пакінутай вячэрай. У хаце свяцілася толькі тлеўшая жоўтым агнём лучына. Пры такім асвятленні не вельмі было відаць, што ясі. Часам на зубах пачыналі трашчаць скваркі. Калі была адна, дзве, усё ў парадку, але калі было іх вельмі шмат, аж густа, гучала пытанне: "Нешта столькі скварак навалілі?" І тады чалавек даведваўся, што ніякіх скварак сёння не было... Набліжаў тады лучыну да гаршка. Ахвяра "скварак" пудам выбягала на двор... Хата трэслася ад смеху астатніх. Пасля такіх дасведчанняў ужо ніхто не квапіўся на скваркі і вельмі ўважліва аглядаў пакінутую таварышамі яду.

Ахова месца выкідвання грузаў і радыёстанцыі была нудная і пакутлівая, хаця таксама быў перыяд, калі мы мелі бесперапынна самых розных гасцей. Размяшчаліся ў нас "Саўка" з братам - былі на рэабі-

літацыі пасля раненняў, а цяпер - як знаўцы мясцовасці (паходзілі з тых краёў) - "арганізоўвалі" розныя дробныя вылазкі і акцыі. Пад нашай аховай фармаваўся таксама аддзел "Антонія". Адным словам на кватэрах панаваў рух і галас, але з улікам на бяспеку радыёстанцыі нельга было праводзіць ніякіх акцый. Хлопцы нецярплівіліся. Зноў дэманстратыўна заглядвалі ў рулі карабінаў сцвярджаючы, што ржавеюць. З улікам гэтага "Шчэнсны" адважыўся на далёкія вылазкі асобных плутонаў.



***На кватэры - штаб батальёна: "Ваўкавыскі", "Вронскі", камендант "Саблеўскі", "Кавальскі"***

Першым пайшоў "Градняк" з дваццаццю чалавекамі, з ім акрамя іншых пайшлі "Юр", "Козіц", "Міцкевіч", а таксама "Барута" з фатаграфічным апаратам. Кідок быў даволі далёкі, бо аж пад Шчучын. Мясцовая канспірацыя данесла, што ў лес, адлеглы на некалькі кіламетраў ад горада, штодзённа прывозілі аддзяленне добра ўзброеных калмыкаў, якія пільнавалі мужыкоў, што працавалі пры высечцы лесу і вывазе дрэва. Тая лясная ахова складалася пераважна з 11 чалавек. Мелі РКМ (ручны кулямёт), аўтамат і карабіны. "Градняк" вырашыў на іх выцяць. Зброя патрэбна была нам для новых жаўнераў, акрамя таго належала трохі пашумець на тэрыторыі, каб немцы не пачуваліся лішне ўпэўненымі.

Раннім ранкам нашыя дабраліся да месца і занялі пазіцыі на ўскрайку лесу. Аддзяленні "Міцкевіча" і "Юра" былі так расстаўлены, каб уваходзіўшых у лес калмыкаў узяць пад перакрыжаваны агонь. Чакалі не доўга. Неўзабаве пачулі вольна гучаўшыя галасы, пошчакі зброі і пілаў. Праз хвіліну яны паказаліся на дарозе. "Градняк" выстраліў. Адразу падтрымалі яго астатнія. Паляцелі гранаты. Нямецкія жаўнеры былі захоплены знянацку. Мелі параненых і забітых, астатнія здаліся. Нашыя хутка забіралі зброю, боепрыпася і адходзілі. Акцыя мусіла быць бліскавічнай, бо ад Шчучына аддзяляла іх ледзьве пару кіламетраў.

Вярнуліся на другі дзень задаволеныя і поўныя аптымізму. Прынеслі кулямёт, аўтамат, 9 карабінаў і боепрыпасы. Паручнік "Людвік", які браў удзел у засадзе як назіральнік, вярнуўся з рашэннем, што застанецца з намі. Так і сталася. "Барута" парабіў здымкі, якія адаслалі ў Варшаву.

Зіма была цяжкая. Мне было дрэнна. Прастуда, якую атрымала яшчэ на пачатку снежня ходзячы ў дзіравых ботах, не мінала. На праўду было што раз горш. Мела гарачку, нічога не магла есці. Не дапамагалі старанні "Розгі", які пастаянна здабываў нейкія прысмакі і прымушаў мяне есці.

- Няхай пані есць, - падсоўваў мне аладкі і кубак смятаны, - толькі, калі ласка, еш, не аддавай нікому. Вецер паню панясе, як так далей будзе, - паўтараў стоячы нада мной, пакуль іх не праглынала.

Канешне была невыказна худая, але голаду зусім не адчувала. Калі б не "Розга", праўдападобна наогул бы не ела. Нарэшце дайшла да такога стану, што не заставалася нічога іншага, толькі ісці на "маліну".

Адвезлі мяне да пань Бужынскіх у Ліскаў, дзе мной заняліся вельмі сардэчна. Адна з пань сабрала мяне да лекара ў Шчучын. Прыбраная ў спадніцу амаль да зямлі, у велізарны кажух, я нічым не адрознівалася ад мясцовых баб, прыехаўшых у мястэчка на кірмаш. А дзень быў якраз гандлёвы. Круцілася шмат немцаў, мы праехалі аднак не распазнаныя. Лекар аглядаў мяне, ківаў галавой.

- З такімі сіламі ў партызанцы? У ложак, а не ў партызанку. Такога вычарпанага арганізму даўно не бачыў...

Вярнулася зноў у ложак з нейкімі мікстурамі і з невясёлымі думкамі. Пані мяне суцяшалі, што як трохі ад'емся і адпачну, то сілы вернуцца. Канешне паволі я акрыёўвала. На "маліну" прыехаў паранены ў нейкай сутычцы "Завіша", я перабралася на іншае месца, бліжэйшае да месца пастою нашага аддзела.

Праз тыдзень атрымала распараджэнне каменданта (які вярнуўся з Варшавы), што мушу неадкладна ўставаць, таму што прыехала 2-я рота, і я патрэбная. Загад ёсць загад. Я пачувалася, зрэшты, ужо значна лепей. Праз паўгадзіны сядзела на санях. Ледзьве рушылі, як над галовамі нам пачалі свістаць кулі. Кладзёмся ў санях, коні пераходзяць у галоп. Праскакваем дарогай за гумнамі. Ля выхаду з вёскі, у якой кватаравала рота, спатыкаем патруль, які ідзе на выведку.

- Добра, што цябе не застрэлілі, - сказаў нехта.

Яно, можа, і добра... Неўзабаве высветлілася, што прычынай трывогі былі "Ірад" ("Герад") і "Джэк" з 2-ой роты, якія сабе добра падпілі і стралялі "на віват" (рабілі салют).

Пасля дакладу камандзіру пайшла ў 2-ю роту. Раненых на шчасце яны не мелі, перавязкі, якія я мусіла парабіць, былі тыповыя - нацёртыя пасля доўгага маршу ногі і скулы. Хутка ўправілася з работай і пабегла пабачыцца з "Мацькам" ("Сатырам") і з "Яцкам".

Ад іх саміх хацела пачуць пра іхні фантастычны шлях з Варшавы. Проста цяжка мне было паверыць, што прыехалі па-просту на нямецкім цягніку, у мундзірах арганізацыі ТОДТ-а, а да таго прывезлі з сабой зброю і без ніякіх праблем аказаліся сярод нас. Хлопцы з 1-й роты трохі здзіўляліся. У грунце рэчаў аднак трохі зайздросцілі вялікай прыгодзе і ганарыліся вычынам “варшавякаў”. А прыгода была прыгожая, хоць небяспечная...

Пасля нашага выхаду з “Цыранкі”, на тэрыторыі Беластоцкага і Варшаўскага ваяводстваў засталося трохі жаўнераў, якія хварэлі або былі параненыя. Было іх больш за трыццаць. Прыпіску згодна з загадам Галоўнага камандавання АК мелі ў Наваградскім ваяводстве. Таму яны мусілі далучыцца да нас. Марш зімой перасягаў чалавечую вытрымку. Дасведчанні папярэдніх груп былі найлепшым таму довадам. А калі зіма суровая і марозная... Калі яны наогул мелі знайсціся ў “Цыранцы”, трэба было арганізаваць іхняе перакідванне іначай.

Стараннi “Яцка”, адказнага за дастаўку аддзела на месца, супалі з патрабаваннем камандавання Навагрудскай акругі. Паўсюль тут ствараліся шматлікія партызанскія аддзелы, але не хапала афіцэраў і падафіцэраў. Заданне згрупавання на той тэрыторыі адпаведнага кадру даверана было маёру “Борку” - шэфу так званага “Старту III”. Завязалі кантакт з ім і з шэфам усёй арганізацыі “Старт” палкоўнікам “Тшаскам”. Хлопцы закончылі арганізаваную яшчэ палкоўнікам “Тшаскам” школу падхарунжых і ў лютым, пасля многіх нарадаў ў камандавання “Кедыва”, было прынята рашэнне - маёр “Борак” здзейсніць перакідванне гэтым разам цэлага аддзела УКБ так, як да таго часу рабіў паадзінкава для 19-й дывізіі АК і матэрыяльнага забеспячэння. Разам з 28 чалавекамі УКБ будуць перакінуты 25 камандасаў (дыверсантаў).

Былі гэта афіцэры і падхарунжыя, якія мелі за сабой значны стаж дыверсійна-канспірацыйнай дзейнасці ў “Вахляжы”, “Башце” або “Кедыве”, а цяпер - “спаленыя” на сваіх тэрыторыях - мусілі самаліквідавацца “ў лес”. Цяпер яны мусілі ўзмацніць іншыя аддзелы навагрудскай партызанкі. Рашэнне было выканана. Выезд прызначаны на 21 лютага. Кіраўніком перакідвання прызначылі маёра “Борка”, яго намеснікам - “Яцка”, кіраўніком групы УКБ - “Мацка” (“Сатыра”), кіраўніком камандас - “Ястрэмбца”.

Прыбраныя ў не заўсёды камплектныя мундзіры арганізацыі ТОДТ-а, спакавалі ўсю доўгую зброю ў пакункі з піламі, рыдлёўкамі і сякерамі. Абвешаныя яшчэ пакункамі з гранатамі з’явіліся на Ўсходнім вакзале. Цягнік, т.зв. “Адпускны цягнік”, меў толькі адзін вагон для іншых пасажыраў. Пад’ехаў з гадзінным спазненнем, у ім ужо сядзелі камандасы, якія селі на вакзалах Заходнім і Галоўным. Цяпер селі нашы. З імі былі таксама “Борак” і “Онкель” - інжынер з Руды Шлёнскай, былы жаўнер нямецкай арміі з часоў І Сусветнай вайны, які за мужнасць і адвагу, паказаныя пад Вердэнам, быў адзначаны кайзерам Вільгельмам рознымі ордэнамі, і перш за ўсё Жалезным Крыжам І класу. У гадах 1919 і 1920 браў удзел у Шлёнскім паўстанні, змагаўся на гары Святой Ганны, у бітве той страціў сына. Той з крыві і косці паляк і вялікі патрыёт быў неацэнны ў кантактах з немцамі. Яго ўзнагароды, упэўненасць у сабе і дасканалае веданне нямецкай мовы звычайна залагоджвалі ўсялякія цяжкасці з жандармерыяй ці нават і з гестапа.

Нарэшце цягнік рушыў. “Тодтаўцы” сядзяць стлумлена або стаяць у калідоры. “Онкель” папівае



***Кадр 2-й роты III батальёна 77 пп АК пасля прыбыцця з Варшавы на Лідчыну***



***Пасля прыбыцця з Варшавы - злева направа: “Лісак”, “Мядзведзь”, “Злом”, “Прыблуда”, “Ірад”; стаяць: “Альгерд”, “Эрык”, невядомы, “Мацек”, трэці справа “Рамона”***

для куражу, частуе кандуктараў. Нацягнуты настрой захоўваецца. Трэба мінуць Малкіну, у якой адбываецца дакладна праверка. Сапраўды, калі цягнік пад'ехаў да станцыі, на перон вывальваецца хмара "чорных". Пачынаюць правяраць паперы. "Онкель" ужо добра падпіты хутка з імі дамаўляецца. Не заглядваюць ва ўпакоўкі - Малкіну ўдалося праскочыць. Атмасфера трохі папраўлілася. Чакае яшчэ Беласток і перасадка на іншы цягнік, паколькі гэты не спыняецца ў Гародні. Там трэба будзе перасесці на бакавую лінію, якая вядзе да Парэчча і Рыбніцы, дзе павінен быць канец чыгуначнаму падарожжу.

Нарэшце цягнік набліжаецца да Беластока. "Яцак" цераз вокны вагона бачыць, што на вакзале раіцца ад гестапаўцаў. Усе думаюць пра адно: нас "засыпалі". Напруга расце. Хлопцы сціскаюць у руках запакаваную зброю... Што далей? Высаджваюцца і здзіўляюцца. Гестапа не звяртае на іх увагі. Уваходзяць у пачакальню, але адтуль выганяюць іх крыкам: "Raus!" Сітуацыя пікавая.Кожны вырашае, куды біць у выпадку бою. "Борак" з "Онкелем" рызыкуюць, падходзяць да пакрыкваючых немцаў і пачынаюць размову. Жандармы загадваюць ім, каб сваіх падначаленых паставілі з рэчамі пад сценамі. Ніхто не ведае, у чым уласна справа. Мінаюць хвілі. Пад'язджае цягнік, і выходзіць з яго сам Эрых Кох. Справа праяснілася. Аўтамабіль з саноўнікам і аховай ад'язджае - на вакзал вяртаецца спакой...

"Борак" мае прадуктовыя карткі ў жаўнерскую сталоўку. Дае хлопцам. Ідуць на гарохавы суп...

- Ешце суп, не піце гарэлкі... - "Борак" амаль упрошвае. - Потым вам дазволю, цяпер гэта пагражае правалам...

Нарэшце падходзіць цягнік на Гародню. Каб трапіць на перон, трэба прайсці праз кантроль. Цяжка сказаць, якім цудам прапускаюць "тодтаўцаў", не заўважаючы руляў карабінаў, якія вытыркаюцца з-пад падзёртага паперу паміж піл. Удалося...

Да Гародні прыехалі ў змроку. На адпраўку да Парэчча не мусілі чакаць лішне доўга. Размясціліся без ускладненняў. Настрой выдатны. Рыбніца - хлопцы выгружаюцца з вагона. Падаецца, што ўжо па турботах.

Ага! З другога боку станцыйкі нямецкі бункер і да ліха ўзброеных немцаў. Можа быць бой. Партызаны хутка, як толькі можна, каб не звярнуць на сябе ўвагу, адходзяць ад станцыі і яшчэ больш спешна распакоўваюць зброю. Праз пару хвілін ўяўляюць ужо больш-менш узброены аддзел. Немцы, не гледзячы на тое, што маюць нейкае падазрэнне да высаджванага аддзела, бегаюць неспакойна па станцыі, але за яе не выходзяць. Як потым аказалася, яны паднялі па трывозе іншыя пастарункі, якія на працягу наступных дзён намагаліся схапіць нашых у сетку аблавы.

У Рыбніцы, а дакладней у яе ваколіцах меў быць "Градняк" з патрулём, каб прывесці новапрыбылых. "Борак" змяніў аднак устаноўлены маршрут - у выніку чаго патруль не сустрэў. Аддзел кіруецца да лясоў Астрыны. Пераходзіць цераз возера Белае, на шчасце замерзлае. Мусіць пятляць, каб абмінуць шукаўшыя іх нямецкія патрулі. Нарэшце, праз пару дзён дабраліся ў раён Шчучына - каля Шляхтоўшчыны спаткаў іх "Шчэнсны" з ротай, прыбранай у белыя накідкі, якія выклікалі вялікае здзіўленне. (Наша рота насіла іх ад часу Бурносаў.)

Прывітанне было вельмі сардэчным. Тады толькі высветлілася, чаму "Градняк" з імі не спаткаўся. Акрамя таго, што "Борак" змяніў маршрут, абодва аддзелы захоўвалі прадпісаную асцярожнасць. Вынік быў такі, што размінуліся. "Градняк" вярнуўся на месца пастою нашай роты і далажыў у штабе, што, здаецца, не прыехалі - неўзабаве пасля яго атрымалі вестку, што яны ўжо блізка...

Радасць ад спаткання сяброў і ад аповядаў пра перажыванні засланілі іншыя весткі, прывезеныя "Мацькам". Расстрэл Лількі быў ужо дакладны, таксама смерць Тоська і арышт Зосі (сястры "Мацька"). Пра правал Тоська мы ведалі ўжо перад тым, але неяк не вельмі верылі, што загінуў. Цяпер "Мацек" пацвердзіў тую інфармацыю, апавядаючы, як тое адбылося.

У першыя дні студзеня Тосек атрымаў загад перавезці зброю недзе са Служэўца ў Цэнтр. Здаецца, гэта было апошняе заданне, якое меў выканаць перад паўторным выхадам у поле. Зброю меў транспартаваць на брычцы. Перад паездкай дакладна распрацаваў маршрут. Вывучыў на памяць нумары дамоў з праходнымі дварамі, якімі ў час правалу можна ўцячы. У дапамогу ўзяў сабе добра знаёмую дзяўчыну, якая не падазравала нічога. Калі ехалі з упакоўкамі па вуліцы Пулаўскай, затрымаў іх нямецкі патруль. Паперы - адкрыць валізкі. Не маючы выхаду, Тосек пачаў уцякаць. На жаль, з-за нярвовасці памыліўся брамай. Убег у суседнюю, непраходную. Быў схоплены. Арыштаваная была і яго таварышка - Вeся.

Тосек жыў і быў прапісаны ў пані Ліпко, таму праз колькі гадзін пасля яго арышту гестапа прыйшло да яе дадому. Зрабіліператрус, забралі на Павяк Зосю Ліпко. У рэчах Тоська знайшлі лісты ад мяне - падазравалі, што аўтаркай іх была Зося Ліпко. Не памятаю ўжо, што пісала, але, на жаль, за тое маё пісанне бедалага абарвала яшчэ дадаткова. Тоська змардавалі пад час допытаў на Алеі Шуха, потым забралі з яго кроў і з загіпсаваным ротам расстралялі пры масавай экзекуцыі на вуліцы Гарчэўскай. Зосю і Весю пасля цяжкіх допытаў на Шуха і побыце на Павяку вывезлі ў Равенсбрук.

Так вось з нашай радзыньскай пачкі засталося толькі нас двое - "Мацек" і я. Усведамленне гэтага будзіла смутныя перажыванні. Доўга яшчэ "Мацек" апавядаў пра справы варшаўскія і беластоцкія. Адтуль таксама весткі былі не найлепшыя - у час бою пад Гарбавам загінуў "Зімак". Меў з 2-й ротай прыехаць сюды на "Цыранку" - на жаль, амаль уся іх група, больш за дзесяць хлопцаў, загінула акружаная нямецкай аблавай.

## XIV

Праз колькі дзён пасля прыезду 2-й роты мы перайшлі ў Войкавічы паблізу ад Шчучына. Роля наша

была досыць прыкрая, мы мелі арганізаваць ахову Камандавання Акругі АК падчас суду над ротмістрам "Лехам", "Рагнерам" і "Грубым (Тоўстым) Барткам".

Прыехаў маёр "Котвіч", падпалкоўнік "Барсук", паручнік "Пануры" (які два тыдні знаходзіўся ў нашай роце). У склад палявога суду ўвайшлі: паручнік "Астоя" і паручнік "Пануры", абвіняў капітан "Варта", сакратаром быў "Ваўкавыскі", а старшынём суду быў наш камендант "Саблеўскі". (Прызначэнне Галоўным камандаваннем АК нашага каменданта на старшыню суду не вынікала толькі з факту, што быў адзіным праўнікам (юрыстам) у той кампаніі, але перш за ўсё з пазіцыі, якую рэпрэзентаваў у час праведзеных перамоў з Галоўным камандаваннем АК у Варшаве пра неабходнасць шукання паразумення з савецкім бокам і ўзмацнення акцый супраць немцаў.)

У паседжннях суда браў таксама ўдзел як дэлегат ГК АК маёр "Котвіч".

Суд выдаў вырак на смерць ротмістра "Леха" з тым, што выкананне выраку было адкладзена маёрам "Котвічам" у сілу паўнамоцтваў, нададзеных яму ГК АК. Суд складаўся з людзей не звязаных персанальна з той тэрыторыяй. Палкоўнік "Барсук" браў у ім удзел, як назіральнік. Справа была вельмі непрыемная. І раней даходзілі да нас часам "пантофлевай поштай", часам трохі выразней звесткі на тэму флірту "Рагнера" з немцамі ("Рагнер" быў камандзірам роты ў батальёне "Леха"). Цяпер тыя плёткі пацвердзіліся. Галоўнае камандаванне АК і Камандаванне акругі АК паставілі пад суд ініцыятараў таго роду пачынанняў. "Лех", "Рагнер" і "Грубы Бартак" прыехалі па выкліку ў суправаджэнні плутона кавалерыі. Нашым заданнем было забяспечыць суд. Паседжанне цягнулася вельмі доўга. "Лех" узяў на сябе ўсю віну. "Рагнер", дзякуючы пазіцыі "Леха", пазбег наступстваў, хаця гаварылі, што "Бартак Грубы" і ён былі галоўнымі дзеячамі ўсёй афёры.

Пасля той справы пры каменданце засталася частка 1-й і 2-я роты. "Шчэнсны" з двума плутонамі "Віхра" і "Пратазага" пайшоў пад Іўе, над Гаўю. Былі гэта мясціны азначаныя камандаваннем Наваградскай акругі як "нашыя". Належала правесці выведку. Таму "Шчэнсны" мусіў адмовіцца ад падрыхтаванай "Саўкам" і яго братам акцыі на Пілоўцы (быў гэта нямецкі штутцпункт пры чыгуначнай каляі).

Па прыбыцці пад Іўе мы атрымалі данясенне, што на лініі вузкакалейнай чыгункі, якая злучала Іўе са станцыяй Гаўя пакінуты транспарты зброі і боепрыпасаў пад канвоем уласаўцаў. У Іўі размяшчаўся вялікі нямецка-ўласаўскі гарнізон, які даўзбройвалі з Маладзечна. "Шчэнсны" вырашыў зрабіць пры аказіі засаду на такі транспарт. Гадзіны і дні праезду былі вядомы мясцовым канспірацыйным пляцоўкам. Абапіраючыся на іхнія звесткі мы памаршыравалі на чыгунку.

Быў яшчэ добры снег і досыць марозна. Пасля абеду мы ціха падцягнуліся да каляі і заселі ў блізкім лесе, а хутчэй загайніку. Мы ляжалі на снезе досыць доўга. Гадзіны цягнуліся. Трэба было захоўваць абсалютную цішыню. Цягнік не прыходзіў. Холад пранікаў пад вопратку, нельга было сагрэцца, мы паволі пачыналі касцянець з халадэчы. Цягніка ані следу. Бачачы, што мы прамерзлі да касцей і ў выпадку бою не вельмі будзем да яго здольныя, "Шчэнсны" загадаў адступаць. Злыя, змерзлыя падымаліся мы з нашых пазіцый, калі раптам бакавая варта сігналізуе: немцы і ўласаўцы побач.

Падрыхтаваная засада аказалася засадай для нас. Нехта мусіў здрадзіць. Спачатку завязалася досыць лянівая перастрэлка. Уласаўцы таксама былі перамерзлыя. Але, калі агонь набіраў сілу, удалося пачуць шыпенне надходзячага паравоза. Трэба было хутка знікаць - не ведалі, ці цягніком не пад'язджае падмацаванне. Маршрут адступлення быў вельмі нязручны, праходзіў цераз высечаны лес. Карчы і вываратні абцяжарвалі бег. У пэўны момант я падвярнула нагу і перакулілася. Хлопцы пабеглі наперад, маё падзенне заўважыў толькі "Альшына". Уласаўцы былі недалёка. "Альшына" вярнуўся і вынес мяне на руках. Страляніна на хвілю ўзмацнілася, але не цягнулася доўга. Злыя і змардаваныя мы вярнуліся на нашае месца пастою ў Шаптунах.

Было ясна, што Іўю было паведамлена пра планаваную акцыю. Папярэджаныя ўласаўцы зрабілі на нас засаду, але мы тым разам захоўвалі такую асцярожнасць, што яны не заўважылі нашага падходу. Так мы і ляжалі - можна б сказаць - плячо да пляча, не ведаючы адны пра адных...

Не гледзячы на тое, што акцыя была няўдачная, тым не менш яна дадала нам бадзёрасці. Пастралялі, нарэшце хоць якая справа! З Шаптуноў рушылі далей. "Шчэнсны" нічога не меў у планах, хіба каб што само надарылася, але хацеў лепей вывучыць мясцовасць і



***Марш на Гаўе***

трохі нас паганяць, прыпомніці часы беластоцкіх маршаў. Рушылі на Дзясевічы, Дзямонты, Сантакі, Хвасты, Бардукі.

Пры пераходзе цераз замерзлую рэчку праламаўся пад намі лёд. У групе "выбраных" аказалася і я. Марш у дубянеўшай вопратцы і мокрых ботах не належаў да найпрыемнейшых, але падсушыліся трохі на кватэры, трохі высахла на людзях, і неяк там было.

Мы адчувалі сябе, як вучні на канікулах. Апошнія месяцы былі вельмі нудныя з-за сваёй стабільнасці і пастаяннай аховы некага або нечага. Цяпер мы маглі пагуляць. Вандравалі па нічэйнай зямлі. Кіравалі тут усе, таму польская люднасць вітала нас з распасцёртымі рукамі. Абдымалі нас сардэчна, частавалі, чым маглі. Мы перажывалі ўзрушальныя моманты, мясцовыя людзі амаль што цалавалі зямлю, па якой мы ступалі. Упрошвалі нас усімі святымі, каб мы не адходзілі, а баранілі іх ад уласаўцаў і немцаў. Пару разоў мы мелі з апошнімі нейкія дробныя сутычкі, што вельмі пазітыўна ўплывала на самаадчуванне людзей. Але трэба было вяртацца.

Мы падышлі бліжэй да Суботнікаў. У сакавіку жаўнеры пачалі хварэць на сыпны тыф. Не было нічога, каб сапраўды перамагчы вошай - бараніліся лазнямі і выпарваннем вопраткі ў печах. Спалі па хатах, карыстаючыся цёплымі пакрыццямі і кажухамі, у якіх "мясцовыя" паразіты развіваліся выдатна, таму радыкальна пазбыцца ад іх было не магчыма.

Спачатку падавалася, што хлопцы прастудзіліся. Першым захварэў "Давейка", пасля яго другі, трэці дастаў гарачку... Працуючы доўга ў шпіталі ў Радзыні я вельмі добра ведала сімптомы сыпнога тыфу, каб не сумела распазнаць пачатковай стадыі. Трэба было хворых ізаляваць, завезці ў шпіталь.

Шпіталь у Суботніках трымаў доктар (прозвішча на жаль не памятаю)[2], які дапамагаў партызанам. Яго жонка была сястрой палкоўніка[3] Балаховіча, слаўнага наезніка з гадоў Першай сусветнай вайны, і цётка "Здроя"[4] - камандзіра роты з батальёна "Паля". Сын вывучаў медыцыну і дапамагаў бацьку... Калі я прывезла хлопцаў, старэйшы пан доктар сардэчна імі заапекаваўся, але мой дыягназ прыняў з недаверам. Тым не менш, хворых пакінуў у шпіталі.

Праз тыдзень я выбралася да іх з "Раманам". Было цудоўнае сонечнае надвор'е, не гледзячы на сакавік, яшчэ добрая санная дарога. Доктар прыняў нас вельмі міла, паведаміўшы, што хворых будзе можна забраць праз якія 10 дзён, Аказалася, што ўсё ж мелі тыф і таму ляжалі ў заразным аддзяленні.

Пасля адведзінаў у шпіталі мы былі запрошаны жонкай доктара на абед. Уявіце - абрус, сурвэткі, сталовыя прыборы, кілішкі, срэбра, закускі, суп, печыва, дэсерт. Адным словам - нармальны абед у досыць заможным, культурным доме. Гаварылі весела, раптам пасля супу, запала няёмкае маўчанне. Бачу, што "Раман" неяк дзіўна на мяне паглядае, гаспадыня дому ненатуральным голасам пачынае нешта распавядаць. Што такое? У чым справа? З'явілася служанка, хоча збіраць талеркі, пані зрываецца, гаворыць з заклапочанасцю: "Я гэта сама зраблю".

І раптам прыходзіць да мяне асяненне. Гледзячы на стол, бачу, што на маёй талерцы няма лыжкі. Арыентуюся, што тырчыць яна за халявай майго бота. Украла лыжку. Робіцца мне горача з сораму, але не застаецца нічога іншага, як раскласці тую ідыёцкую сітуацыю. Выцягваю няшчасную лыжку і кладу на талерку, адначасова перапрашаю гаспадыню. "Раман" выдыхнуў з палёгкай. Усе пачынаюць сардэчна смяяцца. Расказваюць, як пасля супу я аблізала лыжку і схавала яе ў бот. Атмасфера раз'ясняецца. Усе цудоўна забаўляюцца, хаця мне па-праўдзе кажучы зусім не да смеху. Адчуваю сябе надзвычай дурнавата пасля такой кампраментацыі.

Пасля абеду і пакупак (першай справай былі выдатныя сметанкавыя ірыскі) сядаем у сані і едзем дадому.

- Думаў, што правалюся пад зямлю з сораму, калі ўбачыў, як ты хаваеш тую лыжку, - сказаў "Раман".

Вяртаемся ў выдатным настроі. У пэўную хвілю з-пад каня вырваўся заяц, не доўга думаючы я выцягнула нядаўна атрыманы "парабелум" і пульнула раз, другі! "Раман" не застаўся ззаду. Шарака ўжо даўно не было, але нам тая кананада шалёна спадабалася. Стралялі ў цэль, у што давядзецца. Было гэта ўжо недалёка ад нашага месца пастою. Калі пад'ехалі бліжай, перад вёскай наткнуліся на стралковы ланцуг - мала бракавала, і ўрэзалі б па нас. Абарвалі салідна. "Шчэнсны" ў пакаранне хацеў забраць у мяне парабелум, але неяк абаранілася. Справа прыціхла, а я, каб адцягнуць увагу ад маёй асобы, абвясціла прышчапленне ахоўнай прышчэпкі, прысланай з Варшавы.

Я нават не дапушчала, які гэта выкліча перапалох сярод таварышаў. Да нешматлікіх выключэнняў належалі тыя, якія прынялі гэта нармальна. Колькі напрасілася, колькі навыдумлялася, каб іх угаварыць. Хлопцы, якія не баяліся рукапашнага бою, якія мелі за спіной шматмесячны побыт у партызанцы, трупянелі са страху перад уколам іголкі. Енкі, праклёны, просьбы, грозьбы - каб толькі не балела, каб толькі не бачыць, як іншых калю, каб трохі менш па знаёмству - не ўзрушалі мяне. Калола прышчэпку - на іх насах паказваліся кропелькі поту, бялелі твары - найгорш было, калі млелі. Яшчэ перад уколам голкі самлеў велізарны "Розга" - з-за панікі, якая агарнула прысутных, я мусіла перапыніць пачынанне. Потым грымнуўся "Гервазы".

Прышчапленне, якое можна было правесці на працягу некалькіх гадзін, цягнулася два ці тры дні, бо баявыя жаўнеры пры выглядзе іголкі змываліся, і трэба было іх сілай прыводзіць. Не ведаю, ці то дзякуючы прышчэпкам, але ў будучым выпадкаў тыфу не было.

[2] Доктар Казімір Ярмалінскі, жонка Стэфанія Ярмалінская, у дзявоцтве Булак-Балаховіч.

[3] Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч.

[4] Здзіслаў Балаховіч.

Неўзабаве мы мелі перамахнуць цераз чыгунку. Забраныя са шпіталя хворыя мусілі застацца пад нечай апекай - "Шчэнсны" вырашыў, што гэта будзе "Аня", якая пад Божае Нараджэнне была адкамандзіравана на нейкі час да "Рагнера". Трэба было дамовіцца пра тую справу, таму мы конна паехалі ў яго аддзел.

На кватэры мы засталі шмат афіцэраў, паміж іншымі паручніка "Міхала", якога я ўжо ведала, бо ён часта адведваў нашую роту. Я засталася з імі, "Шчэнсны" ў другім пакоі размаўляў з "Рагнерам". "Міхал" чысціў нейкую свежа здабытую "дзясятку" ці "ражон". Маніпуляваў ім ва ўсе бокі, закліні́ўшы замок не хацеў рушыцца. Нехта звярнуў увагу, каб быў больш асцярожны, бо ў рулі можа быць набой. "Міхал" не звяртаў на тое ўвагі. У пэўны момант, калі руля была нацэлена ў мой бок, замок адпусціў - ружжо стрэліла, патрапіўшы ў нейкі абразак на сцяне, тут жа над маёй галавой. Зрабіўся страшны гвалт, усе зрываюцца, бягуць да мяне. З суседняга пакоя выскакваюць іншыя афіцэры. "Міхал" стаіць са зброяй і гаворыць трохі дрыгуткім голасам:

- Дзякуй Богу... Так перапужаўся...

"Аня" неўзабаве вярнулася ў аддзел і засталася з ачуняўцамі.

Пасля прыезду роты "Яцка" група нашая выдатна павялічылася. Што праўда, адышлі камандасы, прызначаныя ў іншыя аддзелы, тым не менш мы складалі вялікую сілу. Зжыванне дзвюх рот праходзіла паволі і з пэўнымі цяжкасцямі. 1-я рота пачувалася трохі так, як старэйшая сястра, якой бацькі падарылі меншага брата. Сям'я пабольшала. Трэба было тое ці іншае аддаць або ўступіць.

Косткай нязгоды былі аўтаматы.

"Шчэнсны" не хацеў чуць, каб аддаць хоць які, "Яцак" хацеў падзелу. Меў, зрэшты, сваю рацыю "Шчэнсны", меў сваю "Яцак". Для "Шчэнснага" адданне хоць бы адной штукі было выдзіраннем яе з-пад сэрца, а адданне РКМ-у было змяншэннем сілы агню роты (якой ён слушна ганарыўся). "Яцак" жа дамагаўся раскладу той сілы на ўсіх, гэта значыць на абедзве роты, хацеў таксама вярнуць зброю, якая папярэдне належала некаторым яго людзям. Бо быў такі звычай, што калі хто паранены ці хворы ішоў на "маліну", магчыма, выязджаў у Варшаву, то аддаваў сваю зброю таварышам, якія заставаліся ў полі. Так сталася са зброяй некаторых хлопцаў, вярнуўшыхся цяпер з Варшавы. Дамагаліся па-просту "сваёй" зброі. Тыя, хто яе насіў, трактаваў яе, як "сваю" - "Вронскі", напрыклад, насіў ППД "Мацька" і за ніякія скарбы не хацеў з ім расстацца. Даходзіла часамі да вострага абмену погдядамі на тую тэму. Як часта мы забывалі, што складаем адно цэлае. Нарэшце, калі справа набрыняла так, што "Яцак" і "Шчэнсны" схапіліся ў прысутнасці каменданта, той страціў цярпенне, урэзаў кулаком па стале і крыкнуў:

- Досыць таго, да халеры!

Ніхто з нас да таго часу не чуў ні павышанага голасу, ні лаянкі з вуснаў каменданта, таму вынік быў раптоўны. Апаненты змоўклі і ўжо спакойна пачалі дыскутаваць над разумным развязваннем праблемы.



***Штаб III батальёна 77 пп АК: "Саблеўскі", "Кавальскі" "Ваўкавыскі", "Альгерд"***

Спрэчка была распарадкавана саламонава. Мы "пазычаем" зброю 2-й роце, а калі яны здабудуць сабе новую , вяртаюць нам - гэта значыць 1-й роце - нашую.

Яшчэ доўга потым акрэслівалі час: "Ведаеш, гэта было перад тым (або пасля таго), як камендант дайшоў да халер".

2-я рота пачала жыць на свой кошт. Мы адносна рэдка камунікавалі паміж сабой. Дыслакаваліся ў розных, не раз досыць аддаленых мясцовасцях. Камендант са штабам застаўся з намі.

У лютым прыехалі з Варшавы разам з камендантам "Ваўкавыскі", "Альгерд" і "Кавальскі". Якое ж было нашае ўзаемнае здзіўленне, калі аказалася, што з "Альгердам" мы знаёмыя даўно. Спатканне было такое неспадзяванае і ў такіх нечаканых акалічнасцях, што я амаль ператварылася ў слуп солі. Каго - каго, але Стаська г.зн. "Альгерда" ніколі б не западозрыла ў тым, што акажацца ў полі. Таго арыстакратычнага, спакойнага інтэлектуаліста я зусім не ўяўляла сабе ва ўмовах партызанкі. Для "Альгерда" мая прысутнасць у аддзеле была таксама свайго роду нечаканасцю.

"Ваўкавыскі" прывёз мне прэзент ад варшавянак, які прыслалі сёе-тое для партызанкі. Мая пачатковая радасць была роўная пазнейшаму расчараванню. Усё, што я атрымала, было разлічана на кабету адпаведнай паўнаты і росту. Вынік быў такі, што "Гервазы" красаваўся потым ў шаўковых жаночых трусах, бо толькі на яго падышлі (быў адным з наймажнейшых



*Жаўнеры 3-й роты III батальёна 77 пп АК: “Эрык”, “ “Баяр”, “Альгерд”, “Гураль”*



*У вучэбным цэнтры ў Голдаве - вартавая служба*

хлопцаў). Боты былі прыгожыя, іх я не аддала. Напакавала саломы і хадзіла ганарова, як кот у ботах.

У канцы сакавіка пачала ствараццa 3-я рота. Камандзірам яе стаў “Альгерд”, намеснікам - “Баяр”. Перайшлі ў яе “Юр”, Марак “Жэгота” і “Эрык”. Кватаравалі ў Малышах і ў Голдаве, дзе размяшчаўся партызанскі вучэбны цэнтр згрупавання “Наднёманскае” пад кіраўніцтвам “Панурага”. У той час нашае месца пастою досыць доўга знаходзілася ў Альхоўцах. Рота праводзіла рэгулярныя вучэнні. Мы вялі нуднае, амаль казармавае жыццё. Разнастайнасць, зрэшты досыць бачнасная, стваралася папераменнай нашай і 2-й роты вартавой службай і аховай вучэбнага цэнтра.

Хлопцы скардзіліся, што зброя ржавее, вырываліся на акцыю, але на той час быў спакой. Рыхтаваліся да вясенняй, больш шырока сплананай дзейнасці. Належала вывучыць новых жаўнераў і даўзброіць іх. Разам з узнікненнем 3-й роты справа здабыцця большага запасу зброі станавілася пякучай. Тым больш, што і ў нас прыбывала жаўнераў. Па загаду камандавання Акругі адбываўся амаль рэгулярны прызыў. Прымалі маладых, здаровых хлопцаў з навакольных вёсак. Ішлі ахвотна, часам прыносілі з сабой зброю і боепрыпасы, часам паказвалі, дзе ляжыць схаваная. Не гледзячы на гэта, было яе пастаянна за мала.

У той час мяне паслалі ў Няцеч у палявы партызанскі шпіталь, у якім камандаваў доктар “Дэман” або “Ямнік”. Мела адтуль атрымаць забеспячэнне аптэчак. Якое ж было маё здзіўленне, калі ў дзяўчыне, якая выдавала мне тыя медыкаменты, я пазнала Ізу - таварышку з Замосця. Ад яе даведалася, што папярэдне яна была ў “Віра”, які апераваў са сваім аддзелам ў Замойскіх і Звежынецкіх лясах, а таксама ў Сольскай пушчы. “Вір” быў нашым старэйшым таварышам з Замойскай гімназіі. Тое, што пайшоў у партызаны, было для мяне нечаканасцю, ніколі не рабіў уражання баяра...

Доўга сястра “Марыя” - іначай Іза - апавядала мне пра баі на тэрыторыі Замойшчыны, пра праведзеныя акцыі. Гаварыла пра незвычайную мужнасць і адвагу “Віра”, як цяжка паранены ў нагу не пакінуў аддзела, пакуль не вывеў яго з цяжкай баявой сітуацыі. Успаміналa цяжкія баі, якія вялі партызаны Любельшчыны, і як не раз мусіла раненых выносіць на плячах з-пад абстрэлу. Пахвалілася, што адзначылі яе Крыжам Валечных. Пэўна, даведалася б ад яе яшчэ шмат цікавых рэчаў, каб не “Раман”, які перапыніў нашую размову, падганяючы мяне да вяртання. Развіталіся, абяцаючы сабе, што будзем старацца яшчэ ўбачыцца, але гэтае спатканне было першае і апошняе.

### XV

Пасля першых міжротных трэнняў узаемныя стасункі пачалі складвацца неяк лепей. Пераломным момантам былі імяніны "Яцка" - Рышарда - 3 красавіка. 2-я рота прастаўлялася. "Максім" (Француз - начальнік штаба роты) падрыхтаваў прыём, што "муха не сядзе". Лёд буў растоплены, наступіла поўнае расслабленне.

Праз два дні "Мацек", "Момус", "Збых", "Тшаска" і "Пепж" паехалі на акцыю ў Ліду. Была яна падрыхтавана і запланавана Стэфанам "Белым" і "Пепжам". Мэтай было здабыццё зброі, якой 2-я рота мела замала, у асноўным з-за наплыву новых людзей. Справа ішла перш за ўсё пра зброю аўтаматычную і доўгую.



*“Максім”*

Таварышы, перапранутыся ў мужыкоў, сустрэліся ў Шчучыне (выязджалі з ваколіц Голдава, дзе ў той час кватаравала 2-я рота) са Стэфанам "Белым", які забяспечыў іх дакументамі, што дазвалялі на "легальнае" з'яўленне ў Лідзе. Мелі пры сабе толькі зброю кароткую (па два пісталеты) і па дзве гранаты.

Заданнем было "зрабіць" камендатуру арганізацыі ТОДТ-а, у якой размяшчаўся падручны склад зброі. Домік стаяў асобна, жыў у ім і кіраваў камендант і яго сакратарка "Зоя", якая таксама належала да падполля. Будыначак быў размешчаны на рагу вузкай вулачкі. Насупраць яго знайходзілася брама, якая вяла да казармаў арганізацыі ТОДТ-а. І каля яе вартоўня. Планавалася, што "Мацек", Стэфан і "Пепж" з дапамогай "Зоі" ўвойдуць усярэдзіну. А з другога боку пад вокны падручнага склада зброі пад'едуць дзве фурманкі. Паколькі там няма вартавога, будуць загружаны цераз акно. "Тшаска" і "Збых" былі перапрануты ў фурманаў.

Дату акцыі прызначылі на Вялікую пятніцу (7 красавіка), паколькі вядома было, што евангелісты спецыяльна той дзень святкуюць. Пад вечар Стэфан у мундзіры арганізацыі ТОДТ-а, а з ім "Мацек" і "Пепж" карыстаючыся з таго, што сядзеўшая за бюро "Зоя" не замкнула дзвярэй, увайшлі ў памяшканне каменданта, царскага немца, які добра размаўляў па-польску, можа нават былога польскага афіцэра. Той, схоплены, быў хутка раззброены і звязаны. "Зою" для выгляду таксама звязалі. Камендант выдаў ключы ад склада, але дрыжучы спытаў, як збіраемся вывезці зброю, канешне, мы не прадбачылі, што знутры акяніцы замкнёныя, і стаіць там вартавы.

Трэба было дзейнічаць іначай. Стэфан захацеў, каб камендант адклікаў жаўнера, а потым сам вывеў партызан. Немец з вялікім супрацівам пад пагрозаю пісталета нарэшце згадзіўся. Вартавы, выцяты прыкладам па галаве, быў абясскоджаны. "Пепж", хутка перапрануты ў яго мундзір, выйшаў паведаміць "Збыху", каб пад'ехаў толькі сваёй фурманкай, паколькі не магло быць мовы пра пагрузку вазоў, хоць на складзе было шмат добрай, новай зброі і боепрыпасаў ды гранатаў. Пасля выхаду "Пепжа" ў дом пачалі рвацца два п'яныя нямецкія афіцэры. Трэба было ўпусціць іх у сярэдзіну, бо іначай можна было нарвацца на якія-небудзь дадатковыя ўскладненні. Увайшлі, не абышлося без гвалту, паколькі яны бараніліся і не даваліся сябе звязаць. Аднак увайшоў “Пепж”, і ўтраіх хлопцы далі ім рады. Цяпер ужо і "Мацек" перапрануўся ў нямецкі мундзір. Каля сёмай пад'ехала фурманка. Змяркалася. Мяхі са зброяй былі ўжо падрыхтаваныя.

Пагрузка адбывалася на вачах вартавых, якія здалёк прыглядваліся да свайго кененданата, што зялёны тросся каля воза. Той выгляд выклікаў у вартоўні пэўны неспакой. Каля вартавога пачалі церціся чатыры жаўнеры. Яшчэ адзін мех, другі, і фурманка ад'язджае. А за ёй ідзе блізкі да самлення камендант. Перад брамай сабралася ўжо больш за дзесяць немцаў. Не аглядаючыся, нашы - усе ўжо перапранутыя ў мундзіры, бо нават "Збых" прыбраўся ў нейкі тодтаўскі плашч, рушылі. "Мацек" злёгку папіхаў каменданта аўтаматам ніжэй плеч.



*“Мацек”, “Яцак”, “Ястжэмбец”*



*“Тжаска”*

Атмасфера ў момант ад'езду асабліва напружаная, бо была баязнь, што, не гледзячы на страх за жыццё, шваб выдасць, што захоплены. Але неяк удаецца. Ад'ехалі. Не так, аднак, далёка, каб не чуць крыкаў немцаў, якія зарыентаваліся, што нешта не ў парадку, тым хутчэй, што адзін з п'яных афіцэраў - слаба закляплены - пачаў крычаць.

Калі распачалася трывога, фурманка здолела аддаліцца можа на паўкіламетра. Паблізу чыгуначнай каляі сустрэлі патруль жандармерыі. Салютуюць узаемна. Воз, чым хутчэй зварочвае ў нейкі завулак. Амаль у тую самую хвілю дарогай, якой да таго часу ехалі, прамчаліся даганяўшыя іх аўтамабілі. Пагоня памчалася ў іншым кірунку. Яшчэ было трохі эмоцый пры пераездзе чыгункі, якую, мусіць, дзякуючы Вялікай пятніцы, не ахоўвалі. Едучы палямі, група дабралася нарэшце да нейкага хутара. Там пакінула звязанага і схаванага ў гумне пад саломай каменданта, які ўвесь час іх "суправаджаў".

Адтуль Стэфан вярнуўся па "Тжаску" і "Момуса". Ідучы ноччу ўжо разам з "Тжаскам" (хворы "Момус" застаўся на "маліне") сустрэлі каменданта пастарунка, якога гаспадар пасля адходу партызан вызваліў. Звязалі яго нанава і ўсадзілі ў яму ад бульбы. Праседзеў там да паловы наступнага дня, яго вяртанне ў Ліду не ўяўляла ўжо тады небяспекі для нашых, бо не мог ужо выдаць тых, якія паехалі - былі далёка.

Гісторыя скончылася арыштам каменданта і "Зоі". Адбыўся працэс. Яна была вызвалена і, выкарыстаўшы аказію, чым найхутчэй уцякла. Гэта дазволіла каменданту ўсю віну перакласці на яе, не прызнаючыся, аднак, якім спосабам дапамог партызанам. Прыгавораны да разжалавання і выезду на Ўсходні фронт, пасля ўцёкаў "Зоі" даказаў сваю "невінаватасць" і вярнуў вайсковае званне. Але на фронт і так паехаў.

У Вялікую суботу да радасці абедзвюх рот "Мацек", "Тжаска", "Збых" і "Пенж", а таксама Стэфан "Белы" далучыліся да роты, якая стаяла ў Альхоўцах.

Велікоднае свята мы правялі на маршы. Абедзве роты ішлі ў той раз разам. У аддзеле пры штабе мы мелі ў той час ужо "ўласнага" капелана - ксендза "Ора", які прыбыў да нас з партызанскага аддзела "Гары" ў Налібоках. Хоць шмат апавядаў пра сваіх даўніх калегаў, відаць было, што сумуе па іх, хутка аднак завязаліся паміж намі сардэчныя, прыяцельскія стасункі.

Карыстаючыся яго прысутнасцю камандзір арганізаваў агульную велікодную споведзь. Ксёндз "Ора" слухаў яе ў хаце, падчас прагулкі, як ўдавалася..., хлопцы спавядаліся, білі сябе ў грудзі і абяцалі паправіцца, але з тым было трохі горай. Бо ўжо на першы дзень Вялікадня пачалі распускацца, што гэй! Найперш у надзелю рана прыйшла з плачам нейкая кабета - скардзілася на двух жаўнераў, якія хацелі яе згвалціць. Скандал з той нагоды быў касмічны!

Я не была яго сведкам, бо "Шчэнсны" расправіўся з вінаватымі ў шэсць вачэй. А чутка ішла, што размова была вельмі далёкай ад сяброўскай гутаркі.



*“Кнышняк”, ксёндз “Ора”, “Шчэнсны”*

Хоць свята адзначылі ў сакавіку, але адбылося супольнае снеданне. Мы кватаравалі ў Плябанаўцах, у вёсцы, у якой да таго часу яшчэ не былі. Ляжала яна тут жа каля Ліды, вельмі блізка ад нямецкага аэрадрома. У сувязі з тым падчас снедання, якое не гледзячы на неспрыяльныя ўмовы было цалкам не кепскае, нельга было выпіць больш, чым кілішак. Тая адна чарка гарэлкі, а дакладней самагонкі, была аднак вельмі вялікая і вельмі моцная. Хлопцы добра ўрэзалі, а потым згодна з велікоднай традыцыяй пачалі страляць салют.

Сітуацыя стала небяспечнай. Пальба магла нам справадзіць на галаву размешчаных паблізу немцаў. "Шчэнсны" з-за тых скандалаў ашалеў. Закамандаваў збор і карныя вучэнні. Ганяў хлопцаў па гразі. "Легчы! Устаць!" - адразу іх тое працверазіла. І на шчасце, бо ў другі канец вёскі пад'ехаў нямецкі аўтамабіль, а ў ім чатыры нямецкія авіятары. Нашы захоўвалі поўны спакой. Немцы праехалі - або нас не бачылі, або прыйшлі да высновы, што лепш нас не заўважыць. Ва ўсякім разе да страляніны не дайшло. Момант, аднак, быў непрыемны. Маглі мець прыгожыя святы.

Па Вялікадні мы круціліся па "нашай" тэрыторыі Ліда-Іўе. Зноў цераз Сантакі, Дзяшэвічы, Шаптуны завандравалі аж да Лелюкоў. Зноў мясцовая людскасць вітала нас хлебам і соллю і плакала, калі мы адходзілі. Але гэта не былі тыя ваколіцы, дзе б мы маглі ўтрымацца, асабліва пасля гісторыі з паліцыянтамі з Бердаўкі, якія ўцяклі да нас са зброяй.

Мы кватаравалі адтуль па простай лініі праз нейкія 5-6 км. Уначы чуем страшную страляніну, ракеты. "Шчэнсны" абвяшчае трывогу. Стаім гатовыя да бою, але нічога не адбываецца. З-за гэтага трывога была адменена, але захоўвалася высокая гатоўнасць. Узмоцнена пільнасць. Праз пару гадзін прыйшлі да нас пяць паліцыянтаў - палякаў, прыцягнулі мінамёт, аўтамат, кулямёт, кучу гранат і боеприпасаў.

Калі яны даведаліся, што паблізу размяшчаецца партызанскі аддзел - нашай прысутнасці ўсё ж не ўдалося схаваць, таму што праходзілі паблізу Бердаўкі - яны прыйшлі да высновы, што ўжо досыць мусілі навыслужвацца немцам, цяпер, калі ёсць аказія, трэба ўцякаць. Уцячы пацiху ім не ўдалося - дайшло да моцнай страляніны з пазасталымі нямецкімі паліцыянтамі. Але план свой выканалі: на світанні былі ўжо ў нас. Мы былі задаволены, што яны прынеслі шмат зброі і боеприпасаў, але мусілі хутка знікнуць з той мясцовасці, бо можна было чакаць, што жандармерыя не спусціць іх уцёкаў проста так. Тады мы перайшлі чыгунку Ліда-Маладзечна і пачалі круціцца ў ваколіцах Суботнікаў.

Асобныя батальёны распачалі дробныя акцыі - зачэпкі немцаў. Атакавалі чыгуначныя патрулі і пастарункі. У выніку тых выпадаў была здабыта зброя, якой у нашым разуменні мы заўсёды мелі за мала. Нашай марай было ўзбраенне ўсяго батальёна аўтаматнай зброяй: ручнымі кулямётамі і аўтаматамі.

Камандзіры плутонаў і іхнія падначаленыя даслоўна былі "хворыя" на тыя кулямёты і аўтаматы. Калі нехта прыйшоў са здабычай, наступны стараўся адразу яго перасягнуць. На жаль, не абышлося без стратаў. Падчас адной з такіх выпраў загінуў "Альшына", а "Розга" быў паранены ў руку, хоць "Альшына" быў адносна коратка ў аддзеле, зыскаў сабе вялікія сімпатыі - хлопец быў не кепскі, таму ўсе яго сардэчна шкадавалі. Быў пахаваны на могілках у Трабах.

Рана "Розгі" не была сур'ёзнай, таму ён не хацеў ісці на "маліну".

- Няхай мне пані зробіць перавязку, - сказаў, - неяк прыемней быць разам са сваімі, шкада часу на ляжанне.

Я не была захоплена яго рашэннем, добра памятала, як ён самлеў падчас прывіўкі. Але на маё здзіўленне "Розга" спакойна і без крывення прыглядаўся, калі я рабіла яму перавязкі і зусім не меў намеру млець. Куля, а потым пінцэт былі для яго нічым у параўнанні з іголкай і шпрыцом. Іголкі баяўся.

У той перыяд разбаleліся страшна мне зубы. Нылі ўжо з часу першага выпаду пад Іўе і купелі ў Гаўі. Цяпер аднак боль дасягнуў свайго верхняга пункта. Жыла парашкамі, якія, калі дакладна сказаць, зусім мне не дапамагалі. Неяк добра заправілася нейкімі пігулкамі і да здзіўлення таварышаў самлела. Ачнулася ўся злітая халоднай вадой. Вырашылі, што як толькі больш наблізімся да Суботнікаў адразу пайду да дантыста...

Аднак перш, чым туды выбралася, пайшла ў патруль з аддзяленнем, у якім было шмат новых жаўнераў, не вельмі яшчэ абстраляных. У ходзе абмену агнём адзін з хлопцаў упаў за мной з аўтаматам. За хвілю да таго я адчула над галавой моцны павеў і пачула гук. Аўтаматычна прытулілася да зямлі. Амаль адразу пачула, што нехта хапае мяне за карк і адначасова крычыць:

- Ідыёт! Забіў!

Шчасліва не забіў, толькі аглушыў. Пару дзён нічога не чула, але зубы перасталі балець. Аказалася, што гэта балелі не зубы, а вуха. Лячэнне было, хоць



*"Варта", "Баяр", "Кавальскі", "Людвік"*

досыць радыкальнае, але эфектыўнае.

Частка нашых, пад камандаваннем Ваўкавыскага павандравала далей на поўнач. "Яцак" быў хворы і з некалькімі хлопцамі застаўся ў Гудзелях. Мы круціліся па тэрыторыі на паўночны ўсход ад Ліды, пастаянна маючы ў перспектыве вярнуцца ў раён Іўя, пад Гаўе, з якога адступілі, і якое надалей згодна з загадам камандуючага Наваградскай акругі палкоўніка "Барсука" мела стаць нашай базай. Аднак гэта была тэрыторыя цяжкая для ўтрымання вялікага польскага партызанскага аддзела. У дадатак аддзела не мясцовага. Камандзір хацеў перайсці з усім батальёнам на тэрыторыю Віленскай акругі, да ген. "Ваўка", таму што ў яго акрузе мы маглі б лепш акліматызавацца...

На свайго роду разведку пайшоў якраз "Ваўкавыскі" з 2-й ротай пад камандаваннем "Мацька" і з плутонам 1-й роты пад камандаваннем "Баяра". Група пасунулася моцна на поўнач у бок Вільні. 22 красавіка далучыліся да іх пасланцы "Юзафа" з Вільні - "Дуб" і "Ніна". Пры іх дапамозе быў завязаны кантакт з мясцовай канспірацыйнай сеткай. Мясцовыя дзеячы прапанавалі правесці акцыю супраць "тодтаўскага" гарнізона ў мясцовасці Кена.

Гарнізон складаўся з узброеых немцаў, што пільнавалі, палонных, якія былі тут на прымусовых роботах. Былі гэта палякі, французы, расейцы, галандцы, бельгійцы. Працавалі яны на мясцовым тартаку, на будаўніцтве і ў лесе. У тартаку кватаравала некалькі немцаў, рэшта жыла ў адлеглых за паўкіламетра казармах. Былі гэта два баракі, акружаныя трайным, трохметровай вышыні плотам з калючага дроту, узмоцненым засекамі. Уздоўж плота ішлі акопы, злучаныя з будынкамі хадамі зносін. Усё прыкрывалі два кулямётныя гнязды. З боку чыгункі знаходзілася падвойная брама, удзень адчыненая, уначы забарыкадаваная іспанскімі казламі.

Спачатку планавалася выцяць на казармы ноччу, аднак пасля правядзення разведкі праект разваліўся. Была б гэта атака самазабойцы. Таму вырашана было атакаваць удзень. Каб трапіць унутр цераз браму, трэба было прайсці ўздоўж акопаў і дратоў, але гэта можна было зрабіць заспеўшы ворага знянацку. Казармы знаходзіліся на адлегласці кіламетра ад бункера на станцыі, дзе стаяла каля 60 салдат Вермахту, а ў мястэчку адлеглым на нейкія два км. на дапаможным аэрадроме знайходзілася 120 авіятараў. Таму акцыю мелася праводзіць некалькімі групамі, а іх дзеянні мусілі быць скаардынаванымі.

Акцыя распачалася каля пятай пасля паўдня.

Плутон 3-й роты заняў тартак, раззброіў тамтэйшых немцаў і з узгорка блакаваў ЦКМ-ам станцыю вузкакалейнай дарогі, якой маглі пад'ехаць авіятары. Аддзяленне, складзенае з жаўнераў абедзвюх рот з "Саламонам" на чале перайшла на другі бок каляі і абстрэльвала з РКМ-а авіятараў, перашкаджаючы ім выйсці. "Ваўкавыскі" заняў на суседнім узгорку пазіцыю кіраўніцтва і адтуль назіраў і кіраваў усім з дапамогай умоўных ракетных знакаў.



*У Альхоўцах (канец красавіка 1944 г.) - "Розга", "Бабініч", "Шчэнсны", "Крапідла", "Пратазы", "Віхар", "Паўль", "Януш"*

Нечаканы ўдар праводзіў з двума плутонамі 2-й роты "Мацек". Адно яго аддзяленне пад кіраўніцтвам "Збыха" імітавала фарсаванне дратоў з боку чыгункі. Заданнем іх было адцягненне ўвагі знаходзіўшыхся ў казармах немцаў ад галоўнага нападу. У момант, калі трывожная група дабралася да чыгункі і пачала бегчы ўздоўж яе, на станцыю ўехаў цягнік, які вёз жаўнераў-адпускнікоў. Быў паўнюткі. На шчасце паехаў далей, не затрымаўшыся.

500 метраў бегу - гэта пераходзіла мажлівасці звычайных жаўнераў. Не вытрымлівалі, не шмат бракавала да таго, што ў браме пападалі б. На шчасце перапужаны вартавы напэўна страціў галаву і, не раздумваючы, уцёк у барак, у якім усё адразу закіпела. Адзіночныя людзі выскаквалі і адразу хаваліся ў дом. Гэта дазволіла нашым трохі аддыхацца. З боку "Збыха" раздаліся выстралы. Падворак быў пусты, падавалася, што вымер. Аддзел "Мацька" ўбег туды без перашкод. Тым часам немцы бакавым выхадам выбраліся ў акопы і пачалі рыхтавацца да адбіцця атакі аддзялен-

ня "Збыха". Захапіў іх знянацку бегшы з групай "Мацька" з супрацьлеглага боку "Ястраб". Не спадзяваліся на ўдар - аслупянелі - у першую хвілю не зрэагавалі на яго крыкі: "Хэндэ хох!", - потым аднак замiж таго, каб падымаць рукі ўверх, пачалі рыхтавацца да стральбы. "Ястраб" апярэдзіў іх, шаснуў з аўтамата, паклаўшы на месцы некалькі. Бачачы, што акружаныя, немцы капітулявалі.

У другім бараку яшчэ абараняўся камендант, але, паранены, неўзабаве таксама здаўся. Як пазней аказалася, быў гэта рэнегат - былы польскі афіцэр з Памор'я, называўся Сасной - мясцовая арганізацыя ўжо даўно выдала на яго прыгавор смерці за павешанне больш за дзесяць мужыкоў, якія адмовіліся даваць фурманкі. Пасля бою быў перададзены мясцовай канспірацыйнай ячэйцы, якая вырак выканала.

З вакзала, з бункераў пачалі сыпацца густыя стрэлы. З-за гэтага, хочучы аблегчыць сабе задачу падрыхтоўкі вяртання з досыць багатай здабычай (ЛКМ, два РКМ-ы, дваццаць з нечым карабінаў, шмат гранат, боепрыпасы, аўтамат, і шмат кароткай зброі) партызаны распранулі да бялізны сваіх палонных і паставілі іх уздоўж плоту з боку вакзала. Гэта прыпыніла агонь, паколькі вермахт не хацеў страляць у сваіх. Група, якая імітавала ўдар на мястэчка і аэрадром, таксама пастраляла, але аэрадромная служба не хацела ўступаць у непасрэдны бой, адстрэльваючыся толькі з аўтаматаў.

Уся акцыя працягвалася можа з паўгадзіны. На падрыхтаваныя фурманкі хутка ўклалі не толькі зброю і баепрыпасы, але таксама мундзіры, абутак і харчы. Сабралася разам з імі больш за дзесяць палякаў і расейцаў. Пасля таго, як прайшлі разам пару кіламетраў, частка з іх адышла ў Вільню, маючы надзею дабрацца да сваіх дамоў, толькі трое вырашылі застацца ў аддзеле. Баракі падпалілі, у тартаку знішчылі абсталяванне. Праз дзесяць з лішнім хвілін на станцыю прыйшоў бронецягнік абстрэльваючы з гармат лес, у які адступілі нашыя. Снарады не зрабілі аднак ніякай шкоды. аддзел адашоў у паўночным кірунку на Вілію, Буйвіды.

Акцыя, хоць рызыкоўная, была праведзена спраўна і бліскавічна і была вельмі ўдалай. Мы не мелі ніякіх уласных стратаў. Здабылі ўказаную колькасць узбраення, якое дапамагло даўзброіць 2-ю роту і амаль цэлы плутон 3-й. Мясцовыя жыхары не пацярпелі, рэпрэсій ніякіх не было. Задаволеныя перамогай абедзве роты дабраліся да Віліі і затрымаліся на тыднёвы адпачанак у маёнтку Пунжаны.

На жаль не ўсё далей складвалася так удала, як дагэтуль. Пры пераходзе шашы Падбродзе-Вільня каля Сантакаў, дайшло да незапланаванай сутычкі: Шашу прыкрывалі маладыя, недасведчаныя хлопцы з 3-й роты. Запозна далі сігнал пераходзіўшаму цераз шашу аддзелу пра набліжаўшуюся калону сапёрных аўтамабіляў. Дайшло да перастрэлкі. Загінуў "Пепж".

Потым наступіла другая "праруха". Роты ўвайшлі на тэрыторыю размешчаную недалёка ад даўняй мяжы польска-літоўскай. Раён быў моцна забіты войскамі Пляхавічыюса. Да нашых далучыўся мясцовы аддзел "Старжы", які прапанаваў акцыю па зброю, што мела быць недзе там схаваная. "Альгерд", які прыняў тады камандаванне 3-й ротай, згадзіўся на прапанову. ("Ваўкавыскі" ў той час ад'ехаў на патруль з "Тжаскам" і яшчэ двума чалавекамі з мэтай устанаўлення кантакту з кіраўніцтвам батальёна). Паслаў дванаццаць чалавек у патруль. Дайшлі да месца, дзе мела быць схаваная зброя, але не знайшлі яе. Наткнуліся заміж гэтага на шаўлісаў - завязаўся бой. Акружаныя хлопцы мужна бараніліся, але перавага атакаваўшых была вельмі вялікая - палеглі. Восем чалавек былі забітыя, камандзір патруля сярж. "Шэршань" ранены ў жывот, неўзабаве потым памёр. "Прага", цяжка паранены ў руку, быў потым адпраўлены ў шпіталь. Водгалас бою дайшоў да 2-й роты, якая паспяшыла на дапамогу. На жаль, было за позна.

Шаўлісы ўцяклі, пакінуўшы замучаных нашых параненых і забітых.

"Ваўкавыскі" вярнуўся ад каменданта з загадам вярнуцца на месца пастою батальёна. У час маршу на поўдзень аддзел затрымаўся на пастой недалёка ад Мураванай Ашмянкі ў вёсцы Віндзюны, дзе дайшло да сутычкі з немцамі.

Было гэта 16 траўня. Абедзве роты размясціліся, займаючы цэлую вёску. На адлегласці некалькі сотняў метраў знаходзілася малая калонія (хутар).

Яшчэ жаўнеры добра не растасаваліся, калі якраз з таго боку раздаліся стрэлы. У адказ камандзір 1-га плутона 2-й роты "Грот" разгарнуў у ланцуг сваіх жаўнераў, кіруючыся на хутар. "Мацек" схаваў 2-гі плутон і загадаў яму абысці немцаў з тылу. Сам бег да плутона "Грота", хочучы іх затрымаць. Не адбег далёка. Агонь аўтаматаў прыціснуў ланцуг да зямлі, а адна з куляў трапіла яму ў калена. Нехта з жаўнераў меў прастрэленыя абодва калены. Немцы па хвілю прыпынілі агонь, мусілі бараніцца ад атакаваўшых з тылу.

Увесь той бой быў паскудным збегам акалічнасцяў. У тым раёне апераваў аддзел "Бацькі" ("Айца"). Немцы палявалі на яго. Нашы былі атакаваны з хутара патрулём вялікай групоўкі, якая шукала польскіх партызан. Калі за адступаўшым нямецкім патрулём пайшла ў пагоню 3-я рота і частка другой, рэшта, пакінутая ў вёсцы разам з абозамі і параненымі, была неспадзявана атакаваная дзвюмя нямецкімі ротамі. На шчасце нашыя мелі ЦКМ і хутка зрэагавалі. Пад прыкрыццём ЦКМ-аў пайшлі ў атаку. Немцы мелі, аднак, перавагу. На наш агонь адказалі з гранатамётаў. Трэба было адступаць, як найспешней. Ляжаўшы на возе паранены "Мацек" загадаў адступаць. Немцы лупілі без перапынку, стараючыся адначасова атакаваць узгорак, папярэдне заняты нашымі. Калі ўцякаўшыя фурманкі з польскімі партызанамі дасягнулі другога пад'ёму, сітуацыя паправілася, пачалі падцягвацца пазасталыя плутоны абедзвюх рот, падцягнуўся таксама "Айцец" са сваімі жаўнерамі. Немцы, бачачы вялікае партызанскае згрупаванне затрымаліся, а потым пачалі павольна адступаць. Пакінулі на полі 24 забітых і некалькі дзясяткаў параненых, галоўным чынам пасля абстрэлу нашага ЦКМ-а.

Нашы мелі двух забітых і трох параненых.



***"Баяр", "Ніна", "Раман", камендант "Саблеўскі", "Кавальскі"***

Гудэлях, Пагавянах, Жэмайтуках, Дабраўлянах. У той час таксама пару разоў адведваў нас "Юзаф" у кампаніі сваёй сувязной "Ніны".

У аддзел вярнуліся "тыфознікі". "Аня", якая амаль праз увесь час апекавалася хворымі, таксама прыйшла ў аддзел. Была прыпісана да плутона сувязі, якім камандаваў Стэфан "Белы". Пасля перыяду самастойнай дзейнасці Аня шалёна змянілася. Набралася ўпэўненасці ў сабе, стала вельмі зараднай і прадпрымальнай. Цяпер распачала вандроўкі ў Вільню і назад. Калі з'яўлялася, хлопцы віталі яе сардэчна, хоць і не змянілі сваіх адносін да яе і дакучалі надалей, але хутчэй ужо з прынцыпу, а не са зласлівасці. Зрэшты трэба прызнаць, што "Аня" таксама навучылася агрызацца, і мабыць менш імі праймалася.

Не абышлося пры тым без забаўных інцыдэнтаў. "Аня" заўсёды ўсё ўспрымала сур'ёзна, хлопцаў гэта забаўляла - абманвалі, але часам самі станавіліся ахвярамі сваіх жартаў. Неяк "Ірад" з 2-й роты, хлопец вясёлы і відны, доўга ёй уталкоўваў: "Аня, паслухай, як табе пачынаюць дакучаць і наогул, то ты бі ў морду..." "Аня" спакойна выслухала параду зычлівага прыяцеля і праз пару хвілін, калі той, забыўшыся пра сваю навуку, бесцырымонна абмяркоўваў суразмоўцу, яна не доўга думаючы правяла яе ў жыццё - дала яму ў "морду". "Ірад" аслупянеў.

- Але ж я табе не гаварыў, каб і мяне лупіла.

- А што ты інакшы? - пачуў.

"Ірад" уласна мог бы ўзяць любую тэму для апавядання. Нязвыкла інтэлегентны варшаўскі спрытнюга меў небывалую фантазію і пачуццё гумару. Прымяняў іх зрэшты, дзе ўдавалася. Асабліва любіў выцягнуць на гутарку ксендза "Ору".

- Няхай ксёндз сабе ўявіць, ідзе ксёндз па Навіку, ну і ... - тут прыцішае голас.

**XVI**

Калі 2-я і 3-я роты намаршыравалі на поўнач, 1-я рота 1 траўня досыць фарсаваным маршам таксама намаршыравала на тэрыторыю Віленшчыны. Кватаравалі ў Малынічах, размешчаных адносна блізка ад Вільні. Камендант хацеў завязаць непасрэдны кантакт з кіраўніцтвам Віленскай акругі АК. Аднак пераход наш на тую тэрыторыю не быў узгоднены ні з палкоўнікам "Барсуком", ні з генералам "Ваўком". У сувязі з гэтым выбухнуў скандал, які трэба было праясніць і залагодзіць. Неўзабаве, аднак, удалося нам атрымаць новае прызначэнне. Мы перайшлі пад камандаванне зычлівага да нас генерала "Ваўка", якому Наваградская акруга аказалася падпарадкаваная.

Гэта наступіла трохі пазней, а тым часам 3 траўня ў Малынічы з'ехалася шмат людзей з Вільні, сярод іх быў "Юзаф". Адбыўся вялікі прыём, падчас якога я мусіла выконваць роль гаспадыні (ці кельнеркі). Гасцей не ведала, была злая, што мушу круціцца каля іх у той час, як праз некалькі хат хлопцы наладзілі з нагоды 3 траўня забаву. Нарэшце вырвалася.

У вялікай хаце танцавалі, аж з падлогі трэскі ляцелі. Некатары з хлопцаў рэзаў на акардэоне, здабытым у немцаў у час засады на шашы Ліда-Шчучын і быўшым прадметам зайздрасці 2-й роты, асабліва "Мядзведзя", які самааддана граў на ім, калі толькі мы знайходзіліся па суседству.

Дзеўкі лёталі ў паветры, хлопцы шалелі. Полькі і абэркі паўтараліся да бясконцасці. Патанцавала і я.

Пасля спаткання з віленцамі трэба было зноў вярнуцца на тэрыторыю Наваградскай акругі. Перайшлі зноў у раён Суботнікаў. Кватаравалі тады ў



***На кватэры - "Кнышняк", "Памажак", "Паланецкі", "Атаман", "Р-8", "Давейка"***



***На пастоі ў Гудэлях - "Янка", "Аня", "Яцак", "Папай", "Ірад", "Завіша", "Джэк"***

- Ну і што? - пытаецца ксёндз "Ора".

- Ну і глядзіць ксёндз, а тут перад ім ... - "Ірад" зноў таямніча моўкне.

- Што? - чуецца пытанне.

- Перад ім голая жанчына. І што ксёндз на тое?

- Што я маю на тое? - бурчыць ксёндз "Ора", адчуваючы што даўся злавіць сяб на жарт.

- Эт, - "Ірад" махае рукой з пагардай, - што там ксёндз ведае - Новік, голая жанчына...

- А табе па галаве толькі глупствы ходзяць, - нярвуецца ксёндз.

Такіх і падобных гутарак было без ліку.

Пад Суботнікамі спыніліся ў вёсках, размешчаных па абодвых баках малой рэчкі, у катлавіне сярод лясоў. Былі гэта Гудэлі і Пагавяны. Абодва берагі злучала вузкая кладка, перакінутая паблізу старога млына. У адной вёсцы кватаравала 1-я рота, у другой - штаб і жаўнеры 2-й і 3-й роты, якія не пайшлі з "Ваўкавыскім" на поўнач.

Прыблізна ў гэты час Стэфан "Белы" і "Славік" з плутонам "Градняка" зрабілі акцыю на банк у Лідзе. Прывезлі пару мяшкоў грошай. На тым самым возе прыехаў касір банка з сям'ёй, якімі пасля акцыі трэба было апекавацца.

Грошы былі розныя: рублі, остмаркі, маркі, у тым ліку шмат дробных. Частка была перададзена камандаванню Акругі, частка - у Варшаву, дробнымі выплацілі нам жалаванне. Радасць была нямераная. Размяшчаючыся каля Суботнікаў, у якіх мы маглі бываць без боязні правалу, амаль усё мы патрацілі на слодычы і папяросы. Найвялікшым прысмакам былі "кароўкі".

Мы тады часта ездзілі ў Суботнікі. Прыемна было адведаць сям'ю доктара Я., правесці ў іхнім доме некалькі хвілін, якія вярталі нас у даўні, сёння ўжо не рэальны свет. Акрамя візіту да іх я заходзіла ва ўсе крамы, купляючы ўсё, што толькі ўдавалася з яды. Крамнікі прапаноўвалі розныя слодычы, у першую чаргу натуральна ўлюбёныя намі "кароўкі". Мы папаўнялі ўсялякія недахопы ў рацыёне, папаўнялі недахоп цукру ў арганізмах.

У першай палове траўня ў батальён прыйшоў "Буль". Быў студэнтам медыцыны, але ў нас быў намінаваны на доктара. Быў прыпісаны да штаба. Я была вельмі задаволена з яго прыбыцця. Нарэшце скончылася пакутная і для мяне, і для хлопцаў сітуацыя. Калі я, абсалютна не маючы паняцця пра "мужчынскія" хваробы, часта мусіла "паглядзець, што з ім" і ставіць дыягназ: хворы-здаровы, з'яўленне лекара-мужчыны было прывітана з агульнай палёгкай і ўхвалай. У супрацьлегласць да "Крэчатава" адносіны паміж намі склаліся з мейсца на грунце "пакту ўзаемнай дапамогі і неўмяшальніцтва".

15 траўня спаткала мяне неспадзяванка. Хлопцы не толькі памяталі пра мае імяніны, але і гучна іх падрыхтавалі. Узлятала ў паветра падкіданая без літасці, "каб добра сабе запомніла, якія мела імяніны". Потым быў выдатны, можна нават сказаць, раскошны абед з куранятамі, салатай з агуркоў і "аэрабімбрам", прыгатаваным у некалькіх вёдрах. Майстрамі цырымоніі былі "Кавальскі" і "Раман". Закускі і напіткі былі цудоўныя - таму настроі былі таксама выдатныя. Доўга разлягаліся па вёсцы нашыя партызанскія песенькі, адбіваючыся рэхам ад зялёнай сцяны лесу. Найгалосней запяваў наш ротны запявала "Мацек" (РКМ-іст). Нарэшце скончыліся песні, скончыўся бімбар, тады "Атаман" - камандзір коннай выведкі - крыкнуў да свайго прыбліжанага: "Валерык, за мной!", - сеў на каня і абавязкова хацеў яго прымусіць прайсці па вузкай кладцы на рэчцы. Конь рашуча не меў ахвоты,



***Сяброўскія жарты - "Самбор", "Мацек", "Кшышняк", "Джэк"***

у выніку чаго перабраліся цераз рэчку, “як уланам належыць” - уплаў.

“Ірад” намагаўся давесці “Ані” свае гарачыя пачуцці скачучы з млынавага кола ў раку. Вада была досыць мелкая, і скок амаль не скончыўся разбіццём



***“Юр”, “Баяр”, “Жэгота”***



***“Пратазы”, “Розга”, “Юр”***

галавы, але каханне было задакументавана. Як “Аня” зрэагавала на тое - не ведаю. Аддзелавыя плёткі маўчаць на тую тэму.

Жыццё ішло пагоднае. Хвілямі чалавек нават забываў пра вайну. Час быў прыгожы. Ксёндз “Ора” пад прыдарожным крыжам адпраўляў травеньскае набажэнства. Рэха несла далёка па лугах і палях: “Хваліце лугі ўмаёныя...”. У нядзелю ксёндз “Ора” гаварыў падчас святой імшы казанне. Гэта нічога, што ў запале красамоўства партрафіў сказаць пра святога Андрэя Баболю: “І адрэзалі яму рукі, а ён нічога, і адрэзалі яму галаву, а ён нічога!” Апусціўшы тыя аратарскія ляпсусы, якія будзілі сярод жаўнерскай брацці шмат радасці, ксёндз “Ора” гаварыў ад сэрца да сэрца. Узрушаў. Гэта было вельмі патрэбна ў суровым, прымітыўным свеце, у якім мы жылі. Важна было, што нехта згадваў пра справы духу. Мала мелі на іх часу, але, дзякуючы ксендзу “Ору”, гвалтам прарываліся яны ў нашыя сэрцы.

Каля 20 траўня вярнулася з Віленскага рэйду 2-я рота. Не прыйшоў аднак з імі “Мацек” - паранены ў нагу, застаўся ў шпіталі.

27 траўня, угодкі бітвы пад Далекім, стала нашым батальённым святам. Год. Так мала і так многа. Мімаволі большасць тых, хто прыйшоў яшчэ з-за Буга, аглядалася назад, лічачы, хто застаўся. Цяжкая і крывавая была нашая дарога на Віленшчыне. Аднак акрамя ўспамінаў пра палеглых сяброў і таварышаў мы жылі сённяшняй хвіляй. Перш за ўсё так лёгка зарабіць “у лоб”. Прыказка “Сёння жывеш, заўтра гнієш” была сярод нас роўна і папулярнай, і праўдзівай. Але мы не хацелі тым пранікацца. Маладосць не верыць у смерць. Калі спатыкаешся з ёй лішне часта, пачынаеш па-просту не моцна на яе зважаць.

Год партызанкі, для многіх маіх таварышаў з роты болей. Зрэшты справа не ішла пра прабыты час, а пра тое, што мінуў яшчэ адзін год, што пачынаўся наступны. Які будзе? Ці хутка скончыцца вайна? Як скончыцца? Як пойдзе нашае жыццё, калі выжывем? Поўныя веры і надзеі, былі перакананыя, што вернемся ў Варшаву, а там “алеямі рад за радам пройдзем слаўным парадам...”. Будуць нас вітаць сардэчна, будзе шмат радасці...

26 траўня рушылі ў Сурвілішкі. Размясціліся ў вялікай, прыгожай школе, а таксама ў некалькіх суседніх дамах. Ужо вечарам таго дня пачалі да нас сцягвацца госці з Вільні і сяброўскіх аддзелаў.

Назаўтра рана адбылася палявая імша, адпраўленая ксендзам “Орам”, які прамовіў поўнае жару, патрыятычнае казанне. У час святой імшы хлопцы спявалі. Пакуль былі гэта касцельныя песні, усе стаялі спакойна, але калі з грудзей шасцісот чалавек, пастаўленых чатырохвугольнікам, паплыла свежа прывезеная песня “О, Божа, каторы ёсць на небе... да вольнай Польшчы нам вярнуцца дай...”, а потым, калі разлеглася: “Божа, штосьць Польшча”, сярод гасцей пачаўся рух, па многіх тварах пацяклі слёзы, чуваць быў плач. Нейкая пані млее, нехта іншы хапаецца за сэрца. Я бегаю паміж імі, падношу кроплі, ратую. Узрушэнне надзвычай моцнае, пераскок з акупаванай Вільні ў

партызанскую рэспубліку раптоўны і звыш нечаканы. Даўно ўжо скончылася святая імша, даўно адгучала палымянае казанне ксендза "Оры", а многія віленцы ўсё не маглі супакоіцца.

Потым распачаўся парад батальёна. Прымаў яго камендант разам з гасцямі. Прайшла наша рота са "Шчэнсным" на чале - замыкаў яе плутон ЦКМ-аў з Сіўкам, які вёз на тачанцы "максіма"; прайшла 2-я рота "Яцка", 3-я рота "Альгерда", конная выведка пад камандаваннем "Атамана" і сувязь пад камандай Стэфана "Белага" - пару соцень узброеных на славу хлопцаў. Было на што паглядзець.



***Шыхтовы агляд 1-й роты***

Пазней адбыўся ў лесе ўрачысты абед. Падымалі тосты, спявалі, рабілі здымкі на памяць. Настрой быў пагодны, і мы былі поўныя надзеі. Немцы атрымоўвалі ў косці...

Вечарам штаб, камандзіры рот, афіцэры і віленскія госці былі на багатай вячэры ў блізкім Жэмаславе.

Праз пару дзён кватаравалі мы ў Трабах. Гэта была ўжо не вёска, а дастаткова вялікае, размешчанае ў катлавіне паміж узгоркамі мястэчка. Стаялі там пару дзён, гасцінна прыманыя жыхарамі.

У першыя дні чэрвеня 3-я рота мела атрымаць баявое хрышчэнне. Пайшлі на Вікшняны, каб выцяць на нямецкі пастарунак. Мы мелі іх прыкрываць. Сталі перад чыгункай ў невялікім дворыку і чакалі на магчымы сігнал уступлення ў акцыю. Працавалі сувязныя. У доме быў патэфон і пласцінкі. "Градняк" арганізаваў танцы, мы абстаўленыя дазорамі і прыкрытыя 3-й ротай, танцавалі.

Нарэшце прыйшла вестка: б'юцца. Нярвовая напруга не дазваляла сядзець спакойна. Адны стаялі на ганку, углядаючыся ў "сінюю даль", як бы цераз лес маглі ўбачыць, што там робіцца, іншыя кружылі па садзе, пару чалавек танцавала. Неўзабаве трывога. Ідуць.

Акцыя, безумоўна, удалася. Немцы не даліся застаць сябе знянацку, як спадзяваліся, але разгубленасць была. Толькі "Баяр" паранены. Поўныя бадзёрасці, задаволеныя са зробленай немцам "неспадзяванкі" ішлі жаўнеры 3-й роты пры возе "Баяра", які не траціў аптымізму. Санітарка "Бася" таксама круцілася каля яго. "Баяр" крывіўся, што так ідуць за возам, як за катафалкам. Кажа спяваць. Далучаецца плутон "Градняка". З месца пачынаюць: "Зелянеюць Саскія кушчы", прыходзяць "Ночы, якіх шкада змарнаваць", нарэшце разлягаецца "Гімн" плутона, які з погляду на прысутнасць жанчын амаль цалкам спяваўся мармытаннем.

Хлопцы, гарлапанячы адзін перад другім, выбіраюць што раз больш непрыстойныя песенькі - то "Мікалаек", то "Чэрвень", то нарэшце "Я кахаю Лявонка". "Баяр" задаволены - усе развесяліліся. Здаецца, ніхто не памятае, што яшчэ гадзіну назад кулі свісталі ім над галовамі, што маглі ў любую хвіліну атрымаць у лоб. Што тут, зрэшты, гаварыць - тое, што пасля цяжкіх хвіляў патрафлялі спяваць і выдурняцца, было нашай сілай.



***Перапынак ў занятках***

## XVII

Пасля Вікшнякоў паступіў кароткі перыяд цішыні. Усе тры роты выкарыстоўвалі яе на падрыхтоўку людзей і матэрыяльнай часткі да новых спраў. У той час роты кватаравалі недалёка адна ад другой. У першай палове чэрвеня з'явілася прапанова правесці акцыю, якая б дазволіла канчаткова даўзброіць увесь батальён. Вырашылі выцяць на так зв. шутцпункт у Дворышчы, які кантраляваў рух па дарозе паміж Лідай і Вільняй.

Пастарунак быў добра ўмацаваны, яго залога налічвала каля пяцідзесяці добра ўзброеных жаўнераў. Над навакольнай мясцовасцю панавала высокая назіральная вежа з кулямётным "гняздом". Быў гэта вельмі дакучлівы пункт як для мясцовай людпасці, так і для кружыўшых у ваколіцы партызанскіх аддзелаў. Каб выцяць днём, патрэбны былі аўтамабілі і нямецкае абмундзіраванне.

З тым апошнім не было лішняга клопату. У роце знайходзілася шмат розных частак абмундзіравання, з якіх можна было скамплектаваць патрэбную вопратку. Горш уяўлялася справа з аўтамабілямі. Іх здабыццём меў заняцца "Славік" з плутона сувязі, які добра ведаў ваколіцы Ліды. Заданне выканалі два патрулі пад яго кіраўніцтвам - нямецкія аўтамабілі прыгналі ў батальён. Адзін з іх безперашкодна праехаў нават цераз усю Ліду і амаль не стаў з усім экіпажам ахвярай нашага добра ахоўванага аддзела. Пост 1-й роты, бачачы пад'язджаючы нямецкі аўтамабіль, прыняў яго выстраламі. На шчасце не было ахвяр, толькі трохі страху, а потым смеху.

Былі ўжо два аўтамабілі, былі мундзіры. Неўзабаве паступіў вынік выведкі праведзенай Стэфанам "Белым" з пасярэдніцтвам "Зоі", уладкаванай на кухню пастарунка ў Дворышчы ў якасці памочніцы кухаркі. Для акцыі быў прызначаны плутон "Пратазага" з 1-й роты, а таксама па адным плутоне з 2-й роты, і 3-й роты. Акрамя таго некалькі чалавек вызвалася на ахвотніка. Усім камандаваў "Яцак". Меў у распараджэнні сорак чалавек. Палова мела аўтаматычную зброю.

Нядзельнай раніцай тры аўтамабілі, якімі кіравалі "Славік", "Мядзведзь" і "Эрык" у нямецкіх мундзірах (з боку ад іх сядзелі "Папай" і француз "Роберт" - таксама пераапранутыя ў немцаў) спакойна і без перашкод заехалі пад шутцпункт. У аўтамабілях жаўнеры 1-й і 2-й роты. Аўтамабіль Эрыка з 3-й роты недзе ўграз па дарозе і ў час не прыехаў. Меў прыкрываць, чакаць на іх было немагчыма - "Яцак" вырашыў праводзіць акцыю без баявога забеспячэння.



***Жаўнеры плутона сувязі перад акцыяй на Дворышча - "Славік", "Ярак", невядомыя***

Аўтамабілі спыніліся памылкова не перад галоўнымі варотамі, а перад вузкім праходам. Вартавыя пры браме не рэагуюць на іх прыезд, перакананыя, што гэта свае. Але яшчэ трэба пранікнуць унутр. У той момант з праходу паказваецца камендант шутцпункта з нейкім жаўнерам - нашы карыстаюцца з сітуацыі, раззбройваюць іх і ўрываюцца праз праход унутр вартоўні. Нечаканасць поўная. Немцы зусім здэарыентаваныя.

Нашы пачынаюць дзейнічаць згодна з устаноўленым планам. "Тжаска" і "Кнышыняк" бягуць да вартавой вежы. "Ямёля" ўзбіраеццца на плот і пераразае тэлефонныя драты. "Віхар", "Пратазы" і "Розга" абстрэльваюць вокны будынка. Немцы пачынаюць арганізоўваць абарону. Вартавы, які стаіць на вежы, не гледзячы на тое, што бачыць, што робіцца, не можа зрэагаваць, паколькі атакоўцы залішне блізка, а значыць па-за зонай абстрэлу. Хутка забягае туды "Тжаска" і раззбройвае яго. У дадатак - згодна з традыцыяй - загадвае яму распрануцца да гала.

На падворак галоўнага будынка праз праход ва ўмацаваннях ускаквае рэшта партызанаў. У тую самую хвілю немцы пачынаюць абстрэльваць нашых з вакон другога паверха. Сітуацыя робіцца крытычнай. Жаўнеры хаваюцца, падаюць на зямлю, "Дамброва" кідае гранату праз акно ўнутр будынка. Немцы адкідваюць яе проста пад ногі "Збыха", які б'е яе, як футбольны мяч, кіруючы ў бок дзвярэй, што вядуць углыб будынка. Граната ўзрываецца. Дзверы часткова вывалены, з-за іх выглядае руля ЦКМ-а. Нашы захоплены знянацку - выведка гаварыла толькі пра адзін (потым справа высветлілася - другі ЦКМ прывезлі за дзень да таго з Ліды). З'яўляецца апасенне, што трапяць пад яго абстрэл.

Тым часам "Маруда" прабіраецца пад сцяну і цераз акно зноў укідвае гранату і адначасова "Пратазы" ўрываецца ў будынак і, забегшы страляўшым у тыл, абяшкоджвае іх. З замяшання, выкліканага гранатай "Маруды" і чэргамі "Пратазага", карыстаюцца астатнія партызаны, якія ўжо без цяжкасці пранікаюць унутр. Яшчэ кароткая перастрэлка, і немцы здаюцца. Выведзеныя на двор, мусяць палегчы покатам у два рады тварамі ў зямлю. Пільнуюць іх два жаўнеры. Рэшта займаецца праверкай і падрыхтоўкай здабычы да транспарціроўкі.

У той самы час аддзяленне "Момуса" захоплівае гаспадарчыя пабудовы. Тут таксама не адбываецца без кароткай перастрэлкі, але жандармы хутка адмаўляюцца ад абароны і здаюцца.

Уся акцыя трывала максімум 25 хвілін, значна даўжэй укладвалі на аўтамабілі здабытую зброю і правіянт. А найдаўжэй прымушалі рухацца транспарт са здабычай. Апрача тых, якімі прыехала група "Яцка",

нашы мелі яшчэ аўтамабілі і матацыкл, здабытыя ў Дворышчы. Нарэшце калона паволі рушыла. Можа, праз паўгадзіны над галовамі нашых завурчаў выведвальны самалёт. Належала чакаць пагоні. Трэба было ўжо ехаць асцярожней, а адначасова старацца адысці ў тыя мясціны, куды немцы неахвотна заглядвалі, ведаючы, што можна наткнуцца на вялікія партызанскія сілы. Пад вечар калона насуперак усім апасенням без перашкод дабралася да Сурвілішак.

Наступным ранкам "Яцак" з "Марудам" прыехалі ў штаб, які кватараваў разам з намі, далажыць пра выканане задання. Потым далучыліся астатнія таварышы.



*Камендант "Саблеўскі" ў здабытым лазіку пасля акцыі ў Дворышчы*

Захоп Дворышча і раззбраенне яго залогі нарабіла шмат шуму: адны гаварылі пра тое з захапленнем спраўнасцю і баявым запалам "варшавякаў", іншыя зайздросцілі іхняму вычыну. Немцы адразу ўзмацнілі свае пазасталыя пастарункі. Усе былі задаволены той акцыяй - мы не мелі ніякіх уласных страт, затое шмат здабычы, перш за ўсё боепрыпасаў, якіх заўсёды было замала. Мы таксама вельмі ганарыліся здабытымі аўтамабілямі:

Камендант пачаў цяпер ездзіць на "лазіку".

На працягу найбліжэйшых дзён нашыя роты зноў расцерушыліся па розных мясцовасцях. Мы павандравалі ў бок Суботнікаў. Кватэры занялі ў Жамайтуках.

Хлопцаў агарнуў баявы запал. Дзень у дзень у розныя мясціны выходзілі патрулі, маючы на мэце перш за ўсё здабыванне аўтаматычнай зброі.

Чыгункі пастаянна патруляваліся немцамі, якія ахоўвалі бяспеку транспартаў. Тыя ўласна, добра ўзброеныя падраздзяленні, сталіся мэтай вылазак спецыяльных аддзяленняў. Асабліва спецыялізаваўся на тых вылазках "Градняк". За яго прыкладам пайшлі іншыя, таксама паручнік "Людвік". Той афіцэр БІП-у, прысланы ў нас на кароткі побыт, цалкам зрадніўся з нашай ротай. Мы ўсе яго вельмі любілі. І я любіла з ім пагаварыць, асабліва, калі дагаварыліся, што адначасова былі ў Радзыню - "Людвік" быў звязаны з тамтэйшым падполлем.

Ад яго я даведалася, што гэта якраз яму падначаленая ячэйка АК атакавала вязніцу ў Радзыню ў наступную ноч пасля сутычкі пад Тлусцем, у якой загінуў Збышак. Расказаў мне таксама, што мясцовыя ўлады АК правялі дазнанне ў справе даносу пра прыезд "Мацька", Адама і Збышка. Як вядома, закончылася гэта боем з нямецкімі авіятарамі і смерцю Збышка. Авіятараў наслаў на іх солтыс з Лукавіскаў, які выракам суду Падпольнай Польшчы быў прыгавораны на пакаранне смерцю. У баі з трыма хлопцамі загінулі тры авіятары, а пару было паранена. "Людвік" распавёў таксама пра вырак выкананы адносна фалькедойча Дыкофе, аднаго з найгоршых катаў гестапаўскіх у Радзыню, які быў застрэлены мясцовай экзекуцыйнай ячэйкай АК пад час праезду аўтамабілем.

Калі "Людвік" з "Віхрам" і сваім плутонам пайшлі на чыгунку, знерваваныя нашымі пастаяннымі вылазкамі немцы падрыхтавалі засаду. Завязаўся бой. Адзін з нямецкіх жаўнераў кінуў гранату. На жаль, трапна. Асколкі патрапілі ў "Людвіка" і забілі яго. Папярэднія вылазкі праходзілі так безбалезненна, што бой і смерць "Людвіка" сталіся для нас усіх нечаканасцю. Былі ўражаны. Людвік быў пахаваны ў Суботніках. Як адзін з нямногіх меў прыгоджае партызанскае пахаванне. Удзельнічалі ў ім таксама мясцовыя людзі. Але якая яму з таго карысць? Лепш бы жыў. Смутна было без "Людвіка", без яго лагоднай усмешкі і жартаўлівых заўваг.

Пасля смерці "Людвіка" на пэўны час спынілі вылазкі на чыгунку. Вандравалі на "нашай" тэрыторыі. Было прыгожае, сонечнае лета. Прыемна было кватараваць над рэчкамі, ляжаць на лузе і загараць. Але перыяд адпачынку і бяздзеяння трываў коратка. Рух нямецкіх войскаў станавіўся што раз больш ажыўленым. Ліквідавалі пастарункі - усе немцы ехалі на фронт. Па чыгуначны каляях днём і ноччу дуднілі цяжка нагружаныя цягнікі. Чыгуначныя і шашэйныя дарогі цяпер што раз мацней ахоўваліся. Шашэйнымі дарогамі на ўсход і захад ішлі вялікія калоны аўтамабіляў. На іх таксама канцэнтраваліся ўсе нашыя інтарэсы.

Мы круціліся, бесперапынна змяняючы месца пастою, па тэрыторыі паміж Ліпнішкамі, Трабамі, Суботнікамі і Сурвілішкамі. 30 чэрвеня кіраўніцтва атрымала вестку, што ў Бакшышках, адносна недалёка ад месца нашага пастою, затрымаўся ў дарозе на Юрацішкі нямецкі аддзел - рота жандармаў разам з абозамі. Мы атрымалі загад на хуткі марш. 1-я рота наносіла ўдар на левым крыле. 2-я рота напірала на вёску з другога боку. Не гледзячы на тое, што выцялі днём,

немцы не хацелі прымаць бою. Пачалі адступаць у бок Юрацішак, пакідаючы частку абозаў разам з рыштункам.

Дайшло аднак да перастрэлкі, у час якой "Ямёла" быў паранены ў нагу. Зачапіла костку. Перавязанага памясцілі на трафейны воз, забіраючы яго з зоны абстрэлу. Бой, зрэшты, трываў вельмі коратка. Мы не даганялі ўцекачоў. Адно толькі "Атаман" са сваёй коннай выведкай узяў каля дваццаці немцаў у палон. У вялікім гумне мы знайшлі прыгожа паўкладаныя ранцы са змесцівам, ад якога нам вочы разбегліся! Брызентавыя прашч-палаткі, камуфляжныя курткі. Сеткі ад камароў, папяросы, шакалад, кансервы і да таго падобныя прысмакі. Мы былі захоплены тым нечаканым дадаткам да правіянту.

Разам са здабычай мы адступілі з Бакшышак у бок Трабаў. Мы былі, мабыць, недалёка ад будучага месца пастою, калі прыйшло паведамленне, што Трабы занялі немцы. Былі гэта дзве роты ягдкаманды, якія ішлі з Гальшан у Юрацішкі, каб там сесці на цягнік. Тут затрымаліся толькі на ноч. Вестка пра заняцце "нашага" мястэчка выклікала агульны пад'ём. Паміж нашым кіраўніцтвам і кіраўніцтвамі іншых паблізу размешчаных батальёнаў пачалі кружыць верхавыя ганцы. Рашэнне на атаку непрыяцеля прыйшло хутка.

**XVIII**

Удар 1 ліпеня на размешчаныя ў Трабах войскі быў сур'ёзнай акцыяй. Меліся сутыкнуцца з жаўнерам франтавым, спецыяльна абучаным для барацьбы з партызанамі. Былі яны добра ўзброены, ведалі, што знайходзяцца на тэрыторыі, апанаванай польскімі партызанскімі аддзеламі, таму належала разлічваць, што выставяць моцную ахову. Трабы ляжаць у катлавіне паміж узгоркамі па абодух берагах рэчкі Клявы. Немцы, займаючы мястэчка, устанавілі на пануючых над ваколіцай узгорках пасты, узброеныя цяжкімі кулямётамі.

У атацы на Трабы мелі ўзяць удзел акрамя нашых трох рот - адна рота "Здроя" з VI батальёна 77 пп АК і рота "Бартка" з I батальёна 77 пп АК.

Акцыя мела распачацца ноччу. Не гледзячы на стому пасля сутычкі ў Бакшышках, ніхто не думаў пра адпачынак. Хлопцы старанна рыхтаваліся да бою. Чысцілі зброю, перавязвалі ногі перад доўгім маршам. Настрой узрушэння не дазваляў нікому прыплюшчыць вока. У штабе таксама панаваў рух. Афіцэры дэбатавалі над найлепшым правядзеннем бою.

Фактам было, што немцы мелі вельмі добрыя пазіцыі, што ўстаноўленыя на узгорку кулямёты дасканала іх прыкрывалі, таму атаку належала праводзіць хутка і безпамылкова. Наносіць удар павінна была нашая, г. зн. 1-я рота. 2-я рота павінна была абысці дугой Трабы і прыкрываць нас з боку Юрацішак, у якіх размяшчаўся вялікі нямецкі гарнізон. 3-я рота і конная выведка мелі застацца ў рэзерве. 1-я рота "Бартка" з 1-га батальёна "Зыха" мела падтрымаць агнём мінамётаў удар нашай 1-й роты. "Здрой" з 1-й ротай з батальёна "Паля" (VI батальён 77 пп АК) меў падтрымаць акцыю з усходу на нямецкіх тылах і ў залежнасці ад ходу бою ўключыцца ў справу.

Каля першай гадзіны наша рота заняла зыходнае становішча: на левым крыле плутон "Градняка", пасярэдзіне плутон "Пратазага", на правым крыле плутон "Віхра". Плутон ручных кулямётаў з "Раманам" і "Крапідлам" меў прыкрываць з боку Гальшан і ўвайсці ў акцыю ў другім эшалоне. Штаб з камандзірам на чале стаяў на недалёкім узгорку, адкуль меў добрую зону агляду.

За акцыю адказны быў "Шчэнсны", бо на нашай роце ляжаў увесць цяжар удару, праводзімага, зрэшты, паводле плану "Шчэнскага".

Пасля разведкі "Шчэнсны" загадаў вызначаным плутонам як найцішэй падцягнуцца пад мястэчка. Справа ішла пра тое, каб аказацца як найбліжэй да нямецкіх пазіцый без выклікання заўчаснай трывогі, якая зрабіла б немажлівай нечаканасць. Цемра ночы была нашым саюзнікам.

Частка плутона "Градняка" - пад кіраўніцтвам "П-8" - мела націскаць з боку забудоваў да касцёла, другая - з "Градняком" - мела прайсці цераз русла Клявы і выцяць на немцаў з боку.

Плутон "Пратазага" атакаваў пасярэдзіне. "Шчэнсны" ішоў з імі. "Віхар" са сваім плутонам, ідучы на правым баку, меў узмацняць удар "Пратазага" і адначасова нішчыць па дарозе магчымыя нямецкія пасты. Ліквідацыяй кулямётнага гнязда, якое знайходзілася на ўзгорку, мела заняцца аддзяленне "Бронка" з плутона "Пратазага".

Жаўнеры ў цішыні выконвалі заданне "Градняк" са сваімі людзьмі двухкратна перайшоў уплаў Кляву. "Пратазы" і "Віхар" пасоўваліся што раз бліжэй да могілак і ў кірунку касцёла. Неспадзявана за дзесяць хвілін перад устаноўленым часам атакі раздаўся стрэл. "Дамейка" пры пералазе цераз плот зачапіўся за спуск "самазарадкі" і выпаліў. Гэта сталася сігналам да акцыі.

На ўсёй лініі разлегліся стрэлы, і адначасова ўсе крыкнулі: "Гура". Тут жа раздаліся глухія выбухі мін з мінамётаў. Рота пайшла ў атаку. Разшалеўся агонь. Бо немцы, не гледзячы на нечаканасць, з месца арганізавалі абарону.

Калі прагучалі першыя стрэлы, я стаяла на ўзгорку пры плутоне "Рамана", чакаючы на загад уваходу ў акцыю другога эшалона. Перад вачыма ў мяне разгаралася феерыя рознакаляровых агнёў - гэта асвятляльныя ракеты рысавалі на небе найдзіўнейшыя зігзагі. Гук станавіўся што раз мацнейшым. У першую хвіліну "Раман", "Крапідла", "Яблонскі" і "Мацек" падхопліваюцца і бягуць уніз да тых, хто вядзе бой. Я бягу таксама. Пруць аднак вельмі хутка, я не паспяваю за імі, застаюся ззаду.

Унізе, каля касцёла віруе бой. Ужо занятыя могілкі, ужо ўзрываюцца гранаты ў доме арганіста, які гарыць, асвятляючы бліжэйшыя збудаванні і касцёл ясным бляскам. "Козіц" з "Зарэмбам" захопліваюць гарматку.

Наймацнейшы супраціў немцы арганізуюць пры касцёле, адстрэльваючыся вельмі густа з адхону,

які знаходзіцца на правым баку дарогі, трохі за касцёлам. У пэўную хвілю пёршы наперад плутон "Віхра" мусіць затрымацца - рота "Здроя", якая абстрэльвала з ЦКМ-аў абараняўшыхся немцаў, адначасова затрымвае і атакуе польскіх жаўнераў. Праз некаторы час сітуацыя праясняецца, і нашы могуць пайсці ў атаку.

Адбывалася гэта ў незвычайным сугуччы выстралаў, крыкаў, праклёнаў. У пэўную хвілю я вырашыла, што згубілася. Кожны недзе бяжыць, крычыць, страляе - а я? Зусім не ведаю, што трэба рабіць. Выпала з рытму бою.

Злая і разгубленая ў агульным віры, затрымалася і прысела на камені на пэўнай адлегласці ад касцёла і нечападзявана праз хвіліну стала назіральніцай таго, што адбывалася. А від быў фантастычны. Асвятляльныя кулі, палаўшыя дамы, рознакаляровыя ракеты і чорныя, ашалелыя, бегаўшыя ў іхнім святле людзі стваралі карціну, якую можна было параўнаць толькі з выявай пекла.



*Плутон коннай выведкі, першы злева - "Атаман"*



*Плутон ЦКМ-аў - раён Сурвілішак, канец траўня 1944 г.*

Не ведаю, як доўга сядзела. У баі, нават, калі яго толькі назіраеш, так як я тады, час становіцца невымерным. У пэўную хвілю пачула: "Санітарка!" Не ўсвядамляючы, што гэта як раз сведчыць, што нехта паранены, а можа нават забіты, абрадавалася - нарэшце ўспомнілі пра мяне, нарэшце патрэбная. Сарвалася і пачала бегчы ў кірунку голасу. А крык станавіўся што раз больш настойлівы.

- Зоха! Зоська! Санітарка! - разляталася паміж выстраламі.

Суправаджалі гэта "вязанкі лаціны", скіраваныя ў мой адрас, якія амаль заглушалі стрэлы. Бегла, не звяртаючы ўвагі на ваяваўшых, пытаючыся па дарозе, хто паранены.

Нарэшце даведалася ад некага: "Градняк" паранены.

- Дзе?

Кожны паказваў мне ў іншы бок. Абсыпаная праклёнамі, сама клянучы на роўні з імі, прабегла падворак, шукаючы праненага. Нарэшце знайшла. Ляжаў сярод платоў, пад домам, недалёка ад рэчкі. Кленчыла пры ім пару таварышаў, намагаючыся зрабіць перавязку, была таксама пры ім "Аня" (якая ішла з яго плутонам у атаку). Укленчыла і я. Нельга было траціць часу.

Тут ужо справа ішла не пра ногі, а пра жыццё, якое разам з крывёй выцякала са Збышка. Косці на абедзвюх нагах былі патрушчаны. Абедзве нагі трымаліся на кавалках непарушанага цела. Падавалася, што хопіць большага ножыка, каб можна было адцяць тыя, матляўшыяся ва ўсе бакі крывавыя абрыўкі. Правізарская перавязка - унерухоменне на карабінах.

- Воз, воз - адразу за лінію абстэлу!

Пакуль прыехала фурманка, я налаялася, як шавец. Нарэшце ўлажылі параненага. Бой працягваўся, кулі свісталі над галовамі. Выехалі за мястэчка - Збышак шалеў, трэба было яго моцна трымаць, каб не зляцеў. На шчасце быў са мной стары, вытрыманы санітар, яшчэ з папярэдняй вайны. Ехалі, выглядваючы адпаведнае месца, для правядзення лепшай перавязкі. І - о, радасць - знаходзім свежа будаваны драўляны дом і латы, тонкія дошчачкі, Санітар падрыхтаваў лубкі - паволі, без спешкі, ужо як належыць перавязаныя ногі паклалі ў лубкі. Тут неабходны быў хірург.

Аднаго з хлопцаў паслалі на пошукі "Буля", які павінен быў знаходзіцца недалёка пры штабе. Сама я засталася з параненым, які пастаянна стагнаў, і пульс станавіўся што раз слабейшыя. Стан быў вельмі цяжкі - праз пэўны час мы спынялі воз, і я рабіла ўколы.

Нарэшце дабраліся да нейкай вёскі. Тут стаяла



***Плутон "Людвіка"***



***Плутон сувязі***

- Здровась Марыя...

Раблю яшчэ адзін укол. Гэта ўжо апошні. І раптам цела канаўшага пачало траціць сваю выцягнутасць. Пачало вяртацца дыханне. Вяртаўся пульс. Праз пару гадзін змагання жыццё перамагло. Ніякі лекар не прыехаў. Але пакуль Збышак жыў. Вечарам паклалі яго на воз і рушылі ў Сурвілішкі, дзе кватараваў батальён. Пасля прыезду я зрабіла пякельны скандал "Булю", так, як бы гэта магло дапамагчы "Градняку", Ноччу пранены быў дастаўлены ў шпіталь ў Дзевінішках, потым перавезлі яго ў Вільню.

Бой у Трабах працягваўся далей. Яшчэ трэба было здабыць вышыню, з якой адстрэльваліся немцы, "Шчэнсны" скіраваў туды ўдар роты. Зноў разлеглася гучнае: "Гура!". "Віхар" на чале свайго плутона дасягнуў вяршыні пагорка. Немцы здаюцца. Выходзяць з імправізаваных акопаў. Некаторыя толькі ў бялізне. Без ботаў, так, як уцяклі з кватэр. У палон узяты камандзір батальёна - капітан і 152 жаўнеры. Частка карыстаючыся цемнатой, вырвалася за мяжу бітвы, частка спрабавала адступіць з мястэчка, але дарогу ім заступіла рота "Яцка". Забітых і параненых з ягдкаманды было дзевяноста і некалькі. Уся акцыя ішла каля гадзіны.

Перамога нашая была бясспрэчная. Страты, як на такі бой, мінімальныя: адзін забіты ў часе атакі - "Чарскі" з плутона "Градняка", цяжка паранены "Градняк" і два лёгка параненыя - "Віхар" у вуха і "Козіц" у руку.

ў рэзерве частка роты "Здроя". Заняліся намі сардэчна, дапамаглі - я зноў паслала ганца па "Буля". Не памятаю, калі з'явіўся пры нас "Яцак" з "Робертам". Збышак то млеў, то шалеў. У пэўны час пачаў сінець і выцягвацца. Тады "Роберт", француз з 2-й роты запрапанаваў, што дасць кроў, каб зрабіць пераліванне. Але пра тое мовы быць не магло - не ведала групы крыві, і абсалютна не было ўмоваў для такога ходу пачынання. Збышак канаў, пульс наогул нельга было адчуць. Выдых? З упартасці можна было сцвярджаць, што люстэрка лёгка запацелае. У надзеі, што можа зараз з'явіцца той доўгачаканы лекар, я рабіла ўміраўшаму ўсялякія ўколы, якія можна было ў такім выпадку прымяніць.

"Яцак", "Роберт" і яшчэ нехта трэці ўцяклі.

- Дай ужо спакой, ён памёр, - пачула.

Нехта пачаў адгаворваць малітву за памерлых.

Здабыта: 1 гарматка супрацьтанкавая, 2 ЦКМы, 4 мінамёты, 5 супрацьтанкавых ружжаў, 10 РКМаў, 8 аўтаматаў, каля 160 карабінаў, 60 пісталетаў, 20 скрынь гранат, 21 скрыня боепрыпасаў, абозныя вазы, нагружаныя харчамі і іншай вайсковай маёмасцю, як мундзіры, бялізна, боты.

На другі дзень у Сурвілішкі прыехаў камандуючы Акругі генерал "Воўк", які правёў агляд батальёна і павіншаваў камандаванне і жаўнераў з выдатнай акцыяй, адной з найбуйнейшых і з найспраўней праведзеных на абшары, яму падначаленым.

Такой колькасці трафейнай зброі і боепрыпасаў мы не мелі ніколі, хаця частку трэба было аддаць іншым аддзелам. Нарэшце прыйшоў даўно чаканы момант, можна было зброю выбіраць. Купаліся ў лішку здабычы.

Не ведалі, што рабіць з палоннымі. Хаця немцы



*“Падлясякі”*

вецкіх стала цяпер, у хвілю набліжэння фронту прадметам шматлікіх абмеркаванняў. Мы не ведалі, як яно будзе. Некаторыя думалі, што мы атрымаем загад на барацьбу з расейцамі, іншыя цвярдзілі, што прымусова забяруць нас у савецкая войска і кінуць на першую лінію, як штрафныя батальёны. Яшчэ іншыя меркавалі, што вывязуць нас проста ў Сібір, так як рабілі ў 1939 і 1940 гадах. Дапушчэнняў было без ліку, самых розных і самых фантастычных. Але як тое будзе сапраўды? Пра адно ведалі: біцца з расейцамі ніхто не меў ахвоты - яны таксама ваявалі з немцамі - Таму як? Перашкаджаць ім у тым? Ісці з імі? Такая магчымасць перасягала мяжу ўяўлення. Не было традыцыі сяброўства паміж намі. Антысавецкі комплекс быў укарэнены вельмі моцна, а весткі, якія даходзілі да нас з Налібок, або з далёкай Валыні паглыблялі яго, не напаўнялі даверам.

Камендант у час размоў з намі стараўся ўталкаваць раз не вядома каторы, што ёсць неабходнасць паразумення з савецкім бокам, што гэта вынікае з сітуацыі, у якой мы апынуліся, што праўдай ёсць і тое, што не заўсёды тое жаданне паразумення знойдзе зразуменне з там таго боку, але такая пазіцыя Камандавання АК, такая наша нацыянальная праўда. Мы слухалі тое, што гаварыў камандзір і, не гледзячы на вялікі давер, які мелі да яго, мабыць, не ўсе былі пераканаными.

Прапускаючы міма вушэй аднак тыя ці іншыя настаўленні, наогул ніхто не хацеў паварочваць сваю зброю супраць набліжаўшыхся войскаў. Прагнулі адысці на Падлессе. А там? Там то ўжо неяк будзе... Можа захаваўшы самастойнасць і незалежнасць разам пойдзем супраць немцаў?

Што дзень ішлі такія і таму падобныя размовы. Чакалі на рашэнне каменданта, а ён не мог яго прыняць сам - быў падпарадкаваны ўладам Акругі АК. Нарэшце прыйшло зусім неспадзяванае рашэнне, якое напружаную, поўную неспакою і разладу атмасферу сярод жаўнераў давяло да стану кіпення. Быў гэта загад на марш і ўдар па Вільні разам з іншымі партызанскімі аддзеламі. Дзесяць тысяч чалавек мелі здабыць горад і задакументаваць сваю прысутнасць.

Не раз і не два марылі мы пра вялікую бітву за той горад. Пасля бою ў Трабах, якая па нашым паняцці ўяўлялала сабой свайго роду праверку баявой гатоўнасці, наступленне і бітва за Вільню не падаваліся нам нерэальнымі. Адчувалі сябе ў сілах змагацца і перамагчы. Але цяпер фронт быў тут жа. Немцы канцэнтравалі свае сілы ў Вільні, да якой падходзіла ўжо савецкае войска. Належала прадбачыць, што неўзабаве разыграецца бітва паміж рэгулярнай арміяй нямецкай

з намі ніколі не цырымоніліся, аднак думка пра расстрэл безабаронных была не да прыняцця. З клопату выбавіў нас камандуючы Акругі - узятых у палон загадаў перадаць бліжэй да Ліды для абмену на палітычных вязняў - прыдаліся ўсё ж.

На вызначанае месца адвёў іх "Мацек", які якраз той ноччу вярнуўся са шпіталя з Вільні.

Наступныя дні прысвяцілі на трэніроўку ў стралянні са здабытай гарматкі і на "прывыканне" да новай аўтаматычнай зброі.

## XIX

Немцы адступалі ўжо добра - фронт прыбліжаўся. Ноччу, калі прылажыць вуха да зямлі, чуваць быў глухі гул гармат. Чорнае неба праціналі частыя бліскі далёкіх снарадаў, усход гарэў рознакаляровымі жырандолямі ракет, зарывамі пажараў. На дарогах што раз часцей паказваліся вялікія драбіны, накладзеныя па берагі дабром уцякаўшых ад фронту мужыкоў. За фурманкамі панура цягнуліся каровы, прывязаныя на пастронках, кудахталі ўвязнёныя ў клетках куры. Пры вазах ішлі змучаныя, перапужаныя людзі. Куды? Дзе меў быць канец іхняй вандроўкі?

Мы размяшчаліся ў раёне Трабы-Юрацішкі, калі прыйшоў загад Акругі АК перакінуць аддзел “чырвоных” партызан, якія з боку Рудніцкай пушчы перамяшчаўся ў кірунку фронту. Праходзілі з нашымі праваднікамі, абадраныя, брудныя, зарослыя - выглядалі так сама, як мы пасля прыходу з тэрыторыі “Цыранкі”.

Загад камандавання Акругі АК аб аказанні дапамогі “чырвоным” партызанскім аддзелам пры пераходзе цераз занятыя намі тэрыторыі вынікаў з неабходнасці прыкрыцця іх ад магчымых нямецкіх засад, а таксама для пазбягання канфрантацыі з непапярэджанымі пра той загад польскімі аддзеламі.

Пераход той выклікаў бясконцыя размовы і каментары. Справа ўзаемных стасункаў польска-са-

і савецкай, наш удар, які папярэджваў тое сутыкненне быў для многіх зусім незразумелым. Дадумваючыся да прычын рашэння, многія з нас адначасова не згаджаліся з ім. Хутчэй падсвядома, чым свядома мы адчувалі яго абсурднасць. У аддзеле панавала вялікае знерваванне і ўзрушэнне. Рыхталіся да выхаду і бітвы са змешанымі пачуццямі. Хацелі змагацца, а адначасова прыгнятала нас свядомасць бессэнсовасці таго рыўка. Але загад быў аддадзены. Адмова была раўназначна дэзерцірству. Жаўнеры "Ўдару" не дэзерціруюць. Загад трэба выконваць.

Распачаўся фарсаваны марш - з Сурвілішак да Вільні шмат кіламетраў. Трэба было іх пераадолець на працягу некалькіх дзён. Пасля першага ажыўлення і дыскусій, выкліканых загадам, у аддзеле запанавала ціша. Тыя, якія мелі сумненне, замоўклі, тыя, якія іх не мелі, цешыліся з "вялікай бойкі".

Мы маршыравалі па Чорным тракце. Не былі адны, паблізу рухаліся іншыя партызанскія аддзелы, мы спатыкаліся з імі на пастоях, разміналіся. Ліпеньскае сонца моцна прыгравала. Уначы на ўсходзе відаць было што раз большае зарыва. У вёсках людзі з неспакоем паглядалі на нашую калону, цешыліся, што "столькі польскага войска!". Віталі і праводзілі смеючыся і плачучы. Гаварылі пра свой неспакой і апасенні. Мы былі што раз бліжэй да фронту, пастаянна сустракалі на дарогах вазы з эвакуяванай люднасцю... Нярвовы настрой чакання бою ўзмацняўся. 6 ліпеня мы затрымаліся пад лесам, ноччу мелі адтуль выцяць.

Быў цёплы, пагодны вечар. Збор. Батальён стае ў дзве шарэнгі. Падцягваюцца да нас яшчэ іншыя два аддзелы. Стаём у падкову, пасярэдзіне ксёндз "Ора". Абвяшчае генеральнае адпушчэнне грахоў перад бітвай. Кленчым.

Ксёндз крэсліць над нашымі галовамі знак крыжа і ўзрушаным голасам вымаўляе словы адпушчэння грахоў. Схіляем галовы. Рукі, прывычныя да зброі, цяпер пакорна ўдараюць у грудзі, а губы шэпчуць:

- Божа, будзь літасцівы...

Ці будзе?

Ксёндз "Ора" скончыў, усе яшчэ кленчаць. Моляцца. Пагдядаю на тыя пахіленыя галовы, робіцца мне страшна смутна. Хоць Бог і міласэрны, аднак не ўсе вернуцца з бою. Такое жудаснае права вайны.

Маршыравалі доўга ў поўным маўчанні. Толькі бразгала зброя, стукалі колы тачанак, пырхаў Сіўка. Я ішла ў перадавым падраздзяленні з плутонам "Пратазага"; быў ён выразна знерваваны. Успамінаў Падлессе, вяртаўся думкай да нарачонай, неяк незвычайна палагаднеў. Не пазнавала яго.

- Застанься пры "Пратазым", - шапнуў мне нехта з таварышаў. - Заўсёды гэта лепей, калі санітарка пад рукой, чалавек больш пэўна пачуваецца ў выпадку чаго...

Раптам: "Стой!". Выстралы. Ланцуг наперад - гэта нямецкія абозы. На вазах шмат папярос і цудоўны шакалад.

Маршыруем далей. Ноч. А другой мусім пачаць... Маем загад выцяць з боку вёскі Гара, якая пераходзіць у вуліцу Субач ужо ў Вільні. Быў гэта адрэзак,




***Маці Божая Вастрабрамская - абразак, які раздаваў ксёндз "Ора" жаўнерам перад ударам на Вільню***

размешчаны паміж чыгуначнымі каляямі і Ашмянскай шашой. З нашага левага боку атакаваў Наваградскі батальён, з правага - "Шчарбец".

1-я рота ідзе першай, за намі ідзе 2-я рота, 3-я рота прыкрывае з тылу.

Другая па паўночы. Уваходзім у Гару, дарога раздваілася, абдымаючы глінішча і высокі адхон. Налева ад дарогі на ўзгорку насупраць адхону малыя могілкі. Адхон парос пажоўклым ужо збожжам. Паводле перададзеных разведзвестак на немцаў мы павінны наткнуцца толькі пасля ўваходу ў Вільню. Тым часам, калі толькі мы аказаліся ў вёсцы, гучаць першыя выстралы. Значыць разведзвесткі памылковыя. На адхоне ў збожжы ёсць нямецкія ўмацаванні: бункеры і акопы. У адказ на стрэлы гучыць загад: "Ланцуг!".

Хлопцы рассыпаліся, бягуць да адхона. ЦКМ-ы і гарматку "Рамана" падцягваюць на ўзгорак могілак, адкуль добрае поле абстрэлу. Можна адтуль накрыць агнём схаваныя ў жыце нямецкія бункеры, у якіх знаходзяцца гнёзды ЦКМ-аў. На правым крыле разгортваецца 2-я рота. Удар на бункеры ідзе з двух бакоў. Частка 1-й роты ўдарае з боку глінішча.

Немцы густа адстрэльваюцца. "Орлік" паранены ў нагу, ляжыць на ўзбоччы адхона. Рана не цяжкая - пасля перавязкі хлопец паволі ссоўваецца і ўласнымі сіламі адходзіць у тыл, я пнуся ўверх. Калі маю ўжо стаць на край, нехта падцінае мне ногі. Выкручваюся, злосна кідаю "вязанку лаціны" на тэму дурных жартаў. У адказ чую:

- Вар'ятка, у лоб хочаш? То ідзі...

Сапраўды, калі хто-небудзь высунецца над краем, адразу гучаць стрэлы. "Козіцу" зрывае шапку. На шчасце галава цэлая. Кулі сыплюцца, як кінуты галубам гарох. Рэшта 1-й роты ўдарае збоку на адхон і бункеры ды збудаванні, якія там знаходзяцца. З правага боку 2-я рота атакуе акопы, злучаныя з бункерамі. Немцы густа адстрэльваюцца. Нашы напіраюць што раз мацней. Хочуць дабрацца да бункераў і акопаў, кідаюць гранаты. Пасярод гулу бою здалёк з правага боку чуваць стрэлы. Гэта "Шчарбец" атакуе з боку Віленскай Калоніі...

Усіх ахоплівае шаленства бою. Крычаць, клянуць, бягуць, падаюць, страляюць, кідаюць гранаты. Робіцца пекла. Што раз больш параненых. Адносім іх у тыл, дзе ў гумне распараджаецца "Буль", "Ніна" і ксёндз "Ора".

Камендант стаіць пад дрэвамі, каля яго "Вронскі", "Ваўкавыскі" і іншыя. Са сваёй пазіцыі можа назіраць усю лінію. "Ваўкавыскі", каб мець лепшыя звесткі, бяжыць на ўзгорак могілак каля гарматкі і адтуль назірае бой, а потым высылае ганца з данясеннем да камандзіра.

Я курсую, як аўтамат, паміж байцамі і санітарным пунктам. Што раз больш параненых. Перавязваю нейкую сувязную ці санітарку, якая ўжо перад нашым ударам на Вільню прыйшла ў 2-ю роту. Мае прастрэленую грудную клетку. Другая, таксама блізка мне не знаёмая, параненая. У пралёце сустракаю "Султанку", санітарку 2-й роты - таксама мае поўныя рукі работы. Размінаемся з "Данкай" з 2-й роты - нешта мне крычыць, не чую што, бачу толькі што паказвае на адхон... Бягу туды.

Да бункераў падпаўзае са сваім плутонам "Кнышыняк". Жаўнеры ўрываюцца ўсярэдзіну. "Козіцу" ўдалося ўзабрацца на дах аднаго з іх і адтуль кінуць унутр гранату. Цяпер б'юцца ўжо пры бункерах і ў бункерах. Нямецкія абозы, якія стаяць пры хатах паблізу ўмацаванняў ужо ў нашых руках. Фрыцы з аховы абозаў здаюцца. Але бункеры і акопы бароняцца заядла. У першую хвілю чую крык:

- Зоська! Зоська! Санітарка! "Розга" паранены!

Пру да бункераў. Каля хаты, пры якой стаяць некалькі нямецкіх палонных пад аховай нашых, ляжыць "Розга". Мае разарваныя ўсе грудзі, і добра відно сэрца. Сочыцца кроў. Пачынаю перавязваць.

- Няхай мяне пані даб'е, - шэпча, - дабі мяне. У кішэні фатаграфіі, партманэ, забяры, аддай сям'і, дабі...

Некалькі таварышаў стаяць над галавой і роспачна паўтараюць:

- Ратуй яго, ён не можа памерці.

Нажаль, я ведаю, што не толькі можа, але мусіць памерці. Не дапамогуць яму мае найклапатліўшыя перавязкі. Нясём яго ўніз да санітарнага пункта. Там ёсць лекары, ёсць таксама "Буль" і "Ніна" - перавязваюць параненых і адсылаюць іх далей. "Розга" просіць: "Дабі". Не магу, не патрафлю дабіць таго сябра, пераўзыходзіць гэта мае сілы. Пакідаю яго "Булю".

- Дайце морфію, - яшчэ чую нечы голас.

Як ашалелая бягу назад. Па дарозе чую:

- "Пратазы" паранены!

Імчуся - за позна. Памёр, атрымаў у галаву...

Аглушаная стрэламі, выбухамі гранат, крыкамі, круцілася сярод баяроў, перавязвала на месцы лягчэйшыя раненні або пры дапамозе таварышаў адносіла цяжэй параненых за лінію агню. З тых хвілін засталося ў мяне сёння ў памяці адно ўражанне нейкай вялікай кругаверці, велізарных высілкаў нярвовых і фізічных. Памятаю, як што раз некага перавязвала, але каго? Не ведаю. Усё злілося мне ў вобраз нейкага страшнага расшалелага звера - твары параненых у адзін твар роспачна-пакутны твар канаючага "Розгі" і разбітай снарадам галавы "Пратазага". Цяжкае агнястрэльнае раненне ў шыю ў Янка "Кнышняка". Калі я падбегла, перавязвала яго ўжо "Султанка". Француз "Роберт", які яшчэ нядаўна ахвяраваў сваю кроў для ратавання "Градняка", ляжыць цяпер на адхоне заліты крывёю. Безнадзейна паранены ў жывот. Канае.

Нарэшце бункеры ўзяты. Частка немцаў здаецца, частка адходзіць са сваіх пазіцый не выходзячы з бою. Жудасная калатнеча пры акопах

Світае. У небе паказваюцца выведвальныя самалёты. Не страляюць. Вызначаюць цэлі для артылерыі. Адляцелі. Праз хвілю пачынаюць масавы абстрэл з гармат самаходак. Кладуць агонь тут жа за нашымі пазіцыямі на пазіцыі 2-й роты. Няма перад імі абароны - мы ўяўляем выдатную цэль. Сітуацыя становіцца што раз цяжэйшай.

Адносячы некаторага з параненых мінаю па дарозе ляжачых на скрыжаванні дарог "Самбара" і "Заваду", бягу далей да санітарнага пункта. Па дарозе назад праходжу каля пазіцыі камандавання. Над нашымі галовамі кружацца самалёты. Цераз іхні шум чую апошнія словы дакладу, пераказанага каменданту ганцом: "Сітуацыя безнадзейная, калі не адступім, нас выб'юць...". Хвіліна цішыні, а потым: "Не маю загаду на адступленне...".

"Розга" мёртвы, "Пратазы" мёртвы, столькі забітых і параненых. Там віруе бой. Не, гэта без сэнсу чакаць! Не спыняюся - кідаюся да каменданта, "як ваўчыца, у якой забіраюць шчанят" (так потым акрэсліў гэта "Буль"). Падаюць шалёныя, несправядлівыя словы - хачу, угаворваю аддаць загад на адступленне людзей. Адказу няма.

Пакліканая некім вяртаюся зноў на лінію. Калі пераскакваю цераз шашу, чую свіст снарада. Пакуль зразумела, што гэта значыць, перакулілася ў паветры і ўпала некалькі метраў далей. Сарвалася з зямлі і пачала непрытомна ўцякаць пад хаты. Засмяяўся ў паветры другі снарад, трэці. Цяпер па нас стралялі з бронецягніка. Самалёты правялі выведку і накіравалі гарматы бронецягніка, цяпер зноў кружацца над намі, абстрэльваюць. Супраць самалётаў і артылерыі мы бяссільныя.

Ужо відно, увайсці ў Вільню ў гэты час немагчыма. Раней справа ішла пра тое, каб пад прыкрыццем ночы пранікнуць у горад і там разгарнуць бітву з немцамі. 1-шы Навагрудскі батальён "Зыха" пачаў адступаць, выйшлі на яго нямецкія войскі. "Шчарбец" таксама адступае з Бяльмонта - трапіў пад агонь бро-

нецягніка. Загінуў "Айцец" і шмат жаўнераў.

Сонца было ўжо высока, калі каля гадзіны сёмай-восьмай раніцы прышоў загад адходзіць. Пачынаем адступаць. Апрытомнеўшы трохі, чую, што "Самбар" і "Завада", ад якіх я знайходзілася дакладна за 2-3 метры ў хвілю, калі ўдарыў снарад, паранены. Хачу бегчы да іх, але стрымлівае мяне "Віхар".

- Куды? Адступаем, яны ўжо перавязаны.

Пачалася жудасная дарога. Быў ужо дзень. Спала ранішняя імгла, сонца свяціла, як бы на злосць, асвятляючы кожны закавулак, кожны выгін зямлі. Самалёты кружыліся над намі, секлі з кулямётаў і ўладаваных гарматак - падалі сцятыя чэргамі выстралаў дрэвы, адзіночна стаяўшыя ў полі, падалі людзі, якія шукалі пад імі схованкі. Бязлесыя, з рэдка парослымі кустамі ўзгоркі не давалі ніякага сховішча. Самалёты кружыліся так нізка, што хвілямі падавалася, вось-вось зачэпіць жыватом за вяршыню ўзгорка, за нашыя галовы. Лётчыкі атакавалі кожнага заўважанага чалавека. Я ішла каля "Віхра" - абы наперад, абы дабрацца да лесу. Упала са стомы.

На межах сярод жыта і на дарогах нашыя. Самалёты кружацца, як крумкачы. Гіне "Юр", гіне шмат іншых. Зямля ўслана гільзамі. Што хвіля падаем і як аўтаматы ўскакваем, калі самалёт адлятае, ідзём далей - і зноў самалёт, і зноў чалавек прытуляе твар да шэрай зямлі. Цяпер ніхто не крычыць. У маўчанні прабіраемся межамі сярод пажоўклых збожавых - за тое самалёты выюць, урчаць, пырскаюць агнём.

Праскочылі малы лясок, заўзята абстрэльваны лётчыкамі, удалося нам перайсці цераз вялікае голае поле, ужо відаць здалёк лес. Яшчэ толькі падмоклы луг.

Былі пасярэдзіне, калі зноў паказаўся самалёт. Ляцеў нізка, выглядаючы ахвяр на адкрытай мясцовасці.

Набліжаецца. За некалькі дзясяткаў метраў перад намі гумно - робім стамятроўку - пілот бачыць нас, але мы ўжо, ужо пры гумне. У тую хвілю самалёт кладзецца на крыло. Чарга з РКМ-а доўгай гарызантальнай паласой працінае сцяну. Чарга прыцэльная, там дзе яна праходзіць, павінны быць якраз людскія галовы, якія немец намерваўся адцяць. Засталіся яны аднак некранутымі, бо іхнія ўладальнікі здалелі перамясціцца ў супрацьлеглы бок гумна.

Ужо без спецыяльных перашкод дабраліся да лесу і да стаяўшых там рэзерваў групы "Шчарбца". Над галовамі пастаянна гулі самалёты, але не абстрэльвалі нас, цяпер яны біліся з савецкімі самалётамі. Савецкія войскі былі ўжо на прадполлях Вільні. Ляснымі дарогамі на ўспененых невысокіх конях гналі галопам савецкія выведнікі ў зялёных "палатках", з аўтаматамі гатовымі да стральбы.

### XX

"Шчэнсны" конна аб'язджаў ваколіцы, збіраючы параненых і раскіданых. Знайшоў і нас. Падаў месца збору і памчаўся далей. Быў вечар, калі мы ўваходзілі ў вёску, дзе ўжо знайходзілася шмат нашых таварышаў. Першы дазор паведаміў мне:

- Бяжы хутчэй, ёсць параненыя, паўгадзіны таму здарылася няшчасце.

Праз хвілю была на месцы. Нядаўна прыехала грузавіком частка 3-й роты. Пры высадцы Марак "Жэгота" зачапіўся прывешанай да паса гранатай за борт аўтамабіля. Граната адарвалася. Жадаючы не дапусціць няшчасця, Марак падхапіў яе ў паветры, але - на жаль - з вырваным кольцам разарвалася ў руках. Вынік трагічны. Адарвана рука, жудасна паранены твар. Асколкі гранаты і трэскі з рамы ўтамабіля забіваюць "Альгерда", ён проста нашпігованы імі. Паранены "Баяр".

Марка ўжо перавязваюць. Я не патрэбная. Трэба яшчэ перавязаць "Баяра". Іду да яго, на шчасце пачуваецца добра. Застаюся на ноч пры непрытомным Марку. Раніцай адходзім на поўдзень. Адпачываем пасля бою. Кватаруем у Раканьцах і суседніх вёсках. Настрой пануры. Столькі хлопцаў загінула... Цякуць дні. Што будзе далей?

Прыехаў ганец з загадам кіраўніцтва Акругі да камендanta, каб пачынаў адпраўку. Перамяшчаемся бліжэй да вызначанага месца. Камендант высылае "Кавальскага" з ксендзам "Орам" на правядзенне выведкі. Мы затрымліваемся на ўзгорку каля Ваўкарабішак. У даліне бачым іншыя партызанскія аддзелы... А вакол іх замыкаецца кальцо савецкіх войскаў.

Глядзім на тое з уражаннем. Чаму?.. Камендант застаўся з батальёнам. Адступаем у кірунку Рудніцкай пушчы. Вяртанне дадому - няволя? Не... Яшчэ не вельмі разумеем, якая сітуацыя. Праз пару дзён даведваемся, што ген. "Воўк" са штабам быў у Вільні 17 ліпеня арыштаваны. Затрымана таксама пазасталая частка штаба з Богуш. Захопленыя партызанскія аддзелы інтэрнаваны.

Хуткім маршам стараемся дабрацца да Рудніцкай пушчы. Аднак жа савецкія войскі акружылі пушчу. Жадаючы здачы акаўскіх аддзелаў, раззбройваюць іх. У той жа час камандзір нашага 77 пп АК маёр "Котвіч" склікаў нараду камандзіраў частак, якія знайходзіліся на тэрыторыі пушчы. На нарадзе той пастанавілі сабраным даць вольныя рукі ў прыняцці далейшых рашэнняў. Мы ідзём на захад. Наш камендант на той нарадзе сказаў, што мы выканалі дадзены нам Галоўным камандаваннем АК загад і цяпер будзем старацца вярнуцца туды, адкуль прыйшлі - у Варшаву...

Самалёты кружацца над лесам, бронемашыны прарываюцца ў пушчу. Кідаем абозы. Умовы што раз цяжэйшыя. Мы не хочам ні ваяваць, ні здавацца ў палон. Ноччу пераходзім цераз Моўчадзь. У пэўную хвілю пры пераправе правальваецца мне нага, перапужаная верашчу ў цішы ночы:

- Ратунку!

Пасля выхаду на бераг "Шчэнсны" крые мяне, як толькі можна сабе ўявіць. За пару кіламетраў ад нас ідзе нейкі бой. Не рэагуем. Ідзём далей.

Раздзяляемся на дзве, а дакладней, на тры групы - "Шчэнснага", "Яцка" і мясцовых, якія вяртаюцца да сябе. Настрой фатальны. Усе выведзены з раўнавагі. Пакідаем наш гонар, здабытыя ў немцаў ЦКМ-ы (гар-

матка засталася пад Вільняй). Горкая, як палын, свабода. Умовы што раз горшыя, вяртаюцца цяжкасці часоў беластоцкай партызанкі. Усе думаюць пра адно: прарвацца як найхутчэй на захад, на Падлессе, у Варшаву.

Але ад той упрагнёнай Варшавы аддзяляюць нас сотні кіламетраў, лінія фронту і савецкае войска, якое не верыць нам - ачышчае свае тылы, таму і нас мусіць зліквідаваць. Родзяцца новыя крыўды. Дасягненне сталіцы падаецца нейкім універсальным лякарствам ад нашай драматычнай сітуацыі. Але гэта так далёка...

Фарсаванымі маршамі прарываемся на паўднёвы захад. Але расейцы гэта - не немцы, лесу не баяцца. У хвіліну, калі здавалася, што адарваліся, што можам адпачыць, затрымацца на пастой у толькі што разбітым лагеры, на ўзгорку паказваюцца зялёныя сілуэты.

- Кідай зброю, буду страляць!

"Кідай зброю", - раздалося яшчэ раз.

Разбуджаная ада сну хапаю аптэчку і шчупаком кідаюся ў кусты. Не! Усё лепш, чым палон і вандроўка на ўсход. Уцякаю - зрэшты бачу, што таварышы мае робяць тое самае. Праз пару хвілін шалёнага бегу страціла дыханне, упала пад кустом. Дыханне вярталася, а з ім і пытанне. Ну, добра. Але што далей? Я зусім адна, зусім не ведаю, дзе знаходжуся. Заміж мяшка, дзе мела трохі яды, маю з сабой аптэчку, у тую хвілю ўжо не патрэбную.

Ішла, разглядаючыся перад сабой. З розных бакоў даляталі далёкія стрэлы, але вакол мяне панавала ціша. Уражвальная і разам з тым супакойвальная. Уражвальная, таму што я была згубленая ў велізарным лесе, супакойвальная - паколькі пакуль не пагражала мне няволя.

Пушча ўсё ж мае канец - суцяшала сябе - неяк з яе выберуся... У пэўную хвілю пачула чалавечыя крокі. Скочыла за куст. Крокі сціхлі. Рушыла далей. Нехта аднак ідзе. Я ў кусты, той нехта таксама. Нарэшце цераз галіны разгледзела Казіка "Міцкевіча". Потым наткнуліся на "Янку". Утраіх ужо было хутчэй.

Праз нейкі час зноў гульня ў кошку і мышку, тым разам з камендантам, "Вронскім" і "Кавальскім". Нарэшце распазнаёмся. Ну цяпер ужо будзем ведаць, куды ісці - ёсць мапа. Але няма нічога есці. Два дні кружымся па лесе, нарэшце выходзім з пушчы. На ўскрайку, у нейкай хаце натыкаемся на сляды групы "Яцка", пазней даведваемся, што праходзіў тут таксама "Шчэнсны".

Мы кіруемся ў бок Гародні. Пад Новай Рудой камендант высылае мяне на выведку - іду, у вёсцы поўна людзей. Прызыў. Мужык ад майго выгляду баранее, але дапамогу арганізоўвае хутка. Размяшчаюць нас у сваіх лясных бункерах. Тут мяняем вопратку. Ісці ў мундзіры - гэта ўлазіць у пашчу льву. Зрэшты - хто мы цяпер ёсць?

Горыч залівае нам сэрцы. У маўчанні здаём нашую зброю. Камендант пасылае мяне яшчэ да ксендза. Дамовіліся з "Ваўкавыскім" і іншымі, што там будуць пакідаць весткі. "Ваўкавыскі" ўжо тут быў і пайшоў далей. Ёсць яшчэ "Шчэнсны" і "Атаман" - да канца жыцця буду памятаць тыя клопаты з правядзеннем іх да каменданта. Выйшла з лесу з аднаго боку, вярнулася з іншага - адшуканне квартала, у якім знаходзіўся бункер, стала праблемай. Трапіла выпадкова. Але што пачула, тое пачула.

Пачалася безнадзейная вандроўка "здэмабілізаваных" партызан. Мы не мелі ніякіх дакументаў - у кожную хвіліну маглі быць арыштаваныя і пасаджаны за шпіянаж.

Наступленне пасунулася наперад, што ноч на заходнім баку чорнага неба завісалі рознакаляровыя, прыгожыя жырандолі ракет, што ноч былі чутны цяжкія выбухі бомб.

Нарэшце прыйшла ўпрагнёная хвіля - немцы адступалі, пакідалі нашыя вёскі і гарады - ішла свабода. Але - о парадокс польскага жыцця - тая чаканая свабода ішла ў савецкім мундзіры, які для нас значыў прымусовае падарожжа на ўсход. Мы мелі інфармацыю, што "Тжаска" пайшоў у патруль і не вярнуўся, што ўзятыя 27 ліпеня пад Парэччам у палон "Яцак" і "Мацек" і іншыя ўжо туды паехалі. Хоць потым інфармацыя пра "Яцка" і "Мацька" аказалася няпраўдзівай, бо абодва ўцяклі з транспарту, але інфармацыя пра астатніх была праўдзівая. Разам з іншымі на ўсход павандравала і "Аня". Так вось амаль два гады жыцця поўнага цяжкасцяў і самаахвярнасці, столькі найбліжэйшых чалавечых жыццяў, адданых у барацьбе за свабоду, пайшлі на марна.

Цяжкае гэта было вяртанне, балючыя думкі.

З некалькімі таварышамі мы засталіся на Падлессі, а калі наступленне перайшло цераз Буг, рушылі ў Сакалова і тут рассталіся - яны пайшлі, я засталася, чакаючы на нейкі сродак руху, які павёз бы мяне далей. Куды? Я не мела дому. Не мела нікога, хто б чакаў на маё вяртанне. Пад'ехаў нейкі грузавік.

- Хочаш ехаць?

Кіўнула галавой.

- То сядай.

Даехала да Сядляца. Сядлец, а недалёка Радзынь. У горад увайшла ўдзень, сустракала людзей добра знаёмых, міналі мяне абыякава, не пазнавалі. Пазваніла ў дом, у якім жыў мой дзядзька. Дзверы адчыніла цётка. Паглядзела і буркнуўшы: "Зноў жабрачка", - уваліхнула мне ў руку нейкія грошы. Здубела, не магла выціснуць слова пасля такога прыёму. Толькі, калі цётка зачыняла дзверы, я апомнілася.

- Цёця! - закрычала.

Яна адчыніла шырэй дзверы, уважліва прыглядзелася да госці.

- Цёця! - закрычала я ў другі раз.

З недаверам глядзела на мяне.

- Гэта я, Зося.

- Зоська?

Калі пасля прывітанняў я пайшла ў ванную трохі прывесці сябе ў парадак і паглядзела ў люстэрка, зразумела, чаму ніхто мяне не пазнаваў. Цяжка мне было пазнаць сябе самую.

*Напісана ў 1949 г.*

***Станіслаў Суднік***

# Мемарыялізацыя памяці паўстання 1863-64 гадоў на гістарычнай Лідчыне

Мемарыялізацыя паўстання на Лідчыне ад першых дзён па паўстанні да нашага часу мела дзве вялікія задачы:

1. Захаваць памяць пра ўдзельнікаў паўстання, пра месцы баёў, пра вычыны і геройскія смерці і г.д.

2. Годна адзначыць матэрыяльна і ментальна тыя ж месцы баёў, магілы герояў, ушанаваць помнікамі, мемарыяльнымі дошкамі, кнігамі, навуковымі даследваннямі, мастацкімі творамі...

У большасці выпадкаў абедзве гэтыя задачы рашаюцца адначасова і маюць самыя розныя праяўленні.

### Матэрыяльнае праяўленне

Гістарычная Лідчына - гэта Лідскі, Воранаўскі, Шчучынскі раёны Беларусі і поўдзень Летувы з Эйшышкамі. На гэтай тэрыторыі адбываліся значныя падзеі паўстання, шматлікія баі і сутычкі, многія вёскі і маёнткі падтрымлівалі паўстанцаў, у практычна ўсіх касцёлах ішла агітацыя перад паўстаннем і зачытваліся маніфесты Нацыянальнага ўраду падчас паўстання. У многіх з гэтых месцаў адбыліся акты мемарыялізацыі - гэта значыць фізічнага ўшанавання памяці пра падзеі, якія тут адбываліся, і пра людзей - герояў і шараговых удзельнікаў паўстання.

1. **Касцёл у Ішчалне Шчучынскага раёна**, у якім пробашчам падчас паўстання быў ксёндз **Адам Фалькоўскі**. Тут ён зачытаў маніфест Нацыянальнага ўраду, за што быў расстраляны ў Лідзе 24 чэрвеня 1863 года. Некалькі гадоў таму назад у касцёле была ўстаноўлена **мемарыяльная дошка памяці Адама Фалькоўскага**. Дошка асвечана 20 лютага 2013 года, напярэдадні 150-х угодкаў пачатку паўстання ў Варшаве.

2. **Касцёл у Жалудку Шчучынскага раёна**. Тут зачытаў маніфест паўстання ксёндз **Станіслаў Ішора**, за што быў расстраляны ў Вільні. У касцёле ўстаноўлена **мемарыяльная дошка памяці ксендза Станіслава Ішоры.**

**Мемарыяльная дошка ў памяць ксендза Станіслава Ішоры** была ўстаноўлена ў Вільні ў касцёле Святога Якуба 4 чэрвеня 1933 года.

3. **Сквер імя Валерыя Ўрублеўскага,** аднаго з правадыроў паўстання ў Жалудку і **памятны знак з нагоды закладкі гэтага скверу.** Устаноўлены ў 2012 годзе намаганнямі Жалудоцкага сельсавета. Валеры Ўрублеўскі нарадзіўся ў Жалудку.

4. **Поле бою аддзела Ўладзіслава Навіцкага з царскімі войскамі паміж вёскамі Мохавічы і Малое Ольжава ў Лідскім раёне**. Захаваны дзве аўтэнтычныя магілы, адзін аўтэнтычны **надмагільны помнік**. У 1925 годзе тут быў устаноўлены крыж з адпаведным надпісам (не захаваўся). У 1995 годзе ўстаноўлены **два новыя крыжы** - каталіцкі і еўфрасіннеўскі з надпісамі на польскай і беларускай мовах: "Bojewnikam niepodleglosci" і "Змагарам за незалежнасць".

5. Помнікі горада Ліды:

- **капліца Святой Барбары** - заступніцы лёгкай смерці - на старых каталіцкіх могілках па пр. Перамогі. 13.07.2003 года ў капліцы ўстаноўлена **мемарыяльная дошка ў памяць трох лідскіх ксяндзоў**, расстраляных за ўдзел у паўстанні: Адама Фалькоўскага з Ішчалны, Станіслава Ішоры з Жалудка, Раймунда Зямацкага з Вавёркі;

- тут жа на старых каталіцкіх могілках **магіла і помнік удзельніцы паўстання Валерыі Цехановіч з Цыбульскіх**. Валерыя пражыла пасля паўстання 70 гадоў і памерла ў 1933 годзе.

- **Свята-Міхайлаўскі сабор** па вул Савецкай у Лідзе, былы піярскі касцёл. Тут у 1938 годзе да 75-годдзя паўстання была ўстаноўлена мемарыяльная дошка памяці героя паўстання **Людвіка Нарбута**. У ноч з 17 на 18 верасня 1939 года дошка была затынкована жыхарамі Ліды. У 1989 годзе дошка была ўскрыта з-пад тынку, і быў устаноўлены беларускі адпаведнік. У 1997 годзе пасля перадачы будынка пад праваслаўную царкву дошка была знята.

- **гарадскі парк** - месца расстрэлу ксендза **Адама Фалькоўскага**. 3 траўня 1919 года лідскімі чыгуначнікамі тут быў устаноўлены памятны крыж. У 1940 годзе крыж



***Поле бою аддзела Ўладзіслава Навіцкага з царскімі войскамі паміж вёскамі Мохавічы і Малое Ольжава ў Лідскім раёне***



*Памятны знак на месцы расстрэлу ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідскім гарадскім парку*

быў знесены савецкай уладай. Паўторна крыж устаноўлены 2 лістапада 1996 года. Знесены праз два дні. 6 траўня 1997 года крыж устаноўлены зноў, у той жа дзень знесены. 22 чэрвеня 1997 года крыж устаноўлены зноў. У тую ж ноч знесены. 6 чалавек: Станіслаў Суднік, Уладзімір Хрышчановіч, Антон Пігулеўскі, Міхась Бурачэўскі, Віктар Аўгусцін і Віктар Шырма аштрафаваны на 3 мільёны кожны. 11 ліпеня 1998 года крыж устаноўлены ў чацвёрты раз. Праз тры дні быў знесены. Пазней устанаўліваўся рэгулярна 2-3 разы на год. Перад Дзядамі 2010 года на месцы расстрэлу ксендза Адама Фалькоўскага з дазволу уладаў устаноўлены **памятны знак**. Аўтар Рычард Груша.

- **памятная дошка вайсковаму начальніку Лідскага павета Людвіку Нарбуту** каля касцёла піяраў у мікрараёне Індустрыяльны. Пасля зняцця з будынка царквы на вул. Савецкай дошка захоўвалася на тэрыторыі аднаго з касцёлаў. Устаноўлена ў студзені 2013 г., асвечана 21 красавіка 2013 г.

6. **Касцёл у вёсцы Вавёрка.** Тут устаноўлена **мемарыяльная дошка ў памяць ксендза Раймунда Зямацкага**, расстралянага ў Вільні, за абвяшчэнне маніфеста Нацыянальнага Ўраду.

**Мемарыяльная дошка ў памяць ксендза Раймунда Зямацкага** адкрыта ў Вільні ў касцёле святога Рафала 23 ліпеня 1923 года.

7. **Касцёл у вёсцы Нача** Воранаўскага раёна. Тут быў зачытаны маніфеста Нацыянальнага Ўраду.

Перад касцёлам знайходзіцца **магіла Тодара Нарбута** - бацькі чатырох паўстанцаў: **Людвіка, Баляслава, Францішка і Тадоры**.

За касцёлам знаходзіцца **магіла паўстанцаў**.

На мармуровай дошцы надпіс па-беларуску:

*"Паўстанцам 1863 г. атрада Л. Нарбута:*
*В. Нарбуту,*
*Міхалоўскаму,*
*У. Навіцкаму і невядомым ад нашчадкаў, 1988 г."*

8. **Магілы сям'і Нарбутаў у Шаўрах** з помнікамі. Тут пахавана маці Людвіка Нарбута **Крыстына Нарбут з Садоўскіх** і **Баляслаў Остык-Нарбут**, брат і ад'ютант Людвіка Нарбута.

9. **Памятны камень Нарбутам - удзельнікам паўстання**, устаноўлены за мурам могілак, каля дарогі ў 1989 г.

10. **Магіла ўдзельніцы паўстання Караліны Рыхлевіч**, малодшай дачкі Марылі Верашчакі, графіні Путкамер на прыкасцельных могілках **у Беняконях**.

11. **Памятны камень** на месцы бою паўстанцаў з царскімі войскамі ў Шчучынскім раёне.

12. **Помнік на магіле Людвіка Нарбута і 12 паўстанцаў у Дубічах** на тэрыторыі Летувы.

13. Быў крыж на месцы **Дубіцкай бітвы** (Летува), устаноўлены ў міжваенны час. У 1988 годзе на тым месцы ўстаноўлены **драўляны памятны знак**.

14. **Касцёл у Бутрыманцах** (Летува). У чэрвені 2013 г. тут устаноўлена мемарыяльная дошка сям'і Колышкаў, якая дала чатырох паўстанцаў **Баляслава, Уладзіслава, Фелікса Генрыка, Яна Вінцэнта.**

**Грамадска-адміністратыўнае праяўленне**

У гонар героя паўстання на Лідчыне быў пераймянаваны адзін населены пункт. У 1938 годзе мястэчка Сабакінцы (цяпер Шчучынскі р-н) было пераймянавана ў **Нарбутова**. У 1940-м стала Першамайскам.

**Вуліцы ў гонар паўстанцаў:**

- вуліца **імя Валерыя Ўрублеўскага** ў Шчучыне;
- вуліца **імя Валерыя Ўрублеўскага** ў Жалудку;
- вуліца **імя ксендза Адама Фалькоўскага** была ў Лідзе да 1940 г.
- вуліца **імя Кастуся Каліноўскага** ў Лідзе на колішніх Песках;




*Памятная дошка вайсковму начальніку Лідскага павета Людвіку Нарбуту каля касцёла Піяраў у мікрараёне Індустрыяльны г. Ліды*

- вуліца **імя Кастуся Каліноўскага** ў вёсцы Навіцкія 2-я ў Лідскім раёне.

**Школы:**

Школа **імя Людвіка Нарбута** была ў Лідзе да 1939 г.

Школа **імя Валерыя Ўрублеўскага** ў Жалудку.

**Вайсковыя часткі:**

У 1938 годзе **76-му Лідскаму палку** пяхоты Войска Польскага было прысвоена **імя Людвіка Нарбута.**

**Грамадскае праяўленне**

**Агульнанацыянальная дыктоўка 2013 г.** па "Мужыцкай праўдзе" ў Лідзе і Бярозаўцы.

**1-я Лідскія чытанні**, прысвечаныя 150-м угодкам паўстання 1863 г.

**Рэлігійнае праяўленне**

З 1995 года штогод у апошнюю нядзелю ліпеня (зрэдку ў першую нядзелю жніўня) служыцца імша ў памяць паўстанцаў 1863 года на полі бою паміж Малым Ольжавам і Мохавічамі. Сёлета гэта было 19-ты раз. Сёлета перад імшой чытаўся спіс лідскіх паўстанцаў з 388 чалавек.

З 2011 года служыцца штогадовая імша ў памяць ксендза Адама Фалькоўскага ў Лідскім фарным касцёле. Сёлета імша служылася 22 чэрвеня.

У 2013 годзе імша за паўстанцаў служылася ў Ішчалнскім касцёле Шчучынскага раёна, у Ваверскім касцёле Лідскага раёна, у Бердаўскім касцёле Лідскага раёна, у Бутрыманцкім касцёле (Летува) і ў іншых святынях.

**Навуковае праяўленне**

Кнігі, навуковыя і краязнаўчыя артыкулы:

**Кнігі:**

Stanislaw Zielinski. **Bitwy i potyczki 1863-1864**, Раперсвіль, 1913 г.

W. Karbowski. **Ludwik Narbutt. Zyciorys wodza w powstanni styczniowym na Litwie.** 1933.

Я. Обст пад назвай **"Кс. Раймунд Зямацкі. У 60-ю гадавіну смерці пакутніка за Айчыну"**. 1923. Друкарня "Зара", Вільня.

В.Е. Абрамавичюс, В.А. Дьяков. **Валерий Врублевский**. Выдавецтва "Мысль", Масква, 1968 г.

Павел Камароўскі, Аляксандр Колышка. **Людвік Нарбут. З гісторыі польскай свядомасці на Лідчыне.** Варшава-Ліда, 1999 г. На польскай мове. 40 ст.

Уладзімір Руніш. **Дазвольце за Нарбута замовіць слова**. Гродна, 2010.

Apolonia z Dalewskich Sierakowska. **Wspomnienia**.

**Артыкулы:**

Генадзь Кісялёў. **Пра старэйшага брата.** Лідскі летапісец, № 2 і 3, 1997 г.

Валеры Сліўкін, Станіслаў Суднік. **Лідчына ў паўстанні 1863 г.** Лідскі летапісец, № 4, 1998 г.

Генадзь Кісялёў. **Змагар за свабоду з Лідчыны.** Лідскі летапісец, № 5, 1998 г.

Станіслаў Суднік. **Ксёндз Адам Фалькоўскі. Гісторыя смерці і пасляжыцця.** Лідскі летапісец, № 6, 1998 г.

Аляксандр Колышка. **Лідскія ксяндзы ў паўстанні 1863 г.** Лідскі летапісец, № 2 (22), 2003 г.

Часлаў Малеўскі. **Лідская шляхта ў паўстанні 1863 года.** Лідскі летапісец, № 3-4 (23-24), 2003 г.

Станіслаў Суднік. **Нязводнае імя Кастуся Каліноўскага.** Лідскі летапісец, № 3-4 (23-24), 2003 г.

Уладзімір Содаль. **... Сем раз Ліду ён адведаў.** Лідскі летапісец, № 3 (31), 2005 г.

Станіслаў Суднік. **1861 год на землях былога ВКЛ у дакументах.** Лідскі летапісец, № 3 (35), 2006 г.

Станіслаў Суднік. **Валеры Антоні Ўрублеўскі ў паўстанні 1863-64 гг.** Лідскі летапісец, № 4 (36), 2006 г.

Станіслаў Суднік. **Валеры Антоні Ўрублеўскі - генерал Парыжскай камуны 1871 г.** Лідскі летапісец, № 1 (37), 2007 г.

Станіслаў Суднік. **Першы марксіст Беларусі. 170 гадоў з дня нараджэння Валерыя Ўрублеўскага, 15.12. 1836-5.8.1908.** Лідскі летапісец, № 2 (38), 2007 г.

Павел Камароўскі, Аляксандр Колышка, Часлаў Малеўскі. **Людвік Нарбут.** Лідскі летапісец, № 3 (59), 2012 г.

Леанід Лаўрэш. **Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. *Перад паўстаннем.*** Лідскі летапісец, № 1 (61), 2013 г.

Леанід Лаўрэш. **Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. *За нашу і вашу свабоду.*** Лідскі летапісец, № 2 (62), 2013 г.

Ліліяна Нарковіч. **Ксёндз Раймунд Зямацкі**. Лідскі летапісец, № 3 (63), 2013 г.

Альвіда Антаніна Баёр. **Баляслаў Колышка - двойчы павешаны.** Лідскі летапісец, № 3 (63), 2013 г.

**Літаратурнае праяўленне**

Станіслаў Суднік. **На смерць Людвіка Нарбута.** Верш. Лідскі летапісец, № 4, 1998 г.

Станіслаў Суднік. **Апошняя малітва ксендза Адама Фалькоўскага.** Верш. Лідскі летапісец, № 5, 1998 г.

Г. Даўгашэй. **Людвіку Нарбуту.** Верш. Лідскі летапісец, № 1 (9), 2000 г.

Станіслаў Суднік. **Кроў Францішка.** Балада. Лідскі летапісец, № 1 (9), 2000 г.

Станіслаў Суднік. **Паўстанка.** Верш. Лідскі летапісец, № 2 (22), 2003 г.

Данута Бічэль. **Сэрца. Якушоўка. Вера. Супольна. На Пляцы Пятлі. Цябе я ўспамінаю. Вулка Паўстання. Здалеча. Але ўжо.** Вершы. Язэп Янушкевіч. Тварам да шыбеніцы. Ракаў 2013 г.

Уладзімір Руль. **Твае палымяныя словы...**

**Пераможаным дадому не вярнуся! Амелія, адзіная, даруй! Аддаю вам загад! Жыве імя тваё ў вяках! Далучыўся да братавых спраў! Праваднiца. Сэрца жар ты аддала Літве! Вышэй галаву, інсургент! Маці сыноў. Ты перад Богам даў прысягу. Дзе твая магіла, сокал? Прысвячэнне Францішку Багушэвічу. Жывапісцу-нарбутаўцу М. Андрыёлі. Да Нарбута з'ехаў "Крыжан"... Мясцовым паўстанцам. Балада аб паўстанцах 1863 года. Слоў для апраўдання вам няма.** Вершы. Пра Нарбутаў моўлю я слова... Гродна. 2010.

**СМІ**

Асноўным прапагандыстам і папулярызатарам падзей паўстання ў рэгіёне выступае газета **"Наша слова"**, за 2013 год - 91 публікацыя.

Артыкулы па тэматыцы паўстання рэгулярна друкуе **"Лідскі летапісец"**.

Шмат артыкулаў надрукавала **"Ziemia Lidzka"**.

**Мастацкае праяўленне**

Карціны **Міхала Эльвіра Андрыёлі**.

Бюст **Валерыя Ўрублеўскага** на магіле ў Парыжы.

Памятны знак **Валерыю Ўрублеўскаму** ў Гародні.

Партрэт **Людвіка Нарбута** ў экспазіцыі Лідскага музея.

Паштоўкі і каляндарыкі, прысвечаныя Людвіку Нарбуту і Баляславу Колышку, выпушчаны Таварыствам польскай культуры на Лідчыне.

**Спартовае праяўленне**

**Турнір імя Валерыя Ўрублеўскага** па мініфутболе ў Жалудку.

**Спіс паўстанцаў з Лідскага павета:**

1. **Абрубскі (Абрэмбскі) Казімір**, сын Юзафа, гадоў 27, высланы ў Самарскую губерню.
2. **Адам**, прозвішча невядомае, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.
3. **Адамковіч Цэзары**, сын Казіміра, гадоў 43, з ваколіцы Мацкішкі.
4. **Александровіч Ксаверы**, сын Антонія, гадоў 35, з маёнтка Нявіша, сябар Лідскага павятовага рэвалюцыйнага камітэту, акружны начальнік рэвалюцыйнага камітэту, сасланы ў Табольскую губерню, яго маёнтак Нявіша канфіскаваны.
5. **Альшанскі Ігнацы**, сын Юрыя, з мястэчка Эйшышкі, з аддзела Нарбута, высланы на катаргу на 6 гадоў ў Табольскую губерню.
6. **Альшэўская Ізабэла** з Нарбутаў, дачка Адольфа, гадоў 50, мабілізоўвала дабраахвотнікаў у аддзел Нарбута, выслана ў Сібір.
7. **Андрыёлі Міхал Эльвіра**, мастак, афіцэр аддзела Нарбута, сасланы ў Сібір.
8. **Аранскі Антоні**, сын Станіслава, гадоў 34, з фальварка Лаўсюны, высланы ў Томскую губерню, яго маёнтак Лаўсюны прададзены.
9. **Аранскі Канстанцін**, сын Станіслава, гадоў 37, ваяваў у аддзеле Любіча, высланы ў Табольскую губерню.
10. **Арцюшкевіч Аляксандр**, селянін, кароткачасовы арышт.
11. **Астравух Леанард**, сын Зыгмунта, гадоў 33, высланы ў Сібір.
12. **Астрога Парадоўскі**, ваенны начальнік Лідскага павета пасля смерці Людвіка Нарбута.
13. **Астроўскі Казімір**, з маёнтка Кальчыцы.
14. **Багдзевіч Станіслаў**, сын Аляксандра, гадоў 21, высланы ў Томскую губерню.
15. **Багуміл Антоні**, сын Юзафа, гадоў 18, з вёскі Падбор'е парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір.
16. **Багушэвіч Францішак**, быў у аддзеле Нарбута і Астрогі, сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю, абвясціў беларускую мову мовай нашага народа.
17. **Бадэр Юзаф**, яго дзялка Кракшлі канфіскавана.
18. **Бадэр Ян**, яго дзялка Кракшлі канфіксавана.
19. **Бамблевіч Антоні**, сын Яна, гадоў 21, з вёскі Буйвіды парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір.
20. **Банішка Юзаф**, ляснік, трымаў склад зброі для паўстанцаў.
21. **Банькоўскі Аляксандр**, сын Міхала, гадоў 20, высланы ў Самарскую губерню.
22. **Банькоўскі Каятан**, сын Тамаша, гадоў 26, з ваколіцы Вярсочка, высланы ў Самарскую губерню.
23. **Бараноўскі Уладзіслаў**, сын Яна, гадоў 25, высланы ў Самарскую губерню.
24. **Бараноўскі Ян**, сын Барталамея, гадоў 18, з ваколіцы Міжаны, высланы ў Сібір.
25. **Бароўскі Міхал**, сын Міхала, гадоў 25, з вёскі Барталішкі, з аддзела Нарбута, высланы ў Самарскую губерню.
26. **Бароўскі Юзаф**, высланы на катаргу на 8 гадоў.
27. **Бельскі Ян**, сын Барталамея, гадоў 42, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Самарскую губерню,
28. **Бельскі Ян**, сын Яна, гадоў 20, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір.
29. **Бердаўскі Адольф**, сын Антонія, з маёнтка Сасноўшчына парафіі Васілішскай, высланы на катаргу, яго маёнтак Сасноўшчына канфіскаваны.
30. **Бердаўскі Эдвард**, з маёнтка Няпрахі, прыгавораны да 18 гадоў катаргі.
31. **Бернатовіч Шымон**, высланы ў Табольскую губерню.
32. **Бжазінскі Зыгмунт**, кароткачасовы арышт.
33. **Бжазінскі Францішак**, кароткачасовы арышт.
34. **Бжазінскі** Эдвард, кароткачасовы арышт.
35. **Блажаеўскі Баляслаў**, сын Юзафа.
36. **Блажаеўскі Юзаф**, з маёнтка Залова.
37. **Боландзь Алойзы**, сын Леанарда, гадоў 23, высланы ў Сібір.
38. **Боландзь Баляслаў**, сын Францішка, гадоў

24, высланы ў Сібір.

39. **Боландзь Браніслаў**, гадоў 21, высланы ў Сібір.

40. **Бразоўскі Аляксандр** з Гурнофеля, 32 гады, лекар у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

41. **Бразоўскі Францішак**, з Гурнофеля, 35 гадоў, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

42. **Быкоўскі Юзаф**, сын Баніфацыя, гадоў 18, высланы ў Томскую губерню.

43. **Бялінскі Ян** з маёнтка Станіслававa.

44. **Бянкевіч Геранім**, сын Гераніма, гадоў 26, з ваколіцы Вянцкевічы.

45. **Бярнацкі Юстын**, сын Паўла, гадоў 20, з ваколіцы Станкелішкі, з аддзела Нарбута.

46. **Вайсят Антоні**, сын Вінцэнта, гадоў 38, з ваколіцы Цяцянцы, высланы ў Самарскую губерню разам з сям'ёй, іхні маёнтак Цяцянцы прададзены.

47. **Валаховіч Аўгустын**, сын Мацея, гадоў 30, з ваколіцы Трабушкі, высланы ў Сібір.

48. **Валаховіч Тэафіл**, сын Пятра, гадоў 26, з ваколіцы Валаховічы, быў у аддзеле Нарбута.

49. **Валаховіч Юзаф**, сын Аўгустына, гадоў 20, з вёскі Кіўлакі, высланы ў Сібір.

50. **Валіцкі Леапольд**.

51. **Валянскі Адам**, гадоў 28, высланы ў Казанскую губерню.

52. **Варсоцкі Аўгустын**, сын Мацея, гадоў 21, высланы ў Самарскую губерню.

53. **Васілеўскі Аляксандр**, сын Ваўрынца, гадоў 23, селянін з вёскі Падбор'е, парафіі Эйшыскай, высланы ў Сібір.

54 **Ваяводскі Ўладзіслаў**, капітан рэзервы з Новага Двара, арыштаваны на 6 месяцаў у цвердзь Дынабург.

55. **Вільбік Стэфан**, сын Стэфана, з ваколіцы Ліпкунцы, сябар Лідскага рэвалюцыйнага камітэту, высланы на 8 гадоў катаргі, канфіскаваны яго маёнтак Вільбікі.

56. **Вільканец Тодар**, яго маёнтак Псярцы прада-дзены.

57. **Вільканец Юзаф**, сын Клеменса, гадоў 19, з ваколіцы Кіюцішкі, высланы ў Самарскую губерню.

58. **Вінча Клеменс**, сын Мацея, гадоў 45, з ваколіцы Варсока, высланы ў Томскую губерню.

59. **Вінча Стэфан**, сын Пятра, гадоў 57, з вёскі Хамоўшчына, высланы разам з сям'ёй ў Самарскую губерню.

60. **Віславух**, камандзір паўстанцкага аддзела, ваяваў на мяжы Лідскага павета.

61. **Вішнеўскі Мацей**, сын Станіслава, гадоў 25, з ваколіцы Наркуны, высланы ў Сібір.

62. **Войша Фелікс**, ваяваў у аддзеле Нарбута, паранены і ўзяты ў палон пад Дубічамі.

63. **Вусоўскі Мікалай**, сын Юзафа, гадоў 48, высланы ў Табольскую губерню.

64. **Вянцкевіч Юзаф**, сын Войцаха, гадоў 17, з ваколіцы Вянцкевічы, высланы ў Сібір.

65. **Вярбіцкі Пётр**, сын Яна, гадоў 18, з ваколіцы Кудлы.

66. **Гадачэўскі *(Гадашэўскі)* Зыгмунт**, сын Валяр'яна, гадоў 44, з маёнтка Стокі, высланы ў Казанскую губерню.

67. **Гадомскі Браніслаў**, сын Фердынанда, гадоў 20, з ваколіцы Тальмонты, высланы ў Самарскую губерню.

68. **Гаеўскі Вінцэнт** з маёнтка Ішчална.

69. **Гаеўскі Ян**, сын Яна, гадоў 17, з ваколіцы Мiсканцы, парафіі Нацкай, высланы ў Сібір.

70. **Гажыч Вітольд**, з Сегенеўшчыны, прадстаўнік Цэнтральнага Камітэту ў Варшаве, з траўня 1863 г. Лідскі павятовы камісар.

71. **Галкоўскі Якуб**, высланы ў Сібір.

72. **Ганцэвіч Юзаф**, сын Андрэя, гадоў 17, з ваколіцы Нацкевічы, аддадзены ў салдаты на 5 гадоў ў Тульскую губерню.

73. **Гарбачэўскі Стэфан-Юзаф**, ксёндз-вікары Эйшышскага касцёла, капелан аддзела Людвіка Нарбута, эміграваў.

74. **Гатоўт Ежы**, Нацкі пробашч, зачытаў маніфест паўстання.

75. **Гедройць Казімір**, з Казіміраўкі, трымаў склад паўстанцкай зброі, арыштаваны.

76. **Геншаль Кастусь**, з Валдацішак, старшыня Лідскага павятовага камітэту, цывільны начальнік Лідскага павета.

77. **Геншаль Людвік**, сын Ігнацыя, гадоў 49, з маёнтка Валдацішкі, высланы ў Табольскую губерню, яго маёнтак Валдацішкі прададзены.

78. **Геншаль Уладзіслаў**, эміграваў.

79. **Герасімовіч Ян**, сын Юзафа.

80. **Грабоўскі Вільгельм**, сын Тадэвуша, гадоў 23, з маёнтка Семякоўшчына, высланы ў Аланецкую губерню, яго маёнткі Рагачоўшчына і Семякоўшчына прададзены.

81. **Груздоўскі Казімір**, сын Паўла, гадоў 17, з вёскі Салтанішкі, высланы ў Сібір.

82. **Груздоўскі Юзаф**, сын Марціна, гадоў 35, высланы ў Сібір.

83. **Грымайла *(Гржымайла, Гжымайла)* Фелікс**, сын Канстанціна, высланы ў Табольскую губерню, эміграваў, канфіскаваны яго маёнтак Ачкевічы.

84. **Грэмза Казімір**, 25 гадоў, селянін з Ліпкунцаў, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

85. **Губарэвіч Стэфан**, 35 гадоў, з Галавіч-поля, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

86. **Гурыновіч Юзаф**, сын Тамаша, з маёнтка Лябёдка.

87. **Дабраўланскі Дыянізы**, сын Яна, гадоў 45, з маёнтка Аленшчына, высланы ў Томскую губерню, яго маёнтак Аленшчына канфіскаваны.

88. **Далеўская (Серакоўская) Апалонія**, з Кункулкі, жонка Зыгмунта Серакоўскага, сасланая ў Ноўгарад.

89. **Далеўскі Кастусь**, з Кункулкі, змагаўся на Ковеншчыне, паранены, эміграваў, расстраляны вярсальцамі падчас Парыжскай камуны.

90. **Далеўскі Францішак**, з фальварка Руднікі, сябар Літоўскага правінцыйнага камітэту, засуджаны на 20 гадоў катаргі.

91. **Далеўскі Цітус**, з Кункулкі, найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага. Расстраляны на Лукішкскай плошчы 11.01.1864 г.

92. **Дашкевіч Аляксандр**, сын Барталамея, гадоў 22, з ваколіцы Яновічы.

93. **Драбязгевіч Аляксандр**, сын Вінцэнта, з засценка Больсі парафіі Жырмунскай, высланы ў Казанскую губерню, яго маётак Больсі прададзены.

94. **Драздовіч Юстын**, гадоў 25, высланы ў Сібір.

95. **Драздоўскі Антоні**, сын Шымона, з Воранава, аддадзены ў салдаты на 5 гадоў.

96. **Ёдка Кароль**, сын Вінцэнта, гадоў 25, з маёнтка Петрашунцы, высланы ў Томскую губерню.

97. **Ёдка Людвік**, з ваколіцы Валочкі, парафіяльны начальнік паўстання, памёр у турме.

98. **Ёдка Станіслаў Ян**, сын Баніфацыя, гадоў 22, з маёнтка Петрашунцы, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

99. **Ёч Аляксандра**, дачка Стэфана, з ваколіцы Ёчы, парафіі Нацкай, сувязная ў аддзеле Нарбута і Астрогі, хавалася пад псеўданімам Зуброўскай у Вільні.

100. **Ёч Антоні**, сын Міхала, гадоў 20, высланы ў Самарскую губерню.

101. **Ёч Багуслаў**, гадоў 19, з маёнтка Кіюнцы, парафіі Нацкай, яго маётак Кіюнцы канфіскаваны.

102. **Ёч Баляслаў**, сын Філіцыяна, з маёнтка Кіюнцы, высланы ў Сібір.

103. **Ёч Дамінік**, сын Фердынанда, гадоў 28, з ваколіцы Сурконты, высланы ў Самарскую губерню.

104. **Ёч Станіслаў**, сын Барталамея, гадоў 45, з маёнтка Галадоўка.

105. **Ёч Эдмунд**, сын Барталамея, з маёнтка Галадоўка, парафіі Калясніцкай, яго маётак Галадоўка канфіскаваны.

106. **Жавеўскі Ян**, з Глыбокага, забраны на 3 гады на прымусовую службу.

107. **Жалягоўскі**, хлопчык 14 гадоў, ваяваў у аддзеле Нарбута, узяты ў палон пад Дубічамі.

108. **Жамойталь Баляслаў**, з ваколіцы Вільканцы, з аддзела Астрогі.

109. **Жамойталь Кароль**, сын Ксаверыя, з ваколіцы Міцканцы, гадоў 20, з аддзела Нарбута.

110. **Жамойталь Рудольф**, гадоў 31, быў арыштаваны.

111. **Жукоўскі Баляслаў**, высланы ў Пензенскую губерню.

112. **Жукоўскі Ўладзіслаў Вандалін**, 27 гадоў, жыхар Лацка, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

113. **Жукоўскі Ян**, гадоў 25, з аддзела Нарбута, высланы ў Сібір.

114. **Жураўскі Герард**, з Вензаўшчыны, арыштаваны.

115. **Жураўскі Ігнацы**, сын Нарцыза, гадоў 33, з маёнтка Капцёўшчына.

116. **Загорскі Францішак**.

117. **Задора (Ваньковіч)**, начальнік штаба аддзела Віславуха, узяты ў палон каля Пашышак.

118. **Закрэўскі Францішак**.

119. **Запаснік Аляксандр**, сын Баніфацыя, гадоў 20, з ваколіцы Асіпоўцы, быў у аддзеле Нарбута, высланы ў Томскую губерню.

120. **Запаснік Андрэй**, высланы ў Самарскую губерню.

121. **Запаснік Аўгустын**, сын Юзафа, высланы ў Табольскую губерню.

122. **Запаснік Баніфацы**, сын Міхала, гадоў 50, высланы ў Томскую губерню.

123. **Запаснік Пётр**, сын Бенедыкта, гадоў 25, высланы ў Томскую губерню.

124. **Запаснік Станіслаў**, гадоў 25, з ваколіцы Руканцы, высланы ў Сібір.

125. **Запаснік Стэфан**, гадоў 18, высланы ў Арэнбургскую губерню.

126. **Зарэцкі (Зажэцкі)**, ксёндз з парафіі Забалацкай, высланы ў Сібір.

127. **Захватовіч Вінцэнт**, з Бердаўкі, высланы ў Варонежскую губерню, яго маёнтак Бердаўка прададзены.

128. **Звяровіч Адольф**, эміграваў.

129. **Звяровіч Аляксандр**, сын Яна, гадоў 25, з маёнтка Доцішкі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Арэнбургскую губерню, яго маёнтак Доцішкі прададзены.

130. **Зданюкевіч Казімір**, сын Тамаша, з вёскі Шаўры, парафіі Нацкай, высланы ў Сібір.

131. **Знамяроўскі Аўгустын**, быў арыштаваны.

132. **Знамяроўскі Ян**, сын Антонія, з ваколіцы Паўстокі, парафіі Эйшышскай.

133. **Зуброўскі Вінцэнт**, сын Аляксандра, з ваколіцы Асіпоўцы, высланы на катаргу, на 8 гадоў.

134. **Зямацкі Раймунд**, кнёндз-пробашч, з в. Вавёрка за прачытанне з амбона маніфесту Нацыянальнага ўраду расстраляны 5.06.1863 года ў Вільні.

135. **Зямецкі Браніслаў**, сын Ануфрыя, гадоў 33, высланы ў Іркуцкую губерню, дзе памёр.

136. **Іваноўскі Ян**, быў арыштаваны.

137. **Ігнатовіч Рамуальд**, сын Міхала, гадоў 24, высланы ў Самарскую губерню.

138. **Ішора Станіслаў**, ксёндз-вікары з Жалудка, прыгавораны на пакаранне смерцю за чытанне з амбона маніфесту Нацыянальнага ўраду і расстраляны 3.6.1863 г. у Вільні.

139. **Калясінскі Адам**, з вёскі Нонішкі, арганіст з Жалудка.

140. **Калясінскі Бальтазар**, сын Бальтазара, гадоў 44, з маёнтка Сядэймы, высланы ў Кастрамскую губерню.

141. **Канапацкі Антоні**, гадоў 18, з аддзела Нарбута.

142. **Канапацкі Ян**, сын Казіміра, гадоў 18, з маёнтка Сумарокаўшчына, з аддзела Нарбута.

143. **Кандрат Барталамей**, з Паддуб’я, ляснік, выведнік і кур’ер Нарбута.

144. **Кандратовіч Адам**, сын Марціна, гадоў 20, з аддзела Астрогі, высланы ў Томскую губерню.

145. **Каржанеўскі Ян**, ксёндз-вікары з Новага Двара, прыгавораны да смяротнай кары, прысуд заменены на 12 гадоў катаргі, высланы ў Табольскую губерню.

146. **Карповіч Казімір**, сын Аляксандра, з ваколіцы Боландзі парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір.

147. **Карповіч Ян**, сын Аляксандра, з ваколіцы

Боландзі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Томскую губерню.

148. **Кашыц Кастусь**, ваяваў на Наваградчыне, сасланы на 3 гады, яго маёнтак Тарнова прададзены расейскаму генералу графу Маўрасу.

149. **Келер Фрыдэрык**, сын Фрыдэрыка, гадоў 19, з аддзела Чудоўскага.

150. **Кіюць Шымон**, сын Вінцэнта, з маёнтка Таўкунцы.

151. **Клімантовіч Антоні**, сын Канстанціна, гадоў 22, з маёнтка Лябёдка, узяты ў няволю.

152. **Клімантовіч Баляслаў**, сын Канстанціна, з маёнтка Лябёдка, парафіяльны начальнік паўстання, псеўданім – Антаневіч, высланы на катаргу ў цвердзь.

153. **Клімантовіч Генрык**, эміграваў.

154. **Клімантовіч Уладзіслаў**, сын Эдмунда, гадоў 32, з аддзела Нарбута, удзельнічаў у бітве пад Дубічамі, чуў апошнія словы Нарбута, высланы ў Іркуцкую губерню.

155. **Клюковіч**, эміграваў.

156. **Клячкоўскі Казімір**, гадоў 29, з аддзела Нарбута, высланы ў Пензенскую губерню.

157. **Кміта Антоні**, сын Мацея, з ваколіцы Рамановічы, яго дзялка Рамановічы канфіскавана.

158. **Колышка Баляслаў**, з Карманішак, камандзір аддзела на Ковеншчыне, павешаны 28.05.1863 г. у Вільні.

159. **Колышка Міхал**, сын Яна, гадоў 28, з ваколіцы Кульпы, высланы ў Томскую губерню.

160. **Колышка Ўладзіслаў**, брат Баляслава.

161. **Колышка Фелікс Генрык**, з Карманішак, брат Баляслава, маёр царскай арміі, удзельнік баёў на Каўказе супраць Шаміля, камандзір аддзела ў Троцкім павеце, на Віленшчыне і Аўгустоўшчыне, эміграваў.

162. **Колышка Ян Вінцэнт**, брат Баляслава.

163. **Коркуць Аляксандр**, сын Яна, гадоў 27, з ваколіцы Неванянцы, парафіі Альканіцкай.

164. **Коркуць (Кіркуць) Цыпрыян**, гадоў 24, высланы ў Сібір.

165. **Краеўскі Вінцэнт**, сын Юзафа, гадоў 37, з мястэчка Шчучын, высланы ў Томскую губерню.

166. **Краеўскі Павел**, сын Уладзіслава, гадоў 16, з мястэчка Шчучын, высланы ў Пермскую губерню.

167. **Краінскі Адольф**, з ваколіцы Палашкі, сябар Лідскага павятовага рэвалюцыйнага камітэту, высланы ў Варонежскую губерню, дзе памёр.

168. **Краінскі Леан**, з Грышанішак, 35 гадоў, ад'ютант і начальнік штаба ў аддзеле Людвіка Нарбута, загінуў у бітве пад Дубічамі, яго дзялка Грышанішкі канфіскавана.

169. **Краснік Зыгмунт**, сын Яна, высланы ў Табольскую губерню.

170. **Крупавец Ян**, сын Яна, гадоў 16, з ваколіцы Паддуб'е, высланы ў Самарскую губерню.

171. **Круповіч Вінцэнт**, гадоў 23, высланы ў Сібір.

172. **Круповіч Клеменс**, сын Марціна, гадоў 20, з ваколіцы Дзяршышкі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Табольскую губерню.

173. **Круповіч Марцін**, сын Аляксандра з ваколіцы Пазгрында, высланы ў Сібір.

174. **Круповіч Шымон**, з ваколіцы Вішкунцы, парафіі Эйшышскай.

175. **Круповіч Юзаф**, сын Вінцэнта, з ваколіцы Бянкевічы.

176. **Круповіч Юзафат**, сын Адама, высланы ў Томскую губерню.

177. **Крыжаноўскі Міхал**, сын Казіміра, гадоў 29, з ваколіцы Тальмонты, з аддзела Астрогі.

178. **Крыжаноўскі Юзаф**, з ваколіцы Тальмонты, парафіі Нацкай.

179. **Кубецкі Адольф**, сын Дамініка, гадоў 17, з ваколіцы Неванянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір.

180. **Кульчыцкі**, начальнік чыгуначнай станцыі ў Гародні, прывёў у аддзе Нарбута 8 чалавек.

181. **Кунцэвіч Канстанцін**, сын Юрыя, гадоў 43, з маёнтка Талуцішкі, высланы ў Пермскую губерню.

182. **Кунцэвіч Райнольд**, сын Канстанціна, гадоў 17, з маёнтка Талуцішкі, з аддзела Астрогі, высланы ў Пермскую губерню.

183. **Кунцэвіч Тадэвуш**, сын Антона, гадоў 48, з ваколіцы Белапётры.

184. **Кунцэвіч Уладзіслаў**, сын Тадэвуша, гадоў 17, з ваколіцы Белапётры.

185. **Кушалевіч Людвік**, сын Казіміра, гадоў 22, з ваколіцы Таўзгіняны, з аддзела Астрогі.

186. **Лазоўскі Эдвард**, з ваколіцы Гірэк, сябар Лідскага рэвалюцыйнага камітэту, высланы ў Сібір.

187. **Ласкоўскі Юльян**, абшарнік з Ліды, павешаны ў Вільні за прачытанне маніфесту паўстання сялянам, яго маёнтак Малыя Стокі (Чаплеўшчына) прададзены.

188. **Лукашэвіч Рудольф**, гадоў 18, з аддзела Нарбута.

189. **Любянец Ян**, сын Дамініка, гадоў 25, з ваколіцы Юрэлі, высланы ў Самарскую губерню.

190. **Лянкевіч Аляксандр**, камандзір аддзела, ваяваў на захадзе Лідскага павета.

191. **Лясковіч Альберт Вандалін**, сын Францішка, нар. 15.04.1840 г., расстраляны ў траўні 1863 года.

192. **Лясковіч Юльян**, сын Францішка, гадоў 32, з Чапляеўшчыны, высланы ў Пермскую губерню.

193. **Макоўскі Аляксандр**, гадоў 29, быў у паўстанцкім аддзеле.

194. **Макрэцкі Адам**, сын Тамаша, гадоў 20, з маёнтка Макрэц, высланы на катаргу.

195. **Макрэцкі Аляксандр**, сын Тамаша гадоў 27, з маёнтка Макрэц, высланы ў Сібір.

196. **Макрэцкі Баляслаў**, сын Тамаша, гадоў 29, высланы на катаргу ў цвердзі.

197. **Максімовіч Юзаф**, каваль, кароткачасовы арышт.

198. **Малеўскі Міхал**, сын Пятра, з ваколіцы Дзімітры.

199. **Малеўскі Цыпрыян**, сын Пятра, гадоў 27, з ваколіцы Гарманы, парафіі Эйшышскай, з аддзела Астрогі, высланы ў Томскую губерню.

200. **Малеўскі Эдвард**, сын Андрэя, гадоў 20, з ваколіцы Сурконты, высланы ў Самарскую губерню.

201. **Малеўскі Юльян**, сын Каятана, гадоў 20, з ваколіцы Паняздзель, парафіі Эйшышскай, высланы ў Самарскую губерню.

202. **Малеўскі Ян**, сын Даметніка, гадоў 21, з ваколіцы Тальмонты.

203. **Малеўскі Ян**, сын Мацея, гадоў 43, высланы на катаргу ў рудніках пажыццёва, пазбаўлены вайсковага звання кавалер.

204. **Маліноўскі Крыштаф**.

205. **Малькоўскі Ян**, мешчанін з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай.

206. **Мангайла Антоні**, сын Антонія, з вёскі Раўбішкі, высланы ў Сібір.

207. **Манкевіч Дамінік**.

208. **Манчунская Тадора** з Нарбутаў, дачка Тодара, з маёнтка Шаўры, парафіі Нацкай, сястра і асноўная памочніца Людвіка, сувязная, агітатар. Эмігравала. Узнагароджана ордэнам "Адраджэння Польшчы", памерла ў 1925 годзе ў Кракаве.

209. **Манькоўскі Альберт.**

210. **Марачэўскі Адам**, сын Тэафіла, з маёнтка Андрушоўцы, высланы ў Сібір.

211. **Маргевіч Аляксандр**, быў у аддзеле Нарбута.

212. **Маргялевіч Аляксандр**, сын Міхала, з маёнтка Ганэлькі, высланы на катаргу ў Табольскую губерню.

213. **Маргялевіч Ігнацы**, сын Юзафа, гадоў 40, з маёнтка Ганэлькі, з аддзела Нарбута, высланы ў Табольскую губерню.

214. **Маргялевіч Пётр**, сын Міхала, гадоў 32, з маёнтка Ганэлькі, з аддзела Нарбута, высланы ў Томскую губерню.

215. **Марцішэўскі Юзаф**, сын Яна, гадоў 20, з мястэчка Эйшышкі, высланы ў Сібір.

216. **Масальская**, у дзявоцтве Захватовіч, эмігравала.

217. **Масальскі**, эміграваў.

218. **Мікалаі Ўладзіслаў**, падпаручнік расейскай арміі, перайшоў на бок паўстанцаў, камандзір звяза ў аддзеле Нарбута, паранены пад Дубічамі, трапіў у палон, 13 верасня 1863 года расстраляны ў Вільні на Лукішскім пляцы.

219. **Мікульскі Баляслаў**, караткачасовы арышт.

220. **Мікульскі Валенты**, сын Яна, гадоў 40, з маёнтка Глыбокае, высланы ў Пермскую губерню.

221. **Мілеўскі Казімір**, сын Францішка, гадоў 25, з ваколіцы Ягайлавічы.

222. **Мілеўскі Міхал**, сын Францішка, гадоў 30, селянін з ваколіцы Ягайлавічы, з аддзела Астрогі, высланы ў Томскую губерню.

223. **Мілеўскі Ян**, сын Францішка, з вёскі Ягайлавічы, высланы ў Сібір.

224. **Мінакоўскі Ян**, сын Антонія, з ваколіцы Каркуцяны, высланы ў Сібір.

225. **Мінскі Альберт**, высланы на катаргу на 8 гадоў ў цвердзі.

226. **Міхалоўскі**, з аддзела Нарбута, загінуў пад Кавалькамі.

227. **Міцкевіч Ізыдор**, гадоў 37.

228. **Міцкевіч Уладзіслаў**, сын Паўла, гадоў 24, з Воранава, высланы ў Пермскую губерню.

229. **Міцкевіч Шымон**, сын Казіміра, гадоў 17, высланы ў Самарскую губерню.

230. **Міцкевіч Юзаф**, гадоў 24.

231. **Міцкевіч Якуб**, гадоў 25.

232. **Навагудскі (Навагондскі) Андрэй**, гімназіст з Вільні, ваяваў у аддзеле Нарбута, паранены і ўзяты ў палон пад Дубічамі.

233. **Навіцкі Кароль**, сын Барталамея, гадоў 35, селянін, высланы ў Самарскую губерню.

234. **Навіцкі Ўладзіслаў**, з Міхайлаўкі, камандзір звяза ў аддзеле Нарбута, загінуў пад Кавалькамі.

235. **Навіцкі**, малады, загінуў пад Руднікамі.

236. **Нарбут Баляслаў**, сын Тодара, брат і ад'ютант Людвіка, гадоў 17, асуджаны на смерць, высланы ў Енісейскую губерню, яго маёнтак Нікадэмаў прададзены.

237. **Нарбут Браніслаў**, гадоў 31, з маёнтка Нікадэмаў, высланы ў Арэнбургскую губерню.

238. **Нарбут Войцах-Юльян**, былы капітан расейскай арміі, крэўны Людвіка Нарбута, загінуў пад Кавалькамі.

239. **Нарбут Крыстына з Садоўскіх**, дачка Ігната, маці Людвіка Нарбута, з маёнтка Шаўры, парафіі Нацкай, выслана ў Пензенскую губерню.

240. **Нарбут Людвік**, вайсковы начальнік Лідскага павета, палкоўнік, галоўнакамандуючы войскаў ВКЛ, загінуў у баі пад Дубічамі.

241. **Нарбут Тодар**, бацька Людвіка, узяты на допыты, памёр да вынясення прысуду.

242. **Нарбут Францішак-Салезі**, брат Людвіка, пасля вучобы ў вайсковай школе ў Італіі ваяваў у аддзеле Лангевіча, эміграваў, памёр у Венгрыі.

243. **Нарушэвіч Вінцэнт**, сын Напалеона, гадоў 20, высланы ў Самарскую губерню.

244. **Нарушэвіч Напалеон**, сын Тодара, гадоў 65, з фальварка Палецкішкі, высланы ў Расію.

245. **Некратовіч Мацей**, селянін з Шаўроў, вазіў прадукты ў аддзел Нарбута.

246. **Непакайчыцкі Францішак**, жыў ў Вільні.

247. **Нявера**, з Пелясы, прывёў у аддзел Нарбута 11 дабраахвотнікаў, казённых сялян.

248. **Орда Андрэй**, сын Юстына, гадоў 44.

249. **Падэйка Вінцэнт**, сын Барталамея, гадоў 37, з ваколіцы Ліпканцы, з аддзела Нарбута, высланы ў Сібір.

250. **Пакемпіновіч Юзаф**, 22 гады, студэнт Кракаўскага ўніверсітэта, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

251. **Палівода (Пяроўскі)**, фуражыр аддзела Віславуха, узяты ў палон каля Пашышак.

252. **Палукорд Антоні**, сын Юзафа, гадоў 28, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір.

253. **Палукорд Юзаф**, сын Юрыя, гадоў 54, з ваколіцы Цяцянцы, высланы ў Самарскую губерню, разам з сям'ёю.

254. **Паплаўскі Ўладзімір**, 28 гадоў, з фальварка Ваўчынкі, жыхар Капцюха, сябар Лідскага рэвалюцыйнага камітэту, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў

пад Дубічамі.

255. **Паплаўскі Юльян**, сын Міхала, гадоў 36, з фальварка Ваўчынкі, уладальнік Капцюхоў, Кажаняк і Ваўчынак, арыштаваны за дастаўку паўстанцам, прадуктаў, зброі, вопраткі, пасаджаны ў вязніцу ў Вільні, вызвалены за хабар, эміграваў.

256. **Патрыкоўскі Анзэльм**, гадоў 32, з Лябёдкі, быў ў аддзеле Нарбута інтэндантам, ваенным камісарам, высланы на катаргу.

257. **Паўловіч Адам**.

258. **Паўлоўскі Канстанцін**, сын Яна, з вёскі Агароднікі.

259. **Паўлоўскі Юзаф**, сын Вінцэнта, гадоў 15, з Кукалкі, парафіі Эйшышскай, высланы ў Сібір.

260. **Петарсон Фрэдэрык**, з Хадзілоняў, арыштаваны.

261. **Пілецкі Ўладзіслаў**, сын Сельвестра, гадоў 25, камандзір звяза ў аддзеле Нарбута, высланы ў Томскую губерню.

262. **Пілецкі Юзаф**, сын Адама, з маёнтка Лаўчылавічы, высланы ў Томскую губерню, яго маёнтак Лаўчылавічы прададзены.

263. **Плескачэўскі Ігнацы**, высланы ў Томскую губерню.

264. **Пульяноўскі Напалеон**, сын Якуба, гадоў 55, з маёнтка Чаляеўшчына, высланы на катаргу ў Іркуцкую губерню на 6 гадоў, яго маёнтак Чаляеўшчына канфіскаваны.

265. **Пясецкі Цыпрыян**, з маёнтка Пескі і Бярозаўцы, ваяваў у аддзеле Нарбута, паранены і ўзяты ў палон пад Дубічамі, высланы на катаргу ў цвердзі на 8 гадоў, дзе памёр.

266. **Радзевіч Юльян**, гадоў 25.

267. **Развадоўскі Ян**, сын Фульгента, гадоў 24, з ваколіцы Боландзі, высланы ў Сібір.

268. **Райцэвіч**, ксёндз-пробашч з Новага Двара, арыштаваны.

269. **Ралукрад Юзаф**, яго маёнтак Больсі прададзены.

270. **Раманоўскі Казімір**, сын Мацея, гадоў 24, з ваколіцы Крупавесы, парафіі Калясніцкай, высланы ў Сібір.

271. **Раманоўскі Кароль**, сын Андрэя, гадоў 17, з ваколіцы Вянцкевічы, высланы ў Сібір.

272. **Рапацкі Канстанцін**, з маёнтка Рэксці.

273. **Рачак Павел**, сын Лявона, гадоў 22, з вёскі Лябеднікі, парафіі Эйшышскай, з аддзела Нарбута, высланы ў Сібір.

274. **Ржасніцкі Станіслаў**, сын Станіслава, гадоў 32, з маёнтка Здановічы, высланы ў Арэнбургскую губерню.

275. **Ржасніцкі Эрнэст**, яго маёнтак Здановічы прададзены.

276. **Роўба Міхал**, гадоў 20, з вёскі Вавёрка, быў ў аддзеле Астрогі і Любіча, высланы ў Тульскія арыштанцкія роты на 4 гады.

277. **Роўба Стэфан**, гадоў 23, з ваколіцы Кальвіцкія.

278. **Рудзіцкі**, яго маёнткі Жылічы і Казіміраўка канфіскаваны.

279. **Рудкоўскі Юзаф**, гадоў 33.

280. **Рудніцкі Людвік**, сын Аляксандра, высланы ў Сібір.

281. **Рудніцкі Пётр**, сын Аляксандра, прыгавораны да катаргі на 6 гадоў.

282. **Руковіч Шымон**, гадоў 17, з ваколіцы Смільгіны, высланы ў Сібір.

283. **Руткоўскі Юзаф,** гадоў 33.

284. **Рутскі Стэфан**, сын Ігнацыя, гадоў 20, з ваколіцы Сурконты.

285. **Рухлевіч Ян,** сын Францішка, з маёнтка Радкевічы, с парафіі Шчучынскай, высланы ў Томскую губерню.

286. **Руцкі Аляксандр.**

287. **Руцкі Вінцэнт**, высланы ў Пензенскую губерню.

288. **Руцкі Станіслаў**, сын Ігнацыя, гадоў 25, высланы ў Самарскую губерню.

289. **Руцкі Ян**, сын Казіміра, гадоў 46, высланы ў Сібір.

290. **Рыла Кастусь**, сын Тадэвуша, з ваколіцы Ёдкі.

291. **Рыхлевіч Караліна**, малодшая дачка Марылі Путкамер (Верашчакі), пахавана ў Беняконях.

292. **Рыхлевіч Ян**, эміграваў.

293. **Савіцкі Тамаш**, мешчанін з мястэчка Алькенікі.

294. **Сакалоўскі Тадэвуш**, сын Ігнацыя, гадоў 17, высланы ў Самарскую губерню.

295. **Сакалоўскі Юзаф**, сын Антонія, высланы ў Сібір.

296. **Сакалоўскі Ян**, сын Юзафа, гадоў 29, з вёскі Зубішкі, высланы ў Сібір.

297. **Самарока Юзаф**, з вёскі Радзівонішкі.

298. **Сангін Юзаф**, сын Яна, гадоў 35, з ваколіцы Цяцянцы, высланы ў Самарскую губерню.

299. **Сасонка Адам**, сын Міхала, гадоў 25, з вёскі Рэксці, высланы ў Кастрамскую губерню.

300. **Скавінскі Адольф**, сын Юрыя, гадоў 25.

301. **Скавінскі Аляксандр**, сын Дамініка, гадоў 42, з маёнтка Тальманты, парафіі Нацкай, камандзір звяза ў аддзеле Нарбута, высланы ў Томскую губерню.

302. **Скавінскі Зыгмунт**, сын Валянціна, гадоў 18, высланы ў Самарскую губерню.

303. **Скібінскі Рамуальд**, сын Яна, гадоў 31, ксёндз-пробашч, з мястэчка Дэмбраў, прыгавораны да катаргі на 8 гадоў.

304. **Скірмунт Тамаш**, 30 гадоў, з Піншчыны, ваяваў у аддзеле Нарбута, загінуў пад Дубічамі.

305. **Смілгін Цыпрыян**, сын Дамініка, гадоў 25.

306. **Ставіцкі Калікст**, пробашч Дубіцкага касцёла.

307. **Стацкевіч Казімір**, з ваколіцы Вайдагі.

308. **Стацэвіч Міхал**, сын Юзафа, гадоў 19, з ваколіцы Курміны, высланы ў Сібір.

309. **Стацэвіч Станіслаў**, сын Яна, гадоў 27, высланы ў Самарскую губерню.

310. **Стацэвіч Стэфан**, сын Яна, гадоў 20, з ваколіцы Сурконты.

311. **Стацэвіч Юзаф**, сын Юзафа, гадоў 18, з

ваколіцы Сурконты.

312. **Стацэвіч Юстын**.

313. **Струміла Адольф**, сын Юзафа, з мястэчка Шчучын, высланы на катаргу ў цвердзь у Сібір.

314. **Сумарок Рамуальд**, гадоў 25, высланы ў Сібір.

315. **Сумарок Фелікс**, высланы ў Сібір у салдаты.

316. **Сумарок Юзаф**, з Вярсокі, сябар Лідскага павятовага рэвалюцыйнага камітэту, эміграваў.

317. **Сумарок Ян**, сын Францішка, гадоў 25, з маёнтка Вавёрка, быў у аддзеле Чудоўскага і Рыхлеўскага, высланы ў Томскую губерню.

318. **Сурконт Адам**, сын Антонія, гадоў 19, высланы ў Сібір.

319. **Сухоцкі**, прыстаў 5-га стану з-пад Начы, звольнены з пасады за спагаду да паўстанцаў і аддадзены пад суд.

320. **Сырвід Ануфры**, ксёндз-пробашч, з мястэчка Васілішкі, прыгавораны да 12 гадоў катаргі.

321. **Сяклуцкі Вінцэнт**, з маёнтка Гарнастаішкі, парафіі Эйшышскай.

322. **Сяліцкі Рамуальд**, сын Барталамея, гадоў 20, высланы ў Сібір.

323. **Сямашка Ян**, з маёнтка Гернікі, высланы ў Арэнбургскую губерню, разам з жонкаю Валерыяй, іхні маёнтак Гернікі прададзены.

324. **Сярэйчык Ваўжынец**, яго дзялка Кракшлі канфіксавана.

325. **Табенская Альжбета**, дачка Міхала, гадоў 32, з маёнтка Рудова, выслана ў Томскую губерню.

326. **Табенская Антаніна**, дачка Міхала, гадоў 22, з маёнтка Рудова, выслана ў Сібір.

327. **Табенскі Кіпрыян**, эміграваў.

328. **Табенскі Яраслаў**, сын Дыяніза, гадоў 39, з маёнтка Земляпіша, высланы ў Пермскую губерню, яго маёнткі Зенавічы, Малкаўцы і Ўгольнікі прададзены.

329. **Тараевіч**, доктар з Салтанішак, асноўны пастаўшчык амуніцыі ў аддзел Людвіка Нарбута.

330. **Тарашкевіч *(Тарашэвіч)* Ігнацы**, з аддзела Нарбута, загінуў пад Дубічамі

331. **Таўкевіч Вінцэнт**, з маёнтка Кабыльнікі.

332. **Трушынскі *(Трушчынскі)* Юзаф**, сын Яна, гадоў 37, з вёскі Ліпкунцы, высланы ў Сібір, яго маёнтак Ліпкунцы і дзялка Грышанішкі канфіскаваны.

333. **Тубілевіч Мацей**, гадоў 35, з г. Ліды, мешчанін, яго дзялка Мажэйкаўшчына канфіскавана.

334. **Тубілевіч Юзаф**, гадоў 30, з ваколіцы Мудрукоўшчына, з аддзела Нарбута, высланы ў Пермскую губерню.

335. **Тукала Валеры**, з Ольжаўскіх Тукалаў, ваяваў у Аўгустоўскіх лясах, яго маёнтак Рачкоўшчына канфіскаваны.

336. **Туровіч Адам**, сын Юзафа, гадоў 15, з вёскі Мількунцы.

337. **Турскі Ксаверы *(Конрад)*,** сын Яна, з маёнтка Парадунь.

338. **Турчынскі Вінцэнт**, высланы ў Сібір.

339. **Тышкевіч Кароль**, сын Юрыя, з маёнтка Жырмуны, гадоў 44, высланы ў Пермскую губерню, яго маёнтак Жырмуны прададзены.

340. **Уланоўскі Фелікс**, з ваколіцы Вайдагі.

341. **Урублеўскі Валеры Антоні**, з Жалудка, найбліжэйшы паплечнік К. Каліноўскага, ваяваў на Гарадзеншчыне, у Белавежскай пушчы, на Любліншчыне, эміграваў, генерал Парыжскай камуны.

342. **Фалькоўскі Адам**, ксёндз-пробашч, гадоў 53, з в. Ішчална, расстраляны ў Лідзе 24 чэрвеня 1863 г.

343. **Франскевіч**, з аддзела Нарбута, трапіў у палон каля в. Станюнцы.

344. **Хмялеўскі Юзаф**, сын Марціна, гадоў 23, з аддзела Чудоўскага, высланы ў Томскую губерню.

345. **Цадронскі Міхал**, сын Яна, гадоў 17, з маёнтка Дуцішкі.

346. **Цехановіч Валерыя з Цыбульскіх**, прымала ўдзел у паўстанні на Мешчыне. Памерла ў 1933 годзе. Пахавана на Лідскіх каталіцкіх могілках.

347. **Цыдзік Міхал**, гадоў 40, з ваколіцы Дылева парафіі Васілішскай, высланы ў Сібір, яго дзялка Дылева канфіскавана.

348. **Цымерман**, вучань Віленскай гімназіі, быў у аддзеле Нарбута, трапіў у палон каля вёскі Станюнцы.

349. **Цяцянец Дыяніз**, сын Барталамея, гадоў 25, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Енісейскую губерню.

350. **Цяцянец Ігнацы**, сын Шымона, гадоў 27, з ваколіцы Цяцянцы, парафіі Алькяніцкай, высланы ў Сібір.

351. **Чарвінскі Ян**, сын Аляксандра, гадоў 33, высланы ў Сібір.

352. **Чачот Тамаш**, ксёндз-вікары парафіі Васаўскай.

353. **Шабельскі Юзаф**, ляснічы ў лясах графа Тышкевіча, высланы ў Томскую губерню.

354. **Шалевіч Адольф**, гадоў 26, высланы ў Самарскую губерню.

355. **Шалевіч Казімір**, эміграваў.

356. **Шалевіч Кароль**, сын Фелікса, гадоў 24, высланы ў Сібір.

357. **Шалевіч Юзаф**, сын Феліцыяна, з маёнтка Шалева.

358. **Шалевіч Цыпрыян**, з Сабакінцаў, арыштаваны.

359. **Шахоўскі Валяр'ян**, гадоў 20, селянін з аддзела Нарбута

360. **Шкіландзь Адольф**, сын Яна, гадоў 17, з ваколіцы Паддуб'е, высланы ў Сібір.

361. **Шмігер Густаў**, сын Юзафа, гадоў 17, высланы на катаргу ў рудніках на 12 гадоў.

362. **Шмігер Юзаф**.

363. **Шукевіч Тамаш**, сын Яна-Вінцэнта, гадоў 36, з маёнтка Крупава, павятовы суддзя, у паўстанні павятовы камісар, высланы ў Томскую губерню.

364. **Шчасновіч Міхал**, высланы ў Томскую губерню.

365. **Шчука Стэфан**, эканом маёнтка Казіміраўка, арыштаваны.

366. **Шэлкінг Альфонс**, з маёнтка Забалаць графа Патоцкага, трымаў склад паўстанцкай зброі.

367. **Эйсмант Аляксандр**, сын Захарыя, з маёнтка Пакулішкі, высланы ў Табольскую губерню.

368. **Эйсмант Леанард**, сын Пятра, гадоў 59, з маёнтка Пакулішкі, высланы ў Табольскую губерню, яго маёнтак Пакулішкі канфіскаваны.

369. **Юндзіл Эмануіл**, эміграваў.

370. **Юндзіл Ян**, сын Гіпаліта, гадоў 18, з ваколіцы Вайдагі.

371. **Юрэвіч Анастазы**, мешчанін з ваколіцы Пашышкі, быў ў аддзеле Нарбута, высланы ў Сібір.

372. **Юрэвіч Ануфры**, гадоў 30, з маёнтка Юршышкі, парафіі Эйшышскай з аддзела Нарбута.

373. **Якубоўскі Севярын**, войт Тарноўскай воласці, сакратар Лідскага павятовага рэвалюцыйнага камітэту, ваяваў у аддзеле Людвіка Нарбута, удзельнічаў у бітве пад Дубічамі, чуў апошнія словы Нарбута.

374. **Якубоўскі Францішак**, сын Юрыя, гадоў 19, высланы ў Самарскую губерню.

375. **Ямант Марыя**, дачка дакудаўскага эканома Мацея Яманта, нарачоная Кастуся Каліноўскага, выслана ў Табольск.

376. **Ямант Юзаф**, сын дакудаўскага эканома Мацея Яманта, сакратар Кастуся Каліноўскага, з кастрычніка 1863 года паўстанцкі камісар Менскай губерні, высланы ў Томск.

377. **Янкоўскі Аляксандр**, сын Пятра, гадоў 20, з маёнтка Рачкоўшчына, парафіі Навадворскай, быў ў аддзеле Нарбута і Астрогі, высланы ў Сібір.

378. **Янкоўскі Кастусь**, сын Пятра, з маёнтка Рачкоўшчына, высланы ў Сібір.

379. **Янкоўскі Пётр**, сын Пятра, гадоў 24, камандзір звяза ў аддзеле Нарбута з 3.03. 1863 года, у бітве пад Дубічамі 30.03.1863 г. быў паранены, узяты ў палон, высланы на катаргу ў рудніках, дзе памёр.

380. **Янкоўскі Стэфан**, сын Пятра, гадоў 22, прыгавораны да смяротнай кары, высланы на катаргу на 12 гадоў ў Табольскую губерню.

381. **Янушкевіч Людвік**, сын Вінцэнта, гадоў 40, высланы ў Томскую губерню.

382. **Янушкевіч Эдвард**, сын Ігнацыя, з вёскі Шаўры, парафіі Нацкай, высланы ў Сібір.

383. **Ястрэмбскі Рамуальд**, высланы ў Самарскую губерню.

384. **Ястрэмбскі Сільвестр**, сын Людвіка, гадоў 18, з ваколіцы Таўчышкі, з аддзела Нарбута, высланы ў Сібір.

385. **Яцунскі Андрэй**, з фальварка Вайдзбойнішкі.

386. **Яцунскі Пётр**, сын Фелікса гадоў 21, з фальварка Стамяроўшчына, з аддзела Нарбута, прыгавораны да катаргі на 8 гадоў.

387. **Яцунскі Войцах**, сын Шымона, з маёнтка Вайдзбойнішкі.

388. **Яцэвіч Фелікс**, з маёнтка Ішчална.

### Населеныя пункты Лідскага павета, якія найбольш вызначыліся або пацярпелі ў паўстанні

1. Вёска **Дубічы**, за пахаванне паўстанцаў Людвіка Нарбута знесены касцёл.

2. Вёска **Забалаць**, пасля зачытвання маніфесту паўстання ксендзам Зарэцкім больш за 300 сялян сабралася на касцельным двары і тры дні чакала зброю. Напалі на варту партыі рэкрутаў, якіх адпраўлялі ўглыб Расіі. Варту раззброілі, рэкрутаў распусцілі па хатах, самі разышліся

3. Вёска **Зубрава**, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.

4. Вёска **Кракшлі**, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.

5. Вёска **Лініца**, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.

6. Вёска **Паддуб'е**, за падтрымку паўстанцаў зішчаны ўсе пабудовы, усё насельніцтва саслана ў Сібір.

7. Фальварак **Шаўры** бацькі паўстанцаў Тодара Нарбута спалены, месца, дзе ён стаяў, заарана плугам.

8. Шляхочая ваколіца **Шчукі** Дэмбраўскай парафіі, за актыўную падтрымку паўстанцаў знішчана цалкам. Прыгавораны да выслкі ў Расію:

1. **Амбрусевіч Антон**, ж. **Ганна**, усяго 10 чалавек - у Пермскую губ.

2. **Амбрусевіч Ігнат**, ж. **Марцыяна**, усяго 2 чалавекі - у Арэнбургскую губ.

3. **Кузьміцкі Аляксандр**, ж. **Марцэля**, усяго 4 чалавекі - у Саратаўскую губ.

4. **Шчука Вікенці**, ж. **Міхаліна**, усяго 7 чалавек -у Аланецкую губ.

5. **Шчука Вінцэнт**, ж. **Тэафілія**, усяго 8 чалавек - у Саратаўскую губ.

6. **Шчука Восіп**, ж. **Міхаліна,** усяго 7 чалавек - у Пермскую губ.

7. **Шчука Восіп**, ж. **Саламея**, усяго 5 чалавек - у Ноўгарадскую губ.

8. **Шчука Ігнат**, ж. **Вікторыя**, усяго 5 чалавек - у Самарскую губ.

9. **Шчука Мартын**, ж. **Францішка**, усяго 3 чалавекі - у Пензенскую губ.

10. **Шчука Мікалай**, ж. **Разалія**, усяго 5 чалавек - у Арэнбургскую губ.

11. **Шчука Разалія**, удава, усяго 7 чалавек - у Самарскую губ.

12. **Шчука Станіслаў**, ж. **Антаніна**, усяго 6 чалавек - у Кастрамскую губ.

13. **Шчука Станіслаў**, ж. **Разалія**, усяго 4 чалавекі - у Валагодскую губ.

14. **Шчука Сымон**, ж. **Антаніна**, усяго 6 чалавек - у Кастрамскую губ.

15. **Шчука Фадзей**, ж. **Антаніна**, усяго 6 чалавек - у Тамбоўскую губ.

16. **Шчука Ян**, ж. **Тэафілія**, усяго 4 чалавекі - у Томскую губ. (ён абвінавачаны ў забойстве І. Макарэвіча, знаходзіўся ў Гарадзенскай турме).

Усяго ў спісе лідскіх паўстанцаў пакуль **419 імёнаў** і сотні безыменных.

**Вечная памяць героям!**

**Ежы Путрамант**

# ПАЎВЕКУ

## Маладосць*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Карась і фронт

Тыя пару месяцаў 1936 года, уключаючы сакавік, красавік, травень, група наша перажывала выключна горача. Канешне найважнейшай была газета, але і па-за ёй не бракавала нам актыўнасці. У групе пачалі вырысоўвацца як бы зачаткі секцыі. Галоўны стрыжань утваралі людзі, якія ўжо пару гадоў назад скончылі ўніверсітэт. Было аднак таксама і пару студэнтаў, як хоць бы Юзаф Шус, правобраз Шульца з "Рэчаіснасці", альбо зводны брат Казіка Петрусевіча Данак Скаржынскі.

Гэтыя двое - з групкай адвольна з намі звязаных - намагаліся ва ўніверы ўваскрэсіць нейкую антыэндэцкую апазіцыю. Арганізоўвалі нават уласны спіс у Братняк, т. зв. "блок небагатай акадэмічнай моладзі". Ішло гэта нялёгка з-за што раз больш актыўнага супрацьдзеяння ўладаў.

Якраз на пераломе 35-36 года адбыўся ў Вільні першы працэс над "акадэмічнай левіцай", якой ставілася ў віну камуністычная прапаганда і кантакты з кампартыяй. Сярод абвінавачаных былі Друта, Петрусевіч, Штахельскі, Ендрыхоўскі, Мута Дзявіцкая, пару беларусаў. Працэс быў дуты, абапёрты галоўным чынам на прызнанне аднаго правакатара, блізкага, зрэшты, да ненармальнасці. Не гледзячы на гэта ўлупілі вялікія выракі некаторым з абвінавачаных - Друце, а таксама і правакатару: не ведаю, ці не для таго, каб яго замаскаваць. Не адсочваў таго працэсу, быў у той час у Варшаве і Баневе.

Асобна ад студэнтаў паўстала нешта ў родзе настаўніцкай секцыі. І Ганначка Ендрыхоўская і Лілька Петрусевіч працавалі ўжо ў школах. Яны мелі, пэўна, уласныя кантакты, на 1 траўня ішло з нашай групай шмат настаўнікаў.

На весну часцей і большым лікам, чым датуль хадзілі на маёўку. І гэта апісана ў "Рэчаіснасці". Але ў сувязі з маёўкамі здарылася са мной адна дробная, знакамітая гісторыя.

Спявалі на маёўках савецкія песні перш за ўсё і трохі вельмі нешматлікіх польскіх рэвалюцыйных песень. Ні адзін з нашай групы не належаў перад тым да КПП, і мы па-просту тых песень не ведалі.

Адразу быў у нас пэўны снабізм: хто патрапіць больш і дакладней тых савецкіх песень выканаць. Потым па меры нарастання актыкамуністычнай кампаніі ў краіне, галоўным аргументам у якой было абвінавачванне, што мы ёсць "савецкая агентура", пачала ў нас паўставаць патрэба таксама ўласнай лакальнай песні. Дамагаліся яе перш за ўсё ад мяне, як адзінага паэта групы - і Загорскі, і Дорак, і Мікулка, і Рымкевіч, і Алехна ці Гушча пісалі па-праўдзе ў "Па-просту", былі нават у спіску "сталых супрацоўнікаў" "Карты". Але на маёўкі з намі хадзілі вельмі рэдка, выбарачна.

Той "націск масаў" стварыў, што я нарадзіў сваю першую і адзіную песню. Мелодыя была з савецкай "Песні партызанаў". Словы знакамітыя:

*Свет віхрам у твар нам пырснуў,*
*Дзень вітае вокам злым,*
*На пераможны бой з фашызмам*
*Польскі рушыць КЗМ.*
*Нам падмогі ніч'ёй не трэба,*
*Наш кулак - то наша зброя.*
*Не патрэбна падмогі нам,*
*Наш кулак - то наша зброя,*
*Фабрыкантам і абшарнікам*
*Не дамо мы больш спакою...*

Кулак быў метафарай: падняты кулак быў у той час прывітаннем Народнага Фронту. Але незвычайна характэрнай ёсць тая страфа, каб нам ніхто не дапамагаў.

Склаў тыя пару слупкоў і без захаплення ад іх пайшоў спаць. Жыў пастаянна на Партовай, у пані Шчапановіч. Была яна вельмі да мяне добрая. Нават зрабіла мне першы ў жыцці партрэт. Пазіраваў ёй колькі разоў. А потым на выставе разглядаў маладога чалавека ў цёмнай вопратцы з паданым назад падбародкам. Называлася гэта "Партрэт п. Е. П."

Я маю шмат сентыментаў да таго пакою, хоць не спаткалі мяне ў ім ніякія ашаламляльныя прыгоды. Але як сёння бачу абрывістыя схілы Баўфалавай гары, на якую выходзіла вялікае акно. Памятаю нядзельны папалудзень, ляжу на нізкім тапчане, а нехта недзе ў доме іграе тога самага бахаўскага "Гавета". Колькі спакою.

Так, але тым разам было неспакойна...

Раннім ранкам нехта да мяне пастукаў. Адчыніў. Быў гэта такі літовец, досыць далёкі мой знаёмы з універа, Карась, ці Каросас. Не ведаю, чаго ад мяне хацеў, увайшоў у пакой. Убачыў лісток з вершам, слізгануў па ім і аблаяў мяне: "Што ты сабе думаеш? За нешта такое мог бы атрымаць не менш, як пяць гадоў! Перш за ўсё гэта прызнанне да прыналежнасці..."

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

А прыналежнасці ніякай не было. Альбо амаль... Памятаю, нейкі год перад тым адзін з нашай групы, не скажу хто (я ж трошкі канспіратар), узяў мяне на шпацыр па Цялятніку. Была позняя восень, падаў мокры снег, а той досыць вакольнай дарогай намагаўся мне праясніць неабходнасць уступлення ў нелегальную арганізацыю. Я быў згодны адразу, але не мог яго перш за ўсё перапыніць, каб не выглядала несур'ёзна. Нарэшце дайшоў да сутнасці: і так вось я стаў сябрам нелегальнай моладзевай арганізацыі "Фронт". Дадам: ніякіх асаблівых наступстваў тая прыналежнасць мне не прынесла. Рабіў тое самае, што перад тым, раз меней, раз болей, залежна галоўным чынам ад усёй групы.

Цяпер Генрык звярнуўся да мяне па памяшканне для кантактаў. Адбывалася збольшага так, як у "Рэчаіснасці", з тым, што я зусім не браў удзелу ў размовах. З незвычайнай цікавасцю затое я аглядаў першага, ужо найсапраўднейшага нелегальніка. Канешне, у нас называлі яго "доктарам". Сустракаю яго, зрэшты, па сённяшні дзень.

Недзе на пачатку 1936 года адбыўся ў Вільні аўтарскі вечар Мар'яна Чухноўскага. Віленскі аддзел Саюза літаратараў арганізоўваў у той час вельмі рэгулярна "літаратурныя серады". Называлася гэта "Ў келлі Конрада", сапраўды, здаецца, тая келля была недзе побач.

"Серады" звычайна выглядалі сямейна: прыходзіла за дзесяць чалавек знаёмых разносілі каву і крохкія пячэнні, на подыюм узаемна запрашаліся. З Чухноўскім выйшла іначай. Прыйшло шмат моладзі, таксама жаночага полу. Сталкаваліся з Маслінскім і Рымкевічам, што, прынамсі, дзве з іх цікавыя. Юзя акрэсліў іх так: адна мае светлыя бровы, а другая пушыстая, як кошка (тады слова "коцік" яшчэ не ведалі).

Праз пару тыдняў меўся адбыцца нейкі сход ва ўніверы. Сам не ведаю чаму, запрасілі і мяне. Пайшоў, але зблытаў адрас. Нікога там не было. Ужо хацеў пайсці, калі ўсё ж нехта прыйшоў, гляджу, а гэта тая пушыстая...

Лёс так хацеў, толькі мы двое зблыталі той адрас і таму спаткаліся...

Канешне, таксама называлася Ірэна. Была на другім курсе права. Зацягнуў яе на маёўкі. Пачала прыходзіць ў рэдакцыю, на экспедыцыю нумара. Мы мабілізавалі тады прыхільнікаў: збіраліся па некалькі і пад бурчлівым кіраўніцтвам Барысевіча складвалі ўчацвёра нумары, апярэзвалі іх, наклейвалі адрасы. Потым была з намі на першамайскім шэсці, Э, наогул зусім іншая дзяўчына! Янка, напрыклад, ад хвілі звязання майго з "Па-просту" цалкам да мяне астыла. Гаварыла, што гэта з нагоды нізкага літаратурнага ўзроўню таго выдання...

**Палессе**

Так тады, калі на пачатку ліпеня Казік нас падбухторыў на такую навуковую выправу, шмат энергіі я ўлажыў, каб тую найноўшую Ірку таксама загітаваць. Згадзілася, паехала з намі. Казік, як вядома, быў заолагам. Ён ужо некалькі гадоў выконваў абавязкі асістэнта - адразу малодшага, потым старэйшага - у прафесара Яна Дамбоўскага. Быў гэта дзіўны прафесар, скажам тое адразу. Высокі, шчуплы, з каменным, худым тварам, выглядаў на хадзячую павагу і нуду. Але каля сваіх лабараторый зрабіў пляцоўку для валейболу. Казік нам паведаміў, што дзень у дзень, каля паўдня, хто хоча, можа прыходзіць і гуляць.

Мы прыходзілі: Дамбоўскі меў пякельна моцную падачу мяча. Яго жонка, якая працавала ў яго, гуляла таксама. У той час я быў яшчэ досыць спрытны, не гледзячы на фундаментальную канструкцыю. Жарсна гуляў у валейбол. Аднойчы, год таму назад, якраз пасля таго ветразевага лагера, паехалі мы некалькі чалавек у акадэмічную калонію ў Лягацішках. Там нас выклікалі на матч. Я быў асновай каманды. Пасля нейкага абманнага рэзанага я вельмі нешчасліва ўпаў і скруціў нагу. Балела мне страшна, сядзеў на кукішках каля поля, не мог ёй рушыць. Аднак, бачачы, што нашых б'юць, сам не ведаю як, аказаўся на полі і не чуў болю. Мы выйгралі. Потым пару тыдняў мусіў ляжаць з кампрэсам на фіялетавай назе: расцяжэнне сцягна і падскурны разліў крыві.

Так, але гэта ў нагрузку. Цяпер Казік з некалькімі студэнтамі з заологіі ехаў вывучаць фаўну дна на рэчцы Льва на паўднёвым Палессі і на тамтэйшых Засумінскіх азёрах. Ахвяраваў нам месцы бясплатных работнікаў і лабарантаў. Ехалі з ім: жонка Лілька, Данак Скаржынскі, наша медычка, такая Пума, Ганка Згерская, якую трохі кахаў Данак, нарэшце я з Іркай.

Быў пачатак ліпеня, жудасная гарачыня. Адвезлі мяне ў Мінойты. Чакаў доўга, прыйшоў вечар. Нарэшце пара распаленных вачэй. Паўхвіліны пастою. У адным з вагонаў галас. Без вагання туды бягу. Канешне нашы.

Цэлую ноч ляцім перапоўленым цягнікам, прысеўшы на кукішкі каля багажу на калідоры. Пад раніцу трохі задрамаў. Адразу мяне разбудзілі: вылазіць.

Мы былі на станцыі, з якой трэба было яшчэ дабрацца да мястэчка Столін. Стары расшэйданы аўтобус. Але мястэчка падалося мне чыстым, прыгожым, поўным зелені і кветак. З дзяцінства запомніў сабе Палессе, як краіну гразі і недаядання, не быў тут пятнаццаць гадоў. Згадваў ужо, што такіх дубоў, як тут, нават у нас над Нёманам не знойдзеш.

Адно паражала ў тым Століне: буйнасць раслін. Усюды кветкі, прыгожыя кусты, чарэшні. Каля Століна вялікі радзівілаўскі палац у Маневічах. Агледзелі яго здалёк. Толькі Казік туды хадзіў, каб залатвіць у адміністрацыі згоду на наш побыт над азёрамі, якія ляжалі ў той дзяржаве ў дзяржаве. Мы стаялі грамадкай, чакаючы яго вяртання, загледзеўшыся на велізарныя дрэвы маневіцкага парку.

Потым доўгая дарога коньмі. Даехалі да нейкай вёскі на беразе Львы. Была гэта невялікая, звілістая рэчка (на Палессі кожная рэчка жудасна звілістая, праз восем гадоў пераканаўся ў гэтым, прылятаючы самалётам У-2 - так, тым добрым, шаноўным кукурузнікам - з-пад Луцка ў Менск) з цёмным, тарфяным дном. Якраз тая тарфяністасць, здавалася, радавала нашых заолагаў. Мне тая рэчка падалася досыць абрыдлівай, цяжка было ў ёй купацца.

пару паваротаў. Кусты расступаюцца. Мы на беразе возера.

Якое ж незвычайнае, сказаў бы - жудаснае! Амаль дакладна круглае, у сярэдзіне не большае, чым кіламетр. Навокал дрэвы з амярцвелымі вяршынямі: па-просту зашмат вады. У мёртвых дрэвах ёсць нешта магільнае.

Чалавек мае адчуванне, як быццам бы дайшоў да канца свету.

Гаць абрывалася на беразе. Бераг чорны, усё возера чорнае: тарфянае, таму мы сюды і прывалакліся. Гаварылі, тут канец, сорак кіламетраў аж да мяжы, ані жывой душы, балота і балота.

На беразе велізарная, таксама чорная, лодка. Няўхільнае параўнанне з Харонам. Залазім усе, хапаем заплечнікі. Вялізнае збялелае сонца ў зеніце. А акрамя таго нешта жудаснае ў паветры.

Павольна едзем, бо вёслы да той баржы і цяжкія, і невялікія. Вылазім нарэшце дакладна на супрацьлеглым беразе.

Тут спаткаліся з дзіўным парадоксам: на Палессі балота непасрэдна суседнічае з пустыняй. Высадзілі нас на пясчанай выдзьме (дзюне). Была яна паросла сасновым лесам. Мы адразу пабеглі разгледзецца. Далей былі такія ж выдзьмы, бязлесыя, поўныя сыпучага жаўцюткага пяску, які спускаўся проста ў "бяздоннае" балота.

Нас правялі ўглыб выдзьмы. На невялікай палянцы мы знайшлі асаблівы будынак: з дахам, падлогай і трымя сценамі, як сцэна, без чацвёртай сцяны. Гэта была такая паляўнічая схованка ў тым радзівілаўскім княстве.

На пачатку ўсё было выдатна. Дзівоснасць пейзажу ажно захліствала. Мы адразу пачалі бегаць па кладках, якія з выдзьмы вялі кудысьці ўглыб. Ідзеш, пры кладцы бярозавы пень з паўметра ў папярэчніку. Папхнеш яго лёгенька, падае. Уся сярэдзіна спарахнела. Засталася толькі кара, як абломак вялізнага, знутры пабеленага коміна.

На абед атрымалі паўтузіна самоў. У возеры было іх поўна - адтуль назва. Засмажылі іх. Што за цуда, такі паўкілаграмовы сом, ніякіх касцей, мяса, што пальцы абліжаш.

Ужо купель нас расчаравала. Была страшная гарачыня, але з берага дабрацца да вады было цяжка - балота. Узлазілі на лодку, ад'язджалі пару дзесяткаў метраў. Тут скакалі. Нечаканасць: вада цёплая, як бы нагрэтая. Ніякай ахалоды. Дно як бы ўтрамбаванае з таго торфу. Гэта толькі пры беразе гразка. Неглыбока. Усё возера ад паўтара да двух метраў. Нічога дзіўнага, што такую плоскую талерку вады сонца награвала да тэмпературы, блізкай мабыць да дваццаці і некалькі градусаў.

Распараныя, абгарэлыя неасцярожна да чырвані, вечарам сталі ахвярай найвялікшай тутэйшай напасці: камароў. Улегліся ў той "сцэне". Было вельмі горача, але як толькі хто адкрываў твар, адразу напа-



**Над ракой Львой на Палессі, 1936 г.**

**Канец свету**

На Львой стаялі коратка. Бадай што праз два дні Казік пагнаў нас далей. Адразу ехалі вазамі. Потым колавая дарога скончылася. Дзіўнае ўражанне; нейкія загайнікі, трохі куцай лугавіны і - канец каляін. Тут мы ўзялі на сябе заплечнікі і рушылі. Было горача. Спартовы навык вельмі мне дапамог пераадолець стому, мы з Казікам ішлі паперадзе. Канешне справа ішла пра тое, каб заімапанаваць Ірцы.

Таксама і Данак вельмі высоўваўся наперад.

Вечарам. Цёплым бяздонным ліпеньскім вечарам дайшлі мы да вёскі Альманы. Правялі там адну ноч, нічога не здарылася. Аднак жа памятаю ўсю тую ноч і тую вёску.

Высокія хаты, крытыя гонтай, з вялікімі вокнамі і разнымі дзвярыма. Вельмі чыста і прасторна ўсярэдзіне. Пахне нейкім зеллем, мядова, сонна і свойскі. І праз кожныя дзесяць секунд у куце адзываецца тонкая латунная (а можа хутчэй срэбная) струна: хатні цвыркун. Першы раз у жыцці яго чуў. Не ўяўляў сабе, што гэта так прыгожа.

Ранкам поўным расы, цераз ужо буйныя, як у нас толькі восенню, кветкі, вяргіні і хрызантэмы, рушылі далей.

Мы даехалі па чарзе да канца дарогі чыгуначнай, дарогі аўтамабільнай, дарогі колавай. Цяпер, адразу тут жа за Альманамі мы дайшлі да краю звычайнай сухаземнай сцежкі.

Лес, высокі, сасновы, раптам абарваўся. Альховыя кусты і карлавыя сасёнкі. Вострая трава. Пачыналася балота. Славутае Палескае.

Цераз тое балота вядзе спецыфічная тутэйшая кладка (гаць). Вялікія сасновыя палі, пакладзеныя парамі гадоў за дзесяць назад, бо ўжо то тут, то там пачаўшыя крышыцца. Ідзём адзін за адным. Гэта нават забаўна. Па абодвыя бакі вострая, высокая па калена трава, купіны вербалозу, аеру.

Ідзём доўга, гаць віляе. Нарэшце мы дасягнулі купы трохі вышэйшай зелені. Дзіўна, што большыя дрэвы маюць вяршыні прыгнёныя і збялелыя. Яшчэ

далі хмары камароў. Я не спаў цэлую ноч. Назаўтра з раніцы за малым не ўцёк.

Пачалі працаваць. Выязджалі на возера. Спецыяльны такі апарат апускаўся на дно і захопліваў глею. Мы бралі яго жменькамі порцыю на марлю, пэндзлікамі корпаліся ў ім, знаходзячы найдзіўнейшых істот, найчасцей рухомых, чырвоных чарвячкоў, здаецца, лічынкі тых сукіных сыноў, камароў. Гэта і ўсё. Пазней запісвалі колькі таго выпадала на рознай глыбіні.

Мы швэндаліся па балотцах. Нам паказалі Малое Засомінскае возера, яшчэ больш дзікае, чым Вялікае. Пачало не хапаць яды. Самы на другі раз былі зносныя, на трэці - не вельмі. Гарачыня была страшная. Я, прызначаны па чарзе да кухарскіх работ, падняў вязку папараці, якая прыкрывала іх чарговую порцыю. Аж тут з тых зяпаў цэлы рой зялёных, бліскучых мушак. Ужо я болей не еў тых самоў.

Найгоршыя былі ночы, поўныя камароў. Перабраліся з Іркай, Данкам і Ганкай у намёт. Але і там было вельмі кепска.

Мы ў той пустыні не былі адзінокімі. Аднаго дня паблізу нашай "сцэны" з'явіліся трое прыстойных, добра дагледжаных хлопцаў плюс нейкі пан у акулярах. Пакруціліся, потым разбілі недалёка намёт. Аказалася, што гэта тры княжычы Любамірскія прыбылі сюды, каб пазнаёміцца з айчынным Fas Eastem. Былі каля нас некалькі дзён, але не абмяняліся з намі ні словам. Толькі вечарамі з асаблівай сатысфакцыяй мы спявалі савецкія песні, каб яны не мелі сумненняў у нашых перакананнях.

Не без палёгкі рушылі мы нарэшце назад. Гарачыня і камары, а таксама клопаты з ядой (акрамя самоў толькі каша, якой я не еў) дастаткова нас выматалі.

У вёсцы над Львой мы накінуліся на малако. Дайшлі да нас першыя за пару тыдняў газеты. Бяром нумар "Ікаца" - ці нешта ў тым жа родзе.

Чытаем, захопленыя знянацку, змярцвелі. Вясна была такая цудоўная: Народны фронт у Іспаніі перамог, у Францыі перамог! А цяпер...

**Бакштаг аслабіць!**

Прызнаюся, што першыя весткі адразу мяне прыбілі. Можа таму, што былі прапушчаны цераз "фільтр" "Ікаца", можа з больш скамплікаваных прычын, але я адразу засумняваўся ў рэспубліцы. Справа ў тым, што праз некалькі гадоў, дакладней - ад прыходу Гітлера да ўлады, ва ўсіх вялікіх канфліктах, узнікаўшых на нашай зямлі, верх браў той злы, варожы мне бок. Гітлер перамог у Германіі, змілітарызаваў свой край, заняў Надрэйнскую вобласць, японцы авалодалі Маньчжурыяй, паўстанне Шутцбунду задушана, Абісінія разгромлена. Неяк так рабілася, што хапала, каб тваe платанічныя, зрэшты, пачуцці прывязваліся да нейкай справы (не абавязкова, зрэшты, пракамуністычнай, часцей па-просту антыфашысцкай), а ўжо тая справа прайгравала.

І цяпер дыскутуючы з калегамі над сітуацыяй, не маючы бліжэйшых звестак, не ведаючы той ўсёй Іспаніі, ужо адчуваў, як мне замірае сэрца.

Весткі, зрэшты, былі што раз горшыя. Вярталіся, на станцыях чакалі нас што раз больш свежыя газеты. Сапраўды ў Маладзе, Мадрыдзе, Каталоніі рокаш задушаны, і паволі вырысоўваўся пануры вобраз што раз больш сур'ёзнай фашысцкай агрэсіі.

Вярнуліся ў Вільню. Тут тады разыгралася тая сцэна з крокамі ўначы.

Лета працягвалася. Дамовіліся з Ірэнай на ветразевы лагер у Ястарні, арганізаваны агульнапольскім АЗМ. Паехалі туды адразу ў канцы ліпеня.

Я быў ужо праездам на Гэлі. Але і цяпер, як за кожным разам, я перажыў прыезд на мора, як нешта непаўторнае. Той першы від - заўсёды рана нізкае сонца, алавянае мора, высокае, неправўдападобна высокае. Мінулі Гдыню са смешна цесным, хоць новым, вакзалам, і потым у другі раз набліжалася мора пад Пуцкам... Пачынаючы ад Уладзіваслававa, яно было пастаянна з намі - то злева, то справа, то з абодвух бакоў адразу. Смешная гэльская кілбаска поўная пакручаных, прыціснутых да зямлі сосен. Вёскі з чырвонай цэглы. Ястарня.

Было гэта ў той час прыгожае мястэчка. Разрасталася вельмі хутка, але захоўвала яшчэ нешта з простай кашубскай вёскі. Асабліва падабалася, што тая вёска зусім не мела вуліц. Дамкі былі маленькія, як для лялек. Побач таксама цацачныя вішанькі, паўтыканыя ў шэры пясок. Вуліц сапраўды амаль няма, але ўсё выкладзена клінкерам.

Канешне былі ўжо і хутчэй "вялікагарадскія" ваколіцы з вуліцамі і віламі, якія якраз гвалтоўна будаваліся львавякамі і варшавякамі. Але гэта было не важна.

Размясцілі нас у двух вялізных ангарах каля "порта". Стаялі яны на напаўвысахлым балоце, парослым калючай травой. Спалі мы на двухярусных ложках. У порце жыў "генералітэт", г.зн. інструктары, розныя стырнавыя і марскія капітаны, такія, як Юка Пашкевіч, Гарох і так далей. Трымаліся адносна нас з высока, хадзілі штыўна. У бліскучых яхтавых шапках, з нечым залатым, у гранатовых (цёмна сініх) марынарках, у чыстых выпрасаваных портках.

Я пачуваўся няўтульна ў тым лагеры. Па-першае запахла мне зноў Ружанам і войскам. Пераканаўся, што мне тая непрыязнь нікольki не прайшла. Я быў у тым асяродку студэнтаў з усёй Польшчы (можа з дзвесце) абсалютным нулём. Мой "стырнавы сярэдняга танажу" не значыў тут, даслоўна, нічога. Што "паэтызаваў" - наогул вырашыў не прызнавацца.

Па-другое, ускладняла справу Ірэна. Яна жыла ў суседнім, жаночым ангары. Цэлы час я пякельна яе раўнаваў. Я не мог нават сабе ўявіць, што маючы да выбару нявыхаванага курсанта без звання Путраманта і марскіх стырнавых, не гаворачы ўжо пра капітанаў, патрафіць адбіцца ад такой шалёнай спакусы і застацца пры мне.

Справу крыху ратавала мора. Неўзабаве пачалі нас пускаць на яхты. Мы плавалі на прыгожым двухмачтавым "Сварожычы". Той цудоўны ранішні пейзаж! Лёгкая імгла, сонца злева перад намі, далёкая

стужка залатых і зялёных узгоркаў, невыразныя абрысы Гдыні, шурпатае, гранатавае мора. Мора, якое падаецца акіянам, таму што пагоркаў не адрозніш адсюль ад гор, Гдыні - ад якога-небудзь Вальпараіса.

Праз пару гадзін жвавага ходу пад ветразямі Гдыня вырастала перад намі, і мы заходзілі да спартовай прыстані, адбывалася складаная цырымонія прычальвання, трохі часу мы затрацілі на прывядзенне яхты ў парадак і нарэшце пайшлі ў цэнтр. Брудныя, белыя цікі прымаліся намі за верх элегантнасці. На жанчын і цывільных мы глядзелі зверху. Усё выглядала нейкім чужым, але як бы аддадзеным на нашую ласку і няласку. Залезлі ў найлепшую ў горадзе цукерню Фанграта, замовілі выдатнае марозіва.

Потым вяртанне ў Ястраню, спознены, але тым смачнейшы абед, беганне за Ірэнай, якая недзе прапала з таварышкамі. У Ястрані мы хадзілі да такой Ганны Конке. У пякарню-цукерню, аздобай якой былі "макаронікі" на какосавым алеі. Былі яны наогул вельмі смачныя, у дадатак - на какосе!

Потым швэндаліся да позняга вечара па галоўнай вуліцы.

Тут адчувалася наша чужасць, тут брудных цікаў не хапала. Па тратуарах хадзілі элегантныя пані з сабачкамі, паны з лысінамі, аўто чакалі пры вуліцах. Брудных цікаў не хапала, каб прыпадняцца над уласнай ніжэйшасцю, слабасцю, беднасцю, бо тых цікаў было за шмат. У Гдыні мы маглі прыкінуцца маракамі. Тут усе ведалі, што ты бедны студэнт з тых баракаў каля порта.

Калі мы хацелі да канца сябе прынізіць ішлі да Юраты. Там адразу пры ўваходзе агарнала чалавека нясмеласць. Прыгожа абстаўленыя вілы, садзікі, кветкі. Клумбы на вуліцах. Здаецца, сам Бек мае тут недзе сваю вілу. Як найхутчэй вярталіся.

Затое Гэль быў свойскі, як Ястраня. Порт больш "сапраўдны", поўны рыбацкіх кацераў. Вулічкі вузюткія, пакручастыя, не для транспарту, цудоўныя садзікі з вішнямі.

Ездзілі на ветразніках ажно да канца Гэля. Аднаго дня быў моцны вецер, моцна нас разгайдала. Мелі першыя ахвяры: пару курсантаў захварэла. З поўным задавальненнем я пераканаўся, што марская хвароба мяне "не бярэ".

Найгорш той дзень перанеслі венгры, якіх некалькі было ў лагеры. Не ведалі польскай, разумеліся з астатнімі нейкай ламанай нямчызнай. З той выправы яны вярнуліся паўжывымі, пасля чаго вечарам пайшлі яшчэ ў шынок і нарэзаліся ў дым. Ноччу не далі нам спаць. Што раз каторы з іх зрываўся з полкі на ногі і верашчаў: "Бакштаг аслабіць! Пся крэў, бакштаг аслабіць!"

Гэтая каманда, якая абазначала загад аслаблення ліны, што ўтрымлівала мачту навукас назад, мусіла ім падавацца класічным узорам мовы Рэя і Каханоўскага.

Лагер скончыўся экзаменамі. Здаў свой - на марскога яхтсмена. Па сутнасці рэчаў быў ён вельмі просты. М.ін., вывучыў на памяць усе 32 румбы. Памятаю іх яшчэ па сённяшні дзень. Ратавалі таксама "чалавека за бортам".

**Вяселле**

Лагер скончыўся, але мой неспакой за Ірэну застаўся. Ужо не ставала нагодаў, каб быць разам. Вастрэй, чым калі-небудзь адчуваў страх перад разлукай. Паддалася ўгаварыць сябе на візіт у Банева.

Прадставіў яе як будучую жонку. Баяўся трохі, ці маці не акажацца грубай. Потым прыгадаў сабе, як яна скардзілася на ўласную свякруху. Падумаў сабе: не можа быць, каб сама захацела рабіць тое, што ёй так моцна некалі балела.

Візіт ва ўсякім разе не быў латвы. Бацька сапраўды быў галантны ў адносінах да Ірэны, але маці была вельмі стрыманая. Ірэна паказвала, што ўсё ў парадку. Само Банева падавалася мне найпрыгажэйшым, якраз цяпер пасля Ястрані. Вырашылі пажаніцца восенню.

У верасні я адведваў Ірэну ў яе сям'і. Як папраўдзе, яна такой не мела. Была круглая сірата. Выхоўваў яе апякун, асоба ў Вільні досыць вядомая.

Яшчэ ў дваццаць другім годзе, ходзячы на заняткі ў цэнтр, бачыў на вуліцы Завальнай вялікі магазін і пляц з сельскагаспадарчым начыннем. Над адным і другім вялікімі літарамі стаяла: "Зыгмунт Нагродскі". Гэта і быў апякун Ірэны.

Была гэта сям'я недзе з Ашмяншчыны. Яго бацька быў экономам маёнтка Пілсудскіх, тых самых!

Сам Зыгмунт выхоўваўся разам з маладымі Пілсудскімі. Пазней заснаваў тую сваю фірму, якая перад вайной і адразу пасля вайны вельмі развілася. Нагродскі наскупляў акцый, купіў пад Вільняй маёнтачак.

У 36 годзе, аднак, той поспех належаў ужо да мінулага. Фірма моцна падупала, відаць гэта было, зрэшты, па выглядзе таго склада на Завальнай, які, мабыць, нікольк не змяніўся за 22 гады, толькі што састарэў, забрудзіўся, пазарос пустазеллем. Маёнтак якраз прадавалі або, дакладней, аддавалі за іпатэчныя даўгі. Але запрасілі мяне яшчэ туды.

Было гэта пад Вільняй. Недзе насупраць, бадай, Кальварыі. Дома не памятаю зусім, мусіў быць абы які. Сям'я Нагродскага не вялікая, і сам стары, з вусамі трохі *а ля* Пілсудскі, хныклівы, але прыемны, да Ірэны вельмі добры, адносна мяне зычлівы. Яго жонка, таксама ўжо зусім старая, трохі згрызотная, асабліва адносна Ірэны... І яе сястра, старая, тоўсая, дабрадушная.

Мы з Іркай хадзілі па навакольных лясах. Было тут досыць цывілізавана: сосны, пасаджаныя радамі, галіны і ламачча прыбраныя. Не так, як у Баневе, і прэсна. Праз пару дзён уцяклі.

У кастрычніку мы пажаніліся. У Мінойты прыехалі Янак-Выдра і Слон-Загорскі - як сведкі, Ірка выбралася са сваёй прыяцелькай, маёй старой знаёмай Нюськай Фекач. Гэта была такая спаланізаваная венгерская сям'я, якая жыла ў Троках. Нюську мы памяталі з лагераў: была аздобай свайго горада. Высокая, з прыгожымі нагамі, прыгожай фігурай, тварам, на якім каралявалі вялізныя блакітныя вочы.

Гэта і было ўсё, калі гаварыць пра гасцей. Акрамя таго сама сям'я: бацька, маці, дзве сястры. Сядзелі ў "сталоўцы" - з таго боку вялікай акруглай печы, памаляванай на зялёна. Маці частавала нас смакоццямі

ўласнага вырабу. М.ін., грыбамі, якія здаецца, урадзілі ў гэтым годзе, баравікі марынаваныя і сушаныя, рыжыкі салёныя, марынаваныя і асабліва - смажаныя на масле, астатнія грыбы асеннія, зялёнкі, вельмі смачныя, хоць поўныя пяску, не гледзячы на пятнаццаць "мыццяў". Акрамя таго была птушка, цяляціна, кампоты. Трошкі выпілі. З той аказіі дайшло да першай спрэчкі - ужо сямейнай. Здаецца, я не хацеў, каб Ірка піла трэці кілішак.

Вечарам мы сядзелі ў салоне. Прагулкі былі кароткія: восень прыйшла халодная і хмурная. Нёман шэры. Абрыў над лугамі ўжо без лісця.

Можа гэта той год быў якраз арэхавым годам? Як вядома, ураджай на лясныя арэхі прыходзіць раз на некалкі гадоў. Калі вясковая моладзь не пазрывае іх у жніўні, пакуль арэхі зялёныя, то на палову верасня прыпадаў рэдкі і прыгожы цырыманіял арэхабрання. Звыклае бляклае, асенняе сонца, прыгожа дапасаванае да залатых лісцяў. Арэхі самі спадаюць са сваіх падвялых бляклa-зялёных утулак, ці як там гэта называецца. Яны лёгка бронзавыя, як бы далікатна памаляваныя. Кожны куст мае сваю форму - ад каржакаватых шарыкаў а ж да вытанчаных, з тонкай лупінай арэхаў кшталту выцягнутых пазногцікаў.

Але гэта ў верасні. Цяпер у кастрычніку было ўжо даўно па арэхах. Назаўтра госці ад'ехалі. Мы з Іркай засталіся яшчэ на пару дзён. Я цягаў яе па ўчастку і ваколіцах, гаварыў паглядзець Небяспечную пушчу, ельнік Міранду, Месяцавыя горы, Жабірай. Ветліва здзіўлялася.

Потым бацька адвёз нас у Мінойты.

У Вільні мы пасяліліся ў Нагродскіх на Малой Пагулянцы, на падворку. Ірка мела там свой пакой, які суседнічаў са сталовай. Досыць вялікі, высокі, але д'ябальскі няўтульны, як усе пакоі з той эпохі (пачатак XX стагоддзя).

Ірка хадзіла на сваё права. Я спрабаваў займацца літаратурай. Адмовіўся ад далейшых старанняў аб стыпендыі на доктарскую працу, бо ад часу "Па-просту" навуковая кар'ера ўжо цалкам перастала мяне цікавіць. Са "Структуры лірычнага верша" засталося пару гіпотэз, м.ін., спроба класіфікацыі лірычных вершаў тыпу "рытарычнага", "стылістычнага" і "фабулярнага".

Займаўся літаратурай. Гэта значыць раз на пару тыдняў заносіў нешта Маслінскаму, які цягнуў тую сваю "Літаратурную калонку" з на дзіва годнай рэгулярнасцю ўжо год, мабыць, трэці. Быў гэта вершык, рэцэнзейка, пародыя. Атрымліваў за гэта 5-10-20 злотых. Тое апошняе было ўжо сумай паважнай.

Часам пускалі на Віленскім радыё нейкі мой матэрыял. "Вільнадрам" ад часу да часу папаўняў праграму сатырычнай "Віленскай зязюлі". Мы рабілі тыя праграмы ўтраіх - з Людвікам Рымкевічам і Сланом. Тут у гульню ўваходзілі шалёныя сумы да двухсот злотых уключна, канешне - падзяліўшы на нас траіх.

У той час удалося мне яшчэ нешта большае і ўжо цалкам выключнае: зрабіў паўгадзінную радыёпастаноўку "На востраве Бардэн". Была гэта марозіўшая кроў у жылах гісторыя з жыцця палярніка. Пайшла на ўсю Польшчу нават была двухвершавая згадка ў "Вертыкалі". За гэта ўпала аж чатырыста злотых! - найбольшы ганарар, які атрымаў перад вайной.

Так, але гэта было раз. "Зарабляў" у сярэднім некалькі дзясяткаў злотых у месяц. Ад бацькоў браць грошы я саромеўся. Фактычна мы былі па ўтрыманні Нагродскага.

Стары ўжо ледзве дыхаў. Ведаў мае палітычныя погляды, але ні словам не выдаў, што з імі не згаджаецца. Я меў ураджанне, што ён спачуваў Ірцы, якая трапіла на такога валацугу. Яго жонка адносілася да мяне з несхаванай сімпатыяй: не любіла Іркі і бачыла ўва мне сайго роду біч божы.

Да Нагродскіх людзей прыходзіла вельмі няшмат: трохі старых, якія жылі яшчэ у эпосе "fin de siecle'u" раз ці два заглядваў да іх сам Ян Пілсудскі, на той час ужо не міністр скарбу (фінансаў). Раз быў нават на абедзе. Быў сярэдняга росту, рухавы, з барodкай, у кожным разе з нечым такім, да брата цалкам непадобны, у размове бясколерны.

У сакавіку наступнага года Нагродскі збанкрутаваў канчаткова. Адразу пасля гэтага памёр. Нейкі час мы яшчэ жылі на той жа Пагулянцы. Потым мы з Іркай адлучыліся ад старэйшых пань, якія знялі сабе нешта меншае.

**"Яўка"**

Зімой былі яшчэ ў Баневе. Ездзілі з Іркай на лыжах. З Акудыша за Нёмнам можна было нават з'язджаць з пэўным разгонам. Потым мы пасварыліся з бацькамі. Усё адбылося класічным спосабам. Нявестка сказала нешта свякрусе. Свякруха раздула справу да памераў "прынцыповых". Нявестка расплакалася. Сын заступіўся за яе. Не заставалася нічога іншага як спакаваць валізкі. Справа дайшла да такой ступені абвастрэння, што нават да Мінойтаў дамовіліся з суседам Лявончыкам, каб не прасіць бацьку...

У Вільні, як гаварылася, Нагродскі збанкрутаваў і памёр. У дадатак Ірка была цяжарная, у дадатак...

Але пакуль дайшло да таго дадатку, трэба вярнуцца да справы найважнейшай. Прыпомнім, што гэта былі за часы: пералом 36-37 года. Часы вайны ў Іспаніі і... працэсаў.

У лістападзе, калі выглядала на канец з рэспублікай, пад Мадрыдам адбыўся цуд! Затрыманне фашыстаў напоўніла нас надзеяй. Іспанія зноў заняла нашы думкі і сэрцы. Акрамя Шчыта ніхто з групы туды не збіраўся - перш за ўсё з погляду на мажлівасць лакальнай дзейнасці на месцы - але гераічнае змаганне іспанцаў актывізавала нас, дадала нам веры і запалу.

У той час мы пару раз аказвалі паслугі сваім сямейным пакоем Генрыку, які праводзіў у ім размовы з прадстаўнікамі партыі. Я ўпускаў аднаго і другога, потым ішоў да суседняй сталоўкі, дзе ўдаваў маркоту, чытаў, швэндаўся, пільнуючы, каб астатнія дамашнія ім не перашкаджалі. Але Нагродскія былі вельмі нетурбоўнымі: усё адбывалася без найменшых клопатаў.

За адным маляўнічым выключэннем. Неяк зімовым вечарам я раней вярнуўся на Пагулянку, бо якраз Генрык быў там з некім дамоўлены. У доме было пуста. Ірка была ў Варшаве, Нагродскія - пад Вільняй.

Зайшоў і адразу пачуў прыкры пах дыму. Я маю вельмі чуллівы нюх і добра адчуваю розніцу між дымам добрым і нейтральным ці небяспечным. Гэты быў вельмі злы, востры - сказаў бы - кіслы. Я прайшоў калідорам у кухню. Гаспадыня нічога не чула. З ёй разам мы яшчэ раз перайшлі пакой за пакоем. Калі адчынілі дзверы ў спальню Нагродскіх, дым бухнуў нам у вочы. Быў халодны змрок і, як неон, блішчала нешта чырвонае ўгары, у куце паміж сцяной і столлю.

Кухарка пачала крычаць, я кінуўся да тэлефона. Праз дзесяць хвілін з'явіліся пажарнікі. Якраз да таго часу ўсё было патушана. Я скочыў на гару. Мы жылі на трэцім, а можа на чацвёртым, ва ўсякім разе на апошнім паверсе. Над намі была страха. Пабег, скачучы цераз драўляныя бэлькі ў кірунку меркавалага вогнішча. Знайшоў яго вельмі хутка: чырвоны водсвет...

Не паверыце, усё пачалося ад жменькі саломы. Дах, як гэта звыкла бывае, меў падлогу з убітай гліны. Нейкі асёл дадумаўся смаліць курэй ці гусей, запаліў жменю саломы. Потым нядбайна затушыў і пайшоў сабе. Недапалкі той саломы ўпалі на месца, дзе выступала страпільная бэлька. Яна была высушана, пачала тлець. Невядома, колькі дзён той жар тачыў бэльку, пакуль пачаў прасвечвацца праз тынк у пакоі. Калі б выйшаў на яву праз пару гадзін пазней, мы мелі б пажар першага класу.

А так то хапіла пару вёдзер. Пажарнікі ўскочылі, пусцілі ваду. Хацелі разбіраць сцяну. Спляжылі пакой пайшлі сабе. Адразу пасля іх абазваўся Генрык. Распавёў яму пра здарэнне. Ён палічыў, што лепей спатканне перанесці.

Я не маю паняцця, пра што яны паміж сабой гаварылі. Часам чуў толькі павышаны голас Генрыка, вельмі рэдка перарываны паўшэптам яго нелегальнага суразмоўцы. Не сумняваюся, што тым разам закраналася рэч найбольш на той час балючая для кожнага камуніста, працэсы.

**Працэсы**

Я не прадпрымаю ніякай спробы апісання і ацэнкі таго трагічнага раздзелу гісторыі. Хацеў бы толькі запісаць мае тагачасныя адчуванні, па меры сіл адмяжоўваючы напор усяго, што ў той справе даведаўся пазней.

Мы мелі тады дзве радыкальныя і ў кожным выпадку выключаўшыя адна адну крыніцы інфармацыі: прэсу буржуазную і прэсу савецкую, цяжэй даступную і з пэўным спазненнем. Галоўнай крыніцай была прэса, радыё, усё чым буржуазны бок распараджаўся на ніве прапаганды.

Адразу пасля першага працэсу, значыць восенню 1936 года, група запала на калектыўную гарачку, якую кожны чарговы маскоўскі працэс узбуджаў і завастраў.

Пазіцыі маналітнымі не былі. З большага можна было б іх падзяліць на два тыпы. Адны не разумелі, але абураліся. Другія не разумелі, але баранілі. Баранілі, канешне, пазіцыю партыі, займаную ў той час.

Цікавая дэталь: той падзел не пакрываўся палітычнымі ньюансамі, якія ўдавалася назіраць у групе раней. Не адзін з вельмі левых цяпер якраз не вытрымліваў і далучаўся да крытыкаваўшых. Я належаў да бараніўшых. Чаму? З перспектывы амаль чвэрць стагоддзя шмат маіх тагачасных рацый я не памятаю. Найважнейшая, аднак, кіравалася на недавер да тых, якія нас інфармавалі пра працэсы; таму што былі гэта нашыя палітычныя ворагі.

Ненавісная была для мяне ўся кампанія антысавецкая, якую разгарнулі ў той час на свеце. Кампанія, у якой хапала нават звыклых абсурдаў. Абсурды тыя ўзмацнялі ўва мне перакананне, што наогул усё ў той кампаніі ёсць абман. Адкідваючы буржуазную версію, я яшчэ з большым перакананнем прымаў версію савецкую. Абвінавачванні ў шпіёнстве, змове, здрадзе падаваліся мне праўдападобнымі: можа таму, што я ведаў пра іх досыць павярхоўна, стэнаграм працэсаў у той час не чытаў. Канешне, ні ў які тэрор я не верыў.

Сварыліся мы паміж сабой заядла, але да большых расколаў паміж намі не дайшло. Пераважыла перакананне пра неабходнасць змыкання шэрагаў. Пераважыла тым хутчэй, што ўжо залішне яўнымі, залішне назойлівымі былі стаpанні буржуазнага боку, каб пры той аказіі выкасіць і разламаць шэрагі прыхільнікаў камунізму.

Вось уласна тая дадатковая рацыя, якая мной у той час кіравала. Зусім зялёны, не меўшы паняцця пра нелегальную партыю, яе атмасферу, яе метады дзейнасці, ведаў адно: даць сябе ад яе адарваць - гэта значыць пахіснуцца - свядома ці не свядома - у прама супрацьлеглы бок і аж да канца.

Не было і няма трэцяга боку барыкады. Генрык, які некалі гаварыў якраз, што нешта такое ёсць, ад даўна зразумеў, што гэта былі дзяціныя ілюзіі. У нашых спрэчках быў стрыманы. Мяркую, што ён быў бліжэйшы да тых, хто сумняваўся, але разумеў небяспеку адрывання ад партыі і хацеў таго ўнікнуць.

Пару ж дальшых сімпатыкаў выкарыстала аказію, каб з намі канчаткова развітацца. Упалі яны ў Генрыкавую арбіту даўно, калі ён быў цалкам нейкім іншым. Пачуццё таварыскасці не дазваляла ім доўгі час на разрыў. Выкарыстоўвалі іх час ад часу, давалі яны трохі грошай на нашыя выдаўніцкія фантазіі, часам нешта падпісвалі, нейкі пратэст, нейкі заклік. Кожны крок Генрыка ўлева аслабляў іхнюю сувязь з ім. То той, то гэты адскокваў, найчасцей сакрэтна.

А цяпер некаторыя рабілі гэта нават публічна, афіцыйна. Ад пачатку трыццатых гадоў, калі хваля энтузіязму сацыялістычнага будаўніцтва прынесла ў наш лагер групу пісьменнікаў з сусветнымі прозвішчамі, вучоных, наогул творчых інтэлегентаў, кан'юнктура змянілася досыць радыкальна. То той, то гэты з тых энтузіястаў публічна парываў з камунізмам.

Як гаварылася, і мы мелі такіх - toute proportion gardee - Гідэяў. Іхні выгляд маёй пазіцыі, якая мела сваю палітычную рацыю, дадаваў повадаў - сказаў бы - эстэтычных. Падавалася мне абрыдлівасцю пакіданне шэрагаў якраз у момант, калі рыхтавалася - адчуваў гэта добра - вялікая сусветная завіруха, аб'ектам якой быў бы перш за ўсё Савецкі Саюз.

Я вастрэй, чым калі-небудзь, разумеў, што галоўны і апошні шанец свету ў змаганні з фашызмам -

гэта якраз Савецкі Саюз. Быў гэта цяжкі перыяд. Шэраг далейшых паразаў спаткаў рух на свеце. У Іспаніі фашызм паволі душыў рэспубліку. У нас даўно лопнулі спадзяванні на тэму лібералізацыі ладу, Славой якраз квітнеў як найлепш.

**У дадатак ...**

Тыя настроі выклікалі адзіны мой вершык, які трапіў у "Літаратурныя ведамасці", настроі паразаў і нарадзіўшайся з іх заядласці. Верш называўся "Малітва пераможаных", быў досыць шурпаты, трохстрофны і гаварыў пра тое, як гэта разбітыя сёння - бліжэй не акрэсленыя палітычна - моляцца патаемна да Бога нянавісці...

Я паслаў гэты вершык цалкам выпадкова ў газету, якая падавалася найбольш левай з варшаўскіх пасля закрыцця "Папулярнага штодзённіка", г.зн. у орган ЗЗЗ-аў "Штодзённік усеагульны". О дзіва, вершык надрукавалі: здаецца нават, што атрымаў нейкія дзесяць злотых ганарару.

Праз колькі тыдняў я вярнуўся дадому і застаў урадавую картку на малой чацвярцінцы паперы. Была гэта павестка ў суд. З нябывалым здзіўленнем я заўважыў - у рубрыцы "ў якасці" нехта алоўкам падкрэсліў "абвінавачванага". Артыкул кодэксу, на які спасылаліся, быў нейкі зусім нам не знаёмы.

Толькі праз нейкіы час я даведаўся, у чым справа, пасля атрымання акту абвінавачвання. Аказалася, што на скутак даносу Каталіцкай акцыі ў Катавіцах варшаўская гродская пракуратура абвінавачвала мяне ў блюзнерстве.

Бедная тая мая "Малітва"! Мушу сцвярджаць, што трацячы веру, я вельмі коратка гасціў на пазіцыях ваяўнічага бязбожніцтва. Праз даўжэйшы час я лічыў сябе за дэіста. Не атэіста. А і цяпер назіраю ў сабе вялікае нежаданне да абразы ўсякіх святасцяў, не толькі на пісьме, у мове, але нават і ў думках. Выцякае гэта можа з нейкай перастрахоўкі на выпадак "жыцця пасля смерці".

Забаўна: ёсць такая гульня, здаецца, сурова забароненая касцёлам. Бярэцца вялікая Біблія, раскрываецца на выпадковай старонцы і тыкаецца пальцам усляпую ў любы вярсет. Потым з тога вярсету варожым сабе будучыню.

Некалі - у той якраз час - і я ў тое гуляў. Трапіў на нешта ў родзе: "Ідзі ж тады ў спакоі. Еш хлеб свой і пі віно сваё, бо мілыя пану ёсць учынкі твае".

Я быў міла здзіўлены і, прызнаюся, досыць заспакоены з таго пагляду. Аж тут - маеш ты лёс! - тая нейкая Каталіцкая акцыя, і яшчэ з Катавіц!

Гэта было трэцяе "ў дадатку", якое назваў пасля пары сямейных канфліктаў. Але было і чацвёртае.

Быў гэта, пэўна, пачатак чэрвеня, апошнія тыдні нашага побыту на Малой Пагулянцы. Іркі зноў не было, спаў адзін і праз сон пачуў за сцяной крокі. Вельмі шмат крокаў. Прачнуўся. Быў досвітак. У пакоі група чужых людзей. Вартаўнік і пару паліцыянтаў. Зрабілі досыць беглы ператрус, пасля чаго мяне арыштавалі: вельмі дакладна свае тагачасныя адчуванні я занатаваў у "Рэчаіснасці". Два найважнейшыя: страшныя губы галоўных шпікаў (адзін з іх у сапраўднасці называўся Пясецкі і быў нейкай фігурай у палітычнай паліцыі Вільні) і неверагодная свежасць гарадскога дасвецця.

Як ужо пісаў - запакавалі мяне ў вялікую, пустую камеру ў паліцэйскай арыштанцкай, амаль усю занятую такімі нарамі з дошак. Спрабаваў у ёй спаць. Не выйшла. Лічыў да тысячы, швэндаўся з кута ў кут. Пачуваўся фатальна. Думаю, што з дзвюх супрацьлеглых хвароб я бліжэйшы да клаўстрафобіі, чым да агарафобіі (страху перад прасторай).

Потым забралі мяне на заслухванне да судовага следчага. Там я застаў групу нашых з "Па-просту". Сам іхні выгляд супакоіў мяне: найгоршае, што не вядома, у чым справа.

Судовы следчы называўся сапраўды Абрамовіч, быў такі, як ў аповесці: лянівы, таўсматы, дабрадушны і парадачны. Быў жанаты з прымадоннай нашых шынкоў, вельмі прыгожай і мілай Марысяй Кавалеўскай. Усё адбывалася, як у кніжцы, аж да "гуслееўскага скептыцызму" ўключна. З неспакоем мы слухалі выбухі Генрыка. Потым прарвалася Ганначка Кампельская з харчамі. Нагадала пры аказіі Абрамовічу, якога добра ведала асабіста. Потым пайшлі ўсе мы, усе апрача Генрыка і Стэфана.

Без іх мы сабраліся цяпер пад кіраўніцтвам Казіка Петрусевіча. Дзіўнай была ўся тая штука: "Карту" зачынілі блізка год таму назад, энергічнай выдаўнічай дзейнасці мы не праводзілі і не планавалі; часы былі зусім іншыя. А тут тым часам воссю дазнання было "Па-просту". То чаму год цягнулі? Толькі потым, на восень, зразумелі, што "Па-просту" было толькі перадумовай, што справа была ў удары па людзях, прызнаных (слушна!) за небяспечных для ладу, якраз у перыяд, калі супрацоўніцтва з Гітлерам было найсардэчнейшае.

**Інгеборга**

У тым цяжкім 37-м годзе лета было бадай найцяжэйшае і адзінае ў сваім родзе. Першы раз за гадоў дзесяць, г.зн., ад атрымання Банева, правёў яго ў горадзе. Сядзелі з Іркай яшчэ на Пагулянцы. Яна была на апошніх тыднях цяжарнасці. Я хадзіў з ёй на шпацыры, але перш за ўсё мы рэзаліся ў брыдж.

Сямнаццатага жніўня мы гулялі цэлы дзень. Бадай што з Ганначкай Кампельскай, у садзіку дома, у якім яна жыла. А жыла яна на вуліцы Добрай. Але ў Вільні Добрая была добрай сапраўды, а не як у Варшаве. Недзе на канцы Пагулянкі, недалёка ад факультэта заалогіі УСБ, бакавая, не брукаваная, уся ў пустазеллі і ўся ўсеена домікамі, а пры кожным садзік.

Ганка жыла ў чалавека, які дзіўна называўся і быў дзіўным сапраўды. Быў гэта нейкі інжынер Крупавес. Пажылы кліент у акулярах, з бародкай і вусамі трохі *а ля* Прус. Быў гэта вынаходнік. Усё жыццё працаваў над вынаходніцтвам спосабу вытворчасці... сажы. Кожны, хто пра гэта даведваўся, рабіў вялікія вочы. Што як што, але сажа не вынаходзіцца, яна сама родзіцца. Крупавес тлумачыў: гэта нядобрая сажа і зрэшты - за мала яе. А сажа - як вядома - гэта дру-

карская форба.

Крупавес меў смешны, двухпавярховы домік, увесь складзены з незлічонай колькасці прыбудовак, веранд, альковаў, мансард і балконаў. Вакол быў прыгожы садзік, поўны яблыняў, агрэсту, парэчак, кветак. Ужо збіралася на восень, цвілі гладыёлусы, у адным закутку быў кракет. Ахвотна гулялі ў яго, каб адпачыць ад брыджу. Ганка была вялікая майстрыца ў той гульні, якая неяк ёй пасавала. Пасля арышту Стэфана яна зноў пасялілася са сваёй маці.

Сямнаццатага гулялі ў яе зацята цэлы дзень у брыдж. Вечарам вярнуліся на Пагулянку, а ноччу Ірка мяне пабудзіла.

- Здаецца, пачынаецца, - сказала спакойна.

Завёз яе на Завальню, у габрэйскі шпіталь. Папершае, быў ён чысты, па-другое працаваў там лекарам мой таварыш з Ліды і гімназіі, даўні першы вучань Адольф Левінсон.

У той жа дзень пад вечар прыйшла вестка: дачка! Гаворыцца цяжка, і ідзём далей. Зрэшты, не скажу, каб спецыяльна змярцвеў. Стан маці добры, роды прайшлі вельмі добра, калі глядзець на вялікую спартыўнасць і моцныя мускулы жывата ў маладой маці.

Праз пару дзён прывёз Ірку разам з малым, нязграбным стварэннем - яшчэ на Пагулянку, дзе жылі часова на першым паверсе. Сабралася ўся група, а прынамсі тое, што з яе знаходзілася у той час у Вільні. Было гэта першае дзіця, так бы сказаць, групавое. Усе былі незвычайна ўзрушаны. Казік захацеў, каб імя маладой істоты прадыскутаваць і прагаласаваць калектыўна.

Я вельмі ахвотна на гэта згадзіўся. Ірка ляжала з вінавайцай усяго на шырокім тапчане, шкляныя дзверы на нешта ў родзе тэрасы былі адчынены, звыш дзясятка маладых людзей абоега полу снавала туды і назад, крычалі курылі і размахвалі рукамі. Як звычайна бывае пры дэмакратыі, найбольшую падтрымку атрымалі найдзіўнейшыя варыянты. Пасля доўгага абмену прапановамі адкінулі развязкі іспанскія: Мерседэс, Далорэс, Інэз, хоць астатняя мела пару гарачых прыхільнікаў. Канчаткова перамагла лінія скандынаўская. Пасварыліся яшчэ трохі, вагаючыся паміж развязкам памяркоўным - Інгрыда і крайнім - Інгеборга. Зажадалі галасавання.

Я быў за Інгрыду. Канешне, перамагла Інгеборга.

Тады нешта ўва мне лопнула. Я падзякаваў усёй групе за высілкі і паведаміў: дзіця будзе называцца Ева.

Усе аслупянелі. Казік кінуўся на мяне з кулакамі. Заўсёды схільны да саступак Штахельскі прапанаваў адмену ўхвалы і прыняцце "Інгрыды". Я ўпёрся. Усе кінулі недакуркі і пайшлі сабе. На шчасце не абразіліся.

Праз пару дзён мы канчаткова развіталіся з Пагулянкай. Мы пакінулі тое часовае жыллё. Пані Нагродская з сястрой пераехала недзе далёка. Мы з Іркай знайшлі сабе першае самастойнае жыллё, на Добрай, у таго ж Крупавеса.

Параіла нам гэта Ганка. На другім паверсе быў пакойчык, з якога быў уваход у другі, вельмі малы, па-просту ў клетку. Была таксама куханька і пару вельмі выгадных паўніш - паўкуфраў на стыку сцен з дахам. Канешне не было каналізацыі. Што дзіўней, той інжынер-вынаходнік патрафіў абараніцьць свой дом ад электрычнасці.

У тым памяшканні, як у Баневе, пры святле газавай лямпы правялі мы зіму 37-38 года. Унізе жыла Ганка. Недалёка Казікавыя. Было ў грунце рэчаў вельмі ўтульна.

**Арон Пірмас**

Я трохі працаваў. Масьлінскі друкаваў мяне час ад часу. У "Літаратурнай калонцы" мы пастанавілі стварыць свайго маленькага Кузьму Пруткова. Мы доўга дыскутавалі, як маем называцца. Зноў выйшаў варыянт найбольш каркаломны: паў-габрэй, паўлітовец: Арон Пірмас. Пад тым псеўданімам змяшчалі свае драбнюткі: сам Масьлінскі, Слон і Ежы Загорскі, я, Рымкевіч, розныя іншыя. Але кар'еры Пруткова наш Пірмас не зрабіў...

Не выпадкова ўласна і Арон, і Пірмас. Мы, віленцы, былі асабліва чуллівыя да спраў нацыянальных. І ў Вільні, і ў Львове побач з вельмі моцнымі плынямі нацыялістычнымі, шавіністычнымі, расісцкімі сам факт моцнай нацыянальнай сумесі прывёў да таго, што з'явіліся групы людзей, часта выбітных, якім спаць не давала праблем супольнага жыцця і супольнага росквіту тых розных пабрацімскіх, але перш за ўсё розных культур.

У Вільні справы тыя не набывалі форм такіх вострых, як у Львове. Былі тут у польскім асяроддзі заўсёды мацнейшыя або слабейшыя плыні "супольнаіснавальныя". Называліся яны па-рознаму, прывязваліся да Літвы перад падзеламі, да "ідэі ягелонскай", федэралізму, Бог ведае, да чаго яшчэ - славянафільства, напрыклад, адным з найзнакамітых вызнаўцаў якога стаў на старасць не хто іншы, як генерал Жалігоўскі. Не адчуваю сябе пакліканым, каб запісаць тую маляўнічую з'яву. Запісваю толькі сябе самога, па меры магчымасці - тагачаснага.

Я меў на ўласны ўжытак сваё ўяўленне пра Вільню. У той час была ў Вільні вялікая перавага польскай люднасці. Найвялікшую нацыянальную меншасць складалі габрэі (можа з трыццаць працэнтаў). Было колькі, мо за дзесць тысяч літоўцаў, пару або колькі тысяч беларусаў, столькі ж расейцаў, пераважна "белых". Акрамя таго было трохі цікавостак, хутчэй, чым нацыянальнасцяў, як, напрыклад, татары або караімы.

З хвіліны майго расстання з эндэцыяй я пачаў апрыярычна, прынцыпова разглядаць кожнага прадстаўніка тых меншасцяў прыязна. Ведаў, канешне, што і сярод літоўцаў, і беларусаў - што дзіўна - і сярод габрэяў ёсць тэндэнцыі нацыяналістычныя, часам нават фашысцкія. Лічыў аднак - так, як вучыла мяне група - што змагацца можна і належыць перш за ўсё з уласным нацыяналізмам.

Таму, напрыклад, у "Па-просту" так асцярожна і дабразычліва адносіліся найперш не да камуністыч-

ных, хадэцкіх, а да беларускіх згрупаванняў. Пераклады літоўскіх паэтаў - пры тым дасканалыя пераклады Мілаша такога, напрыклад, Казуса Баруты - змешчанага яшчэ ў "Жагарах". Таксама ў "Па-просту". Тут - у першы раз, мабыць, у віленскай прэсе - мы намагаліся выбраць што-ніштo з вельмі буйнага па-перш літаратурнага асяроддздя віленскіх габрэяў.

Тыя зацікаўленні, так сказаць, прынцыповыя, завязваліся і перарасталі ў асабістыя сувязі. Каля нас заўсёды круцілася трохі літоўцаў, трохі беларусаў, не абавязкова камуністаў. Па-просту, расчараваныя шавінізмам пераважнай часткі студэнтаў УСБ і віленскай інтэлігенцыі, цягнуліся да нас розныя - па чарзе нешавіністы літоўскія і беларускія.

Той аспект групы падаваўся мне адным з найважнейшых і асабіста мне наймілейшым. У рамках агульных знаёмасцяў я меў пару прыяцеляў ці знаёмых ужо асабістых. Такі, напрыклад, літовец са смешным прозвішчам Цыцэнас. Альбо беларус, старэйшы таварыш з паланістыкі, Станіслаў Станкевіч.

Баюся, што няма чаго тым ці гэтым хваліцца. Той апошні, спрытны, зусім не па-беларуску языкасты, блізкі сваяк аднаго з правадыроў беларускай хадэцыі (ксендза Станкевіча), падчас акупацыі паказаў сваё праўдзівае аблічча. Падобна, быў на нейкі час пастаўлены гітлераўцамі бурмістрам Бабруйска.

Так ці гэдак, не саромеюся, што з ім спатыкаўся перад вайной. Калі здрадзіў народу беларускаму, няхай яго судзяць беларусы. Мы маем дастаткова сваіх нацыяналістаў, шавіністаў, фашыстаў.

Цалкам асаблівай была для мяне праблема габрэйская. Уласна ў ёй з найбольшай сілай канцэнтраваліся два найістотнейшыя для мяне ў той час аспекты прыняцця мной камунізму: пратэст супраць беднасці і супраць нацыянальных праследаў.

Вільня мела, мабыць, найбольш маляўнічае гета ва ўсёй Польшчы. Было яно размешчана ў самым цэнтры. Забудаванае бадай што ў XV-XVI стагоддзі, уяўляла яно зусім незвычайны архітэктатанічна-грамадскі помнік. Я мог гадзінамі швэндацца па тых завулках, з якіх ні адзін не цягнуўся прама даўжэй, чым пару метраў. Я ўваходзіў на дзядзінец, глядзеў на галерэі, малыя акенцы, аркі, крытыя балконы. Жыла тут неапісальная бедната.

Я хадзіў звычайна адзін, глядзеў, медытаваў. Была ў тым нейкая патрэба, амаль метафізічная. Я ўмацоўваўся ў сваёй веры, шукаў для яе дадатковых імператыўных рацый. Тая беднасць і няроўнасць былі перш за ўсё адваротным бокам люксавых вілавых кварталаў Варшавы. Я швэндаўся па завулках Гаона, Баніфратарскай, ці як так яны называліся. Гаварыў сам сабе: я з тымі супраць тамтых.

Тая патрэба салідарнасці выбухнула раз у мяне амаль камедыйным чынам. Недзе на мяжы гета, ужо, мабыць, на Пагулянцы, у тым месцы, дзе быў найбольшы абрыў, нейкія бедныя тавары - апельсіны ці яблыкі - развозіў на вазку нейкі стары габрэйчык. Стары з бародкай ужо сівой, амаль выродліва маленькі.

Нeяк пхаў ён той свой вазок пад гору, з невыгоднымі высілкамі адольваючы булыжнікі. Нешта мяне папхнула. Спыніўся каля яго, пацягнуў вазок. Ён спужаўся: звычайна людзі, да мяне падобныя, выварочвалі ў тыя часы такія вазкі і білі палкамі прадаўцоў. Цягнуў. Гэта не было лёгка. Баяўся, што мяне спаткае нехта знаёмы і з-за таго безкарыслівага ўчынку падыме на смех. Ніхто не спаткаўся, нікому - простая мова - не хваліўся, аж да сёння. Сёння запісваю, як цікавостку "ідэаэтнаграфічную": у той час "уласнік" перакананняў ад часу да часу адчуваў патрэбу пацвярджэння іх дзеяннем, хоць бы такім мімалётным.

**Танк і Кэнштас**

Што ж цяпер, калі з нацыянальнасцю звязваліся перакананні! У нашай групе былі і літоўцы - як хоць бы Друта - і беларусы. Такі, напрыклад, Колька Урбановіч, адзін з падсудных у працэсе "акадэмічнай левіцы", у нагрузку гаворачы, амаль мой сусед, бо аднекуль з-пад Дакудава.

Колька якраз у той час, або можа праз год, патрапіў першым і адзіным сярод нас ў Бярозу. Характэрная рыса для санацыйнай палітыкі на нашай тэрыторыі. Якраз Колька, хоць і не быў ніякім правадыром, але па-першае - сын мужыка, па-другое - беларус. За яго меншы будзе вэрхал, чым за тых усіх сыноў адвакатаў, лекараў, афіцэраў...

Колька першы нам апавядаў, што там пераежыў. Былі гэта найзмястоўнейшыя палітычна-выхаваўчыя лекцыі групы. Няхай пачакаюць усе лекцыі па палітычнай эканоміі марксізму і на тэму падобных рэчаў.

У той час у Вільні пачалі з'яўляцца бежанцы з Германіі, пераважна габрэі. Мы пазнаёміліся сярод іх з адным, які быў крытыкам мастацтва і як бы ўладальнікам галерэі нямецкага пралетарскага жывапісу. Удалося яму частку той галерэі ўратаваць. Прыйшоў яшчэ, бадай што, у "Па-просту", запрасіў.

З глыбокім узрушэннем глядзелі мы на яго: першая непасрэдная ахвяра гітлерызму. Канешне, мы адразу пайшлі глядзець выставу. Размяшчалася яна ў некалькіх пакоях, здаецца, недзе на Завальнай. Досыць хутка, аднак, мой энтузіязм прытух. Карціны былі - як мне здаецца - жудасныя. Не з погляду на мастацкі ўзровень, бо ў тым не разбіраюся. Але тая тэматыка! Тыя зялёныя пакурчаныя пралетарскія дзеці, тыя калекаватыя постаці, гарбатыя позіркі, уся тая нейкая ментальнасць вечна бітых, вечна прайграючых. Мы выходзілі адтуль з жахлівым перакананнем, што перамога Гітлера не была выпадковая.

А чалавек быў пачцівы, сімпатычны, шчыры. Пэўна, надта глыбока ў тым сядзеў: каб адчуваць тую ўдушальную аўру "сваіх" твораў мастацтва.

Ужо пару гадоў я меў у групе нейкі як бы спецыяльны абавязак. Восенню 35 года пазнаёмілі мяне з малодшым хлопцам, беларусам, які якраз выйшаў з вязніцы. Называўся ён Максім Танк. Канешне, імя і прозвішча - гэта псеўданімы. Я, прызвычаены да сельска-алегарычнай (і досыць слабой, прынамсі на Віленшчыне) беларускай паэзіі, адносіўся да таго хлопца трохі пратэкцыянальна.

Аж да хвілі, пакуль ён не пачаў чытаць свае вершы. Аказалася, што маю перад сабой кавалак сапраўднага паэта. Запаліўся нечувана: такія радкі. Мы



*Вільня, “Ерак”, мабыць недзе 36 ці 37 г.*

сустракаліся вельмі часта, я атрымліваў ад яго ўсе зборнікі, якія толькі выходзілі, а выдаваў ён іх шмат, некаторыя яго вершы я ведаў на памяць, адзін пераклаў. Я быў зачараваны адной асаблівасцю. Беларуская "тутэйшая" мова мела для нас, усіх палякаў з Віленшчыны, нейкі вельмі хатні, свойскі, але і несур'ёзны прысмак. На той мове клічуць прыслугу, у крайнім выпадку распавядаюць непрыстойныя анекдоты.

І вось на той мове пачала для мяне гучаць сапраўдная паэзія. Я не мог адбіцца ад узрушэння. Я напісаў пра Танка і беларускую паэзію ў Польшчы пару артыкулаў. Адзін увапхнуў, здаецца, цераз Чаховіча аж у "Вертыкаль". Нядаўна я прачытаў яго нанава. Вельмі стройны і цяжкі. Пасылаючы яго туды, я меў таксама маленькі палітычны разлік. Танку пагражалі паліцэйскія рэпрэсіі, нават Бяроза. Я думаў сабе: пасля такіх артыкулаў цяжэй давядзецца яго браць, і ва ўсякім разе лягчэй можна будзе яго потым выцягнуць.

Трохі пазней, ужо пасля выхаду з Бярозы трапіў да нас малады і таксама вельмі здольны паэт, на гэты раз літовец, Адамовіч, які пісаў пад псеўданімам Кекштас. Цераз нейкі час, ужо перад вайной спатыкаліся нават утраіх. Падчас вайны Кекштас меў вельмі цяжкія выпрабаванні. Нарваўся на нейкую раённую хеўру. Трапіў у вязніцу, як польскі (а можа літоўскі) нацыяналіст, потым эміграваў у Аргентыну, там працаваў рабочым на будоўлі дарог, ад знясілення атрымаў параліч і ў такім стане, дзякуючы дапамозе Чайкі, вярнуўся нарэшце ў Польшчу.

Уласна да прадстаўнікоў толькі адной з віленскіх меншасцяў я адносіўся з апрыёрным недаверам: да расейцаў. Бо таксама ў Вільні - найбольш у цэнтры і сярод інтэлігенцыі - былі гэта найчасцей найзацятыя "белыя", калі не па-просту фашысты.

Здаючы сабе справу з складанага становішча Вільні, як горада з лёсамі і этнаграфічна, і гістарычна незвычайна заблытанымі, я меў, як гаварылася, сваю схаваную канцэнцыю, як выбрацца са стольких пачуццёвых і матэрыяльных да яго прэтэнзій. Марылася мне менавіта размяшчэнне ў ім нейкага будучага інтэрнацыяналу.

**Радыё**

Прайшло лета, пачалася восень. Мы сядзелі на Добрай. Першы раз у жыцці я быў "галавой сям'і". Галава тая не толькі была безработная, але і мела "на галаве" два працэсы. Якраз мы атрымалі акт абвінавачвання ў справе "Па-просту" і "Карты". Не гледзячы на тое, што я быў у спісе абвінавачаных на апошнім (а можа перадапошнім?) месцы, гэта ўсё ж мела для мяне хуткія і досыць непрыемныя наступствы: немагчымасць атрымання ніякай сталай працы.

З несталай таксама былі клопаты. Я распавядаў пра ўльтыматум Кашмедара. На шчасце не ўсе былі такія. Цераз некага з літаратараў я даведаўся, што ёсць такая пасада: кантралёр радыёперадач. Пайшоў да літаратурнага кіраўніка Віленскай радыёвяшчальнай станцыі. Быў ім адзін з пераменных (побач з Вітольдам Гулевічам і, здаецца, Вандай Дабашэўскай) старшынь Віленскага аддзела Прафесійнага саюза польскіх літаратараў, Тадэвуш Лапалеўскі. Пераменных - гэта значыць, што штогод выбіралі некага з названай вышэй тройкі.

Лапалеўскі, канешне, добра арыентаваўся ў маіх палітычных перакананнях. Не гледзячы на гэта, без вагання даручыў мне вышэй названыя абавязкі. Быў гэта трохмесячны кантракт. Я мусіў на дзень выслухваць некалькі перадач і пісаць кароткія рэцэнзіі. Атрымліваў за гэта вельмі вялікую зарплату, нешта можа, пад 120 злотых у месяц.

Тым большую ўзбудзіў ува мне ўдзячнасць, што іншы радыёсаноўнік у той жа час прыняў мяне цалкам інакш, у стылі хутчэй Кашмедара.

З радыё я меў свабодныя кантакты ўжо даўно. Недзе, мабыць, у 32 ці 33 годзе замаўлялі ў мяне перадачу, прысвечаную новай паэзіі. Я пабудаваў яе на аснове аналізу раскладу традыцыйнай сілабатанічнай рытмікі, ілюструючы той расклад прыкладамі верша танічнага, акцэнтавага і вольнага. Я выбраў некалькі вершаў ад Бранеўскага да Пшыбася і напісаў каментар. Чытанне вершаў радыё даручыла аднаму акцёру.

Пробаў, канешне, не было. Гаварылі ў той час "на жывую", г.зн. наўпрост на антэну. У дамоўлены дзень прыйшоў у студыю той акцёр. Стараваты, лысаваты, падпіты, відаць, што трэцеразрадны. Пачалі. Адразу пры першым вершы я пераканаўся, што кліент ані ў зуб не разумее таго, што чытае. А быў пры празрыстым, як крыніца Бранеўскім. З кожным наступным справа ўскладнялася. І вось я раптам уявіў сабе, што будзе, калі дойдзе да Пшыбася! Чытаў свой каментар і ўяўляў сабе яго міну, яго жэсты, асабліва яго інтанацыю. Нешта страшнае зарадзілася ўва мне:

нястрымны смех. Чытаў, а смех бушаваў ува мне ў душы. Спалоханы, што сарвуся, што скочу да мікрафона, перавярну ўверх нагамі перадачу, я намагаўся яго даслоўна глынуць. Але смех танцаваў мне ў страўніку, вырываўся, хвілямі дабіраўся да горла. Не ўмеючы з ім справіцца, у пэўную хвілю я перарваў чытанне і аберуч спрабаваў увапхнуць яго назад у горла. З добрыя паўхвіліны мікрафон стаяў беспрацоўны. Пасля перадачы акцёрышка кісла мне нешта сказаў пра недахоп досведу, пра маё хваляванне перад мікрафонам, і як з ім трэба змагацца. Я змаўчаў.

Са Сланом у той жа час здарылася нешта горшае. На пару з Ежым Загорскім яны ўзяліся зрабіць на Вялікдзень вясёлую перадачу. Нічога загадзя не напісалі, вырашылі імправізаваць каля мікрафона. Агульна толькі ўстанавілі, пра што гаворка, і пачалі.

Але некатары з іх адразу пачаў рабіць свінствы, г. зн., розныя выбрыкі другому. Другі спрабаваў яго стрымліваць з дапамогай мін. Той паказаў яму язык. Другі не вытрымаў і сказаў проста: "Не выдурняйся". Першы: "Сам не выдурняйся". Другі: "Дурань" Першы: "Сам дурань!".

На тым месцы яны нарэшце з'арыентаваліся, што гэта не феерверкі авангардавага гумару, а звычайная лаянка. Перадачу перарвалі. Не ведаю, што сказалі радыёслухачам, ведаю, што сказалі Загорскім, але не паўтару.

**Першы працэс**

Восенню 37-га года, недзе на стыку кастрычніка і лістапада, я зноў паехаў у Варшаву, тым разам як абвінавачваны ў блюзнерсве (святатацтве). Нехта мне парадзіў, каб звярнуўся па абарону да Эміля Брайтара. Ён згадзіўся за нейкую дапушчальную плату (мабыць недзе ў межах маіх месячных заробкаў).

Шмат яму часу я не заняў. Перад разглядам адбылася са мной адна толькі кароткая размова. Уразіла мяне яго песімістычнае бачанне будучыні. Ён лічыў, што справа цяжкая, вырак абвінаваўчы праўдападобны, так што штраф або прымірэнне ўжо належала б прызнаць за паважны поспех. Раіў мне скруху і пакору. Не скажу, зрабіла гэта на мяне пэўнае ўражанне.

Перад разглядам я спаткаўся з супольнікам нядолі "зытцрэдактарам" "Дзённіка ўсеагульнага" Тадэвушам Жванам. Быў гэта на той час малады, прыстойны хлопец з жывымі вачыма і буйнымі кудрамі. У супрацьлегласць Байтару быў у добрым настроі.

Сам разгляд прайшоў значна лепей, чым мая размова з адвакатам. Судзіў Ляшчынскі, выбітная постаць, выдатны праўнік і чалавек з моцным характарам. Гэта быў той самы, які ў славутым берасцейскім працэсе адважыўся скласці асобную думку, дамагаючыся апраўдання арыштаваных і катаваных правадыроў апазіцыі. Пэўна, як раз за тое пасылалі яго на такія дробязі, як мая справа.

Дзея адбывалася ў нейкай змрочнай невялікай зальцы. Было пуста. Мяне спыталі, ці прызнаюся. "Не", - адказаў. Зрэшты ход разбору досыць правільна пераказаны ў "Літаратурных ведамасцях", якія падалі ў дадатку і верш у празаічнай транскрыпцыі.

Што я адчуваў? Досыць хутка неспакой мне прайшоў. Канешне, Ляшчынскі мяне апраўдаў. Сказаў толькі, каб асцерагаўся ў будучыні, бо з мяне ані Міцкевіч, ані нават Кашпровіч... Звяртаўся да тых прозвішчаў, як на довад дапушчальнасці паэтычных жартаў з Богам.

Брайтар выцяў вялікай прамовай. Выходзім, на калідоры Зося Дамбінская, прыгожая, як заўсёды (як і сёння), каля яе нейкі тып, малы, азызлы, з прыкрымі вачыма. Кідаюца абое да Брайтара з віншаваннямі. Толькі праз хвілю заўважылі і мяне. Зося прадставіла мяне таму азызламу. А да мяне: "Гэта пан Грыдзэўскі..."

Была яна ў той час у Варшаве, робячы цуды, каб выцягнуць з турмы Генрыка, які пачуваўся не вельмі, захварэў м.ін. на пячонку. Грыдзэўскага ачаравала вельмі лёгка. Напэўна ёй я абавязаны хуткім рэпартажам з працэсу ў "Ведамасцях", канешне з незвычайнымі ўсхваленнямі ў адрас Брайтара.

З "Ведамасцямі" мае кантакты на тым, зразумела, перарваліся. Захапляла мяне, канешне, тое выданне. Захаплялі яго аўтары, але былі гэта настрої досыць амбіцыйныя, лёгкія ваганні ад захаплення да нападак. Памятаю, як хадзіў па Мазавецкай, заглядваў у "Зямянскую", разлічваючы, што ўбачу каго-небудзь са скамандрытаў, а потым залез на нейкі паверх і, як цяля на маляваныя вароты гапіўся на медную таблічку: "Юльян Тувім". Не адважыўся націснуць званок.

А трохі раней ці трохі пазней я напісаў у львоўскія "Сігналы" (яны якраз зарганізаваліся і зрадыкалізаваліся, бо ўзяў іх у моцныя далоні прыстойны, заўсёды з усмешкай Курылюк) вялікі артыкул, які атакаваў і "Ведамасці", і скамандрытаў са спецыяльнай ўвагай да віталістаў, г.зн. да Тувіма і Вяжынскага.

Незадоўга пасля гэтага вычытаў у "Шпільках" эпіграму "на авангард".

*Шкода паперы і атраманту (чарніла):*
*такім вось пейперу і путраманту.*

Верце або не, быў захоплены. Абмінаючы чыста прафесійнае здзіўленне з майстэрства, з якім была выканана эпіграма не адчуваў у глыбіні душы ніякай абразы, а нешта ў родзе сатысфакцыі.

Прыяцелям у Рудніцкага (была такая літаратурная кавярня ў Вільні, на рагу Міцкевіча і Кафедральнай плошчы) распавядаў: магу ўжо нічога не рабіць, трапіў у гісторыю літаратуры! Праз пяцьдзесят гадоў у зборы твораў Тувіма знойдзецца ў заўвагах месца і для мяне...

Пэўна, пры будучай бытнасці ў Варшаве я адшукаў адрас "Ведамасцяў" узлез на паверх, зазваніў, сам не ведаю, для чаго, не меў нават ніякага рукапісу.

Адчыніліся дзверы. Выглянуў невысокі чалавек з акруглым тварам, бульбаватым носам і дабрадушнымі вачыма. У руцэ трымаў вялікае палатно карэктуры "Ведамасцяў". Пра нешта яго спытаў. Адказаў. Дзверы зачыніў.

Адкуль я меў ведаць, што гэта быў мой бог Бранеўскі? Я думаў: рэдакцыя, гэта пакоі і пакоі, працаўнікі і працаўнікі... А гэта быў адзін з двух штатных працаўнікоў рэдакцыі. Другім быў сам Грыдзэўскі...

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Медысонт”, выйшла кніга Анджэя Рахубы “Вялікае Княства Літоўскае ў парламенцкай сістэмы Рэчы Паспалітай 91569-1763)”, 424 ст. Наклад 350 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука”, выйшаў зборнік навуковых артыкулаў “Людзі і ўлада Навагрудчыны: гісторыя ўзаемадзеяння (да 500-годдзя надання Навагрудку прывілея на Магдэбургскае права)”, 360 ст. Наклад 200 асобнікаў.**




**У Смаленску ў выдавецтве “Наапрэс”, выйшаў раман Валера Санько “Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе”, 612 ст. Наклад 50 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Харвест”, выйшла кніга А.Я Праснякова “Литовско-русское государство в XIII - XVI вв”, 296 ст. Наклад 1500 асобнікаў.**




**У Гародні ў выдавецтве ЮрСаПрынт выйшла кніга Івана Будніка “Да падзеяў 1863-64 гадоў на Гарадзеншчыне”, 108 ст. Наклад 99 асобнікаў.**




**У Гародні выйўла кніга Юзафа Пажэцкага “Gloria victis. 1863-1864. W 150-ta rocznice powstania styczniowego”, 57 ст.**



**Фрагмент святкавання 100-годдзя Лідскага аэрадрома, 15.09.2013 г.**
*Фота Аляксандра Букшы.*